


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**7** (1065)

ЛІПЕНЬ

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

## ЗМЕСТ



**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

# АВАНТУРЫ ВЫРВІЧА З БАНДЫ ЧОРНАГА ДОКТАРА*

*Раман прыгодніцкі і фантасмагарычны*

## Пралог

Атрымліваць у лоб агрызкам яблыка крыўдна.

Асабліва калі яго шпурнула ў цябе не гуллівая дзявочая ручка, а выпацканая атрамантам рука аднакурсніка.

Зрэшты, вакол самага ўпартага студыёзуса Віленскай акадэміі Аляксандра Лёдніка па мянушцы «Ланцэлот», што застыў слупам пасярод галерэі ўніверсітэцкага дворыка, валялася смецця, як пасля шляхецкай пагулянкі. Арэхавае шкарлупінне, папяровыя камякі, ды што там яшчэ студыёзусы намацалі ў сваіх бяздонных, як Тураў калодзеж, кішэнях. Сёй-той, спяшаючыся ў аўдыторыю, яшчэ і штурхаў даўгалыгага юнака з дзюбатым носам і цёмнымі вачыма. Але той, упарта падціскаючы вусны, вяртаўся на месца, нібы навязаны на нябачны ланцуг.

Урэшце штурханіну ў галерэі заўважыў пахмуры выкладчык граматыкі пан Садоўскі па мянушцы Бабрышча. Ён злосна ашчэрыў жаўтаватыя, як у бабра, зубы:

---

*__Рублеўская Людміла Іванаўна__ нарадзілася 5 ліпеня 1965 г. у горадзе Мінску. Скончыла аддзяленне архітэктуры Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума (1984). Працавала ў канструктарскім бюро на ВА «Гарызонт». Вучылася на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута ў Маскве (1986—1987), затым перавялася на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ, які скончыла ў 1994 годзе. Працавала загадчыкам аддзела крытыкі ў часопісе «Першацвет», загадчыкам аддзела мовы ў газеце «Наша слова». З 1996 года — у аддзеле крытыкі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 2002 — рэдактар аддзела літаратуры. З 2003 года працуе літаратурным аглядальнікам газеты «СБ-Беларусь сегодня».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Крокі па старых лесвіцах» (1990), «Замак месячнага сяйва» (1992), «Рыцарскія хронікі» (2001), «Шыпшына для Пані» (2007), «Вяртанне Інфанты» (2015), кніг прозы «Сэрца мармуровага анёла» (2001), «Старасвецкія міфы горада Б» (2002), «Пярсцёнак апошняга імператара» (2002), «Ночы на Плябанскіх Млынах» (2007), раманаў «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» (2007), «Сутарэнні Ромула» (2010), «Дагератып» (2014), цыкла раманаў «Авантуры Пранціша Вырвіча» (2012—2015), кніг казак для дзяцей «Прыгоды мышкі Пік-Пік» (2000), «Карона на дне віра» (2008), драматычных паэм «Пасля Цэзара», «Апошняя з Алелькавічаў» і інш. Аўтар зборнікаў эсэ па гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры. Творы перакладаліся на дзясяткі моў свету, выходзілі асобныя кнігі ў Польшчы, Украіне і Расіі.*

---

* Пятая кніга прыгод Пранціша Вырвіча і Баўтрамея Лёдніка.

— Аляксандр Лёднік, зноў вылучыўся? Чаму не ідзеш на лекцыю?

— А ён не можа! — здзекліва адказаў хтось. — Ён дэкляраваў, што з месца не скранецца!

— Пакуль чароўная панна... сястра Петрака Бадонаса, яго не прабачыць за нягжэчныя паводзіны! — са смехам удакладніў яшчэ адзін падшыванец.

— Якая панна? Што за штукарствы? — бледны твар Бабрышчы набыў колер кармазіну. Паколькі віноўнік тлуму захоўваў ганарыстае маўчанне, гісторыю агучылі добраахвотнікі. Было так… Да Петрака Бадонаса, які ў святых акадэмічных мурах другі год біўся шырокім ілбом аб сцяну навук юрыдычных, прыехала радзіна. Бацька, пан Бадонас, падстолій Крэцінгенскі, з сужонкай і дачкой, абедзве масластыя ды кашчавыя. Радавітыя госці пасля месы ва ўніверсітэцкім саборы Святых Янаў былі ўрачыста праведзеныя ў кабінет да рэктара. А пан Алесь Лёднік той жа галерэяй нёс слоік з нейкай паддоследнай жыўнасцю.

Высакародныя дамы не павінны сузіраць усялякую гідкасць. Вунь аднойчы блазан расейскай імператрыцы Лізаветы Пятроўны па прозвішчы Аксакаў прыпёр ёй ва ўласнай шапцы вожыка: пацешыць, падлабуніцца. Ды вянцаносная асоба так пералякалася, што блазна зараз жа адправілі ў катавальню: замах на імператрыцу!

А ў Лёдніка ў слоіку плёхалася рапуха.

Тлустая, як нябожчык кароль Аўгуст Сас, брунатна-зялёная, як згнілая конская скура, пухірчатая, нібы глеба пякельная.

Небарака не падазравала, што цыбаты даследчык збіраўся правяраць на ёй тэорыю швейцарца фон Галера пра адсутнасць сувязі між раздражнёнасцю цягліцаў і нервовай сістэмай.

Хтось са студыёзусаў адчувальна штурхануў натураліста, і рапуха адправілася ў палёт, абвяргаючы прыродныя законы. Да паненчынай аксамітнай спадніцы якраз даляцела.

Юны Лёднік, абдымаючы апусцелы слоік, як і належыць шляхетнаму пану, выбачэнні шчырыя прынёс, сцярпеў кручэнне вуха ад прарэктара...

— Гэта сын вядомага доктара Лёдніка, нашага былога выкладчыка, — ліслівіў прарэктар. — Вось... Працягвае доследы бацькі ў навуках прыродазнаўчых.

Твар ягамосці суддзі Бадонаса яшчэ болей прыпадобніўся недапечанай булцы.

— Чаго яшчэ чакаць ад гэтых «новых шляхціцаў»! Скуль ім ведаць, як перад высакароднымі дамамі паводзіцца!

А вось гэтага пану суддзі гаварыць зусім не варта было... Гэта як у прысутнасці караля Станіслава Панятоўскага згадаць цяля. Былога каханка расейскай імператрыцы дражнілі Цялком за не самае высокае паходжанне — ад дробнага шляхцюка па прозвішчы Цёлак. Для пана Аляксандра Лёдніка радавод таксама быў тэмай балючай. Усіх раздражняла, што Алесь выяўляў з сябе нейкага Ланцэлота, а сам — сынок клісцірніка, доктара-чараўніка, у якога, кажуць, уся спіна бізунамі злупленая!

Што праўда, таварышаў Лёднік-малодшы ніколі не здаваў, хутчэй за чужую правіну ў карцары адседзіць. Але як не штурхануць нібыта неўзнарок гэтага шляхцюка па патэнце! Тым болей прафесары не надта заступаюцца, нягледзячы на тое, што старэйшы Лёднік па мянушцы Чорны Доктар у гэтых мурах сам выкладаў. Кажуць, яшчэ больш за сына фанабэрысты, ды яшчэ суровы і баявіты. Алхімік, маг і майстар фехтавання.

Таму і вырвалася ў Алеся ланцэлотаўскае: «З месца не скрануся, пакуль яемосць панна судовая літасціва не прабачыць за сапсаваную сукенку». Хоць

паненка яму спадабалася не больш, чым ягонай рапусе — бот трокскага суддзі. Да таго ж зберагаўся ў сэрцы юнага Лёдніка таемна і пачціва вобраз сапраўднай прыўкраснай дамы, з чорнымі броўкамі ды шэрымі вачыма, з маленькімі строгімі вуснамі, з імем гаркавым, як палын, і сухім, як стрэл мушкета: Праксэда.

Дарэмна пан Баўтрамей Лёднік вучыў сына не ўлазіць у гульню «хто радавіцей», не саромецца дзеда — полацкага гарбара...

І вось застыў слупам пасярод універсітэцкай галерэі студыёзус. Хоць ясна, толку ад гэтага стаяння не болей, чым ад прывіднага зайца на месяцы альбо клізмы з табачнага дыму, якой у Еўропе ўзяліся лячыць усё, ад істэрыі да ганарэі. Сысці, слова парушыць — ганебна, трываць — балаган бясплатны.

Начальства ўніверсітэцкае, аднак, балаган той доўжыць не збіралася. Да рыцара-стоўпніка наблізіўся невялічкі атрад... За рукі, за ногі, за каршэнь Ланцэлота — і ў карцар.

Па вільготнай каменнай падлозе карцара паўзла рудая мурашка, худая і драбнюткая. Можа, асуджаная на баніцыю з роднага мурашніка?

У Акадэміі юны Лёднік часам і сам адчуваў сябе казюркай, заціснутай дзеля доследу між шкельцаў. Тыя, хто памятаў прафесара Лёдніка, параўноўвалі з ім сына. А Чорны Доктар персонай быў цяпер не самай папулярнай. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай Панятоўскага, які на крэс дзяржавы маладушна пагадзіўся, лічылі здраднікам, ягонага паплечніка Антонія Тызенгаўза ненавідзелі яшчэ больш. А пан Баўтрамей Лёднік па загадзе Тызенгаўза разам з жабаедам-рэспубліканцам Жыліберам ствараў медычную школу ў Гародні і ўваходзіў у Адукацыйную камісію, якая адбірала калегіюмы ў манаскіх ордэнаў. Ды яшчэ гэтыя чуткі пра асаблівую міласць да Чорнага Доктара расейскай імператрыцы Кацярыны...

Алесь з уздыхам дастаў з валасоў пажаваны папяровы шарык, апошнюю зямную рэінкарнацыю нечага трактата. Sic transit gloria mundi... Вада ў жвір, пацалунак на вецер... Пра Лёднікавы подзвігі — а ён выратаваў на полі бойкі вялікага гетмана Радзівіла, чым здабыў шляхецтва, абараніў ад арышту студыёзусаў Віленскай акадэміі, вытрываўшы катаванні — забыліся. Даводзілі ўласны патрыятызм, ганьбячы здраднікаў. А зусім нядаўна, на Варшаўскім сойме, дзе дэпутатаў было, як маку ў велікоднай булцы, адзін Тадэвуш Рэйтан запярэчыў супраць падзелу дзяржавы ды лёг у дзвярах крыжам... І нічога. Панове дэпутаты праз пана Тадэвуша спакойненька пераступілі і папраставалі палітычнымі гасцінцамі.

Алесь і захапляўся бацькам, і злаваўся на яго: шляхту высмейвае, ад ганаровых пасадаў адмаўляецца... На апошніх вакацыях проста карцела яму пярэчыць, бачыць разгубленасць у цёмных вачах. Малодшы Лёднік і не супраць вучыцца спадчыннаму рамяству… Але ж вайсковыя подзвігі вабяць! Бо ўсё жыццё чуць у свой бок «клісцірнік»…

Пан Пранціш Вырвіч Алесевы перайманні разумеў куды лепей. Яму, шарачковаму шляхцюку, таксама даводзілася кулакамі і зброяй гонар абараняць. Пранціш неяк і намякнуў Алесю, каб заахвоціць да рыцарскіх цнотаў, пра высокае паходжанне. Пані Саламея Лёднік, як бы Алеся ні любіла, якой гожай ды разумнай ні была, насамрэч — маці прыёмная. Хто ж сапраўдная ягоная маці, юнак не ведаў. Натуральна, часам у рамантычных мроях уяўляў сябе згубленым прынцам.

Гэтак жа, як панну Праксэду — згубленай прынцэсай.

Таямнічая і недасяжная. Хаця падумаеш — старэйшая ўсяго гады на чатыры. І яшчэ трэба прызнацца: высакаватая, як для дзеўкі. За Чорнага Доктара,

можа, на пару вяршкоў усяго ніжэй, а Алесь знізу ўверх глядзіць на сваю Прыўкрасную Даму.

Ну і што? Па ўсім відаць — шляхцянка. На тонкіх пальчыках сыгнеты мусілі ззяць, русявыя валасы — пышным напудраным воблакам уздымацца. А пайшла ў павітухі, нізкае рамяство, засвойваць якое ёй дапамагалі Алесевы бацькі. Дзяўчына аднойчы трапіла ў іхні шпіталь проста з вуліцы непрытомнай, з запаленнем лёгкіх і выснажэннем. Потым высветлілася, што паненцы няма куды пайсці, а веды ў навуцы медычнай у яе адкульсьці меліся.

Вось каб хоць адзін разочак зірнула на гаспадарскага сына, не як на хлапчыску, хоць і разумненькага... А то яна з ім, як з ягонай малодшай сястрычкай Сафійкай…

А як паказацца строгай панне Праксэдзе, аматарцы навук, на вочы, калі з Акадэміі з ганьбай вытураць? Для яе тут быць — мара недасяжная, а Алесь сам усё прамантачыў…

Была яшчэ адна падстава разладу з бацькам. Успамін, як агідны слімак у самай глыбокай трэшчыне валуна. Выпадкова падгледзеная скрозь прыадчыненыя дзверы бацькавай лабараторыі сцэна... Алесь краўся на дыбачках па цёмным калідоры іхняга гарадзенскага дома, куды пераехалі з Полацка дзеля медычнага інстытута (у слоіку, прыхаваным у сенцах, якраз мусіла ачуняць яшчэ адно гідкае стварэнне). З лабараторыі даносіўся часты металічны стукат — штосьці драбнілася ў ступцы. Дрыготкае святло свечак рабіла бацькаў твар, схілены над сталом з рэактывамі, яшчэ больш суворым, нос яшчэ больш драпежным, чорна-сівыя пасмы звесіліся... Згадвалася старая бацькава мянушка «Фаўст», якую ўспаміналa пані Саламея, калі гневалася на мужа. Доктар засяроджана вывучаў аркуш з формуламі... І не зварухнуўся, калі стукат у куце лабараторыі сціх, і да ягонай шчакі, пазначанай глыбокім ценем, нясмела, як да агню, пацягнулася тонкая дзявочая рука. Пакутліва марудна, нібыта праз страшны боль, нібыта нейкая неадольная сіла змушала... Асцярожна, ледзьледзь, дакрануліся дрыготкія пальцы да твару... Баўтрамей, не азіраючыся, цвёрда адвёў чужую далоню ад свайго змрочнага аблічча.

— Не трэба. Вы самі ўсё разумееце, Праксэда. Вы ж кемная. Давайце памолімся святому Кіпрыяну і святой Юстыне...

Голас гучаў мякка-спачувальна.

У Алеся глуха стукала ўвушшу кроў, калі ён ірвануў у свой пакой... І пастараўся выкінуць убачанае з галавы.

Але слімак нікуды не падзеўся. Ён жыў, варочаўся пад сэрцам, змушаў пільна прыглядацца да жэстаў і пoглядаў, услухоўвацца ў інтанацыі...

Падазронага больш не было. Цёмныя вочы бацькі заўсёды цяплелі, калі ён глядзеў на жонку. З паннай Праксэдай, як з усімі — строгі і ветлівы. Панна абвязвала шчыльна галаву белай хусткай, як паслушніца, гаварыла мала, шчыравала ў шпіталі, як апантаная, пані Саламею шанавала... А тая часам пaглядала на памочніцу з сумным жалем, як на цяжка хворага, што хавае сваю хваробу.

Але — слімак пад сэрцам Алеся жыў. І час ад часу ўзбураў цёмную пену недарэчнага гневу.

Бразнулі дзверы. На парозе карцара стаяў пан суддзя менскага замкавага суда пан Вырвіч. Ладны, русачубы, блакітнавокі... Вось толькі штось не так было з вачыма пана, звычайна такімі ўсмешлівымі.

— Я забіраю цябе з Акадэміі, Аляксандр. Ідзі па клункі, адпраўляешся дадому.

Сярод семестра?

За што Алесь яшчэ больш паважаў дзядзьку Пранціша — той ніколі не хаваў ад яго праўды.

— Бацька твой зняволены. У акрутным забойстве вінавацяць.

Юнак змусіў вусны не дрыжэць. Ясна ж — абвінавачванне лжывае. Двубой — так, Алесь не раз бачыў, як доктар шабляй свой гонар абараняе. Але — акрутнае забойства? Бутрым Лёднік, выбітны фехтавальшчык, і ў вірах ваенных не хацеў нікога пазбаўляць жыцця, гадамі адпрацоўваў адмысловыя ўменні, як перамагаць, не беручы смяротны грэх на душу.

— А хто забіты?

Пан Вырвіч трохі прамарудзіў з адказам.

— Панна Праксэда, што ў вашым шпіталі працавала.

Вільготныя камяні вязніцы скалануліся. І мімаволі ўспомнілася... Тонкая рука дрыжыць ад невымоўнай пакуты і цягнецца да худой шчакі змрочнага высокага мужчыны... Нашто? Ён жа стары... Худы... Непрыгожы...

Бацька невінаваты... Невінаваты... Невінаваты...

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

# Апошняя справа суддзі Вырвіча

У той год сабралася да прабацькі Абрама на піва самая старая жыхарка Менска, мяшчанка Ружа Твароўская.

Прабацька ўжо, мусіць, дзірку ў аблоках працёр, кабету выглядаючы.

Сто трынаццаць год, шэсць каралёў перажыта.

І абодва Сасы, за якімі еліся лыжкай кілбасы. І Ян Сабескі, што круціўся пад абцасікам каралевы Марысенькі. І Ян Ваза, езуіт суровы, кароль кісялёвы. І недалужны Вішнявецкі, які ад перайманняў за паразы вайсковыя маладым памёр. І кароль Стась Ляшчынскі, што двойчы трон губляў...

А папраўдзе, дык за кожнай каралеўскай мосцю крывавай поліўкі ліцвіны ды іншыя народы Рэчы Паспалітай насёрбаліся, а цяперашні Цялок яшчэ горшага навырыў. Добра, Менску пакінулі Магдэбургскае права, а шмат якія гарады ліцвінскія страцілі яго: у Расейскай імперыі вольнасцям местачковым не існаваць. Цяпер там не ваяводствы, а губерні. У Менску ваявода застаўся, але прызначылі на гэтую пасаду гарбатага Юзэфа Мікалая Радзівіла, крэатуру Чартарыйскіх, які з задавальненнем кіраваў секвестраванымі маёнткамі сваяка-выгнанніка Пане Каханку.

Новая рыдлёўка — новыя грады. Альбо прыстасоўвайся да новых парадкаў, або… Таму без прыхільнасці асаблівай прыняў пан суддзя менскі замкавы, ягамосць Пранціш Вырвіч з рук лісліваго возного позву на пазачарговае паседжанне суда. Учора толькі з палявання ў Капанічы вярнуліся, бязлітасна абрэзаўшы ніткі лёсу дзіку ікластаму ды ласю губастаму. Сынок малы Янук ля ног шыецца — «Тата, дай пастлаляць!» І касавурыцца на пісталет італьянскай работы, што нядаўна ўпрыгожыў насценную калекцыю. Жонка-разумніца, пані Дамініка з Гараўскіх, дакорліва паглядае: абяцаў жа яе новую карціну ацаніць, а сам, змораны, заснуў. Цесць, пан Гараўскі, які на хаўтурах па дзіку ды ласю анісаўкі сабе не шкадаваў, вось-вось прачнецца... І вырашыць неадменна, што мала выпіта ў памяць замардаваных лясных істотаў. А пану Вырвічу трэба было б яшчэ мазгі добра праветрыць ад тае анісаўкі, на пару з панам Гараўскім учора выпітай, ды добра абдумаць нядаўні візіт пана Баўтрамея Лёдніка.

Пан Баўтрамей прыехаў у Капанічы з Гародні ўсяго на дзень. Собіла ж нерадавітаму і неільсціваму доктару патрапіць у сэрца палітычных інтрыг. Стваральнікі медычнай школы і даўнія сябры, Жылібер і Лёднік, былі прадстаўленыя Панятоўскаму. Кароль француза ўпадабаў, прыслухоўваўся да ягоных парадаў. З Лёднікам паводзіўся насцярожана, быццам не ведаў, як ставіцца да таго, хто разам з ім падзяляў прыхільнасць вялікай імператрыцы. Вядома, кароль суперніка ў доктары не бачыў — той увогуле патрапіў у Царскае Сяло, як арыштаваны за дзяржаўную здраду, і ўсяго на адну ноч там затрымаўся, пераканаўшы царыцу ў праўдзівасці сваёй версіі падзей у Віленскай акадэміі... Дзеля чаго была зладжаная паказальная дуэль з парай дзясяткаў гвардзейцаў.

Відовішчная дуэль атрымалася. Кацярына ацаніла.

Інтарэс імператрыцы да «чарнявага палячышкі», як злосна называў яго царыцын фаварыт Арлоў, прыдворныя на скрыжалі сваёй памяці занеслі. І цяпер, як чалавек з бліжняга кола Тызенгаўза і Панятоўскага, былы прафесар Віленскай акадэміі зноў патрапіў на шахматную дошку палітычнага жыцця, хаця б і ў якасці чорнай пешкі. Уладу мае не той, у каго грошы, а той, у чыім распараджэнні каралеўскае вуха...

А доктар у палітычныя гульні ўлазіць не хацеў. Таму праігнараваў запрашэнні ў папулярныя гарадзенскія салоны. Адно — ад княгіні Аляксандры Багінскай, у дзявоцтве — Чартарыйскай, жонкі вялікага гетмана Міхала Казіміра Багінскага. Пан Міхал жыў ад жонкі асобна, у набытым з яе пасагам Слоніме, ды высільваўся, каб у ягоным тэатры на сцэне караблі плавалі ды жывыя сланы тупалі. А пані Аляксандра, патомная інтрыганка, вірамі палітычнымі кіравала, як бог Няптун. З німфай параўнанне гучала недарэчы: пані Аляксандра была багатырка, за свецкім абедам магла няўзнак скруціць трубкай срэбнае блюда, пальцамі змяць манету, на абед з'ядала шэсцьдзясят вараных яек і двух каплуноў, птушак страляла на ляту ў вока... Падчас гарадзенскіх рэдутаў на ейных балях дамы танчылі згодна завезенай палюбоўніцай Панятоўскага маркізай дэ Люлі модай: у паўпразрыстых сукенках з агаленымі грудзямі, у сандалях, з пярсцёнкамі на пальцах ног... Цьху, распуста, адным словам!

Другое запрашэнне было не менш ганаровым: ад яемосці Тэрэзы Караліны Радзівіл са Ржавускіх, жонкі пана Караля Радзівіла. Чарнявенькая жвавая пані Тэрэза, дачка гетмана Вацлава Ржавускага, сасланага ў Калугу, з каралём Панятоўскім была ў адносінах самых мілых. Мужа высмейвала, лісты ад яго ў Варшаўскім палацы ўслых зачытвала, каб прыдворныя пасмяяліся. Нораву ж акрутнага: пра тое, як з ворагамі распраўлялася, страшныя казкі хадзілі. З'явілася на гарадзенскія рэдуты з палюбоўнікам, Ігнацыем Богушам, былым кумпанам Пане Каханку, і ладзіла балі, супернічаючы ў раскошы з княгіняй Аляксандрай.

Абедзве валькірыі, Багінская і Радзівіліха, атрымалі ад нікчэмнага кліcцірніка Лёдніка гарбуза пад прыстойнай падлівай. Якраз у шпіталь завезлі некалькі хворых з тыфусам, і доктар запэўніваў, што баіцца прынесці ў палацы заразу.

Але ж Бутрым, аказваецца, і ў масонскую ложу, якую стварыў у Гародні Жылібер і куды ўступіў сам кароль, адмовіўся ўвайсці. Алергія ў яго, маўляў, на ўсялякія таемныя таварыствы.

А на днях даслаў з Італіі ліст пан Рысь, стары знаёмца, адзін з альбанчыкаў, банды Пане Каханку. Князю надакучыла туляцца па чужыне, у той час, як на радзіме ўладанні нішчацца. Себежскае ды Невельскае ваяводствы ўжо расейцы захапалі! Усе ўдзельнікі Барскай канфедэрацыі памілаваныя, вярну-

ліся, нават князь Багінскі... А Караль Радзівіл сядзіць у Венецыі, як котка на распаленай блясе. У мінулыя гады яго два разы расейская царыца і Станіслаў Панятоўскі за рокаш прабачалі, дазвалялі вярнуцца, вярталі секвестраваныя маёнткі...

І цяпер бы дазволілі — але ж не за ўдзячную ўсмешку. Апошняе вяртанне каштавала князю надта дорага: давялося браць удзел у Радомскай канфедэрацыі, хуценька створанай з падначкі расейскага пасла. Потым заклікаць да таго, супраць чаго яшчэ нядаўна выступаў... Шляхта ледзь даравала свайму ўлюбёнаму правадыру такі куншцюк. І яшчэ адной падобнай ганьбы — прасіцца, прыпаўзці на каленях — рэпутацыя пана Караля не вытрымае, як шмат разоў перагнутая падкова. Так што наўпрост звяртацца да Цялка, Кацярыны ці іх чыноўнікаў Радзівіл не хоча. Надзейней за ўсё дамовіцца праз трэціх асобаў. Нязначных, але прыбліжаных да ўладаў. Увесці тым уладам у вушы, што Пане Каханку не супраць вярнуцца, але каб яго самога публічна запрасілі, угаварылі, і найменш каб урону гонару было...

Вось пан Рысь, канфідэнт Радзівіла, і прапанаваў такі гандаль павесці праз свайго прыяцеля, доктара Лёдніка, які з Тызенгаўзам кожны дзень бачыцца і каралю пра медычныя адкрыцці лекцыі чытае. А суддзя менскі замкавы пан Вырвіч дапаможа прыняць доктару патрыятычнае рашэнне.

Пранціш захапленне пана Рыся нясвіжскім ардынатам не падзяляў. Што геراічнага ў тым, што князь хоча і ў ваду не залезці, і рыбку з’есці? Вырвіч цалкам пагадзіўся з устрывожаным Лёднікам: лезці паміж молатам і кавадлам, або Радзівіламі і каралём, не варта. Скарыстаюць і забудуцца, як на дзіравы чаравік.

Дарэмна раскормленыя пахолкі Капаніч, на ўсходні манер у шальварах і шаўковых халатах, з-пад турбаноў вытыркаецца салома ліцвінскага валосся, — чакалі, пакуль паны добранька шкляному богу пакланяцца. Тады і слугам перападзе глыточак-кавалачак. Бутрым і збана медавухі не выпіў. Чым мог бы абразіць гаспадара, пана Гараўскага, каб той і так не ўважаў Чорнага Доктара за фармазона. Сумленны госць не мусіць на сваіх нагах з-за стала ўставаць. Нат за парог выйшаўшы, павінен выпіць з гаспадаром на штэмпель, каб сяброўства запячатаць, потым расхадуху, потым чарку аглаблёвую, а чарку страмянную — ужо на кані седзячы...

А доктар на развітанне хуценька надаваў усім медычных парадаў ды пусціў каня лужыны восеньскія расплюхваць. Шлях няблізкі, а мусіў яшчэ ў Менск заскочыць. Былы езуіцкі калегіюм, адкуль Пранціш калісьці лататы даваў, ператварылі ў свецкую школку, і там праглі кансультацыі знакамітага прафесара Лёдніка, важнага чальца ўсемагутнай Адукацыйнай камісіі. Гэтыя запросіны Лёднік і скарыстаў, каб па дарозе завярнуць у Капанічы.

Вырвіч глядзеў услед вершніку, хударляваму, але дужаму ды жылістаму, небяспечнаму, як загартаваная шабля, усё яшчэ чарнавалосаму, толькі з нітамі сівізны, і не мог даць веры, што калі яны першы раз сустрэліся, Лёднік меў гадоў амаль столькі ж, колькі Пранцішу зараз... А было гэта на скрыжаванні за Менскам, па дарозе на Валожын, калі бегламу шкаляру праезджы пан прадаў за шэлег свайго непакорлівага раба-зоркаведа, выкінуўшы таго з карэты проста ў гразь... Тады выпадкова набыты полацкі алхімік, які страціў волю, бо нарабіў даўгоў, здабываючы філасофскі камень, здаваўся Пранцішу зусім сталым, можна сказаць, старым... Вырвіч слугу паблажліва шкадаваў: жыццё спляжыў. А колькі пасля шчэ адмерылася таго жыцця абодвум, ды з такімі выкрутасамі Фартуны — то цябе да прыступак трону падкіне, то ў сутарэнне вязніцы шпурне...

...Подзвігі, здрады, каханні і страты... Меле каменне млынар каля хаты... Стогнуць магутныя жорны, як душы. Пылам каменным твой шлях зацярушаць. Вочы сляпыя млынар не падыме... Пылам — імёны, і справы за імі, пылам — твой гонар, і слава, і цноты... Дзеці твой чэрап качаюць за плотам...

Так, ён усё яшчэ пісаў вершы, пан Вырвіч, былы шкаляр, студыёзус, драгун, канфедэрат, суддзя, ліцвін, беларус.

І мусіў выпраўляцца ў Менск, бо шляхціц не павінен пагарджаць сваім доўгам перад Айчынай. І калі можна дадаць у гэты жорсткі свет хоць каліўца справядлівасці, трэба гэта зрабіць.

У Менску чамусьці ля кожнага старога пажарышча, абгарэлага, сляпога дома трэслі залатым лісцем маладыя бярозкі, як цыганачкі маністамі. Гэта й урэзалася ў памяць: аблічча горада — вугаль і золата.

Пана Вырвіча завялі ў судовую залу ледзь не пад рукі: а радасць якая, быццам каранаваць збіраліся. Пане-дабрадзею, сонейка наша яснае пан суддзя... Хутка з'ясавалася прычына паспешлівасці і некаторай таямнічасці. У Менск нечакана заявіўся сам вялікі канюшы і падскарбій літоўскі пан Міхал Брастоўскі. Вось ён, у зале судовай. Першую лаўку заняў, наперад падаўся, на шаблю-карабэлу абапершыся, гатовы ўвобмірг сарвацца з месца ды судовых на капусту пасячы. Твар гожы. Але нервовы і трохі азызлы, бледны, як цеста. Вочы, абкружаныя ценямі ці ад гаравання, ці ад балявання, змрочна блішчаць з-пад сабалінай шапкі з дыямантавым гузам велічынёй ледзь не з кулак... Людзі магнацкія паўсюль, гайдукі, венгрыкі. Злосна шчэрацца. І таксама зброю не пакінулі за дзвярыма судовай залы, як належала, і рукі ад дзяржальнаў не адліпаюць...

Пранціш адчуў, як шыла пад рабром: змова! Патрапіў абцас у смалу... І світа з трох гайдукоў капаніцкіх не выратуе. Ніводнага добрага знаёмца, а хто ёсць са знаёмых, альбо вочы хаваюць, альбо глядзяць нахабна, чакаючы, калі з суддзі зварацць булён.

Пачалося агучванне справы. І Вырвіч вушам не верыў. Малодшую дачку канюшага, паненку Праксэду Брастоўскую, знайшлі забітай на Плябанскіх Млынах у Менску. Ахвяра была страшэнна здратаваная і кінутая ў Свіслач.

Вырвіч пачаў прыпамінаць усё, што ведаў пра падскарбія літоўскага: здаецца, жанаты з Багінскай, ваевадзянкай Трокскай, і дачка ёсць, Барбара... Адкуль узялася яшчэ адна дачка?

Далей яшчэ дзіўней.

Аказваецца, паненка з дому ўцякла два гады таму, і сляды зацярушыліся. Паколькі вызначалася дзяўчына сціпласцю і пабожнасцю (на гэтым дакладчык асабліва настойваў, лісліва паглядаючы на насупленага пана), падазравалі чарадзейства альбо прымус.

І не памыліліся.

Падскарбічанку падманам звезлі і зрабілі прыслугай. Ганьба якая! Змусілі даглядаць хворых у шпіталі, шалупонь усялякую, ды рыхтаваць лекі, да такога рамярства іначай як пад ачмурэннем высакародная паненка не сышла б... А калі дзяўчына паспрабавала ўцячы, чарнакніжнік, на якога няшчасная працавала, яе дагнаў і акрутна забіў.

А вось і злачынец...

Цяжкія дубовыя дзверы расчыніліся з несамавітым грукатам. Пранцішу здалося, што ён патрапіў ці ў начны блёкат, ці ў кепскі тэатр. Да месца падсуднага валаклі Лёдніка.

Калі б Вырвіч не ведаў таго так добра, дык убачыў бы змрочнага фанабэрыстага тыпуса, з якога нат штуршкі вартавых не могуць гонар збіць. Але Пранціш ясна заўважаў, што доктар разгублены.

Страшэнна, як ніколі, разгублены, хоць і захоўвае ганарыстую міну.

Здаецца, Бутрыма пакуль не збівалі. Толькі на бялюткім манжэце, што выглядаў з-пад рукава чорнага сурдута, нейкі цёмны пісяг.

Застаецца спадзявацца, што не кроў.

Кепска, што Бутрым у нямецкім строі. Цяпер гэта расцэняць як пагарду да шляхецкіх звычаяў. Сёння нат тыя, хто нядаўна заказваў з Парыжа пудраныя парыкі, паўздзявалі бацькавы кунтушы ды жупаны. І чым больш паношаны жупан, тым зараз ганаровей: памяць продкаў беражэцца! Патрыёты праз дзедавы боты...

Праўда, Брастоўскі — прыхільнік Фаміліі, барскіх канфедэратаў знішчаў з усёй жорсткасцю... Юнацтва правёў у каралеўскім нямецкім палку, і сармацкія традыцыі парушаў лёгка, бо, відаць, уважаў за дзікунства. Тое, што ён сёння ў сармацкім строі, таксама дэманстрацыя: нобіль прыехаў спаганяць з бязроднага крыўдзіцеля!

Лёднік сустрэўся поглядам з суддзёй і нават не вельмі здзівіўся, што судзіць яго пакліканы былы вучань. Толькі губу прыкусіў.

Далейшае нагадвала добра разыграны спектакль. Сведкі адзін за адным, хто баязліва, хто лісліва паглядаючы на змрочнага вялікага канюшага, распавядалі, як злачынны доктар віхрам уварваўся на кані ў Менск, вядома, даганяючы ахвяру. Як ля месца забойства бачылі падазроную постаць: высокі, у цёмным... Самае галоўнае — у валізцы Чорнага Доктара знайшлі скрываўлены срэбны медальён, які належаў паненцы Брастоўскай.

Зачыталі і ліст з Гародні ад нейкага пісарчука, які сведчыў пра ганебную прымусовую працу паненкі на карысць злачынцы і яе няздольнасць уцячы, бо знаходзілася пад чарамі.

Для чаго доктару спатрэбілася скрадаць настолькі высакародную асобу, каб змусіць прымаць роды ў мяшчанак, нікога не цікавіла.

Не атрымаў уцямнага адказу і Пранціш. Ён выдатна памятаў панну Праксэду, якая і праўда дапамагала пані Саламеі і Лёдніку ў справах медычных і нат жыла ў іх гарадзенскім доме, з ласкі каралеўскае вылучаным, і не як прыслуга, а хутчэй як прыёмная дачка. Дырба такая, вышэй за Пранціша да крыўднага, хаця тварык нічога. Вырвіч яе пабойваўся: гаворыць мала, але позірк шэрых вачэй пранізлівы, не раўнуючы як у Лёдніка. Той усё бедаваў, што разумніца Праксэда жаночага полу, ва ўніверсітэты не пашлеш. А такі дыстынгнаваны навуковец атрымаўся б! Не, ніяк не падобная была панна да спешчанай магнацкай дачкі, і тым болей да нявольніцы.

Найбольш палохалі не крыкі ахвочых прытаптаць Чорнага Доктара ў зямельку, а маўчанне Брастоўскага. Той не варушыўся і не адводзіў вачэй ад забойцы. Нат на расповед таго пра акалічнасці з'яўлення панны Праксэды ў доме Лёднікаў — хворай, зняможанай, без граша ў кішэні — ніяк не адгукнуўся.

Баўтрамей прысягаў, што нічога не ведаў пра паходжанне паненкі. Што гвалтам яе не трымалі. Жыццё адратавалі. Што не мае дачынення да яе смерці... Ды хто яго слухаў? Дый пана суддзю таксама. Гарлалі, як на элекцыйным сойме. Падкінуты ў валізу доктара медальён забітай дэманстравалі на вялікім блюдзе з такім задавальненнем, як, прабач, Госпадзе, запэцканую прасціну пасля першай шлюбнай ночы. Дзякуй богу, што пра пані Саламею не згадвалі!

— Смерць! Асудзіць на горла!

Пан суддзя, як мог, перакрыкваў натоўп, нагадваючы пра нестыкоўкі ў справе і нат відавочныя дурноты, пра тое, што падсудны віны не прызнаў.

Як супраць ветру плявацца.

— Дык пан суддзя адмаўляецца выносіць справядлівы прысуд акрутнаму забойцу і чарадзею?

Маладзенькі шляхціц з вусікамі, што нагадвалі дзве вышчыпаныя з кудзелі шматочкі, верашчаў, ажно Брастоўскі паморшчыўся. Пранцішу самому давялося напружыць голас:

— Я шмат гадоў ведаю пана Баўтрамея Лёдніка. Магу прысягнуць, што ён не здольны на такое злачынства. Нагадаю, панове, што тры гады таму ён выйграў тут жа, на пляцы ля ратушы, ардалію, Божы суд! Магу засведчыць, што панна Праксэда Брастоўская рабіла ўсё па добрай волі і авалодвала справай медычнай з хрысціянскіх пабуджэнняў... У мінулы аўторак пан Лёднік гасцяваў у мяне, у Капанічах, і ніякай паненкі не пераследваў...

— Саўдзельнік! Схізматык! Ганьба!

Пранціш разумеў, што менавіта на ягоную адмову асудзіць сябра і разлічвалі. Тут жа ў падсудка знайшоўся ліст ад пана войта Юзэфа Радзівіла. За неадпаведныя дзеянні пан суддзя менскі Пранціш Вырвіч пазбаўляецца сваёй пасады, і на ягонае месца прызначаецца...

Вырвіч нат не расчуў, хто менавіта пасуне яго з судзейскага крэсла, за ўхвальным ровам натоўпу. Новы суддзя тут жа аб’явіўся, варушачы, як жук, чорнымі вусамі, і няправедны суд прадоўжыўся... Але зараз жа і скончыўся, калі загаварыў нарэшце ягамосць падскарбій вялікі літоўскі Брастоўскі. Вырвіч, якога, дзякуючы ягоным гайдукам з Капаніч, з залы не вытурылі, толькі да сцяны адсунулі, зноў вушам уласным не верыў. Падскарбій уладна запатрабаваў, каб забойцу дачкі аддалі пад ягоную юрысдыкцыю, як старосты ашмянскага, ён якраз збіраецца ў Ашмяны, вось і збярэ гродскі суд.

І каб быў Лёднік радавітым, успомніў бы хтось пра недатыкальнасць шляхціца, роўнасць усіх паноў-братоў і святасць Статуту — бо дапусці прэцэдэнт, гэтак любога вораг зможа забраць у сваю вотчыну на расправу... Але Баўтрамей Лёднік быў бязродным, што ўмудрыўся ўкруціцца ў давер да каранаваных асобаў, і вось ужо яго выводзяць воі Брастоўскага... І паблісквае абыякава вечаровае сонца, што здолела прабіцца праз пыльнае ваконнае шкло, на залатых галунах ды аголеных шаблях...

Дарэмна Вырвіч крычаў пра каралеўскі Трыбунал, які толькі і мае права асудзіць шляхціца... Дарэмна, успомніўшы, што пан Брастоўскі жанаты з сястрой князя Міхала Багінскага, нагадваў пра сваяцтва: жонка Пранціша, Дамініка з Гараўскіх, была дачкой зводнай сястры князя. Брастоўскі толькі злосна ашчэрыўся...

Традыцыі для пана заканчваліся дыяментавым гузам на шапцы.

Чорны Доктар паспеў прагаварыць да Вырвіча, калі той прабіўся да яго бліжэй:

— Прыглядзі за маёй сям’ёй... Алеся забяры...

Вось так Вырвіч і паехаў у Вільню.

…Да першай прыдарожнай карчмы, дзе яны з Аляксандрам Лёднікам збіраліся ночыць, яшчэ заставалася вёрст дзесяць. Хмары ляцелі ў бок Менска, падабраўшы шэрыя фальбоны, быццам спазняліся да пачатку нябеснай асамблеі…

Алесь выцер з твару восеньскі дождж.

— Хтосьці дапаможа?

З сядзельнай сумкі малодшага Лёдніка несамавіта высоўваў бліскучы нос мікраскоп.

Вырвіч і без павелічальнага шкла бачыў бяду.

— Кароль рады Бутрыма з жыцця вытрасці, як каменьчык з бота. Тызенгаўз супраць не папрэ, Жылібер сведчыць — адразу пачаў пра Бутрыма рэзка адзывацца. Сам Жылібер спачувае, але што ён зробіць...

На прыдарожным крыжы вісеў абраз, пасечаны нечай шабляй. Засталося адно цёмнае сумнае вока...

— А бацька... жывы яшчэ?

Вырвіч і сам хацеў бы пэўнасці — ці мала няшчасных павісала ў петлях ды палівала крывёй шыбеніцы ў дварах магнацкіх палацаў...

— Суд яшчэ мусіць быць.

Самому б у гэта верыць.

— А што, калі... Да расейскай царыцы звярнуцца?

Вырвіч скасавурыўся на Алеся: наколькі шмат ён ведае пра стасункі бацькі і імператрыцы? Паколькі хлопец адвярнуўся і пачырванеў — ведае досыць.

І ў такім бядотным становішчы можна было і да царыцы... Калі б мудры ганарысты Бутрым, які паставіў за мэту быць незалежным ад ласкі вяльможнай, якраз напярэдадні не спаліў сабе і гэты масток — пра што Вырвіч з расчараваннем даведаўся толькі пасля суда. Імператрыца пажадала пачуць, як дзейнічае Адукацыйная камісія, як працуе ў Гародні медычная школка... У дэлегацыю, што мусіла пра гэта дакласці, згодна негалоснаму манаршаму распараджэнню, належала ўключыць прафесара Баўтрамея Лёдніка. А той упёрся... Не варты, этыкету не навучаны, радаводам не выйшаў... Ясна, што дзеля спакою каханай Саламеі ў вязніцу пойдзе за аслушэнства — але не дасць новай падставы брудным чуткам. Ніякіх больш палацаў і імператрыцаў...

Панятоўскі дык толькі ўсцешыўся. Але ў Санкт-Пецярбургу ганарыстага доктара кляйном адпаведным пазначылі.

— Я не паеду дадому.

Алесь Лёднік упарта падцiскаў вусны. У глыбокай калюжыне ад сялянскіх калёс люстравалася неба падзеленай краіны.

— Я з панам Вырвічам — у Ашмяны.

…Вох, які водар у старой прыдарожнай карчме, каб вы, дабрадзеі, ведалі! Ніводзін парыжскі парфумер не накалбоціць такой раскошы. Часнок, згорклае сала, кіслая капуста, тлушч, у якім смажылася не адно пакаленне каўбасак, можа, яшчэ з часоў Саса, гнілое сена. Плысці можна ў такім водары! У сціплую пабудову пад назвай «Эльдарада», чые шэрыя драўляныя скабы аж раздзімаліся ад напругі, шляхты набілася, як тых канкістадораў у карабель, што нясе да залатога горада. І шарачкі, што ганарыста выстаўлялі на пагляд захаваныя каштоўнасці — у каго сыгнет, у каго зыркі, як вясёлка, дзядоўскі пояс ці дыяментавы гуз на пабітай моллю шапцы... Кулялі чаркі і некалькі асобаў у дыхтоўных саетах.

П'юць піва мястэчкі,
П'юць піва і вёскі,
І паньства статэчна,
І люд вельмі просты,
П'е піва і худы,
П'е піва і тлусты,
І дзед сівабароды,
І хлопак бязвусы.

Музыкі былі не зусім сабе карчомныя — у аднаго, вышэйшага, чарнавусага, у чырвонай світцы і сінім сукмане, мандаліна, у другога, маладзейшага і шчуплага, у блазенскім зялёным каптане з жоўтымі клінамі — скрыпка, а на шапцы цэлы пук паўлінавых пёраў. Гралі-спявалі шалапуты «з каленцамі»,

мудрагеліста, відавочна звыкшы ўпрыгожваць слых уладальнікаў маёнткаў. Той, што з мандалінай, яшчэ ўмудраўся нагой кіраваць механічным барабанам з талеркамі, каб шляхетны слухач, нат адужаны Бахусам, не заснуў канчаткова і пад вясёлы грукат хоць шэлег ламаны адшкадаваў менестрэлям.

Зусім не падобна, што панства тутэйшае збіраецца на паховіны.

Цяпер паважаны пан Вырвіч не мусіў глытаць галодную сліну, калі заходзіў у карчму, як калісьці давялося ім з Лёднікам, калі той яшчэ быў бяспраўным слугою збеглага шкаляра. Дыяментавы гуз на сабалінай шапцы найлепшы пропуск. Карчмар хуценька вызваліў месца, сагнаўшы нейкіх чумакоў, і чаканне замоўленых клёцак з душамі прыкрашала кампанія двух келіхаў піва.

Келіхі былі масянжовыя і гнутыя. Справа шляхецкая — з чаго п’ецца, тым і б’ецца.

Непадалёк мажны шляхцюк у багатай серабрыста-чырвонай чузе, якая, мяркуючы па працёртых рукавах, ведала лепшыя часы, бубнеў пры пачцівай увазе слухачоў пра ўласнае Эльдарада, калі давялося пажыць у Нясвіжы яшчэ пры ягамосці вялікім гетмане Радзівіле Рыбаньку:

— А от у дзень імянінаў карусель у гонар яснавяльможнага князя была. Усе ў сукнях машкарных, у строі ружовым градэтуравым, з галунамі срэбнымі, а плашчыкі гарнастаямі падшытыя, а на галовах каскеты высокія з пер’ем белым. Падзяліліся ягамосці на чатыры банды кавалераў, адну вёў сын ягамосці Януш, што ў хуткім часе памёр, другую — іншы сын, яснавяльможны Караль, а трэцюю пан Карніцкі, паручнік пяцігорскі, а чацвёртую — пан Нарніцкі, харунжы гусарскі... І ў кожнай бандзе было на калясках столькі ж німфаў, і кавалеры іх везлі.

Расповед нагадваў гранне катрынкі альбо зачытванне дыярыюша.

— І пастаўлена было статуй з дрэва, падобна да арлекінаў паўбіраных. Першая трымала ў адной руцэ кружок, а ў другой кій скураны, саломай напханы. Сама на шрубе, дык трэба было, ударыўшы дзідай у гэты кружок, праскочыць. Калі хто ўдарыць добра, дык нічога, калі ж нядобра, дык павернецца тая статуя і кіем у лоб дасць. Другая статуя на грудзёх мела круг жалезны, куды куляй глінянай трэба было ўдарыць. Калі трапіў у сярэдзінку, дык ракета ўгору вылятала, калі ж хібіў, дык рыцара драбязой абсыпала. Трэцяя статуя мела на раменні скрынку, у якую, калі трапіў, дык з яе птаства вылятала…

Расчулены ўспамінамі, апавядальнік не заўважаў, што яго настальгічнае мармытанне даўно страціла апошніх слухачоў, акрым келіха, які ўсё гэтак жа захоплена адкрываў круглы рот.

Нарэшце духмяныя клёцкі, над якімі танчыла пяшчотная пара, дабраліся да свайго наканавання, і былы суддзя з недавучаным студыёзусам запрацавалі лыжкамі.

Між тым песенька сціхла, а музыкі, парассоваўшы па кішэнях атрыманыя манеты, уладзіліся за сталом. Хто болей плётак-чутак ведае, чым вандроўны музыка? Пранціш скасавурыўся: той, што з чорнымі вусамі, прыціснуўшы мандаліну каленам да ножкі стала, абгрызаў свіную галёнку.

Вырвіч адправіў па заплямленай сталешніцы да талеркі музыкі срэбны шастак. Тлусты профіль Жыгімонта Аўгуста Трэцяга круціўся разам з манетай. Музыка спрытна цопнуў шчодры панскі падарунак, вусны расплыліся ва ўсмешцы з належнай, але не занадтай порцыяй ліслівасці. Пранціш кіўнуў, каб мандаліншчык прысунуўся бліжэй.

— Добра граеце з таварышам. А ці не ў Вільню кіруецеся?

Музыка ахвотна засакатаў (куточак правага вока яго быў трохі апушчаны з-за шнару, падобна, ад бізуна):

— Што вы, літасцівы пане, якая Вільня! Мы, як і ўвесь люд паспаліты, у Ашмяны, на заручыны!

Вось табе маеш...

— Ну як жа, сын расейскага пасла Штакельберга заручаецца з пляменніцай ягамосці вялікага гетмана Багінскага!

Паплечнік вусатага пачціва ўлез у размову:

— У касцёле францысканцаў цырымонія будзе, вашамосць.

Ліфляндзец Штакельберг, якога ненавідзяць усе мясцовыя патрыёты, цьху, нат на прозвішчы язык спатыкаецца, і гетман Багінскі, былы барскі канфедэрат? Вось гэта палітычны куншцюк...

— І чаму ў Ашмянах?

— А таму, што ягамосць староста Ашмянскі пан Брастоўскі — швагер ягамосці Багінскага.

Музыка панізіў голас, паказваючы, што адкрывае таямніцу:

— Гэта ж ягамосць пан Брастоўскі і зладзіў заручыны... Пляменніца — падапечная гетмана, непаўналетняя. Штакелю таму з нашымі магнатамі парадніцца даўно хочацца, а то яго за чужынца трымаюць. Адзін пан гаварыў: Багінскаму паабяцалі аддаць маёнткі, што пасля сяквестру не вярнуліся, калі пляменніцу ўдачарыць і са Штакелем-малодшым ажэніць. Брастоўскі на гетмана праз жонку сваю, сястру ягоную, ціснуў... Бо за спрыянне шлюбу атрымае крэдыт ад расейскага пасла, які даўно прасіў. Тры мільёны злотых, мой пане!

Голас музыкі ажно затрымцеў — бо і ўявіць такую суму было непадсільна.

— Ён жа ў даўгах увесь, наш пан падскарбій, — гучным шэптам удакладніў шчуплы скрыпач. — Гулец, якіх свет не бачыў. У Вільні, кажуць, на такога мазурыка ў гульнёвым доме напароўся, што й карэту з коньмі прайграў, і частку маёнткаў. Цяпер староства Ашмянскае прадае пану Коцелу. Пані падскарбіева гадоў пяць асобна жыве.

Шляхцюк у серабрыстай чузе гучна захроп, аж паўлінавыя пёры на шапцы скрыпача, што ляжала між талерак, затрапяталі, бы ад ветру.

— А як маюцца дзеткі самога пана падскарбія Брастоўскага?

Вырвіч пастараўся задаць пытанне абыякава, кінуўшы пагрозлівы пагляд на Алеся, які адразу страпянуўся.

Мандаліншчык запэўніў, што яемосць Барбара падскарбічанка ў добрым здароўі.

А хіба няма другой дачкі?

Мандаліншчык зноў панізіў голас:

— Была, чуў, яшчэ дачка... Яе пан Міхал з Германіі прывёз, сказаў — ажаніўся там. Толькі ніхто не ведае, з кім шлюб пан Брастоўскі браў, а мо пад плотам яго справілі. Шалапут пан Міхал заўсёды быў неверагодны, бацькоў засмучаў. Не чуваць нічога пра тую дзяўчыну, а яна, мусіць, вялікая ўжо. Ці памерла, ці замуж выдалі.

— Не, ніхто з нашых не казаў, што на ейным вяселлі граў, — задумліва засведчыў скрыпач. — Мусіць, у кляштар аддалі нябогу.

І спачувальна перахрысціўся.

Пранціш сустрэўся позіркам з Алесем: той ледзь стрымліваў хваляванне. Значыць, не дайшлі сюды чуткі пра забойства на Плябанскіх Млынах…

Музыкі хуценька дапілі сваё піва, пахапалі інструменты і адправіліся граць далей: карчмар ужо злосна махаў ім, відаць, багаты кліент запатрабаваў песень.

Ну што ж, значыць, заўтра — у Ашмяны!

І лепш не думаць, што зараз адбываецца з Баўтрамеем Лёднікам... І ці жывы ён яшчэ.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## Ашмянскія нявеста, аптэкар і кат

У «Кнізе пра звяроў ды пачвараў», напісанай сярэднявечным мніхам, згадваецца пра племя з вострава ў Чырвоным моры, што гаворыць на ўсіх мовах свету. Калі трапляе на востраў госць, тубыльцы пачынаюць пералічваць яму ўсю ягоную радню да дванаццатага калена. А як глузды ў небаракі пад цяжарам генеалогіі паедуць, тут яго на кавалачкі раздзяруць і сырым з'ядуць. Без солі. Затое з радаводам.

Шляхта, што з'ехалася ў Ашмяны, гатовая была адзін аднаго, не падсмажваючы, з'есці, бо радаводамі мерыліся ўсе. Хто папераздзе каго мусіць на імшы стаяць, у дзверы прайсці, да княжацкіх мосцяў бліжэй пасунуцца...

Людцы ля францысканскага касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі, на які яшчэ Аляксандр Ягелончык фундуш запісваў, выцягвалі шыі то ў адзін бок, то ў другі, не раўнуючы гусіны статак у чаканні кармёжкі.

— Едуць, едуць!

Твары павярнуліся ў адзін бок. Зашаргаталі аксамітныя дылеі з сабаліным футрам і простыя сукманы, ускалыхнуліся фальбоны і пёры на шапках, затупалі ўсхвалявана па бруку чырвоныя боты з бліскучымі падкоўкамі і стаптаныя кабці... Задудзеў, забразгаў прывітальна аркестр, быццам лісліва загаўкалі, падвываючы, мядзяныя сабачкі...

— Не прыехаў вялікі гетман... Прадстаўніка прыслаў... Вунь, у кармазінавым жупане... І пасла, пасла няма...

Шэпат быў расчараваны. Чым болей нобіляў — тым болей выкаціцца бочак віна дзеля свята.

— Жаніха і нявесту вязуць! Віват!

Да касцёла набліжаўся дзіўны экіпаж, нібыта з'ехаў са старонак кнігі пра фею Мелюзіну. Шэсць белых коней з лазуркавымі плюмажамі ступалі нага ў нагу, дзвюма правымі, дзвюма левымі адначасова, як мядзведзі толькі са звяроў ходзяць ды спецыяльна навучаныя коні. Велізарная пазалочаная карэта з дахам-купалам, аздобленая бела-ружова-лазуркавымі эмалевымі накладкамі ў выглядзе дзівосных раслін, адкрытая з абодвух бакоў. Тыя, хто ехаў на высокіх, абцягнутых белым аксамітам лаўках, былі відочныя натоўпу, як каштоўныя камяні, выкладзеныя для прынады пакупнікоў у вітрыне злотнікаўскай крамы. Двое з натоўпу, ладны светлачубы шляхцюк з блакітнымі вачыма і даўгалыгі сур'ёзны юнак з бледным тварам і цёмным паглядам аказаліся прыціснутымі да Святога Баўтрамея, што нёс варту злева ад касцельнай брамы. Драўляныя вочы святога задуменна і трохі збянтэжана паглядалі ў беларускае неба, ледзь прыкрытае парванымі карункамі аблокаў.

— Дык яны ж зусім малыя, вашамосць! — вырвалася ў цёмнавокага юнака.

Сапраўды, нявеста ў пышнай бела-ружовай сукенцы, падобнай да піражнага, у напудраным парычку з кветкамі мела не больш гадоў за дзесяць. Хаця спіну, зацягнутую гарсэтам, трымала раўнюсенька, а набелены мілы тварык з троху прыўзнятым носікам і вялізнымі блакітнымі вачыма быў адсланёна-

важны. Жаніх, што сядзеў насупраць, тварам да нявесты, выглядаў яшчэ маладзейшым, гадкоў шасці. Хутка Пранцішаў Яначка такім самым будзе. Шчуплы хлапчыска ў блакітным аксамітным касцюмчыку, расшытым срэбрам. Таксама парычок і важна-адсланёны выраз твару, як у парцалянавага балванчыка. Абое дзіцёнкі сядзелі нерухома, быццам лялькі ў музычным куфэрку, спружыну якога яшчэ не завялі. Карэта спынілася перад самым уваходам у касцёл. Забегалі лёкаі, рассцілаючы дываны, грувасцячы лесвічкі і падушкі да ног важных персон... А Вырвіч не мог адвесці вачэй ад тварыку, які ён ужо не спадзяваўся ніколі ўбачыць. Такія самыя блакітныя вочы, толькі з дарослага аблічча, пазіралі на яго калісьці то пагардліва, то гарэзна, капрызлівыя вусны ўсміхаліся, і абрынывалася сэрца ў бездані, дзе віхурыліся надзея і адчай, і было гэта першае каханне... Князёўна Паланэя Багінская, якую звёз у далёкую Амерыку руды прайдзісвет, пан Гервасій Агалінскі...

Між тым выйсце важных персонаў адкладалася, бо перад імі з'явіліся два Амурчыкі і Псіхея з драцянымі крылцамі, абцягнутымі бялюткім вэлюмам, і дрыжачымі ад хвалявання галасочкамі заспявалі штось пастаральнае... Пранціш, не вельмі кемячы, што робіць, пачаў праштурхоўвацца бліжэй да карэты, не зважаючы на незадаволеныя пагляды і ўскрыкі...

— Пан Вырвіч!

Нечая рука кранула за плячо. Пранціш скінуў ачмурэнне і азірнуўся.

— Давыд!

Полацкі аптэкар, спадчыннік Бутрымава настаўніка, дзядзькі Лейбы, паказваў бялюткія зубы, вочы весела паблісквалі з-пад моднага чорнага капелюша. А што ж, Давыд Ляйбовіч падчас свайго французскага студэнцтва, а павучыцца паспрыяў Лёднік, засвоіў не толькі веды ў фармацыі, але й у фацэтным апрананні. Полацкія дзеўкі ў аптэку Ляйбовіча да абурэння старэйшых гужом бегалі, на вышываныя камізэлькі ды каптанчыкі з карункамі-блондамі падзівіцца.

— Што ты тут робіш?

Пранціш змусіў сябе адагнаць прывіды мінулага. Ляйбовіч паправіў паласатую жоўта-сінюю хустку, што ўпрыгожвала ягоную худую шыю.

— Я ж асабісты лекар Брастоўскіх! Дакладней, пані падскарбіевай...

Нішто сабе... Давыд паціснуў плячыма.

— Усё ў свеце вырашаецца выпадковымі імгненнямі. Чалавек спатыкнуўся аб камень, не на тым скрыжаванні павярнуў, сустрэўся позіркам з незнаёмай дзяўчынай... У маім выпадку быў укус блыхі. Яемосць Казіміра Брастоўская з Багінскіх праязджала праз Полацк ды заўважыла, што нос распух, як сліва — а вечарам на балі трэба красавацца... Мая аптэка падвярнулася. За гадзіну нос княскі пабялеў, пухліна спала, адмысловыя пудры давершылі пераўтварэнне... Так што вось як год пакінуў аптэку на памочніка, цягаюся за пані з перасоўнай лабараторыяй. Часам для падскарбія пудры ды персідскі парашок рыхтую... Хутка яшчэ адзін дом у Полацку прыкуплю. О, пан Алесь, і вы тут? А што васпанства сюды прывяло?

Нат з кароткіх фразаў старых знаёмцаў Давыд з'ясаваў, наколькі ўсё кепска з ягоным дабрадзеем і настаўнікам Бутрымам.

— Каб вас густа сеяла ды рэдка ўсходзілі... — разгублена вылаяўся Давыд невядома на каго. — Да іх мосцяў Брастоўскіх сёння не падбярэшся, хіба ўвечары. Заручыны гэтыя недарэчныя, каб бойка яшчэ не ўчынілася...

І праўда, за карэтай прыехала ладная дэлегацыя расейцаў у белых мундзірах. Мусіць, пасол прыслаў за сынам прыгледзець... Але думкі ўсё адно саслізгвалі ў мінулае.

— А нявеста, чыя ж яна дачка?

— Малодшай сястры гетмана, Паланэі.

Давыд, не дужа пасвечаны ў бурлівае куртуазнае мінулае Вырвіча, гаварыў няўважна.

— Там у яе нейкі шлюб незразумелы, выйшла не за роўню, з’ехала кудысь, дзе Абрам і цялят не пасе. У Багінскага самога дзяцей нямашака, выпісаў бедную пляменніцу з-за мора, каб свае справы ўладзіць.

Старое каханне, лёд і кіпень ты...

Значыць, у Паланэйкі, Агалінскай з Багінскіх, акрамя сына, пра якога Пранціш ведаў з адзінага атрыманага з-за акіяна ліста, нарадзілася яшчэ дачка... Але як жа магла неўтаймоўная князёўна, якая выбрала волю замест багацця, аддаць малую дачку ў палітычныя гульні?

— У магнатаў свае законы, — недаравальна паблажліва глядзеў на пыхлівую раскошу аптэкар Давыд.— Трэба — немаўля прызначаць старостам. Альбо ажаніць. Нарадзіўся на паўгадзіны пазней за брата-блізнюка — і ў цябе няма нічога, а ў яго ўсё. Ведаеце, што ў Пане Каханку брат быў, Януш Тадэвуш, на паўгадзіны старэйшы? Памёр рана... А то б ён ардынатам Нясвіжскім ды Слуцкім быў. І ў нашага пана Міхала Брастоўскага малодшы блізнюк ёсць, князь Адам. Ледзь ад рукі пана Міхала не загінуў, калі той з расейцамі барскіх канфедэратаў знішчаў.

Між тым натоўп заварушыўся. Амурчыкі з Псіхеяй скончылі прадстаўленне, і жаніх з нявестай пад дажджом з кветак урачыста рушылі ў касцёл. Давыд схапіў Пранціша і Алеся за рукі.

— Хадзем хутчэй! Ёсць адзін патрэбны нам чалавек... Гэта проста шанцаванне, што я з ім някепска знаёмы, і што ён, здаецца, тут...

Нядаўна да Ашмянскага касцёла ласкай фундатараў былі прыбудаваныя каменныя калоны, быццам старасвецкай пані дзеці падарылі модны казакін, накідваць паўзверх салопа. З’явіліся і дзве доўгія прыбудовы дзеля патрэб калегіюма, што дзейнічаў пры кляштары. Увішнага полацкага аптэкара і ягоных гасцей пачціва прапусцілі туды гайдукі, апранутыя ў колеры Брастоўскіх, сіні з зялёным. Давыд відавочна лічыўся сваім у княскім атачэнні.

Пакой быў доўгі і цёмны, як лекцыя па граматыцы, на паліцах шыхты кніг у скураных мундзірах. За цяжкім дубовым сталом, у кампаніі самотнага металёвага кубка і мядзянага блюда з лустамі белага хлеба, схіліўшыся над малітоўнікам, сяцціў лысінай чалавек у суконным чорным каптане. Хто такі, чаму не на імшы? Таксама іншаверац?

Пытанні зніклі, калі чалавек павярнуў твар да прыхадняў. Пранціш дык і не такое бачыў, а Алесь аж трохі назад падаўся, хоць і разводзіў рапух ды слімакоў. На лысую галаву чалавека ўспаўзала ружовая луска, з брудна-жоўтымі плямамі засохлага гною. Такая ж луска ад шыі паднімалася да левага вока. Вочы ж былі светлымі, з адценнем балота, і надзвычай цёмныя зрэнкі, здавалася, пульсавалі ў гэтай светлай дрыгве.

— Вітаю спадара Давыда! Я так і думаў, што васпан завітае ў нашы Палясціны з іх княскімі мосцямі.

Страхалюд гаварыў прыгожым, густым голасам, як гавораць людзі адукаваныя, што наведвалі лекцыі па рыторыцы.

Давыд пачціва схіліўся.

— Вітанне! Як пачуваецца шаноўны пан Ігнарус?

Чалавек асцярожна правёў пальцам па сваёй звыродлівай шчацэ.

— Deus avertat. Дзякуючы табе, Давыдзе, някепска. Прынамсі, сверб не такі нясцерпны. Ты сапраўдны майстра.

Ляйбовіч яшчэ раз пакланіўся.

— Мне далёка да майго настаўніка, доктара Баўтрамея Лёдніка.

Грубаватыя рысы твару нібыта закамянелі.

— Не ведаў, што ў цябе былі такія настаўнікі, Давыдзе.

Ляйбовіч трохі разгублена азірнуўся на спадарожнікаў.

— Дарэчы, вось і сын доктара Лёдніка, пан Аляксандр... Студэнт Віленскай акадэміі. А гэта пан Франтасій Вырвіч, даўні сябар доктара...

— Вось як...

Дужыя рукі Давыдавага знаёмца былі спрацаваныя, як у каваля. Апёкі, драпіны...

— А яны ведаюць, Давыдзе, да каго ты іх прывёў пагаварыць пра доктара Баўтрамея Лёдніка?

Было ў ціхім голасе штось такое, што непадалёк у ціхай рачулцы Ашмянцы, магчыма, паўсплывалі ўсе печкуры жыватамі да восеньскага неба.

Светла-зялёныя вочы ўтаропіліся ў Ляйбовіча.

— Я цаню, Давыдзе, што ты не цураешся мяне. І нашы гутаркі ad amicitiam за келіхам віна цаню. І ўдзячны за лячэнне. Але ты павінен усведамляць, што схіляць мяне да здрады бескарысна.

І з нейкай прыхаванай злой весялосцю перавёў позірк на Пранціша і Алеся:

— Я кат. Ашмянскі кат.

Цяпер сляды апёкаў на руках пана Ігнаруса нагадвалі зусім не наконт працы каваля. Пранціш моцна сціснуў локаць Алеся: не адхінацца, не жахацца, не крывіцца.

— Вітаю шаноўнага пана Ігнаруса. Можа, васпан мае звесткі пра майго пана бацьку? Ён... жывы?

Ашмянскі кат з ухвальным здзіўленнем прыўзняў светлыя, бровы:

— Мяжа між жыццём і смерцю такая тонкая... Танейшая за чалавечы волас, васпане. Кожны з нас носіць у сабе сваю смерць... Нешта, што парве той волас. У кагось гэта — слабы ад прыроды альбо пашкоджаны ўнутраны орган, які з цягам часу разладзіцца настолькі, што зламаецца, як шасцярэнька ў складаным механізме, і тым спыніць дзеянне ўсяго механізму... У кагось — загана характару, альбо небяспечныя веды... Маленькі вусень, які селіцца ў яблыку і выядае яго да зморшчанай скуркі. Пакуль побач спрабуюць гвалтам змусіць кветкі распускацца, давайце пагаворым пра згнілыя плады. Прысаджвайцеся, вашымосці. Ёсць квас і булка... Збан вунь там, на куфры, і кубкі.

Алесь разам з Вырвічам і аптэкарам пакорліва сеў за стол насупраць чалавека, які напэўна катаваў яго бацьку. Можа быць, нават сёння раніцай. Ці ўчора вечарам. Што рабілі з Баўтрамеем Лёднікам гэтыя спрацаваныя дужыя рукі, якія зараз так беражліва адкладаюць малітоўнік у чорнай скураной вокладцы?

Кавалак у горле перасядаў... І да кубка не хацелася вуснамі дакранацца — бо з яго, магчыма, піў кат.

Пранціш успомніў урокі лаціны: Ігнарус — гэта ж значыць, адрынуты, пакінуты.

Што змусіла чалавека, відавочна адукаванага, разумнага, абраць такую прафесію, каб сесці з ім побач маглі альбо людзі, пазбаўленыя ўсялякіх забабонаў, альбо тыя, хто ў адчаі?

— І я вучыўся ў Віленскай акадэміі, — мякка сказаў кат, гледзячы на сына вязня. — І стаяў на імшы ў саборы двух Янаў, і лазіў на званіцу, па ўдачу для іспытаў, і з цяперашнім рэктарам збягаў ноччу з канвенту праз

акно... Мяне прызначалі цэнзарам, і я старанна драў лянівых аднакурснікаў розгамі. Чым гэта адрозніваецца ад таго, што я раблю цяпер? Ніхто не ведае, куды яго закіне лёс.

Пранціш стрымаў гнеўную рэпліку пра тое, што без жадання чалавека лёс можа яго закінуць у рабскі ашыйнік, як калісь Баўтрамея Лёдніка, ці ў катавальню ў якасці ахвяры, але ніяк не на пасаду ката.

Проста пад акном завялі размову скрыпка і мандаліна. Высокі мужчынскі голас зацягнуў песеньку пра маленькую венгерскую каралеўну, якую прывезлі ў Польшчу, аддаваць замуж за старога караля. Гэта ж тая парачка з карчмы... Ну, памажы ім, святая Цэцылія, зарабіць адно дукатаў, а не бізуноў.

— Мы не пашкадуем нічога, — цвёрда прамовіў Пранціш. — І мы не змусім вас парушыць закон. Нам толькі б даведацца, што з доктарам.

Давыд паклаў на стол цяжкі мяшэчак, прыцiснуў далонёй, як злоўленую мыш:

— Сорак дукатаў... За спатканне з панам Баўтрамеем заплацім яшчэ, колькі скажаце. І той канвалют, з трактатам Сільвія па анатоміі, які вы так хацелі, будзе ваш.

Па краёх сталешніцы цямнелі дзіркі, нагадваючы пра звычай некаторых ліцвінскіх гаспадароў прыбіваць абрусы цвікамі, каб слаўныя госцейкі не знеслі. Кат задумліва паднёс да вуснаў кубак.

— Трактат варты паслугі. І тое, што вы хлеб са мной раздзялілі, таксама. Ну і каб мне такія грошы хтось падарыў дваццаць год таму, я б расплаціўся з картачным доўгам, і скончыў акадэмію, і не нарабіў тых глупстваў, што нарабіў... Ваш Чорны Доктар таксама досыць нарабіў за жыццё глупстваў. Іначай не апынуўся б там, дзе апынуўся.

Слухачы напружана маўчалі.

— Не, я не працаваў над доктарам. Пакуль што.

Ашмянскі кат лічыў сябе добрым рамеснікам, майстрам у сваім цэху.

— Ягамосці князю Брастоўскаму было не да вязня. Яму ж за заручынамі трэба абавязкова прасачыць, а тут — замянішча. Едзь па лісце нейкага дабрадзея ў Менск... Так што вашага доктара проста пасадзілі ў тое месца, адкуль ён не збяжыць.

Кат адсёрбнуў квасу і задумліва заўважыў:

— Праўда, паміж прабываннем у тым месцы і маёй майстэрняй я б не ведаю, што на месцы пана Лёдніка выбраў.

Давыд і Вырвіч трывожна перазірнуліся.

— Можа, пан Ігнарус будзе ласкавы ўдакладніць пра месцазнаходжанне майго пана бацькі?

Аляксандр Лёднік па-ранейшаму не даваў сабе праявіць скруху альбо страх.

— Вы цікавы малады чалавек... — прамовіў кат. Бліскучая восеньская муха паспрабавала сесці на ягоную лысіну, пакрытую засохлым гноем. — Ваш бацька ў Ашмянах, у замку... Нябожчыцу таксама там трымаюць, у лядоўні. Ужылі mellification... Мёдам залілі. Хоць гэта не вельмі надзейны спосаб. Лепей солевае расчынне in nomine натрон. Цела чалавека — тое ж мяса. А доктар патрапіў у студню.

Ад няспешнасці і жахлівасці расповеду зубы скрыгаталі не толькі ў Пранціша.

— Што значыць — у студню, ратуй нас, Святы Юры?

— Для асабліва небяспечных злачынцаў. На маёй памяці туды толькі тры чалавекі трапіла. Адзін выжыў.

Кат спрытна прыбіў муху на сваёй галаве. Слізкая кроў і чорная плоць агіднай жамяры змяшаліся з яго плоццю.

— Каменны калодзеж у сутарэннях. Калі стаць на дне, вады — па грудзі. Вада кепская, застаялая, так што не сцюдзёная...

— Колькі там ужо Бутрым? — перабіў Пранціш, адчуваючы ў горле горкі ком.

— Пяць дзён будзе. Князь не загадваў даставаць.

Пранціш палез па кішэнях і высыпаў на стол усе манеты...

— Адвядзіце нас да Баўтрамея як хутчэй!

Як кажуць, не нукай, не запрэгшы...

Допытных спраў майстар дужа крыва пасміхнуўся.

— Я трохі чуў пра Чорнага Доктара... На якія штукарствы ён ды ягоная банда здатныя... Здаецца, са Слуцкага замка калісьці збягалі, дык ледзь па каменьчыках усё не рассыпалі?

Давялося даць шляхецкае слова — толькі спатканне... Толькі размова. Пакуль хаця б гэта...

Запэўніванні ў невіноўнасці Бутрыма ашмянскаму кату былі абыякавыя. Мяжу між вінаватымі і бязвіннымі ён таксама лічыў плыткай.

Паляванне на ведзьмаў — вясёлы занятак.

Мерзлы бруд б’е фантанамі з-пад капытоў.

Нарадзіўся на свет — дык ужо вінаваты.

Вінаваты стакроць, што ў загон не пайшоў.

Між тым на вуліцы пачынаўся нейкі гармідар. Крыкі, жаночы віскат... А вось і зброя, здаецца, заляскала...

— Куд-ды панства нясе!

Давыд ледзь утрымаў Вырвіча і Алеся, якія вокамгненна ўскочылі — мова зброі ўцямная і любая шляхецкаму сэрцу.

— Гэта не наша бойка! Жаўнеры Штакельберга ды ашмянская шляхта счапіліся. Хай ягамосці Брастоўскаму гузакі чэшуцца.

Пранціш ледзь змусіў сябе выпусціць дзяржальна Гіпацэнтаўра і вярнуцца да размовы.

— Пан Ігнарус казаў пра ліст, які даслалі падскарбію...

Кат нават брывом не зварухнуў — так не заўважае хваляў тапелец.

— Даслалі... Што знайшлася мёртвай збеглая дачка князя. Яе спакусіў і звёз палюбоўнік, чорны маг Лёднік. І яны жылі ўвесь гэты час у граху. Пакуль чорны маг яе не забіў. І калі князь не хоча ганьбы па ўвесь свет, мусіць неадкладна забраць труп і пакараць злачынцу.

У дактаровіча запалалі шчокі, быццам ад поўхі... Але штось загрукатала ў канцы калідора. На хвілю ў памяшканне ўварваліся гукі бойкі, потым сціхлі. Пачуліся крокі і злы голас, які адчытваў кагосьці, быццам бервяно пілаваў. Крокі набліжаліся. Першым паказаўся груваскі афіцэр у мундзіры войска Багінскіх, з аголенай шабляй і збітай на бок шапкай, дужа злосны. За вайскоўцам, цвёрда пастукваючы абцасамі, рушыла кашчавая, бы штыкеціна, дама ў напудраным парыку — гэта яна бесперапынна лаялася... Прыхадні на пана Ігнаруса і ягоных суразмоўцаў увагі не звярнулі — можа, проста не заўважылі, бо кампанія сядзела ў прыцемку.

— Яснавяльможная паненка не мусіць паводзіць сябе гэтак непачціва! Паненкам нельга здымаць пальчаткі! Разразаць стылетам шнуроўку гарсэту! Штурхаць яснавяльможных панічаў! І запомніце, што вы цяпер не Агалінская, а Багінская, і ваш бацька — ягамосць Міхал Казімір Багінскі!

А вось і тая, на каго гэтае буркатанне накіраванае. За злоснай штыкецінай важна тупала маленькая нявеста. Троху кірпаты носік ганарыста задраны,

вусны намаляваныя сардэчкам, ясныя блакітныя вочы не выказваюць ні крыўды, ні гневу.

Раптам паненка хуценька падабрала падол сукенкі, падскочыла і трапна дала выспятка сваёй выхавацельцы. З усяе моцы. І зноў ідзе, як лялька, ручкі склаўшы.

Штыкеціна ледзь не паваліліся, праляцела колькі крокаў наперад, выставіўшы рукі, быццам хацела абняць прывід.

— Што... што гэта было?

Княжна толькі броўку прыўзняла ў адказ:

— Не разумею, пра што кажа вашамосць.

І ўчапілася б кашчавая рука кабеціны ў худзенькае плечыка нявесты, і невядома, якой экзекуцыяй скончылася б... Каб не Ланцэлот, ён жа Аляксандр Лёднік. Яшчэ б ён дазволіў прыўкрасную панну ў сваёй прысутнасці крыўдзіць!

— Што тут за заступнік аб'явіўся ў нашай князёўны Рэгінкі?

Бамбіза з аголенай шабляй, што суправаджаў нявесту і яе апякунку, пагрозна навіс над недавучаным студыёзусам.

Спатрэбілася ўся дыпламатыя Давыда і напорыстасць Вырвіча, каб разысціся мірна. Праўда, і сам бамбіза з выхавацелькай спяшаліся: за дзвярыма яшчэ чулася бойка.

А вось нявеста нікуды не спяшалася. Цяпер, прыгледзеўшыся, можна было прыкмеціць і след ад слязы на пудры, і занадта моцна сціснутыя пальчыкі, абцягнутыя шоўкам, а той агонь, што ўспыхваў у блакітных вачах... Ого, як Пранціш Вырвіч калісьці запаліўся ад такога агню! Рэгіна Агалінская-Багінская ўспадчынніла ад сваёй маці характар амазонкі.

— Перадайце тату, пану Гервасію Агалінскаму, каб мяне забраў!

Дзяўчо прашаптала гэта так ціха і хутка, што акрамя Пранціша і Алеся, ніхто не пачуў.

Нявеста і яе світа сышлі. Былы суддзя менскі цвёрда сціснуў плячо напружанага юнака, што глядзеў услед князёўне:

— Ахалонь. Не яна сядзіць пяць дзён у студні.

Алесь вінавата панурыўся... Вырвіч мякка дадаў:

— Усіх адразу не выратуеш... Абяцаю, калі выцягнем твайго бацьку, не забудзем пра гэтую паненку. Штосьці тут нячыста. Дый сваячка яна мне, па жонцы маёй...

А кат... А кат шчыра смяяўся. Мухі кружылі над ягонай лысай галавой, але не наважваліся садзіцца.

...Калісьці ў Ашмянах, на левым беразе ракі Ашмянкі, быў сапраўдны замак, які яшчэ Гэдымін будаваў. Але хто толькі яго не бурыў! Крыжакі, татары, шведы, маскоўцы, свае ж ліцвіны... Цяпер на ягоных руінах стаяў так званы двор старосты. Плот быў высокі, дубовы, жалезам умацаваны. На левым баку двара — «палац», дом на два паверхі. Побач — будынак для судовых паседжанняў, з драўлянымі калонамі на ганку. З другога боку — месца для соймікаў, падобнае да тэатральнай залы пад навесам: лавы ў тры шэрагі, даўжэзны стол... Цэлы горад. Флігелі, адрына, піўніца, бровар, валоўня, саладоўня, пякарня, паграбы... І турма. Каменная. Унізе выпіналіся цёмныя валуны забудовы часоў Гэдыміна.

Расейцы з'ехалі, звезлі малога заручонага Штакеля. Таму тыя, што праглі высакароднай рыцарскай забавы, чапляліся адно да аднаго. Але пакуль што Святы Юры асцярог ад крывавай сечы. Дый варты, што адразу кідалася да разгарачаных гасцей, было поўна. Вырвіч ніжэй апусціў капюшон сукма-

на — вядома, да гіцаля, пагарджанага катава памочніка, з прапановай шляхецкага двубою ніхто не прычэпіцца, але могуць штурхануць, абразіць. Як тады сцярпець? Малодшы Лёднік вунь як сцяўся, унурыўся, старанна абыходзячы высакародных паноў: яму перапала похвамі шаблі паміж лапатак.

Кляты Ігнарус, які нацягнуў на галаву лямцавы каўпак, сярдзіта прыкрыкнуў на венгерцаў, што ахоўвалі цяжкія дубовыя дзверы, і тыя выпрасталіся, насцярожыліся…

Вязняў было не так шмат, як у сутарэннях Слуцкага замка пры Геранiме Радзівіле, аркестр з іх выцця, што той акрутны князь любіў, не складзеш... Але за кратамі на саломе варушылася некалькі постацяў. Кабета з распушчанымі сівымі валасамі захінался рукой ад святла і разявала бязгучна чорны прагал роту... Зарослы валасамі мужык у цёмнай кашулі, падобна, цыган, глядзеў, праз краты, як чорным агнём паліў... Маўчанне. Не прасіліся, не стагналі, не клялі... Ад гэтага гасцям яшчэ больш не па сабе. Адзін толькі раз пачуўся працяглы стогн, чалавек быццам захлынаўся...

— Сціхнуць, лайдак! Ведаеш, што будзе!

Ігнарус выскаліўся ў бок нябачнага ў цемры вязня. Стогн абарваўся.

А вось і студня... Круглы каменны круг, як жорны волата Мянеска, ды яшчэ накрыты плітой... У накрыўцы — невялікая адтуліна, куды запаўзала вяроўка.

— Стаяць... — злосна прасіпеў кат спадарожнікам, якія ірвануліся да калодзежа. — Усё будзе, як я скажу. Вось праз гэтую дзірку перамовіцеся, і досыць.

Ціха, як жа злавесна ціха… Алесь, здаецца, так і загарлаў бы: «Тата!»

Ігнарус няспешна падышоў да каменнага кола, узяўся за вяроўку... Але адразу адскочыў: па калідоры нехта шыбаваў. Цені ў жаху ляцелі перад ліхтаром.

Двое прыхадняў у зялёна-сініх мундзірах і трохкутовых капелюшах маглі падацца калі не нашчадкамі дзівачнага млынара Мянеска, які малоў камяні, дык спажыўцамі хлеба, выпечанага з тае мукі. Грубыя твары са слядамі пацалункаў ляза, шырокія плечы пад плашчамі з дыхтоўнага сукна, а з-пад плашчоў выпіраюць шабелькі... Не шляхта, але й не прыслуга. Асабістая гвардыя князя. Той, што ніжэй, загаварыў хрыпла і ўладна, хаця з прымешкам насцярогі, як да прыкормленага, але ж драпежніка:

— Вітаю, Ігнарус! Як той Лёднік, жывы яшчэ?

Ашмянскі кат у паклоне не схіліўся, хаця адказаў пачціва:

— Раніцай дакладна быў жывы, пан дзясяцкі. Маліўся ды маліўся... А зараз ціха нешта.

Гвардзеец расчаравана крэкнуў.

— Вось недарэчнасць будзе... Давайце, даставайце яго, можа, яшчэ дыхае.

— А што здарылася, шаноўны Самуль? Загадана дапытаць?

Пан Ігнарус няспешна абышоў студню, выцягваючы з адтуліны ў накрыўцы вяроўку, на канцы якой аказаўся невялікі, якраз па памеры адтуліны, драцяны кошык з размоклым хлебам.

— Тут такая справа... — дзясяцкі панізіў голас, нібыта ў ашмянскім пекле было каму падслухаць. — Панну, што ў лядоўні, трэба да пахавання рыхтаваць. Заўтра ў кляштар марыянак павязуць, адпяюць ды пахаваюць. Лекар ягамосці Алёйза не пры памяці... Нажлукціўся. А тут толькі даверная персона патрэбная.

Спадарожнік дзясяцкага, ад якога распаўсюджваўся рэзкі пах часнака ў спалучэнні з перагарам, насмешна хмыкнуў:

— Та-ак, да цела панны абы-каго не дапусціш... Пабачаць, чаго не трэба. А ягамосць князь Міхал жадае, каб дачка ягоная ў труне прыгожанькая ляжала, цнатлівая... Худзенькая. Каб мнішкі плакалі ад замілавання, ды плёткі спыніліся. А паколькі гэты ж доктар і зрабіў ёй бруха...

Пранціш заўважыў, як Алеся скаланула.

Дзясяцкі Самуль цыкнуў скрозь прарэджаныя ў бойках зубы:

— Заторкніся, Гаўрук. Сам вось не пляткар, а то загоняць словы разам з зубамі ў глотку. Хто каго абрухаціў, не нашая справа. Наша справа — выканаць загад князя: хай забойца, раз ужо ён доктар, і падрыхтуе цела да пахавання. Яму людзей патрашыць, як рэпу сеяць. Галоўнае, каб не здохлым выявіўся...

Каменную накрыўку хуценька адсунулі ў некалькі рук. Пранціш ледзь пазногці не зламаў — штурхаў, не адчуваючы болю... Смурод цвілай вады яшчэ больш нагадаў пра смерць. Кат перагнуўся, пасвяціў уніз ліхтаром. Чырванаваты агеньчык трымцеў, як душа грэшніка. Толькі водбліскі танцавалі на сценах ды дзесь унізе на чорнай, як смала, вадзе...

— Гэй, ты... Доктар... Чуеш?

Маўчанне...

— Зараз вяроўку спусцім, чапляйся!

Здаецца, штось унізе ціха-ціха плесканула? Ці падалося?

Апушчаная ўніз вяроўка з раменнай пятлёй на канцы бяссіла павісла. Калі Пранціш гатовы быў даць нырца, сапраўды пачуўся ціхі плёскат. Вяроўка слаба зварухнулася, яшчэ, яшчэ... Кат кіўнуў фальшывым гіцалям:

— Ну, цягніце!...

А тыя ўжо і без загаду спрабавалі вырваць з бездані жыццё.

Доктар бяссіла ляжаў у лужыне на камянях тварам уніз, як злоўлены вадзянік, і яго дробна трэсла. Валасы — зблытанымі чорнымі водарасцямі, шчокі запалі...

— У яго пераахаладжанне, вашамосці! — адрывіста прамовіў Вырвіч, спрабуючы павярнуць Бутрыма на бок ды спаіць умацавальную настойку жывакораня. Зубы доктара не расціскаліся, адбіваючы джыгу. — І выснажэнне. Яго трэба сагрэць... Накарміць... Даць выспацца.

— Можа, яшчэ марцыпанаў мярзотніку паднесці? — раўнуў дзясяцкі.

Гэх, зараз бы ўсіх пасячы, Бутрыма на плячо — і лататы... Аляксандр вунь тое самае мысліць, па баках гнеўна зыркае... Каб толькі шаблі пры сабе, ды пан Ігнарус з намёкам не ўзважваў у руцэ зараджаны пісталет. Ды каб Бутрым мог хоць як перасоўвацца... Між тым кат задумліва тыцнуў у вязня нагой.

— Праўду кажа мой памочнік, шанове... Толку з доктара зараз ніякага. Самлее ды выпруціцца, калі не палячыць.

Дзясяцкі расчаравана хэкнуў. Са знаўцам межаў чалавечае трываласці спрачацца не наважыўся.

— Ну, добра хоць, жывы... Даложым ягамосці князю — злачынца раніцай справу зробіць.

У цемры нехта завыў — амаль па-ваўчынаму. Можа, той цыган?

Дыханне доктара Лёдніка, частае і слабае, нагадвала павуцінку, што трымціць на ветры і, здаецца, вось-вось абарвецца.

Пан Ігнарус, не выпускаючы з правай рукі пісталет, прысеў на кукішкі і левай рукой спрактыкавана памацаў вязню шыю, пацягнуў за валасы, каб зазірнуць у збялелы твар з заплюшчанымі, запалымі ад выснажэння вачыма. Нос Лёдніка яшчэ больш, чым звычайна, нагадваў пра ўлюбёных птахаў змрочнага скандынаўскага бога Одына — той цягаў крумкачоў на абодвух плячах. Дзюбаты Хугін увасабляў думку, такі ж дзюбаты Мугін — памяць...

Дзюбаносы доктар Лёднік на гэты момант увасабляў сваё ўменне ўвязвацца ў непрыемнасці.

Кат выпрастаўся, выціраючы мокрыя пальцы аб каптан.

— Да вечара гамон быў бы, — з такім задавальненнем пра добры ўмалот гавораць. — Трэба ж, такі fatalitas — пашанцавала вашаму доктару, панове. Нясіце тапельца ў маю майстэрню, там ложак ёсць. Я не такіх з іншасвету вяртаў.

Пан Ігнарус высока падняў ліхтар, і пякельныя цені сутарэнняў зруйнаванага ліцвінскага замка пачціва расступіліся і схіліліся перад сваім уладаром.

— Я, панове, Харон па-ашмянску, — кат у мігатлівым прыцемку, з чалавекам, што бяссіла тросся на каменнай падлозе пад яго нагамі, і праўда здаваўся пракаветным божышчам смерці. — Я з усім майстэрствам сваім даводжу чалавека да другога берага быцця, але магу вярнуць яго назад, нават калі ягоныя вочы ўжо назіраюць пагойдванне райскіх пальмаў альбо алейныя бурбалкі на пякельнай пательні. Я буду даводзіць вязня — і вяртаць назад столькі, колькі спатрэбіцца маім гаспадарам. Пакуль сэрца ягонае не зробіцца мяккім, як воск. Вярну і доктара Лёдніка. Толькі з майго чоўна яму не сысці, панове.

Алесь і Пранціш неслі Бутрыма на плашчы, за імі заставалася дарожка з кропель, быццам пазначаўся непазбежны зваротны шлях.

А зверху ўсё яшчэ раўло, дыхала перагарам і дурной зухаватасцю мястэчка, святкуючы зламанне лёсу двух дзяцей:

— За здароўе жаніха і нявесты! Віват!

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## Спадчына біблейскага цара, пустэльнік і цялок

У страшным блюзнерскім трактаце «Picatrix» гаворыцца, што для таго, каб усе сустрэчныя любілі цябе і выконвалі, што просіш, трэба насіць з сабою вочы чалавека, загорнутыя ў скуру змяі.

Па праўдзе, дык неяк не хочацца любіць чалавека, які носіць з сабой такую «рэліквію». Хутчэй — абысці тыпуса за літоўскую вярсту.

Пан Міхал Брастоўскі вырашыў проста: да лесуна любоў, слухаюцца тых, каго баяцца. Яснавяльможны, захутаўшыся ў аксамітны плашч з тонкай срэбнай вышыўкай, змрочна сядзеў у куце і пазіраў на падабенства накрытага радном ложа пасярод пакоя.

Пад радном угадваліся нерухомыя абрысы цела.

— Давай, мярзотнік, пачынай!

Да накрытага цела двое ахоўнікаў падштурхнулі высокую худую постаць.

Чалавек у простым чорным камзоле нервова адкінуў рукой цёмныя пасмы — здавалася, што ён не вельмі ўпэўнена трымаецца на нагах.

— Відовішча будзе не вельмі... эстэтычнае, ваша княская мосць. Можа, вам лепей не прысутнічаць?

Глыбокі нізкі голас гучаў цвёрда, але хрыплавата.

— Пра мае пачуцці заперажываў, гнюс? — князь цадзіў словы скрозь зубы, прыгожы нервовы твар крывіўся ад нянавісці. — Я не такія маніпуляцыі і з мёртвымі, і з жывымі бачыў, а часам і сам учыняў. Калі цябе, доктар, будуць на кавалачкі рэзаць, ні імгнення не прапушчу.

Чалавек у чорным не праявіў боязі:

— І зноў паўтару, вашамосць: я не забіваў вашу дачку... І не падзяляў з ёй ложа! Дзецьмі сваймі клянуся!

У цьмяным святле свечак рысы таго, каго абвінавачвалі ў забойстве, здаваліся злавеснымі — худое аблічча, драпежны нос, ганарыстыя тонкія вусны...

— А гэта што?

У рукі доктара паляцела нешта маленькае — пярсцёнак, танны, срэбны...

— Пазнаеш? На ім надпіс: «Ад Лёдніка — mea pulchra domina». «Маёй прыўкраснай даме». У Праксэды з пальца знялі. Золата давялося адсыпаць, каб на судзе не паказвалі.

— Вашамосць, гэта падробка… Пярсцёнак памятаю, з лета мая асістэнтка яго насіла. Але я ёй яго не дарыў, надпісу такога не замаўляў. Я не…

— Заторкніся і рабі, што трэба, лайно! Мне дастаткова, што ты трымаў яе ў сваім доме, з-за цябе ганьбы не выхлебтаць, важныя гешэфты зрываюцца...

Панскі крык суправаджаўся кухталямі драбанта, шырокага, як рыдван. Пярсцёнак вярнуўся князю, той грэбліва схаваў яго глыбей у кішэнь. Чалавек з лысай галавой, на якую ўспаўзаў агідны лішай, адным рухам сцягнуў тканіну з цела. Хударлявы юнак у вопратцы гіцаля паспешліва адвярнуўся.

Доктар схіліўся над целам, ад якога сыходзіў амаль невыносны салодкагнілы пах.

— Паднясіце ліхтар бліжэй!

Гіцаль паслухмяна наблізіўся з ліхтаром, у якім нібыта ў нервовым прыпадку біўся, выгінаўся агеньчык. Здавалася, нават стыхійны дух не мог вытрымаць відовішча — у нябожчыцы, апранутай у сціплую брунатную сукенку, замест аблічча цямнеў кавалак мяса. Цела разам з адзежай вымачанае ў ліпкай субстанцыі, якая агідна паблісквала.

Алесь перарывіста ўздыхнуў: ён выдатна памятаў гэтую сукенку... Праўда, цяпер яна была цеснаватай, шчыльна абцягваючы пакруглелы жывот мярцвячкі.

Чорны Доктар скінуў камзол і акуратна закасаў рукавы кашулі. Дзякуй богу, хоць яго рукі больш не дрыжаць... Ашмянскі кат пан Ігнарус сапраўды быў выдатным знаўцам магчымасцяў чалавечага цела. Ягоныя метады лячэння нават у прыдзірлівага Лёдніка, калі ачуняў і змог гаварыць, не выклікалі асаблівых заўваг... Затое тое-сёе прафесійна зацікавіла. З катам гарачы кансіліум учынілі на фоне дыбы і ланцугоў, той аж запаважаў вязня. Нат на парозе пекла Чорны Доктар чапляўся за новыя веды. Вось і цяпер — адсунуў на край свядомасці думкі пра тое, каму належыць цела, дзе ўсё адбываецца, чым яму пагражае. Працуе, як старанны рамеснік. Мацае, паварочвае... Алесь стаяў, адвярнуўшыся, толькі намагаўся, каб ліхтар трымаць роўна. Хоць у анатамічны тэатр Ліёнскай медычнай школы, дзе выкладаў бацька, упершыню патрапіў год у дзесяць — сам прабраўся. Дый у лабараторыі бацькавай часцяком назіраў за патрашэннем трупаў дзеля навуковых даследаванняў... Дрыжаць руку, што трымала ліхтар, змушаў не страх, а туга.

Князь, падобна, не ілгаў, калі казаў, што вывернутымі вантробамі яго не збянтэжыш. А гэта ж ягоная дачка зараз апынецца пад скальпелем, між іншым... Брастоўскі гора не выяўляў, наадварот: углядаўся ў твар Лёдніка так зласліва, што можна было зразумець — гэта вытанчанае пакаранне. Здзек з забойцы, ад якога была цяжарнай нябожчыца, і якому належала дастаць сваё ж ненароджанае дзіця...

Раптам Лёднік рэзка выпрастаўся, так і не ўзяўшыся за скальпель.

— Гэта не панна Праксэда!

— Што ты вярзеш?

Падскарбій ірвануўся да трупа.

— Глядзіце, вашамосць!

Лёднік узяў ліхтар у фальшывага гіцаля.

— Вы не верыце мне, калі я клянуся, што панна Праксэда не была… actu praegnane (*у стане цяжарнасці*). Але вось іншыя прыкметы. Форма пальцаў сведчыць, што гэтая жанчына шмат прала ўсё жыццё. Вось глыбокія сляды ад ніткі... Гэтая жанчына старэйшая за Праксэду. Ёсць мноства дробных адрозненняў, магу пасля пералічыць... А галоўнае… Пан Брастоўскі памятае, якога росту была ягоная дачка?

Падскарбій нахмурыўся.

— Адметнага. Не ніжэй за мяне.

Лёднік упэўнена асвятліў ступакі трупа.

— Звярніце ўвагу, што сукенка гэтай жанчыне задоўгая. Вопратка і праўда належала панне Праксэдзе... Але тут падол зямлю падмятаў бы. А паспрабуйце хто-небудзь зняць з нябожчыцы чаравікі...

Ігнарус па кіўку Брастоўскага ўзяўся за чаравік, просты, на нізкім абцасе... Ледзь нагу не адарваў — бо чаравік калісьці з вялізнымі намаганнямі ўсцягнулі на занадта вялікі ступак.

Алесь ледзь утрымаўся на нагах ад узрушэння... Не яна! Далібог, не яна! Як ён сам адразу не пазнаў?

Брастоўскі раптам схіліўся над трупам, рэзка рассунуў тое, што засталося ад вуснаў нябожчыцы, зірнуў на аголеныя зубы, і, відаць, атрымаў пацвярджанне сваім здагадкам. Ну так, у Праксэды, у рэдкія імгненні, калі яна ўсміхалася, можна было заўважыць мілую няроўнасць верхніх зубак...

Пан Міхал разлютавана сцягнуў і кінуў пад ногі запэцканую пальчатку.

— Сучыя дзеці! Падабралі ж, каб валасы падобныя, аблічча спецыяльна знявечылі... Медальён падкінулі… Ну, даведаюся, хто за гэтым стаіць, размажу, бы камяк гразі.

Падскарбій, грэбліва падціснуўшы вусны, хуткім крокам пакінуў скляпенне, нат не азірнуўся.

— Што ж, доктар, пойдзем у святліцу... Пакуль ягамосць твой лёс не вырашыць, — выскаліўся Ігнарус. І дадаў са злосцю: — І собіла ж мне звязацца з вамі!

Для майстра навук медычных вылучылі адну з пустых камер, дзе пасушэй, павышэй. Мелася нават акно — пад самай столлю, густа закратаванае. Але ўсё-ткі — гэта святло, свежае паветра і смех людзей, якія і не задумваліся, што вось за гэтым мурам хтосьці зараз курчыцца ад болю і безнадзейнасці...

Камера аддзялялася ад калідора тоўстымі кратамі. Лёднік сядзеў па той бок, ссунуўшы шэрую салому ў невялікі стажок. Для надзейнасці пан Ігнарус са здзеклівымі прабачэннямі замкнуў на назе доктара бранзалет доўгага ланцуга, прымацаванага да сцяны. Па другі бок кратаў радком уселіся на пазычаную ў мясцовага Харона лаўку Давыд, Пранціш і Алесь.

Напачатку размова не вельмі клеілася — баяліся, падслухоўваюць. Калі пачалі гадаць, дзе ж панна Праксэда, доктар панурыўся.

— Апошні раз яе бачыў не ў вельмі добрых абставінах. Мы... пасварыліся.

Алесь гнеўна зыркнуў на бацьку. Бутрым уздыхнуў.

— Я прапанаваў ён паехаць у Вільню, загадваць у шпіталі новым аддзяленнем для жанчын... Там былі б ёй добрыя грошы — з фундацыі яемосці, яснавяльможнай пані Пузыні. У перспектыве — сувязь з універсітэтам, з медычнай кафедрай... Праксэдзе лепей было з’ехаць… Саламея так лічыла.

У апошніх словах пачуўся водгук недагаворанага.

— А яна ўпёрлася... — Лёднік раздражнёна пакрывіўся. — Як ні ўгаворваў. Пачала некуды знікаць... Казала — наведвае радню. Хоць да гэтага сцвярджала, што не мае да каго ісці... Баюся, я... быў трохі рэзкі з ёй. Калі выправіўся да цябе, Вырвіч, ужо тыдзень як сляды яе выстылі, ніхто не ведаў, дзе падзелася.

Вырвіч хмыкнуў:

— Памятаю, як быў тваім студэнтам, і што значыць «трохі рэзкі» прафесар Лёднік. Накрычаў на дзеўку, і яна ўцякла?

Лёднік прыняў самы фанабэрысты выгляд, значыць, адчуваў сябе вінаватым. От чалавек, вечна ў яго пячонка пячэцца…

Далейшыя развažанні перарваў шум-крык за акном. Адзін сярдзіты голас належаў князю Брастоўскаму. Лёднік прыслухаўся, устаў і раптам учыніў несамавіта для прафесара, доктара і бацькі сямейства: пагрукваючы ланцугом, разбегся, адштурхнуўся нагамі ад сцяны, ухапіўся за краты, падцягнуўся, вызіраючы вонкі. Усё-ткі ні ўзрост, ні занятасць не адвярнулі полацкага Фаўста ад гімнастычных ды фехтавальных практыкаванняў, трохі зайздросліва зазначыў Пранціш, мімаволі пагладжваючы сябе па жываце: ці не пачаў ужо звісаць над пасам, як у цесця?

— Ну, што там?

— Князь Міхал Брастоўскі з братам Адамам лаецца. Быццам сам з сабою. Блізнюкі...

Чорны Доктар вісеў на кратах, як вялізны кажан. У калідор турмы далятаі асобныя фразы на польскай мове:

...Вашамосць учыніў ганебна... Загадайце адвесці войскі... Вашага Цялка ніколі не прызнаюць роўным... Вашамосць заўсёды зайздросціў, што я старэйшы... Вы на паўгадзіны ўсяго старэйшы, васпан… Ваш Пане Каханку — невук і ілгун… Затое я не выхоўваўся ў немцаў, забыўшыся на нашыя звычаі... Панятоўскаму ніколі не здабыць... Самага знаўцу забілі…

Крыкі аддаліліся і змоўклі. Шум засведчыў, што з аршанскага замка выехала карэта.

Лёднік саскочыў на падлогу, але не паспеў распавесці, што ўдалося расчуць — дзверы ў сутарэнні грукнулі так, нібыта іх выбілі таранам. Замест акаванага жалезам бервяна ў калідор заляцеў пан Міхал Брастоўскі. Ігнарус імчаў за ім з перакрыўленай фізіяноміяй.

— Дзе той латруга доктар? — гарлаў Брастоўскі, як бараначніца на Слуцкім рынку.

Падскарбій слізнуў вокам па кумпанах Лёдніка, што замёрлі, як саляныя слупы, насупіўся, зачапіўшыся вокам за свайго аптэкара, а пабачыўшы Вырвіча, выскаліўся:

— І пан суддзя тут, як навязаны! Яшчэ лепей! Зараз і зладзім судовае паседжанне, каб вам зямля калом!

Суд, дакладней, таемны сход, зладзілі ў катавальні — пан Міхал звыкла ўсеўся ў выгоднае крэсла з высокай разной спінкай у выглядзе пальмавых галінак (а Вырвіч быў гадаў, чаго гэта ў катавальні такая раскоша?) З крэсла зручны агляд складаных прыстасаванняў, што мусілі спрыяць шчырасці вязня.

Доктар стаяў перад падскарбіем, пачціва нахіліўшы галаву, быццам пакліканы на чарговую кансультацыю. Над яго галавой у чаканні застылі ланцугі, гатовыя схапіць за рукі жалезнымі абдоймамі бранзалетаў. За спінай пачціва чакалі панскага слова Пранціш, Лёднік-малодшы і Давыд Ляйбовіч, пачу-

ваючыся прыблізна як печкуры ў дзіравым вядры, з якога вось-вось выцячэ апошняя магчымасць жыць.

— Хто яшчэ ведае, што нябожчыца — не мая дачка?

Брастоўскі раздражнёна зняў капялюш і паклаў на столік, побач з жалезнымі абцугамі і малітоўнікам. Панскі давераны слуга, падобны да спалоханага белага пацука, схіліўся ў нізкім паклоне.

— Больш ніхто, вашамосць.

— Значыць, так... — Брастоўскі кусаў вусны, раздумваючы. — Пра гэта пакуль больш ніхто не мусіць ведаць! Пахаванне адкладу, маю права. Вунь Марцін Радзівіл свайго бацьку год непахаваным трымаў. Ты, доктар, маеш шанец выратаваць сваё вартае жалю жыццё. Гэта ж цябе мой швагер, цяперашні гетман, пасылаў па нейкую таемную зброю ў Ангельшчыну?

— Гэта не было надта ўдалае падарожжа, ваша княская мосць, — суха зазначыў доктар.

— Значыць, пастарайся, каб наступнае было ўдалым, — парык Брастоўскага здаваўся абсыпаным не пудрай, а атрутай. — Калі справішся — атрымаеш апраўданне і ўзнагароду ад караля. Не — навечна застанешся забойцам, і сям'я твая будзе зганьбаваная, а маёмасць сканфіскаваная. Праксэдаў пярсцёначак з надпісам ад закаханага Лёдніка я табе ўсё адно не забуду, доктар, што б ты ні казаў пра падробку…

Пранціш з непаразуменнем зірнууў на Бутрыма, а Алесь, кусаючы вусны, апусціў гававу.

— Табе спатрэбіцца некалькі чалавек, — пагардліва працягваў ашмянскі ўладар. — Больш не варта, увагу прыцягваць... Каб умелі біцца і мовы ведалі. Ты, суддзя, паедзеш?

Пранціш зрабіў крок наперад і ўрачыста пакланіўся.

— Я таксама паеду, вашамосць! — Алесь намагаўся не зважаць на сярдзіты позірк бацькі. — Я — Аляксандр Лёднік, і бацьку не пакіну.

Брастоўскі перавёў позірк з дзёрзкага аблічча сына на раззлаванае бацькава:

— То ж я гляджу, дзюбы ў вас падобныя.

— Ён яшчэ занадта юны, ваша княская мосць! — полацкі Фаўст намагаўся гаварыць спакойна, але рукі сціснуліся.

— Прапануеш сына не ў саўдзельнікі, а ў закладнікі? Я не супраць…

Сыгнеты на спешчаных пальцах Брастоўскага ззялі, быццам кроплі рознакаляровай крыві казачных істотаў. Блакітная — адзінарог, жоўтая — іхнеўмон, ружовая — галадрыель... Магнат, ён каго хоча са свету зжыве. Лёднік выціснуў як мага пакорлівей:

— Мне ўсё-ткі зручней, каб сын быў пры мне.

— Калі будзе дазволена на нейкі час пакінуць яснавяльможнае сямейства без маіх лекарскіх паслуг, і я б далучыўся! — белазуба ўсміхнуўся Давыд. Вырвіч даўно ўпэўніўся, што нібыта ціхмяны ды ўнураны ў навуку фармацэўт — вялікі аматар авантур.

— Значыць, так, справа далікатная, — Брастоўскі нервова змінаў бялюткія карункі манжэта. — І без мяне ведаеце, што ў яго каралеўскай мосці шмат ворагаў. Плявузгаюць, быццам яны радавіцей за яго. Асабліва гэтыя, князі Рымскай імперыі, Радзівілы...

Князь Міхал скрывіўся, быццам толькі што выцягнуў замест туза жалудовую шасцёрку.

— Спадзяюся, не трэба вас пераконваць, што Панятоўскія вядуць род ад італьянскіх князёў Тарэлі, уладароў Ферары.

Падскабій пільна ўглядаўся ў аблічны мізэрных істотаў, што стаялі перад ім. Прысутныя разумна прамаўчалі. Паходжанне Цялка было сумніўным, як манеты барацінкі, наштампаваныя ўвішным фінансістам Бараціні, каб кароль расплаціўся за вайну.

— Яго каралеўская мосць мае вялікую патрэбу пераканаўча пацвердзіць сваё высокае паходжанне. Каб ніводзін Радзівіл ці Чартарыйскі не брахаў, што вышэй. Знайшоўся след адпаведнай рэліквіі. Вось вы яе і прывезяце. З Італіі.

Пранціш перазірнуўся з Лёднікам. Хіба ў караля няма іншых магчымасцяў, як задзейнічаць ледзь не пакаранага злачынцу і выпадковых наймітаў?

— Пан Антоні Тызенгаўз ужо са згоды яго каралеўскай вялікасці паслаў людзей па той прадмет, — неахвотна ўдакладніў Брастоўскі. — Каб не гісторыя з забойствам — і цябе б, доктар, далучылі. Але мне трэба адправіць сваю каманду.

Ясна, пан хоча сам здабыць каралю кляйнод. Тады дакладна з усімі даўгамі расплаціцца — Панятоўскі на ўзнагароды шчодры…

Пацук-канфідэнт па знаку князя не паленаваўся да дзвярэй збегаць — ці не падслухае хто шчырасці гаспадара.

— Дык вось, рымскі папа Іяан Дзевятнаццаты менавіта продку яго каралеўскае мосці, пустэльніку Тарэла, адпісаў адметную рэліквію.

— Вы кажаце пра папу Іяана па мянушцы Педра Іспанец? — зацікаўлена ўскінуўся Лёднік. — Пра якога Дантэ ў «Боскай камедыі» пісаў, што яго мудрасць праменіцца скрозь дванаццаць кніг?

Брастоўскі хмыкнуў:

— Пра Дантэ твайго мудронага ведаю, але не чытаў. Але чуеш сваю пароду... Ну так, твой калега Педра Жуліян, лекар ды алхімік, ён жа Іяан.

А Брастоўскі не быў невукам.

— Педра ляснуўся разам са сваёй вядзьмарскай лабараторыяй. Кажуць, яе дах абрушыўся, бо папа вывучаў дзеянне магутнай святой рэчы, прывезенай крыжаносцамі. Занадта цікаўны быў. Вось Гасподзь яго і пакараў, — у голасе падскарбія багавейлівасці было не больш, чым у посных галёпах тлушчу. — Караль Радзівіл зараз ашываецца ў Італіі, інтрыгуе ды вычэквае. А ў ягонай свіце блытаецца адзін увішны вучоны жмудзін. Ён і натрапіў на трактат вучня Педра Іспанца, дзе згадваецца, што калі папу-алхіміка дасталі з-пад руінаў, той паспеў загадаць давераным людзям адвезці згубную рэліквію пустэльніку Тарэла. Каб збярог для вялікага вайскаводцы, якому наканавана выратаваць свой народ ад варожай навалы.

— Ваша княская мосць, пяцьсот гадоў прамінула! — не вытрымаў Лёднік. — Калі за гэты час ніхто рэліквію не знайшоў...

— А яе ніхто і не шукаў! — пачаў злавацца Брастоўскі. — Усе дасюль упэўненыя — загінула штуковіна падчас выбуху ў лабараторыі. Калі трактат быў напісаны, папа Іяан праменіў сваю мудрасць праз дванаццаць кніг за райскай брамай, а на суседняй аблачынцы гэтак жа праменіўся святы Тарэла. Аўтар, жамяра кніжная, нікому не быў цікавы. Рукапіс пыліўся ў бібліятэчных сховішчах. Ды каб пра датычнасць Тарэла да рэліквіі ведалі — яго пячору па каменьчыках бы разабралі. Хто б адмовіўся аднойчы абрынуць сцены на ворагаў?

— Абрынуць сцены? — зачапіўся за словы князя дзёрзкі Лёднік. — Маем справу з пракаветнай зброяй, якая можа абрыньваць сцены? Зруйнаваць лабараторыю? Прывезеная з Палясціны... Няўжо...

Князь пакрывіў ганарысты рот.

— Я, здаецца, не памыліўся, захаваўшы табе жыццё. Кемны.

— Няўжо шафар? Трубы Іерыхонскія... — уражана выдыхнуў і Давыд Ляйбовіч. — Не можа быць!

— А чаму не? — хмыкнуў Лёднік. — Чаго толькі не прыпёрлі тыя тампліеры з краёў пустэльных… Каб маглі, неба палясцінскае на дзіды б навязалі ды ў Еўропу прыцягнулі. Шафар — звычайны прадмет культа ў габрэяў. Ну, знайшоў нейкі рыцар старую трубу з рога, яму сказалі, менавіта тая, ад якой разваліліся сцены Іерыхона…

Князю Міхалу быў абыякавы скепсіс доктара.

— Тая, не тая… Мае вучоныя за мантыі адзін аднаго цягалі, высвятляючы. Што яны там кажуць, пан Машанскі?

Канфідэнт прыгладзіў рэдкія светлыя вусы.

— Пан Даміян Гужэлка лічыць, што гэта рог Ісуса Навіна, брат Вацлаў — баявы рог святога Георгія, які камандаваў целаахоўнікамі імператара Дыяклецыяна… А айцец Петрас — што гэта быў адзін і той жа прадмет, бо засведчана, што Святы Георгій зруйнаваў у імгненне ўсе стоды ў паганскім храме Апалона, як Ісус Навін — сцены Іерыхона.

— Надта розныя версіі, вашамосць, — прамовіў Лёднік, ажывіўшыся ад «навуковага прэцэдэнту». — Габрэйскі шафар і баявая труба рымскага воіна… Яны ж з розных матэрыялаў, інакшага выгляду!

Брастоўскі нецярпліва тузануў плячом.

— Галоўнае, каб спадчына святога Тарэла апынулася ў руках караля, як пацверджанне, што наш уладар — роду самага старажытнага, і абраны Госпадам быць выратаваўцам свайго народа.

Пранціш хмыкнуў сам сабе, уявіўшы спешчаную гладкую фізіяномію Цялка ў ролі біблейскага вайскаводцы. Але і Пане Каханку з амбіцыямі праблем не мае…

— Радзівіл, як яму даклалі пра знаходку, адразу ж узбурыўся ды паслаў людзей на пошукі, — пацвердзіў высновы Пранціша Брастоўскі. — Не ведаю, як яны з вернікамі дамовяцца, але пячору святога ды ягоную ўсыпальніцу, мусіць, як жвір, прасейваюць зараз. А ў свіце князя ў нас свае людзі. Зрэшты, гэта сімвалічна: на гербе Панятоўскіх — рагатая істота, і тут — рог…

Задумлівыя разважанні падскарбія перабіў Давыд Ляйбовіч:

— Шафары забаронена рабіць з бычыных рагоў, вашамосць! Каб не было сувязі з залатым цяльцом, стодам, якому маліліся паганцы. Толькі з баранніх рагаў, альбо з рагаў антылопаў… І карыстацца імі можа толькі веруючы габрэй!

Падскарбій нецярпліва махнуў, паказваючы, што на такія тонкасці яму пляваць.

— Ды хоць з цмокава рога ён будзе. Пакуль у Італію давезлі, хто ведае, хто ў тую трубу дзьмухаў. Крыжак, як там яго, які Ерусалім узяў…

— Готфрыд Бульёнскі, вашамосць! — паспешліва нагадаў канфідэнт. — Яго з-за рога і атруцілі, адзін зайздрослівы біскуп. Брат Вацлаў думае, што рог быў знойдзены крыжаносцамі ў палясцінскім горадзе Лод, дзе пахаваны вялікамучанік Георгій…

Няўжо да кожнай святой рэчы вядзе сцежка з крыві?

— Ну а вось чаму я ўпэўнены, што ніхто пакуль рэліквію не знайшоў…

Брастоўскі шпурнуў Лёдніку скрутак. Пергамент, спісаны дробнымі літарамі. Лёднік і Ляйбовіч адразу ўторкнуліся туды насамі.

— Ліст з трактата Абдамінатуса, вучня Іаана, выдраны маім чалавекам, — задаволена патлумачыў князь. — Запавет папы, як той святы рог, баранні ён, бычыны ці ад антылопы, перахоўваць. Мае вучоныя тхары па-ўсялякаму шту-

дзіравалі. І выходзіць, месца сховішча не там, дзе ўсе думаюць, а ў Венецыі. Здабудзеш святыню, Лёднік — не толькі вернеш міласць караля, але пасаду добрую займееш пры двары. І сын твой якім падчашым стане. А калі не…

Брастоўскі ўстаў, пацягнуўся, пазяхаючы, быццам знаходзіўся сам-насам у спачывальні… А што яму прысутнасць слугаў — пры ніжэйшых істотах вялікія паны і патрэбу спраўляць не саромяцца. Калі перап’е на тлумным застоллі, Караль Радзівіл пры ўсіх дагала распранаецца і загадвае сябе вадой абліваць.

— Вашамосць, але ж трэба адшукаць вашую дачку! — вырвалася ў Алеся. Падскарбій хмыкнуў:

— А хто табе сказаў, шчанюк, што яе не шукаюць? Па маім загадзе ўсё ўжо абшукалі. Дамы вашы ў Полацку, у Гародні ды ў нейкай вёсачцы вытраслі, як кішэні.

Баўтрамей уздрыгнуў, відаць, уявіўшы, што давялося перажыць Саламеі і Сафійцы.

Князь ляпнуў дзвярыма, ажно ланцугі загайдаліся.

— Падобна, наша Фартуна перапілася на ашмянскіх заручынах — так яе з боку ў бок водзіць… — Давыд выцер спацелы лоб. — Каб ім саламіну ў вока і трэску ў вуха, і не ведалі, што раней вымаць…

Жытло княскім пасланцам саступіў Ігнарус. Пакой, адведзены для пражывання мясцовых катаў, быў зусім не страшны, відаць, ім карысталіся, як гасцявым. На лаўкі кінутыя старыя кажухі — самыя выгодныя ложкі для вояў. Пранціш у дзяцінстве на такіх жа спаў. Грубка аблямаваная жаўтлявай плінфай з выявамі вінаградных гронак. Абраз Маці Божай Вастрабрамскай упрыгожаны бялюткім рушнікам з мярэжай. Пахне цвілым хлебам і палыном, сівыя шорсткія скруткі якіх шчодра рассаваныя паўсюль ад блохаў.

— А вось дзеля чаго я вісеў кажаном на кратах… — змрочна паведаміў Бутрым, калі пасля абеду, на які адшчыкнулася ад нагатаванага для заручынаў, людзі вучоныя ўзяліся вывучаць трактат Абдамінатуса. — Князь Міхал не ўсё нам распавёў. Ягоны братка ўжо адлавіў аднаго пасланца ў Італію. І ўсіх наступных дэкляруе пераняць ды прыкончыць. Тут цэлыя сабачыя гонкі… Ад Тызенгаўза банда пасланая, ды яшчэ, аказваецца, ад Радзвілавай жонкі пані Тэрэзы. Чуў, яна з каралём раман круціць, і ці не ў каралевы меціць. Так што мы — удалы выбар. На нас ніхто не падумае. А калі што — нас і не шкада. І пра мяне пан Адам падказаў. Падскарбій пачаў здзекавацца, што брат у адрозненне ад яго адукацыі добрай не атрымаў і нічога не разумее ні ў рэліквіях, ні ў іхніх знаўцах, а пан Адам: «Лепшага знаўцу старажытных рэліквій ты ж горлам пакараў, доктара Баўтрамея Лёдніка». Не ведаў, што ў мяне такая слава, дарэчы.

Што ж рабіць, калі ты — трэсачка і трапіў у плынь? Плысці. Уверсе запаветнага аркуша было заканчэнне фразы на лаціне пра Божае блаславенне, а далей старагабрэйская. І Бутрым, і Давыд яе ведалі добра, і ўсё адно рады не далі. Прачыталі толькі «Не належыць захоўваць крыніцу голасу Божага ані ў зямлі, ані ў вадзе, ні пад каменем, ні пад жалезам, і нідзе, куды можа зайсці чалавек, але ў горадзе Святога Марка на самым высокім паветры дому ільва». Што вучоныя княскія расшыфравалі, як гаворку пра венецыянскі сабор Святога Марка, чыім сімвалам быў леў.

Далейшыя ўказанні хаваліся ў знаках, падобных да алхімічных. Бутрым не ўзрадаваўся.

— Нібыта зноў янохская мова, барані нас, святы Кіпрыян… А я спадзяваўся, з гэтым скончана…

Лёднік, які цяпер пазбягаў, як дрыгвы, усялякіх таемных ведаў, час ад часу хрысціўся, засяроджана вадзіў доўгім пальцам па намаляваным дрэве са значкамі замест лісця і хмурнеў… Каб меўся час, дык са сваёй упартасцю ды ведамі расчытаў бы. Змог жа і трактат араба Альбукасіса зразумець, і напісаную янохскай мовай карту ангельскага доктара Дзі…

Давыд запэўніў, што ведае аднаго хлапца з-пад Нясвіжа, маладзюсенькі зусім, але ўжо рабін. Калі той не прачытае — дык ніхто.

А доктар зайшоўся кашлем, які займеў, седзячы ў студні, потым ляпнуў па пергаменце даланёй:

— Які блёкат! Высільваемся… А для чаго? Каб прыцягнуць святую рэч у рукі бяздарнага ўладара, дзеля пыхі ягонай, ды галінасцейшага arborem porphirianam (*радаводнага дрэва*)?

— Каб выжыць, дзядзька Бутрым! — ціха прамовіў Давыд. — Што толку, калі зараз вашумосць згнояць у студні? Жывы чалавек усё можа змяніць з Божай дапамогай.

Ашмяны ўсё яшчэ святкавалі заручыны. Гарматаў і феерверкаў не прадугледжвалася, але час ад часу пастрэльвалі ў паветра са стрэльбаў, пісталетаў, мушкетаў, фузеяў ды што яшчэ ў мясцовай шляхты мелася.

Лёдніку лепш было на людзях не паказвацца. Да таго ж саслабеў пасля сядзення ў студні. Застуду лячыў адварамі ды дыхальнай гімнастыкай. Таму Давыд і Пранціш адны пайшлі на пляц ля ратушы, дзівіцца на прадстаўленне з музыкамі ды блазнамі. Змрочны Алесь застаўся з бацькам.

Калі Вырвіч, уцякаючы ад навязлівай увагі адной шляхецкай кампаніі — страціў смак да п'яных двубояў, вярнуўся ў старостаў дом, Бутрым сядзеў на лаўцы, захінуўшы аблічча рукамі, быццам увасабленне Меланхоліі.

— А дзе Алесь?

Доктар не варухнуўся. Вось яно што...

— Пасварыліся?

Спавядацца нядаўні чалец Адукацыйнай камісіі не надта ўмеў, але нядаўні менскі суддзя так-сяк усвядоміў трагікамедыю. Размова Лёднікаў атрымалася такой, што хоць на сцэну, хоць у дамскі раман.

…Алесь адразу выказаўся:

— Панна Праксэда цябе кахае.

Бутрым, які знясілена прылёг на лаўку, прыўзняў галаву:

— Што табе прымсцілася?…

— Я сам бачыў! — усхадзіўся малодшы Лёднік. — Выпадкова падгледзеў, як яна цябе па шчацэ гладзіла… Ты яе… таксама кахаеш?

Бутрым з цяжкасцю сеў.

— Нават з галавы выкінь! Я кахаю Саламею. А тое, што ты падгледзеў… Ты ведаеш, што белага колеру ў свеце не існуе? Ён проста ўтрымлівае ў сабе ўсе існуючыя фарбы. Пачуцці чалавечыя гэткія ж… намяшаныя. Праксэда не вінаватая… І я таго не хацеў. Гэта… як хвароба. Паталогія. Панна сама ўсведамляла. Урэшце, ну які з мяне Адоніс? — Бутрым збянтэжана запусціў руку ў чорна-сівыя лохмы. — Глупства… Я праўда доўга не заўважаў. Потым думаў, у яе пройдзе, як морак…

— А пані-маці ведала?

Алесь быў удзячны бацьку за шчырасць, але гнеў на яго цвяліў, як агеньчык у кноце.

Бутрым апусціў тужлівыя вочы, здушыў прыступ кашлю.

— Твая маці — мудры чалавек… Мудрэйшы за мяне. Яна даўно гаварыла — Праксэда павінна паспрабаваць жыць сваім жыццём, не пры нас… Можа сама працаваць акушэркай.

— А ты што?

Дзесьці за акном насмешна задудзелі дуды.

— Праксэда вельмі добрая асістэнтка. Мне… не хацелася нічога мяняць. Крыўдзіць яе. Сам бачыш — як пачула пра пераезд у Вільню, ажно з дому ўцякла…

— Ты хацеў трымаць яе пры сабе! Яна табе падабалася! Толькі сляпы мог не закахацца ў яе! Бачыў, як пераймаецца, дражніў… А сам цешыўся — вось, маладая, а па мне сохне… А можа, і штось большае між вамі было?

Голас юнака ганебна зрываўся, так, што Баўтрамей аж захлынуўся ад жахлівай здагадкі:

— Сыне… Алесю… Панна цябе за сэрца зачапіла?

— Ну давай, скажы цяпер мне, што гэта паталогія, хвароба, морак… Што пройдзе.

Лёднік устаў — напэўна, хацеў абняць, прытуліць узрушанага сына, але той выбег з пакоя, як пяты падсмажылі.

Вось і пагаварылі.

Пранціш, уявіўшы сцэну, толькі ў кудзеры свае русявыя ўчапіўся.

— Помню, вучылі мы яшчэ ў калегіюме гісторыю пра грэка Фалеса, які ішоў, назіраючы зоры, ды ўваліўся ў яміну. Як ёсць пра цябе. Мне не Праксэды шкада, а Саламеі.

Лёднік сярдзіта бліснуў цёмнымі вачыма:

— Мне што, і табе паўтарыць, што між мною і дзяўчынай нічога не было?

— Сэрца парваць можна і не дакранаючыся, — змрочна прагаварыў Пранціш, прысаджваючыся на суседнюю лаўку. — Столькі часу трымаў дзвюх жанчын, як на распаленай блясе. Адна адну шкадуюць, абедзве цябе кахаюць. І лаяцца ім нібыта падстаў няма, і спакою таксама няма.

Дзве познія восеньскія мухі ўсё яшчэ спадзяваліся знайсці сэнс жыцця ў бясконцым кружлянні між сценаў.

— А што я мусіў рабіць? — агрызнуўся Бутрым. — Я ж бедную дзяўчыну таксама шчыра шкадаваў… Як успомню, якой яна ў наш дом трапіла… Запаленне лёгкіх. Рукі — як сцябліначкі, голас, як націнка… Чаравікі з голаду прадала, босай ішла. Ды як? — Лёднік панізіў голас. — Яна вельмі прасіла, каб ніхто не даведаўся… Яна ж была ў мужчынскім касцюме. Валасы абстрыгла. Спадзявалася патрапіць ва ўніверсітэт, мо ў Кракаве, мо ў Вене… Яна ж панямецку гаворыць вольна. Па дарозе абрабавалі. Застудзілася, упала на вуліцы ў гарачцы. Добра, у наш шпіталь прынеслі. Думаю, у Праксэды ўдзячнасць да мяне неяк… вычварылася…

— Вычварылася, — перадражніў Вырвіч, скептычна акінуўшы поглядам худую постаць на лаўцы катава пакоя. Пранціш ніколі не мог зразумець, што прываблівае да дзюбаносага змрочнага сына полацкага гарбара самых прыгожых і разумных жанчын. Калісьці гэта вельмі злавала маладога шляхціца. Цяпер, праз гады, Вырвіч дапускаў, што выпускнік двух універсітэтаў Лёднік мог выклікаць захапленне, калі займаўся справай, у якой яму не было роўных. Напрыклад, фехтаваннем, хімічнымі доследамі, складанымі аперацыямі. У ягоным абліччы тады выяўлялася каралеўская ўладнасць, той унутраны агонь, якому Пранціш таксама зайздросціў… Хоць той агонь часцяком заводзіў Бутрыма далей, чым належала добраму хрысціяніну і пачціваму грамадзяніну.

— Я веру, што ты кахаеш Саламею. Але прызнайся, няўжо столькі часу побач з маладой дзяўчынай, якая да цябе хінецца — і ты зусім абыякавы? Той пярсцёначак, пра які Брастоўскі казаў — дарыў, відаць?

Бутрым пацёр лоб, прыкрашаны шнарам, атрыманым калісьці за тое, што не даў казаць абразлівыя словы пра Саламею.

— Я ўсяго толькі грэшнік, пан Вырвіч. Я не магу прысягнуць, што нават выпадкова не заўважаў прывабнасці сваёй памочніцы. Не захапляўся яе розумам. Што хоць на нейкае імгненне мне не была прыемнай яе прыхільнасць. Алесь мае права мяне дакараць. Я ніколі не пераступіў бы мяжы. Але…

Пранціш цяжка ўздыхнуў.

— Не буду я цябе дакараць. Усе мы… Грэшныя. Вось, дома ў мяне жонка цудоўная, сын малы… А я пабачыў адну дзяўчыначку — і сэрца кроіцца ўспамінам…

І распавёў пра заручыны, маленькую нявесту і яе просьбу.

— Эх, няўчасна гэта… Не зможам мы яшчэ і гэту магнацкую справу на сябе ўзваліць, — стамлёна прызнаў Бутрым. — Распытацца б, дзе зараз пан Гервасій і Паланэя, няўжо без іх згоды дачку прасваталі? Але, пагадзіся, не да паненкі нам. Шлюб гадоў праз дзесяць толькі здзейсняць, калі па Статуце, бо жаніх і нявеста etate minnorenuitale *(у стане непаўналецця)*. А да гэтага паненку будуць берагчы. Гусей пасвіць не пагоняць. Вернемся жывымі — тады…

І Вырвіч ведаў, што гэта слушна, але ніяк не мог забыцца на блакітныя вочы, што глядзелі на яго калісьці то з фанабэрыяй, то з какецтвам… Не, не яму дакараць Лёдніка…

…Ой, Божа ж ты, мой Божа, дзеўчыну люблю…
Сам я добра знаю: яе не вазьму.
Дай ты жа мне, Божа, вечара даждаць,
Пайду да дзяўчыны я ў апошні раз.

За акном надрываўся тонкі голас спевака і плакала скрыпка… І каціліся па чорнай шчацэ неба буйныя восеньскія зоры… І хтосьці радаваўся, пабачыўшы такую вогненную слязу, і думаў, што яму ж гэта — на ўдачу…

Кожная чужая сляза — камусьці на ўдачу, так ужо створаны свет.

А потым жанчына з прыўкрасным, змучаным ад гора і доўгай дарогі тварам, стаяла пасярод пакоя, калісьці адведзенага для катаў, а зараз — для ахвяраў. І вучоны доктар абдымаў яе калені… А маленькая дзяўчынка з цёмнымі і бліскучымі, як вішанькі, вачанятамі на мілым тварыку гладзіла яго па галаве і казала:

— Тата, ну не трэба плакаць… Ты ж вялікі…

І на гэта ўсё глядзеў з кута пакоя чалавек са зварoдлівым лішаём на твары, глядзеў з прыхаванай, пякучай зайздрасцю, і ціха прамаўляў:

— Гаўдэамус… Гаўдэамус, казюркі. Памятай, доктар, ты памечаны мной. Падранак катавальні ты ёсцека. Такія, як ты, заўсёды вяртаюцца на крукі свае і ланцугі свае ў сутарэнні і студні. Мы дачакаемся цябе, доктар, з царствам маім.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

## Як Пранціш мудрасці біблейскай сербануў

Кажуць, калі герцаг Курляндскі мусіў сустрэцца ў Вільні з каралём Уладзіславам Вазам, каб улагодзіць сюзерэна, запрасіў нямецкіх артыстаў разыграць на пляцы Шэкспіра. Але кароль прыехаў такі злосны, што загадаў узведзеную сцэну парушыць на трэсачкі, а Гамлетаў ды Афелій гнаць, як мышэй.

Пры ўсіх уладарах глумцы, блазны, паэты, музыкі — рэдкія стравы да стала. Іх можна з'есці, можна выплюнуць, можна разам з талеркай запусціць у твар кухару…

Затое небяспекі ў іх бачаць не болей, чым у клёцках ці піружным.

Баўтрамей Лёднік, вучоны доктар і трошкі маг, аніяк не быў падобны да піражнага. Хіба да пярцовай настойкі на добрым спірытусе. Вырвіч ледзь стрымаў усмешку, каб яшчэ больш не злаваць былога настаўніка, якому, трэба прызнацца, вельмі пасаваў турбан з залацістай кітайкі велічынёй з добрую балею і стракаты атласны халат у жоўта-чырвона-юлёвыя палосы. Худая фізіяномія Лёдніка была шчодра вымазаная брунатнай фарбай, пад носам абвіслі вусы з чорнага шаўковага шнура… Вось цесць Пранціша, пан Гараўскі, вялікі аматар таямнічага Ўсходу, ацаніў бы.

Але вылузвацца з блазенскай абалонкі пакуль аніяк нельга было. Некалькі разоў натрапілі на раз'езды. Праўда, калі жаўнеры зазіралі ў экіпаж, толькі пачырванелыя ад гарэліцы насы пагардліва крывілі на блазнаў. Вялізная павозка, чыя драўляная сцяна магла ператварацца ў заднік сцэны, гайдала ў сабе не менш дзіўныя істоты і рэчы, чым алхімік у турбане з падробным дыяментам з кулак велічынёй. Запыленыя анёльскія крылы суседнічалі па кутах з драўлянымі мячамі. Намаляваны на фанеры ружовы куст — з кардонным цмокам. Пыса цмока крывілася, нібы ў агоніі, і была ўся ў дзірках ад дзіды якога-небудзь Святога Юрыя альбо паганскага Персея. Найболей жа пасажырам замінаў парык, ушчымлены паміж лаўкамі. Драцяная канструкцыя ў тры локці, абматаная шорсткімі валасамі і выцвілымі стужкамі, усаджаная пыльнымі папяровымі ружамі, нагадвала гняздо вялізнага павука, і страшна было ўявіць, як гэта можна ўзбурыць на галаву. Для такіх парыкоў куафёры спецыяльныя мапы складалі.

Так што Аляксандру Лёдніку пашанцавала. Парык на ягонай галаве быў у дзесяць разоў меншы і навейшы. Праўда, усё-ткі дамскі. Бо да абурэння нядаўняга студыёзуса, яго змусілі прыняць аблічча куртуазнай пастушкі Галатэі. У вандроўным тэатры мужчыны звыклі да жаночых роляў. А банда Чорнага Доктара якраз і выехала з Ашмянаў у вазку вандроўнага тэатрыка, які вяртаўся ў Варшаву. Сапраўдныя лёкаі і пакаёўкі Мельпамены ехалі наперадзе, у асобнай павозцы, а гэтую вылучылі падстаўным.

Абражаны Алесь, зацягнуты ў белую сукенку ў ружовыя кветачкі, час ад часу раздражнёна дзьмуў на завітую пасму рудога парыка, што лезла да вуснаў, і хутаўся ў сіні плашч, які быў бы зусім прыстойны, каб не нашытыя залацістыя буйныя зоры. А насупраць аптэкар-парфумер Давыд усміхаўся, нібы ўсё жыццё марыў красавацца ў зялёным балахоне са штучнымі галінкамі ды лістотай. Здаецца, малады Ляйбовіч мусіў увасабляць антычнага бога Вяртумна, які адказваў за змены пораў года.

Вось Пранцішу пашанцавала. Нават здзеклівыя падлючыя блазны з кракаўскай трупы, што падбіралі апранахі нечаканым спадарожнікам, разгледзелі ў ім сапраўднага воя. Так што Вырвіч самазадаволена аглядаў свае рыцарскія латы, зробленыя, праўда, не з металу, а з кардону.

— І якую ж п'есу мы маглі б цяпер разыграць, панове? — агучыў думку Вырвіч — усё-ткі ён быў недавершаны паэт, недапечаны драматург, і дзесьці беларускі Плутарх.

— «Шмат шуму з нічога» і тое не выйдзе, — прабуркатаў раздражнёна султан. — Вылучылі для нас касцюмы падзіўней з розных пастановак, каб шпегаў з тропу збіць, дый усё.

— Фантазіі табе не хапае, Бутрым, — весяліўся Вырвіч. — Усю ў студні вымыла.

Алесь няўхвальна скасавурыўся — ён ніяк не мог звыкнуць, калі дзядзька Пранціш ды пан-бацька змрочна жартавалі над рэчамі зусім нясмешнымі. Вось жа — панна Праксэда знікла, пані-маці ў слязах адправілася з сястрычкай дадому, а тут жарцікі…

— Не пакутуй, Ланцэлот, адшукаем тваю вучоную панну… Мы паннаў і з замкавай вежы, і з-за муроў кляштара, і з-пад варты цэлага палка даставалі! — Пранціш правільна адгадаў перайманні «Галатэі». Лёднік з няёмкасцю пехануў і прамовіў, не гледзячы на надзьмутага сына:

— Саламея абяцала разведаць, з кім Праксэда сустракалася, можа, хто што чуў…

І ледзь стрымаў цяжкі ўздых. Размова з жонкай атрымалася нялёгкай. Пранціш, мусіць, упершыню бачыў, што дачка полацкага кнігара не ўсміхаецца радасна пры сустрэчы з каханым мужам. «Я занадта стамілася, Бутрым».

І Пранціш пачынаў патроху ненавідзець зніклую Праксэду — гэта ж трэба было прымудрыцца перасварыць дружнае сямейства Лёднікаў! Таму што Алесь адмоўчваўся і адварочваўся ад бацькі. А Саламея, калі апынуліся з Пранцішам сам-насам ля ашмянскага палаца, пад вечаровым беларускім небам, і горка пах палын, і лісты не хацелі паміраць і злятаць, выдыхнула:

— Ну вось скажы, пан Вырвіч, калі ніхто не вінаваты, чаму ўсім нам так кепска?

І махнула тонкай рукой, не патрабуючы адказу.

— Ты ведаеш, што Бутрым вадзіў яе на лекцыі? І ў калегіюм у Гародні… І з сабой браў у Віленскую акадэмію і ў Кракаўскі ўніверсітэт… У мужчынскім адзенні. Тое, што ніколі не дазваляў мне… Хоць у юнацтве я сама пару разоў на падобнае ў Полацку наважылася, так ведаў хацелася… І сам жа Бутрым паўтарае — Гасподзь дае мазгі не па спадніцах ці нагавіцах, не па кармазіну ці радну, а па чалавеку. А за мяне ён, бачыш, баіцца… Абараняе…

— Што ж, у яго ёсць прычыны, — мякка прагаварыў Вырвіч, са скрухай заўважаючы ля гожых сініх вачэй колішняй Сільфіды дробныя зморшчынкі і застарэлы цень. — Апошні раз, калі цябе абвінавацілі ў вядзьмарстве, Бутрыму ледзь удалося выратаваць. І свае адкрыцці пра шлем Альбукасіса тады аддаў за сведчанне прадажнага калегі, і з пудовым мячом, які ледзь падымаў, супраць волата Ватмана выйшаў…

Саламея правяла рукой па аблічы, усё яшчэ гожым, велічным, удыхнула водар восеньскага палыну:

— Я ведаю, што ён і цяпер за мяне гатовы на ўсё… Абараняе… Так… А вось асістэнтку сваю не бярог. Разам такія эксперыменты ўчынялі, да якіх мяне і блізка не дапушчаў. Два разы даводзілася абаіх з лабараторыі выцягваць пасля выбухаў, калі ад дыму смярдзючага ледзь не патруціліся. Абое толькі смяяліся.

Голас палачанкі дрыжэў.

— Яна ж настолькі маладзей за мяне, Пранціш. І высакародная кроў… Гэта не выдумкі — гэта выхаванне з пялюшак. Пастава, манера кланяцца, ды нават брацца за кубак… То пазірае вінавата, а часам як блісне вачыма… Цішэй, не перабівай, гэта я ад крыўды ды зайздрасці… І яшчэ…

Саламея прыкусіла вусны з дасканалым абрысам — колькі мужчын калісьці гатовыя былі біцца хоць бы і з цмокам, каб не крывіліся горка гэтыя вусны!

— Яны вельмі падобныя…— голас гучаў глуха. — Бутрым з Праксэдай. Не, не знешне… Але каб Лёднік нарадзіўся жанчынай — якраз такой. Ганарыстыя, зацятыя, апантаныя... Толькі яна больш стрыманая. Бутрым, калі да

жывога дастала, выбухае, як салетра пры перагрэве. А Праксэда толькі маўчыць ды пагарджае… Думаю, ёй давялося шмат цярпець у жыцці. І… так, мне яе шкада. Але як жа мне часам хацелася, каб яна… знікла. Асабліва калі на яе пальцы ўлетку з'явіўся срэбны пярсцёнак. Як ніхто не бачыць, яна да яго вуснамі дакранаецца, і на Бутрыма паглядае. Відаць, падарунак… Як я яе ў тыя моманты ненавідзела… І вось… збылося. Праўду кажуць — нядобрыя думкі, як забытая дома свечка. Вярнуўся — адны вугалі…

Пранціш адмахнуўся ад камара, худога і нахабнага, як мытар:

— Ты ж яе з дому ў каршэнь не гнала.

— Але менавіта я намовіла Бутрыма, каб сказаў Праксэдзе ў Вільню пераязджаць, — Саламея апусціла галаву, прыкрытую маленькім ваўняным капелюшом з вітым срэбным шнурам, які пабліскваў у прыцемку. — Апошнім часам мы з паннай амаль не размаўлялі. Яна з Сафійкай куды болей шчырая была, чым са мной. Ды яшчэ хадзіла да нейкай сяброўкі ці сваячкі… Вярталася ўзнёслая і заплаканая. Думаю, знайшла каму перайманні свае выказаць — жанчынам гэта часам проста неабходна.

— Можа, тая сваячка і дапамагла ён знікнуць! — усхвалявана зазначыў Вырвіч. — Гэх, каб нам не за нейкай рэліквіяй перціся...

Саламея шчыльней захінулася ў плашч.

— «Рэліквія»… І зноў Бутрым дазваляе сябе выкарыстаць. Абрыдзелі ўсе гэтыя палітычныя гульні. Наш маёнтак Караблі праезджыя расейскія стральцы разрабавалі. Святара ў сажалку кінулі, добра, там вады па пояс. Бацюшка крычыць — праваслаўны я, брацці, а яны — «Какой ты православный, поляк ты!» А новыя канфедэраты, патрыёты Рэчы Паспалітай, калі перамогуць, зноў за дысідэнтаў возьмуцца. І бацюшку нашага зноў пагоняць. І так былі прынялі закон, каб за пераход з каталіцкай веры смерцю караць… Дзе мы ўсе тады апынемся?

Пранціш толькі ўздыхнуў. Вечна беларус паміж чужых жорнаў…

— Выкруцімся, выслізнем. Баўтрамей мяжы не пяройдзе.

Тонкая рука Саламеі, што прытрымлівала край плашча, ледзь заўважна дрыжэла.

— А дзе тая мяжа, пан Вырвіч? Я ведаю, Бутрыму здаралася за гэтыя гады быць з іншымі жанчынамі.

Пранціш з няёмкасцю хэкнуў, але жанчына працягвала «слізкую» размову.

— Можаш нічога не прыдумваць, Бутрым мне ўсё распавёў сам. Тыя выпадкі былі — як на вайне. Там жа кагось параніць, кагось закіне ў варожае войска ці ў палон... Цяпер жа — здрады цялеснай няма, а так балюча…

Напрыканцы размовы з Саламеяй збоку шаргатнулі кусты, здаецца, чыясь худая постаць слізнула ў прыцемку… Пранціш нават падумаў — ці не Алесь падслухоўвае? Але малодшы Лёднік нічога не сказаў ні пасля, ні цяпер.

А Пранціш толькі і мог, што парваць чарговую паперку з незакончаным вершам.

І зноў забівае сонца сведкаў свайго гарэння.
Крылаў яно не любіць і Вавілонскіх вежаў.
Толькі ў напрамку сонца нашы лятуць марэнні,
Толькі ў напрамку неба зноў вырастаюць вершы.
Сыпецца попел шэры на зямныя галовы.
Апёкі гараць на душах, і чырвань перад вачыма.
І зноў у напрамку сонца ўзлятаюць сляпыя строфы,
Хоць там яны непатрэбны, а тут яны немагчымы.

За вокнамі тэатральнай карэты пачаў невыразна дэкламаваць свае рэплікі дождж, нат не дождж, а дажджыска. Дробны, як малодшы пісар магістрата. Пранціш выцягнуў ногі ў высокіх бліскучых ботах, дзякуй святому Франтасію, не бутафорскіх… Бот упёрся пад лаўкай у нешта мяккае.

— Ай!

З-пад лаўкі пачуўся тоненькі піск. Нехта чхнуў. Зашаргатала…

А затым з пыльных нетраў карэты, міла ўсміхаючыся, вылезла княжна Багінская, панна Агалінская, нявеста малодшага фон Штакельберга, у накручанай паўзверх змятай і перапэцканай ніжняй кашулькі зялёнай посцілцы.

Кардонны цмок трохі падумаў і зваліўся на спіну Давыда.

— А каб цябе распрындзіла… — разгублена прамовіў аптэкар, спіхваючы з сябе пашарпанае страшыдла.

— Гэта вы мне? — з удаваным здзіўленнем прамовіла паненка звонкім галасочкам, і ў яе блакітных вачах так і скакалі вельмі знаёмыя Пранцішу Вырвічу гарэзныя жарынкі. А на носіку стракацелі рабацінкі, якія зусім не пасуе мець высакароднай панне.

— Бедлам…— разгублена прамармытаў Лёднік. Алесь, пачырванеўшы, спрабаваў садраць з сябе ганебны жаночы парык.

— А я не снедала. Sorry…

І жаласны позірк…

Уменне кіраваць людзьмі, напэўна, перадаецца ў спадчыну, як колер валасоў. Таму кудзеркі юнага стварэння адлівалі меддзю, а заміж таго, каб лаяцца ды распытваць, нейкі час чацвёра мужчын у блазенскіх уборах былі занятыя падрыхтоўкай сняданку для маленькай галоднай князёўны.

— А вы — той самы доктар? — панна Рэгіна вымавіла гэта не зусім выразна, бо жавала булку з сырам.

Лёднік хмыкнуў:

— Не ведаю, ці той самы, але доктар.

Нечаканая госця заківала:

— Пані маці мне пра вас гаварыла. Magician. А зрабіце, каб мне зараз жа стала васямнаццаць, я жаніху такога гарбуза пашлю!

Падобна, Паланэя Багінская распісала дачцэ магічныя здольнасці Чорнага Доктара ў фарбах і блішчынках. Якраз адпаведна касцюму казачнага султана.

Расповед радавітай бягляначкі перасыпалі ангельскія слоўцы. Увішная Рэгінка расла на амерыканскіх прасторах. Ад сонца не хавалася. Умела, як і маці, скакаць на кані, страляць са стрэльбы і індыянскага лука, залазіць на вялізныя дрэвы, падслухоўваць размовы і ўцякаць з-пад любога нагляду. Ну такая звычайная ліцвінская князёўна. Усё парушыў ліст з-за акіяна. У Паланэі з Багінскіх аж рукі трэсліся, калі разгортвала аркуш. Калі Паланэйка збегла ў Амерыку разам з мужам, рудым панам Гервасіем Агалінскім па мянушцы Амерыканец, ейны брат, вялікі гетман Міхал Казімір Багінскі, страшэнна ўгневаўся. Звязалася з радзівілаўскім прыпечкам, шляхцюком сярэдняй рукі! І выкрасліў яе са сваёй памяці, ні шэлега ў пасаг не вылучыўшы. Праўда, пан Агалінскі сам дакляраваў, што адмаўляецца ад таго пасагу і ўсялякіх зносінаў з фанабэрыстай жончынай сямейкай… Агалінскі ў сваю чаргу шлюбам з Багінскай выклікаў няміласць сюзерэна, Радзівіла Пане Каханку. А пан Гервасій жа быў альбанчыкам — чальцом банды альбанцаў, сяброў юнацтва Пане Каханку, што разам з ім гадаваліся і пракуднічалі ў нясвіжскім прадмесці Альба. Там здрады не даравалі. Так што маладым сужонцам ледзь удалося ўцячы за акіян ад раз’ятраных іхнім самавольствам магнатаў, не без дапамогі Вырвіча і

Лёдніка… І вось на табе — ліст. Ды яшчэ з якой спакуснай прапановай! Князь Багінскі паведамляў сястрыцы, што гатовы забяспечыць для яе сына самае бліскучае становішча пры двары. Усё сямейства можа вярнуцца, і атрымаць належную частку ўладанняў Багінскіх… Як толькі Рэгіна Агалінская, удачароная дзядзькам, стане Багінскай і заручыцца з радавітым жаніхом.

Нездарма беларусы на вёсках раілі не браць дворку, гэта значыць, панскую прыслугу, за жонку. Хто пакаштаваў палацавага жыцця — будзе заўсёды яго хацець. Паланэя пачувалася страшэнна вінаватай перад дзецьмі, якіх пазбавіла прыдворнай кар’еры і належнай іх званню раскошы. Так што, нягледзячы на тое, што пан Гервасій толькі раз’юшыўся ад паслання швагра, Паланэя цішком пачала намаўляць дачку… Ах, якія цуды яе чакаюць у Вялікім Княстве Літоўскім і Каралеўстве Польскім, якія ўборы ў яе будуць, як цікава адбываюцца каруселі рыцарскія і тэатральныя спектаклі! Такога ў іхнім форце сярод дзікіх лясоў ніколі не пабачыць! Ну і, скарыстаўшыся тым, што пан Гервасій з’ехаў да чырванаскурых дзікуноў, каб запісаць новыя легенды, Паланэйка адправіла дачку з братавым пасланцом на радзіму.

Вось толькі Рэгінка дужа расчаравалася ў абяцаным ёй сапраўдным княскім жыцці. Узяліся вучыць яе галантным паводзінам, нават розгаў упершыню ў жыцці пакаштавала. Гарсэт скабы перацягвае, туфлікі завузкія, пальчаткі завузкія, не бегай, не смейся, не плач… І жаніх выявіўся зусім не чароўным прынцам, а мелюзгой смаркатай. Рэгінка падслухала, як абмяркоўвалі прыстаўленыя да яе людцы, што ейны бацька, пан Гервасій, кінуўся следам за дачкою і нат пераплыў акіян… І што яго збіраюцца затрымаць, каб не перашкодзіў заручынам. А пасля радаваліся — трапіў руды Амерыканец у італійскую турму, ды самую страшную, каменныя калодзежы ў Венецыі. А нядаўна Амерыканачка падслухала развагі пана Брастоўскага і ягонага канфідэнта, якім чынам выправіць банду на чале з Чорным Доктарам у тую ж Венецыю… Як пасля такога не збегчы?

— Не халера, дык адзёр, — прамармытаў Чорны Доктар. — Не хапала нам яшчэ скрасці гетманаву прыёмную дачку!

— А паненку шукаюць, мусіць. Знойдуць — ніякія італьянскія місіі нас не ўратуюць, — меланхалічна зазначыў Давыд. — Вярнуць трэба яе княскую мосць апекуну.

— Я ўсё адно збягу!

Вусны Рэгінкі кранальна дрыжэлі, блакітныя вочы напоўніліся слязьмі… Ну як тут Ланцэлоту змаўчаць?

— Мы павінны абараніць панну!

Алесь ваяўніча аглядаў спадарожных. Уражанне псавала сукенка ў кветачкі, бялілы на худым абліччы і пёры са сцягнутага парыка, якія заселі ў валасах.

— Ад каго і ад чаго абараніць, шаноўны пан Аляксандр? — уздыхнуў былы менскі суддзя. — Каб мне прадставілі на разгледжанне гэтую справу, я змушаны быў бы асудзіць выкрадальнікаў, бо апякун панны Багінскай ніякай шкоды ёй не ўчыняў, а, наадварот, уладкоўваў яе будучыню.

— Я не вярнуся! — звонкі крык малой нявесты мог пачуць фурман, але на шыканне спадарожнікаў панна Агалінская не зважала. — Гетман мне не бацька! У мяне свой бацька ёсць! А калі вы мяне аддасцё, скажу, што звезлі гвалтам! Зачаравалі! Катавалі! Пачну крычаць «Ратуйце!»

Уліплі… Так ці інакш — не пазбегнуць гневу вялікага гетмана, падскарбія і расейскага пасла, усяго кубла разам…

Рэгінка між тым набрала паветра ў лёгкія, збіраючыся ўсчаць благанне…

— Адзіны, хто можа аспрэчыць права гетмана на апякунства — пан Агалінскі, — змрочна вымавіў Лёднік, і Рэгінка передумала крычаць, яе блакітныя вочы загарэліся надзеяй. — І ён — адзіны, каму мы паводле закона можам перадаць панну.

— Ну так, — неахвотна пагадзіўся Вырвіч. — Калі бацька сам ад дачкі не адмовіўся, дазволу на апякунства не даў — яно незаконнае.

— Панове, я, вядома, усяго толькі аптэкар і ў рыцарскіх справах не кемлю, але мы што, збіраемся валачы гэтую дзеўчынёху ажно ў Італію? — у голасе Давыда быў сапраўдны жах.

— А за мной вось гэты высакародны рыцар у сукенцы прыгледзіць! — хітруля Рэгінка нечакана зірнула на разгубленага Алеся, і Ланцэлот адразу ўспомніў кодэкс куртуазны і прыняў пагрозны выгляд, рыхтуючыся абараняць даму. Яшчэ б ад клятай спадніцы пазбавіцца…

Гэта ўдалося ў заціснутым між двух балотаў маёнтку аднаго з кліентаў пана Міхала Брастоўскага. Маёнтак меў жывапісную назву Гнілая Гаць, а ўладальнік не менш жывапіснае прозвішча Жаба-Равуновіч. Там шпегам вылучылі дарожную карэту з двума конямі. Гэткі прадзедаўскі рыдван, падобны да буфета на колах. І да яго фурмана, дробнага і палахлівага, як мыш, якога звалі Фульчык.

Фульчыку было абыякава, куды кіраваць коней. На Наваградак? Як панству заўгодна… Абы ў каршэнь не таўклі.

Ля карчмы, не самай багатай на выгляд, людцаў вілося, як жамяры вакол сподачка з саладухай. У збітыя кулакамі ды ботамі наведнікаў дзверы ўрачыста зайшла чарговая кампанія. Ладны русачубы шляхцюк у шапцы набакір, з дзёрзкімі блакітнымі вачыма, высокі змрочны тыпус у чорным дарожным камзоле, троху сабе злавесны, і чарнявы фацэт з усмешлівымі пульхнымі вуснамі, у модным французскім каптанчыку з зялёнымі стужкамі.

Усмешлівы фацэт агледзеўся, не зважаючы на тлум і непрыветныя позіркі, і махнуў рукой:

— Вунь там, за печкай, у дальнім куце, ён звычайна і сядзіць... Рушылі!

Фацэт рашуча адсунуў заседжаную мухамі сінюю баваўняную занавеску, з-за якой даносілася манатоннае бубненне, нібыта нехта пераціраў ды пераціраў у ступе зерне мудрасці. Ля печкі на пыльных падушках сядзеў шчуплы габрэйскі хлопец. Ягоны твар з тонкімі нервовымі рысамі быў засяроджананатхнёны, а чорны халат чамусь выпацканы, быццам ім выціралі пыл. Хлопец пагойдваўся і чытаў кнігу, чые старонкі па краях былі ўжо колеру мінулагодняга лісця. Перад хлопцам некалькі худых мурзатых дзетак у лахманах час ад часу паўтаралі пачутае, гэтак жа пагойдваючыся...

— Гэта твой рэбе? — абурана шапнуў русачубы шляхцюк на вуха фацэту. — Той, хто лепей за Бутрыма тайнапісы расчытвае?

— Не мяркуйце па знешнасці, пан Вырвіч, — шэптам адказаў фацэт. — Саламон з адзінаццаці гадоў уважаецца за рабіна. І жанілі яго тады ж. Ледзь не біліся, чыю дачку прыстроіць за такога вучонага маладога чалавека, нават выкрадаць яго спрабавалі. Мадам Рыся перамагла, уладальніца гэтага пастаялага двара, са сваёй дачкой ажаніла. Ён у чатырнаццаць гадоў бацькам стаў.

З адзінаццаці — у сямейнае ярмо! Пранціш амаль з жахам зірнуў на вынсажанага юнака, які, заплюшчыўшы вочы, з натхнёным тварам пагойдваўся і прамаўляў словы, што нібыта плавіліся на ягоных вуснах.

Трэба ж, пасярод бруднага ліцвінскага мястэчка людзі ў лахманах разгадваюць, што за божая мудрасць схаваная ў якім слоўцы і ў якой літары…

Малады рэбе змоўк і прыадплюшчыў вочы. Вочы глядзелі ў незямныя эфіры.

Давыд скарыстаўся гэтым момантам, каб прывітацца.

З незямных эфіраў вучоны Саламон вынырнуў не адразу, але калі засяродзіўся на госцю і пазнаў, узрадаваўся.

А як пачуў пра тлумачэнне таемных тэкстаў, аж вочы загарэліся, заківаў, залапатаў ухвальна. Пранціш габрэйскай не надта валодаў, але зразумеў, што да новых ведаў Саламон ласы не менш, чым Лёднік.

Перш чым паглыбіцца ў вывучэнне прывезенага гасцямі пергаменту, рэбе трывожна кінуў сюды-туды пагляд, як бы ў чаканні нападу. Ягоныя вучні паўтарылі тое за ім, круцячы тонкімі шыямі і нязграбна пацепваючы плячыма.

Вучняў, зрэшты, Саламон зараз жа і адпусціў. Бо працэс тлумачання скрадзенага пергаменту быў няпросты. У Пранціша, які прыстроіўся на зэдліку ля печкі, ажно ногі сцерхлі. Нат пазайздросціў Алесю, які застаўся ў карэце разам з пераапранутай у хлапчыску князёўнай Багінскай-Агалінскай.

Па той бок баваўнянай занавескі шумела і дыхала часнаком карчма. Нехта патрабаваў яшчэ піва... Шчаслівчык! Даносіліся перлы п'янай мудрасці: «Вінаградам у сэрца, цукрам у душу, браце, мяды мядам, нікому не дам! Гэтае зелле ўзімку не мерзне, улетку не кісне», «Гарэлка не дзеўка, не цалуй», «Перш чарку, а потым і па карку», «Пі, браце! Душа меру знае!», «Гэй-го! Першая чарка калом, другая сакалом, трэцяя дробнай пташачкаю!», «Пі, не порах, не разарве!» Праўда, такія-сякія слоўцы і пергаментнага дыспуту Вырвіч усё-ткі ўлоўліваў у дзіравы нерат сваёй моўнай абазнанасці.

Рэбе адразу заявіў, што пісаў дакумент знаўца Кабалы. Далей яны з Лёднікам давай счапляцца, Давыд нат рукой махнуў і не палез у занадта вучоныя жарсці. Пайшоў фіглі карчомнай прыслузе строіць: мясцовыя дзеўкі ўжо зачапіліся вокам за модны французскі каптанчык ды капялюш.

А Бутрым і рэбе смакавалі горкі мёд вучонасці. Саламон сцвярджаў, што перакладчыкі няправільна зразумелі сімвалы, і гаворка не пра будынак ці вежу, а пра слуп. Лёднік не згаджаўся, але ягоны атрутны тон і пагардлівы позірк, якія змушалі ў Вільні бедных студыёзусаў сцінацца, не мелі аніякага ўплыву на натхнёнага рэбе. У таго сваіх аргументаў і дэфініцый было — цабэрак ды гарнец зверху. Так што Лёднік урэшце здаўся... Абодва ў працэсе, падобна, праніклісь адзін да аднаго шчырай павагай.

Жыццё пафасу не любіць, і была ў гэтым вар'яцкая іронія: запавет рымскага папы-іспанца разгадваецца габрэйскім хлапчуком за печкай беларускай карчмы.

Бутрым скасавурыўся на Вырвіча, уздыхнуў і пераклаў свайму былому студыёзусу высновы Саламона. Святы прадмет, паводле маладога знаўцы Талмуда, знаходзіўся зусім не ў храме святога Марка.

А ёсць тры слупы ў месцы, прысвечаным таму, чые парэшткі выкрадзеныя з дапамогай нячыстых жывёлаў. Адзін слуп — у вадзе. Другі — для таго, хто носіць дзіду вастрыём уверх. Трэці слуп — клетка звера, які належыць уладару горада. У пашчы звера і патрабуецца схаваць інструмент, які ў час небяспекі абрыне сваім гучаннем ворагаў у ваду і на камні. І хай уздымецца абраннік з малітвай да пашчы звера, і суне туды руку, і паверне язык тры разы супраць сонца, і дасца яму па веры ягонай...

Аўтар велягурыстай лухты што, не мог па-чалавечы вытлумачыцца?

Раптам сіняя заслона рэзка адторгнулася, забег Давыд:

— Саламоне, цешча твая ідзе!

Адразу ж зазірнулі і спалоханыя вучні рэбе з тым жа папярэджаннем, і хуценька, як мышы, зніклі...

А рэбе вокамгненна адсунуў падушкі і нырнуў у схаваную за імі чорную дзірку падпечка, толькі белыя панчохі мільганулі. Вырвіч не паспеў вачыма лыпнуць. Давыд між тым, ніколькі не здзівіўшыся, паклаў падушкі на месца, на што з падпечка данеслася ўхвальнае мармытанне.

Тут жа занавеска ўзвілася ветразем. Бойкая кабета, яшчэ не старая, са зграбнай постаццю, зацягнутай у гарсэцік, у белым фартуху і карункавай накідцы, накручанай на галаву, крычала штосьці, час ад часу згадваючы імя «Саламон». Давыд са скрушнай фізіяноміяй развёў рукамі: маўляў, няма Саламона, не бачылі, не ведаем… Тады кабета спыніла суровы позірк брунатных пукатых вачэй на Лёдніку, як на самым старэйшым з кампаніі, і засакатала па-беларуску:

— Не, ну вы чулі, вельмішаноўнае панства! Няшчасная мая Сора! Што ёй за муж патрапіўся! Наравісты, свавольны! Бедная мая галава! Уявіце сабе, ноччу прачнулася ад страшнага выцця: стаіць нехта ў белым, са свечкай, і дакарае мяне, што я кепска абыходжуся з гэтым свавольнікам, зяцем, якога голага і босага ў сям'ю прыняла. Да сумлення майго заклікае! Я ледзь не самлела. Бо і праўда вырашыла, што гэта мой нябожчык-муж альбо светлай памяці бацька з'явіўся. А тады прывід як заперхае, ды як плітане… А на падлозе сляды крэйды! Ну, я яму пакажу!..

Кабета патрэсла ў паветры кулаком, і Пранціш мімаволі ўспомніў уласныя пракуды і ў звязку з імі кухталі і розгі…

Калі Саламонава цешча сышла, не перастаючы лаяцца, падушкі заварушыліся, і засмучоны рэбе паказаўся з падпечка. Абтрос халат, прамармытаў, як шкада, што так і не навучыўся рабіцца нябачным. З тужлівай зайздрасцю паглядзеў на Давыда ў французскім каптанчыку, пра нешта запытаўся, пачуў адказ і прамовіў на ламанай беларускай:

— Я паеду з вамі. Задушна мне тут. Таксама вучыцца хачу. Свет глядзець хачу. Буду з вамі шукаць… слупы тыя.

Бутрым незадаволена пакруціў галавой, але згадзіўся далучыць да іх банды яшчэ аднаго чальца. Што ж, Лёднік больш за ўсё паважаў у людзях прагу да ведаў. Сам калісьці вырваўся з гарбарні свайго бацькі з дапамогай кнігара Рэніча ды аптэкара Лейбы, адправіўся ва ўніверсітэты… І лічыў абавязкам дапамагаць такім жа гаротным хлапцам.

Саламон не збіраўся пакаваць куфры, закруціў кнігі свае, скарб адзіны, у клуначак і рушыў, хаваючыся за спіны новых знаёмцаў, з такой надзеяй на твары, што Пранцішу сумлення не хапала пярэчыць.

Але варта было маладому рэбе паставіць нагу на падножку дарожнай карэты, у ягоны халат учапіліся моцныя жаночыя рукі:

— Вось ты дзе! Што ўдумаў?

Шынкарка Рыся пільнавала дабрабыт сям'і лепей за каршука.

Пранціш глядзеў, як яна праганяе штуршкамі няшчаснага Саламона ў бок карчмы, перад імі разбягаюцца нядошлыя белыя куры, і было і смешна, і сумна…

— Я ўсё роўна з'еду! — крычаў юны рэбе, і шапачка на ягонай галаве была чарней адчаю. — Увесь свет яшчэ дазнаецца пра Саламона Маймона!

Мадам Рыся ўзнагародзіла мудраца яшчэ адным штуршком у худыя плечы.

Фурман Фульчык, які ледзь не пад экіпажам ад раз'юшанай кабеты хаваўся, борздзенька ўскочыў на сваё месца і тузануў лейцы. Пранціш адвярнуўся ад акна і няўпэўнена прамовіў:

— Можа, варта было адбіць небараку?

— І мадам Рысю на двубой выклікаць? — хмыкнуў Лёднік. — Нічога… Светлая галава ў хлапца… Думаю, ён не прападзе. Выберацца да навукі.

Давыд пасумнеў, відаць, згадваючы ўласныя сутычкі з тымі аднапляменнікамі, якія ўважалі яго за блюзнера. За модныя каптанчыкі, за навучанне ва ўніверсітэтах, за падазронае сяброўства… Пільнавальнікі традыцый усіх народаў знойдуць, да чаго дачапіцца.

Акно іхняга экіпажа хтось упрыгожыў барвовай тасьмой з кутасамі. Кутасы былі такія брудныя, што здаваліся здохлымі шэрымі чмялямі. Да аднаго прычапіўся лёгкі залаты бярозавы лісток, і дарэмна трапятаў, спрабуючы вырвацца на волю. Пранціш з цяжкасцю адчыніў шыбу з памутнелым шклом і выпусціў лісток на вецер, нібыта жывую істоту… А толку? Ён усё роўна ўжо мёртвы… І лёс яму адзін: згнісці, стаць беларускай зямлёй…

Змрочныя думкі былога суддзі адагнала сакатанне князёўны, якая, мяшаючы беларускія, польскія і ангельскія слоўцы, распавядала пра цудоўнае амерыканскае жыццё. Тата здабыў фісгармонію і крышталёвую люстру, праўда, адбіў кулямі на ёй тры падвескі. Пані маці лаялася. Мядзведзі ў Амерыцы ўтрая большыя за тутэйшых, з вялізнымі ікламі і кіпцямі. Тыя звяркі, якіх беларускія цыганы на ланцугу водзяць, не мядзведзі, а так, медзведзяняткі… Дзядзька Джон мае замест левай рукі металёвы крук. Ён марак. Навучыў Рэгінку свістаць. І проста вуснамі, і закладаючы ў рот чатыры пальцы. Вось так… І так… Чаму не трэба? Панам вушы баляць? А гэта я яшчэ ціхенька свістала! Магу гучней, вось так! Англічане кепскія, яны падаткамі вольных амерыканскіх пасяленцаў душаць. Тата кажа, англічашак гнаць трэба. І гарбату забараніў у доме піць. Бо англічане такім падаткам гарбату абклалі, што амерыканцы паскідалі прывезеныя імі цюкі ў акіян. Тата з сябрамі ўжо ваявалі супроць войск караля Георга. І перамаглі! І зараз армію збіраюць, тата фермераў на жаўнераў муштруе.

Пранціш слухаў і думаў, што вось жа, і на тых дзікіх прасторах за сваю волю біцца трэба. Відаць, пакуль не напоіш яе крывёй, якругана Рагнарока, не прыманіш да сябе…

А чаго гэта Алесь сядзіць злосна-разгублены? Аказваецца, пакуль панства ў карчомцы таемныя знакі разгадвала, паненка Агалінская абыгрывала малодшага Лёдніка. І ў пяць каменьчыкаў, і ў саломінкі, і ў «што пакладзеш у кошык», і ў плішкі — бярозавыя пруткі, разрэзаныя ўздоўж… А ў якасці ўзнагароды патрабавала, каб Алесь, прыкладам, даў ёй са свайго пісталета пастраляць. Вунь па тых птушачках на прыдарожных дрэвах. А яшчэ жадала есці, піць, адчыніць акно, зачыніць. Парывалася прагуляцца.

Падобна, у Ланцэлота трохі пахіснулася вера ў высокае прызначэнне — служыць Даме, і дактаровіч з пяшчотай успамінаў малодшую сястрычку Сафійку, якая здавалася часам такой шкодніцай… Пакуль ён з князёўнай Рэгінай не пазнаёміўся.

— А яшчэ мяне дзядзька Джон песні навучыў. Сапраўднай пірацкай.

Fifteen men on a dead man’s chest
Yo ho ho and a bottle of rum
Drink and the devil had done for the rest
Yo ho ho and a bottle of rum.

Князёўна, ссоўваючы на патыліцу завялікую для яе шляхецкую шапку з собалем, старанна выводзіла пранізлівым галасочкам суровую мелодыю. Лёднік адвярнуўся і спрабаваў стрымаць рогат, толькі плечы трэсліся. Пранціш не надта разбіраў ангельскую, але пра бутэльку рому таксама ўлавіў. Самая дзявоцкая песенька.

А між тым належала разгадваць загадкі старога пергамента. Будзе чароўная труба ў руках — можна і пагандляваца за свае жыцці. Лёднік, спрабуючы не зважаць на пірацкае спяванне анёлачка побач, неахвотна прызнаўся, што пра Венецыю ведае мала.

— У Мілане быў, у Турыне… У горадзе святога Марка — не. Дарэчы, менавіта парэшткі гэтага святога ўратавалі з дапамогай нячыстых жывёлаў. Крыжаносцы вывезлі ягоныя мошчы з Александрыі, схаваўшы на калёсах пад свінымі тушамі. Мусульмане не захацелі кранаць такое плюгаўства.

Пранціш скасавурыўся на Рэгінку. Паненка, якой дужа пасаваў убор хлапчыскі, занялася адзінай сваёй лялькай у пышнай сукеначцы з карункаў. Лялькy і кошык з васковым вінаградам прыхапілі з балаганнай карэты дзеля забавы князёўны, зразумела, старанна хаваючы ад артыстаў наяўнасць тае князёўны. Лялчына сукенка паціху ператваралася пад спрытнымі пальчыкамі ў лахманы, у якіх бегаюць па лясах індыяне. Трэба малому Яначку з паддарожжа якіх цацак прывезці. Жаўнерчыкаў, напрыклад… А Дамініцы сукенку… Карункавую…

Давыд уздыхнуў:

— Распытаць бы якога італійца пра венецыянскія помнікі...

Вырвіч ажывіўся:

— А помніш, Бутрыме, калі мы былі ў канфедэрацкім войску, тут непадалёк спыняліся ў карчме, уладальнік якой італіец. І да таго ж сапраўдны венецыянец! Якраз пасля бойкі, калі пан Мартыновіч загінуў…

— Не залаты дзянёк, не для ўрачыстых летапісаў…— нахмурыўся Лёднік. — Мяне тады і самога секанулі па плячы. А галоўнае, цяжка параненых шмат. З ног збіваўся. Раны зашываў, косткі складваў… Аднаму капітану давялося нагу адпілаваць — на яго конь паваліўся… Замест сустава — крывавая каша. А абязбольваючага ніякага, акрамя гарэлкі. Так што, выбачай, у мяне чырвоны туман у вачох плыў ад стомы ды болю, ні карчмы, ні карчмара ў памяці не аднаўлю.

Пранціш збянтэжана хмыкнуў — ён жа тады і вінца добрага сербануў у кампаніі таго ж карчмара Эрнэста, і ў карты перакінуўся з ацалелымі панамі-братамі. І песні гарлаў «аморэ, аморэ», прадаставіўшы Лёдніку дзесь займацца ягоным рамяством. Той сабе і шляхецтва здабыў, і званне афіцэрскае, а лічыў сваім доўгам працягваць лекаваць… З полацкіх мешчукоў доктар, што з яго ўзяць. Вырвіч жа — нашчадак рымскага князя Палямона, з радаводам даўжынёй з Дняпро. Мала што ў юнацтве зямлю з бацькам араў. Рабілі ж тое высакародна, пры шаблях і ў ботах! Справа шляхціца — вайна і палітыка. Гэтага пераканання ніхто з Пранціша не выб’е.

Але цяпер было чамусь сорамна. За тое, што шляхетна піў ды высакародна ў карты гуляў, пакуль паранены Бутрым ратаваў таварышаў.

— «Залаты Леў» называлася карчма, — адвёў вочы Вырвіч. — За Старцавічамі адразу, на скрыжаванні.

Што ж, усё адно па дарозе. Бутрым высунуўся ў акенца да фурмана, паведаміў змену маршруту. Не забыўся сунуць Фульчыку лусту хлеба з салам з іхніх прыпасаў і папытацца наконт хворага горла. Ці не даць мікстуры? Па разгубленым віскліым галаску Фульчыка было зразумела, што фурман не звык да такіх панскіх клопатаў і нат пабойваецца…

Калісьці Пранціш пагардліва хмыкнуў бы: плябей пра плябея турбуецца… Сёння толькі ўздыхнуў: халоп, біты столькі разоў, што нат не задумваецца, ці балюча, ці крыўдна, дабрыню ўспрыме як слабасць. Або сведчанне, што дабрадзей — не пан, а такі самы халоп, толькі ў пана адзеты, значыць, плюгавец і шалбер…

Праўда, Вырвіч ведаў, што Лёднік абурыўся б: у самым заняпалым, забітым чалавеку можа адкрыцца нечуваная душэўная прыгажосць.

Ага, а пакуль адкрыецца, гэты заняпалы цябе з вантробамі прадасць.

А між тым да рыдвана, які калыхаўся на выбітай дарозе, як сапраўдны карабель, набліжаўся чарговы атрад… Няшмат, чалавек сем. Каралеўскія войскі. Цёмна-сінія, гранатавыя, мундзіры, чорныя плюмажы на каскетках. Але ў забранай краіне лясун ведае, каму хто застаўся служыць… Калі жаўнеры параўняліся з рыдванам, можна было заўважыць — не ў гуморы ваякі, твары злыя, галодныя, адзенне бруднае… Вырвіч успомніў нараканні знаёмага драгуна — кароль зусім перастаў выплачваць сваім жаўнерам грошы, і тыя пачалі разбягацца, хто да магнатаў, а хто і проста ў грабежнікі…

Фульчык спалохана войкнуў, коні спыніліся. Ротмістр з чорнымі, быццам вугалем хтось правёў пад носам, вусамі, у памятым гаржэце — металёвым нагрудніку, і заляпанай бурцы, зазірнуў у карэту:

— Маскалі?

— Не, васпане, сумленныя ліцвіны… Падданыя ягонай каралеўскай мосці Станіслава Панятоўскага…

Вырвіч гаварыў на польскай, але не дапамагло: жаўнер слізнуў вачыма па пасажырах, зачапіўся позіркам за абразок Святога Юрыя ў руках блакітнавокага хлапчыскі: Рэгінка выцягнула ў Аляксандра з кішэні, спакусіўшыся срэбным бляскам аклада.

— Дакладна схізматыкі! З-за такіх, як вы, Айчына згінела!

Перавёў позірк, наліты крывёй, на Давыда:

— І юдэй тутака! Радуецеся, што Польшчу маскалям прадалі?

У ваяроў у сініх каралеўскіх мундзірах не было вайсковай задачы, уласна кажучы, кароль жа з Расіяй не ваяваў… Але была моцная крыўда за ганебнае становішча — здалі палову краіны без бою… Ну і мелася з галадухі не менш моцнае жаданне разжыцца чымсьці. Толькі нязручна прызнаць сябе за рабаўнікоў, патрэбна апраўданне: вось ворагі, значыць, не рабаўніцтва… Але чацвёра ўзброеных мужчын у карэце занадта небяспечная дзічына, і ротмістр махнуў рукой сваім, аблаяўшы на развітанне клятых здрайцаў.

І ўсё абышлося б… Але Рэгінка адчыніла акенца і запусціла васковай вінаградзінай у белы свет. А не, не ў свет… А роўненька ў чырвоную фізіяномію афіцэра-крыўдзіцеля. А ў адказ на ягоную лаянку заклала чатыры пальцы ў рот, як яе навучыў заакіянскі пірат Джон, каб яму ромам захлынуцца, і як свісне… Конь ротмістра як стане на дыбкі… Ротмістр як грымнецца кулём… І закруцілася крывавая каруселя.

…Лёднік, сціскаючы ў руцэ шаблю, схіліўся над жаўнерам у сінім мундзіры, памацаў ягоную шыю:

— Жыць будзе…

Алесь з палёгкай выдыхнуў, намагаючыся, каб ніхто не заўважыў гэтай ягонай палёгкі: гэта ж ён уклаў ваяра выпадкова сустрэтага атрада на жухлую траву… Астатніх пан бацька і дзядзька Вырвіч проста пагналі. Вунь дзесь за валатоўкай, за лясочкам зніклі… Цяпер Алесь мог зразумець памкненне бацькі не забіваць нат у бойцы: бо так пагана было на душы, пакуль думаў — забіў… Каралеўскага жаўнера, не ворага ніякага… З-за васковай вінаградзінкі і шалёнага характару адной ліцвінскай князёўны…

А тая, як нічога не было, гэткі панок-з-кулачок, стаіць на купіне, завялікую шапку шляхецкую папраўляе, каб на вочы не спаўзала.

— Wonderful! Мой пан-бацька таксама так умее біцца! А вы, пан маг, чаму не ператварылі гэтых нягоднікаў у прусакоў ці пацукоў?

Вось жа, мужчыны з-за выбрыка паненкі адзін аднаго ледзь не пазабівалі, сама з карэты на хаду выскачыла, каб не прапусціць цікавае відовішча, і ўсё ёй гулі…

Дарэчы, пра карэту.

Як павыхоплівалі паны шаблі, Фульчык толькі віскнуў ды тузануў лейцы. І дзе той здабыты ў Гнілой Гаці рыдван з барвовай тасьмой на акенцы, цяпер ведаюць толькі сарокі ды вароны на прыдарожных дрэвах.

Вось табе і прыкормліваў Бутрым салам-хлебам фурмана…

Добра хоць, пергамент пры сабе. Лёднік абвёў вачыма сваё гаротнае войска. А яно яшчэ гаротней: Давыд трымаўся за бок, на французскім каптанчыку распаўзалася цёмная пляма.

— Праўду гавораць, хто пад лаўку хаваецца, таму ўсе гузакі наастачу... Добра, Саламона з сабой не звезлі: не даруваў бы сабе, каб з ім што здарылася.

Давыд на сябе нагаворваў: пад лаўку ён не хаваўся, хаця шабляй не махаў. А вось пісталетам нападнікаў адпалохваў…

Пакуль Лёднік перавязваў аптэкара, Алесь прывёў каня непрытомнага жаўнера. Дактаровічу чамусьці заўсёды лепш, чым нават Пранцішу, які вучыў яго верхавой яздзе, удавалася ўпраўляцца з коньмі, прыманьваць нат чужых і напалоханых. І ўсе адправіліся ў карчму «Залаты леў» пад восеньскім ліцвінскім небам жывапіснай бандай: паранены Давыд і Рэгінка на кані, Лёднік з сынам і Пранціш — пешкі.

Вось яна, Фартуна. Як сказаў Публій Сір, рымлянін старажытны і мудры, дае яна шмат чаго ў часовае карыстанне, і нічога — навечна.

А для ўдасканалення сцэны над беларускімі хмызнякамі і калюжынамі разносілася звонкае:

— Fifteen men on a dead man's chest,
Yo ho ho and a bottle of rum.
Drink and the devil had done for the rest.
Yo ho ho and a bottle of rum.

**РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ**

## У пашчы залатога льва

Ведаў бы леў, што ў алхіміі ён сімвалізуе серу. Рэчыва, як вядома, смярдзючае і атрутнае.

А зялёнага ільва бачылі?

Алхімікі, відаць, бачылі. Надыхаўшыся выпарэнняў тае ж серы. Бо зялёнага льва яны лічаць увасабленнем моцнага расчыняльніка.

А вось калі афрыканскі драпежнік раптам пачырванее — усё, радуйцеся. Гэта філасофскі камень.

Леў жа, які быў намаляваны на шыльдзе ліцвінскай прыдарожнай карчмы ля вёскі Старцавічы, здавалася, так і гатовы быў загаварыць. Дакладней, заблагаць… Што ж са мной такое ўтварыў злыдзень-мазідла? Чаму ў мяне фізіяномія, як у жоўтай рапухі, грыва — бы каптур з карункамі, ногі як у мядзведзя, а ўсмешка такая, што сёй-той з наведнікаў, занадта цвярозы, хрысціцца ў жаху?

Праўда, ніхто з кампаніі, што падыходзіла зараз да карчмы, на няшчаснага звыродца аніякай увагі не звярнуў.

— Лухцень нейкая, Бутрым, — русачубы шляхцюк раздражнёна азіраўся. — Карчма была як карчма, а цяпер гульнявы дом… Разбудаваліся…

Сапраўды, на сціплую хату з гонтавым дахам звысаку пазірала двухпавярховая будыніна з калонамі на ганку і белымі разнымі аканіцамі. Пад таполямі, што паспелі прайграць восеньскаму ветру амаль усё сваё золата і нават медзь, стаялі шэрагам карэты, брычкі, дармезы… Лысы, але з доўгім саламяным чубам пан без шапкі і шаблі, у расхрыстаным жупане, з упартасцю барана ламіўся ў моцныя дзверы:

— Мазурыкі! Латругі! Дайце адыграцца!

Паголеная галава няшчаснага чырванела, як райскі яблычак.

Дзверы на імгненне расчыніліся, выпусціўшы на вуліцу гуд шумнай бяседы і грамідлу ў сіняй венгерцы. Грамідла лёгка, як драўлянага жаўнерчыка, развярнуў надакучлівага госця і дапамог праляцець тры аршыны ў накірунку лужыны.

Пранціша перасмыкнула. Занадта добра ведаў, як гэта — прайграцца да кашулі, калі ніхто не пазычыць. Але спачуваць невядомаму няўдаліцы не выпадала, паранены Давыд і так доўга пратрымаўся. Яго належала завесці ў цяпло, заняцца ранай…

Гэта і ўдалося зрабіць у старым будынку карчмы. Звычнай такой ліцвінскай. Што падлога тут была драўляная, можна было толькі здагадвацца з-за слоя прынесенай на падэшвах зямлі і нацярушанага сена. Тут, праўда, таксама гулялі — але не на вялікія грошы. Кідалі на стол плішкі. Там-сям стукалі аб стальніцы косткі… Карты ж калі ў каго і былі, дык старыя, пацёртыя, хутчэй за ўсё, кінутыя багатымі панамі пасля гульні па звычаі пад стол і падабраныя лёкаямі. Тут імі перакідваліся ў руса ці трышака, што меней стратна, чым фараон. Стаўкай, мяркуючы па ўсім, часцей за ўсё была чарка гарэліцы ці куфаль піва. Багацейшая публіка ішла ў суседні новы дом, для чаго не абавязкова было выходзіць на вуліцу — разумныя гаспадары з'ядналі абодва будынкі пераходам. У тыя дзверы ўвесь час бегалі служкі з поўнымі збанамі і талеркамі.

Памяшканне пакуль знялі, якое было: аддзелены паркалёвай занавескай куток з сеннікамі, кінутымі дзе на нізкія лаўкі, дзе проста на падлогу.

Малая князёўна так і лезла падзівіцца, як з дзядзькі Давыда дастаюць кулю, і Лёднік сярдзіта загадаў Алесю адысціся з амерыканачкай куды падалей.

А дужа занятага венецыянца Эрнэста знайшлі толькі ўвечары, у новазбудаваным гульнявым доме, куды Пранціша і Лёдніка гардыяны прапусцілі за срэбны талер і з умовай пакінуць зброю ў спецыяльным куфры пры ўваходзе.

Затое Эрнэста, белазубы ды чарнявы, быццам абсмалены, з выспай лысіны ў кароткіх курчавых валасах, пабачыўшы Пранціша, не закапыліў губу — маўляў, колькі тых жаўнераў праз карчму прайшло, усіх не прыпомню… Шчыра ўзрадваўся, абняў.

— Benvenuto! Сіньёр Франтасіё! Ніколі не забудуся, як пан выратаваў мяне ад шалёнага кліента, які ледзь шабляй сваёю не нарабіў бяды ў «Залатым ільве»… Рады бачыць, што ваенныя віхуры пакінулі вас не толькі жывым, але ўзмужнелым! Можа, сіньёр Франтасіё стаўся сямейным чалавекам?

Вырвіч падзяліўся навінамі асабістага жыцця… Ого, дык ці не выпіць за жонку і сынка шаноўнага сіньёра? Бо і ў Эрнэста нядаўна прыбаўленне ў

сям'і, трэцяя дачушка нарадзілася… Шкада, Бог сыноў не дае, але дзяўчыначкі-анёльчыкі чарнавокія — уцеха сэрца бацькоўскага...

За збанам віна — дарагога, празрыстага, як кроў Сільфаў, расповеды венецыянца ліліся, бы з дзіравага вядра. Мару — пабудаваць гульнёвы дом, падобны славутаму рыдота ў квартале Сен-Марка, Эрнэста, які прыжаніўся на дачцэ ліцвінскага карчмара, здзейсніў дзякуючы выпадку і, вядома, святому Арману, апекуну рэстаратараў ды піваvaraў. Неяк спыніўся ў карчме граф Лудус, чалавек яшчэ досыць малады, але неверагодна разумны. І абыграў усіх. Патрапіліся двое ў пазалочаных карэтах — без карэтаў з'ехалі. Граф пераначаваў, папіў з Эрнэста к'янці… Выслухаў расповеды пра кавярні і казіно залатой Венецыі… І ўклаў грошы ў гэты вось будынак, не шкадуючы.

Вырвіч агледзеўся… Не параўнаць з «чорнай карчмой». На сценах шпалеры ў кветачкі. Падлога нашараваная воскам. Буфеты з херувімчыкамі. Што ж, таямнічы граф Лудус не памыліўся, разлічваючы, што сюды пацягнецца багатая публіка. Якраз у глушмені, далей ад спраў, ад цікавання сваякоў і знаёмцаў, і зручна мантачыць маёмасць… Граф пасля адкрыцця пайграў колькі дзён, каб надаць установе рэпутацыю саліднага прытона, з'ехаў у Кракаў і атрымлівае працэнт ад даходаў «Залатога льва». Абавязкова, як будзеце ў Кракаве, знайдзіце графа ў доме з сінімі рыбкамі. Перадайце прывітанне ад Эрнэста Манчыні, і Кракаў ля вашых ног.

Венецыянец шчоўкнуў пальцамі, і служка ў бялюткім фартуху бегма паставіў на стол штоф з бурштынавай вадкасцю. Калі бурштын забулькатаў у шклянкі, Вырвіч па густым ёлкім паху зразумеў: старка! Пры нараджэнні сына ў сумленных шляхецкіх сем'ях налівалі гарэлку ў новую дубовую бочку, і адкаркоўвалі толькі, калі хлапцу споўніцца дваццаць адзін год.

А да старкі шкалонда вэнджаная з кменам, гусіныя вантробы з чорнай падлівай ды брахоцкі сыр, жоўты, як поўня ў зорную кастрычніцкую ноч…

Пасля першай жа чаркі гаспадар, умела скіраваны агідна цвярозым Лёднікам, працягнуў сагі і быліны пра ўлюбёную далёкую Венецыю. Эрнэста, хоць больш дасягнуў у справе кухарскай, якая яго і прывяла на Беларусь — з барнаботаў, збяднелай венецыянскай арыстакратыі, што жылі з картачнай гульні і сяліліся ля царквы Святога Барнаба. Згодна з законам, патрыцыям было забаронена займацца рамяством. А калі яны рабіліся такімі беднымі, што не маглі ні адукацыю атрымаць, ні апрануцца ў шоўк, каб прыйсці на паседжанне гарадской рады, улады вылучалі небаракам мізэрную дапамогу з умовай — не жаніцца і не мець нашчадкаў, каб не пладзіць жабракоў. Вось Эрнэста, які якраз пад той закон падпадаў, і ўцёк на Беларусь, прыляпіўшыся да світы аднаго ліцвінскага князя: ведаў некалькі рэцэптаў народных страў і не лічыў за ганьбу іх гатаваць. А да гульні здольнасцяў не меў — Фартуна ў ягонай прысутнасці слепла і глухла. А шкада… На кожным кроку ў горадзе Льва былі гульнявыя дамы. Нават на пляцы Святога Марка паміж калонамі стаялі гульнявыя столікі, куды кожны мог падысці. Іх калісьці дазволілі ўладкаваць там у якасці ўзнагароды архітэктару Нікола Барацьеры, за тое, што паставіў на пляцы калоны, з Канстанцінопаля прывезеныя на караблях. Барацьеры падняў тыя калоны метадам мокрай вяроўкі — калі вяроўка высыхае, яна, як вядома, робіцца карацейшай… Праўда, няўдача спасцігла: адна калона ўпала ў мора. І дасюль не знайшлі. Гадаюць, якой была. На дзвюх жа ўсталяваных — святы Тэадор з дзідай і кракадзілам і Залаты Леў з Евангеллем, сімвал святога Марка… Так, каменны леў, вялізны, з разяўленай пашчай. Ці падымаўся хто на тыя калоны? Хіба што вароны, галубы ды чаіцы марскія. Каб вы бачылі тыя грамадзіны, сіньёры! З цэльнага граніту, гладкія, як шкло. Але венецы-

янцы — спрытнюкі. Штогод пад канец карнавалу хтосьці ўскараскваецца па вяроўцы на званіцу Сан-Марка. Мусіць, і на калоны падымаліся, толькі сам Эрнэста таго не бачыў.

Ну вось і з'ясавалася пра хованку святога рога…

Раптам звычны гуд карчомнага жыцця перакрыў дзявочы віскат. Амерыканачка!

Вырвіч і Лёднік кінуліся на крык.

Пакой на другім паверсе, з дываном і высокімі бронзавымі кандэлябрамі, быў як восеньскім лісцем засыпаны картамі. Віновыя дамы і жалудовыя каралі разгублена надзімалі яркія вусны. Адлічаны студыёзус Аляксандр Лёднік настаўляў аголеную шаблю на сваіх праціўнікаў, прыкрываючы княжну Багінскую, а тая, вызіраючы з-за свайго абаронцы, вішчэла пагрозна:

— Вы не мелі права заручаць мяне без згоды пана-бацькі! Вярніце мяне майму бацьку, пану Гервасію Агалінскаму!

А вось і той, на каго паненка крычыць… Пан Брастоўскі ўласнай персонай!

Лёднік, узброены кандэлябрам, умомант адкінуў гардыянаў Брастоўскага ад сына, вянгерац вагой зусім не з кураня адляцеў ад скіраванай на яго далані Чорнага Доктара, хаця той, здаецца, і не дакрануўся… Амерыканачка ажно падскоквала з віскам захаплення: «Так, так іх, пан магік!»

Вырвіч паўдзельнічаў у вікторыі з прыхопленай ля грубкі качаргой, змусіўшы апошняга гардыяна прысесці ў кут, трымаючыся за анямелае плячо.

— Мама мія! Маледэта! — лаяўся ў дзвярах няшчасны гаспадар «Залатога льва», запусціўшы рукі ў валасы — выспа лысіны мусіла пашырыцца.

— Уражвае! — князь Брастоўскі нат шаблю з похваў не дастаў, і спыніў жэстам сваіх людзей, што ірваліся да сатысфакцыі. — Вы, пан Лёднік, сапраўды… неардынарны чалавек. Хоць зблізу бачу вас упершыню.

Што ён вярзе? Пан з задавальненнем назіраў разгубленасць нечаканых нападнікаў:

— Паненка дарэмна вінаваціць мяне ў сваіх нешчаслівых заручынах. Я — пан Адам Брастоўскі. І дзеянні майго браткі-блізнюка Міхала зазвычай не ўхваляю, а часам і ўсяляк ім перашкаджаю.

Вось табе на… Патрапілі проста ў рукі таго, ад каго хаваліся, апранаючы балаганныя ўборы… І зноў усё з-за паненкі Багінскай-Агалінскай, вось жа паслаў лёс назолу!

Аказалася, паненка згледзела прыезд пана Брастоўскага і вырашыла прасачыць: што ягамосць тут робіць, калі мусіць быць зусім у іншым месцы? Ці не ўдасца даведацца пра лёс бацькі? Выслізнула спрытненька з-пад увагі малодшага Лёдніка, пралезла ў пакоі… Была заўважаная… Не дзіця — зброя небяспечная!

Брастоўскі між тым, не зважаючы на аголеныя шаблі, спакойна і трохі здзекліва разважаў:

— Значыць, вось каго братка паслаў здабываць пацверджанні радавітасці Цялка! Не разумею, як вы з Ашмянаў выбраліся праз маіх шпегаў. Ты ж, Лёднік, зараз ці гнісці ў турме мусіш, ці магільных рабакоў карміць за забойства маёй пляменніцы. А ты яшчэ і другую маю пляменніцу скраў. Вы ж, спадзяюся, ведаеце, што мая жонка — родная цётка гэтага мілага дзіцяці? Ну што, загадаць вас перастраляць, як курапатак, альбо пагутарым шчыра?

Выслухаўшы версію падзей, Брастоўскі злосна пакрывіў вусны.

— Мне паведамлялі, што да пана Караля ў Венецыю падаслалі забойцу. Здрадніка з альбанчыкаў, які перакінуўся да ворагаў з-за выгаднай жаніцьбы.

На шчасце, яго ўдалося схапіць, — пан Адам пастукаў даланёй па ломберным століку, за якім, відаць, паспеў прайграць не адну залатую карэту. — Значыць, пану-дабрадзею Каралю Радзівілу спецыяльна ў вушы ўвялі, каб бацьку гэтай паненкі прыбраць, і Міхал мог яе ўдачарыць і здзейсніць свой гешэфт са Штакельбергам. Ганьба якая… Бедны пан Караль, кругом яго адны здрайцы ды шпегі… І першая — жоначка, Тэрэза са Ржавускіх, змяюка…

Апошняе імя пан вымавіў ажно з прысвістам ад нянавісці.

— Падумаць толькі, што і з ёю мы ў сваяцтве апынуліся! Гэта ж мой братка зрабіў яе хроснай маці маіх пляменніц.

— І панны Праксэды? — ускінуўся Лёднік. Падобна, лёс асістэнткі ўсур'ёз не даваў яму спакою.

— І яе, — скрывіўся пан Адам. — Думаеце, Міхал такі вось добры, з-за пакутаў сумлення паклапаціўся пра дзіця, прыжытае ў Нямеччыне і асірацелае? У іх дамова. З пані Тэрэзай і Юзэфам Радзівілам, старостай менскім, які зараз лапу наклаў на маёнткі нашага пана Караля. Ведаеце самі, што бацька Юзафа, вар'ят Марцін, дзяцей сваіх так збіваў, што ў Юзафа — горб. А брат ягоны малодшы Якуб дык зусім пачвара. Сам яго не бачыў, але дакладна ведаю — дурань, да жабы падобны, толькі бурбалкі ўмее пускаць. Але калі яго прызнаюць дзеяздольным, можа прэтэндаваць на кавалак бацькавай спадчыны, які быў у маёмасці пана Караля, а зараз у секвестры пад каронай. Тут адзіны сродак — жаніць. Але не на простай дзеўцы, а, паводле тастаменту Марціна, каб у далёкім сваяцтве з Радзівіламі была. Як Брастоўскія. Вось і дамовіліся: дачка Міхала, памылка юнацтва, як падрасце, выйдзе замуж за вар'ята. Яе мужу перадаюць належныя ўладанні, іх дзеляць мой брат і пан Юзаф. Ну і пані Тэрэзе, якая ўсё і прыдумала, за спрыянне штосьці перападае. Пан Караль, як з ёй развядзецца, ні перліны паскудніцы не пакіне.

Хтосьці загарлаў, патрабуючы прынесці новую калоду, бо карты мечаныя, яму адгукнуўся хор гэткіх жа абураных галасоў. Брастоўскі на імгненне ўслухаўся, хмыкнуў, ягоны абцас няўважна прыціснуў званowага валета.

— Паўсюль шалберства… Дык вось, Праксэду прывезлі, забраўшы ад бедных сваякоў у Прусіі. Тэрэза Ржавуская ўзялася яе выхоўваць, пахрысціла з лютаранства. Тады аддалі піярам, з тым, каб вучылася медыцыне, догляду за цяжка хворымі. Бо гарбаты староста жадае, каб няшчасны брат займеў ідэальную жонку. Дачакаліся спрыяльнага моманту, каб прэтэндаваць на ўладанні. Але перад шлюбам Праксэда ўцякла.

Вось цяпер зразумела, чаму панна апынулася на вуліцы, і адкуль веды ў медыцыне.

— Пані Тэрэза была ў Гародні перад тым, як Праксэда знікла, — вочы Лёдніка гарэлі цёмным гнеўным агнём. — Ці не яна стаіць за гэтым знікненнем?

— Але чаму тады Міхал нічога не ведае? — усумніўся пан Адам. — Яны ж заадно ў гэтай справе… І нашто разыгрываць смерць Праксэды? Яна ж патрэбная ім менавіта жывой!

Сапраўды, не сыходзіцца… Пранціш пераступіў з нагі на нагу: з магнатамі размаўляць — трэба добрае здароў'е мець.

— А вось прыбраць Лёдніка з жыцця і мяне з пасады суддзі якраз маглі абодва, змовіўшыся — і пан Юзаф Радзівіл, і пані Тэрэза. Каб не паспрыялі вяртанню пана Караля.

— Верагодна, — згадзіўся Брастоўскі. — Але князь наш вернецца не просьбітам, а пераможцам! Па дарозе, пракладзенай нашымі шаблямі!

Рука пана Адама на ломберным століку сціснулася ў кулак.

— Зараз трэба ўсім патрыётам забыцца на старыя звады і збіраць войска, новую канфедэрацыю! Аднаўляць Рэч Паспалітую! Пан Міхал Багінскі якраз гэтым займаецца. Ягоная сястра, мая жонка, абуралася жахлівым лёсам абедзвюх сваіх пляменніц… — Брастоўскі шматзначна зірнуў на малую князёўну. Ясна, гуляе ў дабрадзея: такі ўжо ён абаронца няшчасных дзяўчат.

— Таму лічу, Бог вас паслаў у гэты прытон… Не толькі ж грошы мне тут губляць, — Брастоўскі незадаволена крэкнуў, памацаўшы чамусь сыкгнет з зыркім смарагдам. — Міхал, мяркуючы па ўсім, ейнае знікненне будзе трымаць у таямніцы. Так што паненку Рэгіну Агалінскую я схаваю ў сябе… Прысягаю — стане панначка жыць вольна…

— Значыць, пан дзядзечка, на паляванне можна хадзіць? — ажывілася Рэгінка, камечучы ў руках шляхецкую шапку.

Брастоўскі трохі папярхнуўся, але выходзіць з ролі выратаваўцы не выпадала.

— Д-добра, будзе вашаймосці паляванне… Дарэчы, мая жонка, Караліна з Багінскіх, паляванне любіць. Гарнастаю ў вока цэліць.

Рэгінка зірнула на сваіх спадарожнікаў.

— Але, вашамосць дзядзечка, я еду ў Венецыю, тату выручаць.

— І гэтыя паны яго выручаць. Атрымаюць ад мяне ліст да пана Караля Радзівіла, той загадае вызваліць вашага тату. А вас зараз шукаюць. Вы ж не хочаце, каб вас пазналі, вашых рыцараў схапілі, а пан Агалінскі назаўсёды застаўся ў вязніцы?

Адам Брастоўскі старанна змякчаў голас. Пранціш пакруціў галавою: не было асаблівай веры... Але нарэшце пазбавіцца ад Агалінскай… Вырвічу было трохі сорамна, але карцела зараз жа запакаваць шкадлівую панну ў залатую паперу і ўручыць князю.

Рэгінка падбегла да Лёдніка-старэйшага, тузанула за рукаў:

— Пан доктар-магік, вы прывезяце майго тату?

— Абяцаю, вашамосць, — Лёднік быў вельмі сур'ёзны.

— Але ўзамен паны мусяць дапамагчы ягонай княскае мосці Радзівілу здабыць самі ведаеце што…— памазаў дзёгцем іхнюю лусту Брастоўскі. — Пан Караль лепей управіцца са святыняй, чым Панятоўскі.

За сцяной загарлалі: «Туз! Віновы туз, вашыямосці! Мая партыя, васпане!»

— Але, вашамосць, мы дасюль не ведаем дакладна, дзе тая рэч, ці ацалела яна… — Пранціш намагаўся гаварыць пераканаўча. Лёднік агучыў сваю трывогу:

— Насмелюся нагадаць, брат вашае княжацкае мосці намякаў, што мае жонка і дачка, якія зараз знаходзяцца ў Полацку, зробяцца закладнікамі маёй паслухмянасці…

Адзін замежны пасол, якому давялося пабываць у Нясвіжы, доўга абураўся тым, што на ранішняй службе ў прыдворнай капліцы, калі жонка пана Міхала Казіміра Радзівіла спявала словы псалма з удакладненнямі «Я тое ўчыніла на небе, каб узыходзіла бясконцае святло», прыдворныя дружна ёй кланяліся і спявалі: «Пакорліва дзякуем вашай княжацкай мосці».

Брастоўскія абодва таксама лічылі, што могуць узняць ці пасадзіць само сонца.

— Не забывайце, вашыямосці, што я пакуль яшчэ кашталян Полацкі, і магу абараніць… ну, альбо пакараць, любога з гараджанаў. А святую рэч адшукаеце. Вы ж вучоныя, да таго ж людзі баявітыя. Вунь што тут вытваралі. Каб я Каліёстра ды Батысту ў Варшаве не бачыў, дык палічыў бы цябе, Лёднік,

з тваімі ўдарамі на адлегласці нячысцікам. Усё, хай святы Георгій вам дапамагае. Ну і святы Тарэла, да якога Панятоўскі прымазваецца.

Пан нецярпліва махнуў рукой, паказваючы, што гэтая частка спектакля закончаная.

— Нясіце карты.

Тонкія ноздры князя Адама ажно раздзімаліся ад п’янкога прадчування іншай баталіі… Пафасныя словы пра лёс Айчыны патроху развейваліся над ломберным столікам, як дым ад свечак.

…На гэты раз да прыгодаў іх везла запрэжаная двума коньмі сціплая брычка са скураным навесам. Ад фурмана адмовіліся. Мець пры сабе шпега? Патэнцыйнага здрадніка, як Фульчык? Лепей па чарзе трымаць лейцы.

Зараз была чарга Пранціша.

Дарога нагадвала кепскі верш, з перабоямі ў рытме і рыфмах. Трапілася некалькі спаленых сядзібаў. Невялікі цагляны храм, які перахрышчвалі ў розныя канфесіі, сумна глядзеў услед чорнымі прагаламі выбітых вокнаў, а на ягоным вострым даху паблісквàў цудам захаваны крыж. Пранціш адсёрбнуў з філіжанкі ігуменскай медавухі, на рабіне настоенай. І ўсё ж быў у гэтым панылым краявідзе нейкі заварожваючы спакой і шчымлівая прыгажосць… Быццам ты вечна будзеш трэсціся па праданай зямлі ў чужой павозцы…

Але за спінай былі свае людзі… І гэтыя свае, вядома, сварыліся. Шкада, Давыда давялося пакінуць у карчме… Аптэкар умеў наладжваць адносіны нават з вулканам у момант вывяржэння.

— Я заўсёды марыў быць гэткім жа смелым, як ты, бацька… — у голасе Аляксандра чуўся ледзь прыхаваны гнеў. — А ты… Ты нават баішся расказаць, хто мая сапраўдная маці!

Юнак, падобна, сам спалохаўся сваіх слоў, бо на апошнім аж голас сарваўся.

— Яна была добрай і гожай.

Пранціш вушам не верыў: Бутрым наважыўся?

— Памерла праз тры гады пасля твайго нараджэння. У яе было… не вельмі шчаслівае жыццё.

Бутрым зноў закашляўся. У павозцы на нейкі час запанавала маўчанне, чулася толькі рэзкае дыханне Лёдніка, ды вецер трапаў скураныя бакі навесу, так што падавалася, быццам у павозку набіліся прывіды.

— Чаму ж ты не звёз яе, не забраў — разам са мною?

Бутрым загаварыў ціха і глуха.

— Я быў рабом. Бяспраўным слугою. Яна мяне выратавала, калі мой уладальнік ледзь не закатаваў мяне.

Аляксандр недарэмна ўспадчынніў бацькаву здольнасць да навуковых высноў.

— Я чуў, ты быў слугой пана Агалінскага… Значыць…

— Так, ты нарадзіўся ў сям’і Агалінскіх. Пра што дадзена слова гонару не распавядаць.

— Уандэфул! Дык пан Аляксандр мой брат?

Штосьці зноў зашаргатала, і гэта быў не вецер. З-за наваленых трантаў — Эрнэста дапамог на грошы абодвух Брастоўскіх разжыцца зімовай вопраткай, якая вось-вось спатрэбіцца — выпаўзала князёўна Багінская-Агалінская, і рабацінкі на ейным носіку ззялі, як алхімічнае золата.

Вырвіч ажно лейцы рэзка нацягнуў, і брычка тузанулася і спынілася пад абуранае фырканне коней.

— Толькі не зноў… — прастагнаў скрозь зубы Пранціш. У Бутрыма рука пацягнулася перахрысціцца.

Але паненка ўжо ўселася побач з заўважна збялелым Алесем, скардзячыся на падступных Брастоўскіх, якім карціць вучыць яе манерам і трымаць пад замком. А яна лепш дапаможа сваім рыцарам! З ёй ім дакладна будзе весялей!

— Fifteen men on a dead man's chest,
Yo ho ho and a bottle of rum!

**РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ**

## Як Пранціш Вырвіч у фараона гуляў

Вясёлае места Кракаў… Гэта нічога, што пачаўся ён з таго, што дачка князя Крака Ванда кінулася ў раку, абы не пашлюбавацца з нямецкім рыцарам. Нічога, што пасля пажару званне сталіцы адабрала ганарыстая Варшава, а апошні кароль не захацеў тут каранавацца… Вядома, ганьба — што цяпер горад апынуўся на памежжы падзеленай краіны, і на тым беразе Віслы аўстрыякі будуюць свой горад… Што Кракаў увайшоў у новаствораную аўстрыйскую правінцыю — Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, гонар быць сталіцай якой аддадзены Львову.

Але стаіць на Вавелі Злодзейская вежа, б'е звон па імені Сігізмунд на касцёле Святога Станіслава, цікуюць з трыснягу і прыбярэжных пячораў цмокі за прыхаднямі… Рана ці позна ўхопяць жалезнымі зубамі за бот.

І, вядома, ніхто не змусіць нат у самыя цяжкія часы кракавяніна забыцца на месцы, дзе можна пацягаць за валасы Фартуну. Мясцовыя гульнявыя дамы ўся Еўропа ведае. Вось перад адным з іх і стаяла кампанія… Так, гэта не карчма «Залаты леў» у беларускай глыбінцы. Каменны гмах на тры паверхі, з пазалочанай ляпнінай, крыху паадбіванай кулямі, і трыма сінімі рыбкамі са смальты на фасадзе. З вокнаў чулася гранне віяланчэлі і флейты. Паны і пані, якія падымаліся па засланых дыванам прыступках, былі ў паўмасках.

— Нашто нам усім перціся ў гэты прытон? — незадаволена бурчэў Лёднік. — Давайце я адзін схаджу…

— Ага, а потым зноў цябе выцягвай з якой-небудзь студні! — Вырвіч паправіў шапку на спацелых валасах — вечар быў нечакана цёплы. — І Алеся з паненкай ніяк пакідаць нельга, спрабавалі ўжо. Да таго ж, бачыш — у масках можна ісці.

Шустры хлапчыска ажно падскокваў ад цікаўнасці.

— Мяне пан-бацька браў у салуны! Там таксама музыка, і ў карты гуляюць! А потым страляюць!

Выхавацель з пана Гервасія Агалінскага быў слабы. Вось Алесь напэўна ніколі ў руках ігральныя карты не трымаў: Лёднік спасылаўся на меркаванне віленскага святара, што на картах выкарыстана хрысціянская сімволіка, каб яе зганьбіць. Крыж, дзіда, на якой Хрысту на Галгофе падавалі губку з воцатам, кубак, у які сабралі ягоную кроў…

А Вырвіч перакідваецца ў рамса ды мар'яша з цесцем, ды яшчэ хваліцца, якім адметным гульцом у юнацтве быў.

Вось і цяпер — варта было апынуцца паміж сталамі, пакрытымі зялёным сукном, між паноў у камзолах, жупанах, вянгерках, пані ў дэкальтэ і крыналінах, і ўсе ў масках і з аднолькавым хворым бляскам у вачах — аж галава

былога суддзі закруцілася. І крыўдна, што не далучышся да агульнага шчасця. А вунь за дзвярыма — більярд, нехта ў навамодных нагавіцах-кюлотах наваліўся на зялёны стол, цэлячы кіем… І звонкі стук шароў са слановай косткі!

Дзіўна, але там-сям чулася руская мова, і нат бачыліся расейскія мундзіры… Граф Лудус у добрых адносінах з уладамі і расейцамі.

Галоўнай забабай на сёння была модная навінка: Пранціш такога яшчэ не бачыў. Кола з ячэйкамі, у якое пускалі шарык. Кола круцілася, шарык трапляў у якуюсь ячэйку, пазначаную нумарам…

— Рулетка, — пагардліва шапнуў на вуха Пранцішу Лёднік, яшчэ больш надзьмуты і змрочны ў гэтым котлішчы граху. — Прыклад, як навуковае вынаходніцтва прыстасоўваюць для мізэрнага і нявартага. Прыдумаў вялікі Блез Паскаль, калі шукаў сакрэт вечнага рухавіка…

Паколькі таямнічага гаспадара прытона, графа Лудуса, падобна, давядзецца яшчэ доўга чакаць, Пранціш наблізіўся ўшчыльную да спакуснай забавы. Ля кола ўжо цікавала Рэгінка ў новенькім блакітным камзольчыку і парычку з сіняй стужкай, яе моцна трымаў за руку, але не мог адцягнуць, раздражнёны Алесь. На шустрае дзіцятка ніхто ўвагі не звяртаў, бо з дзясятак прагных вачэй, не адрываючыся, сачылі за рухам шарыка. Калі ён спыніўся на лічбе «зяро», тут жа пачалася мітусня, крыкі, ці радасныя, ці расчараваныя, замільгалі ў руках паперкі, зазвінелі манеты… Малады хлопец у пацёртым зялёным сурдуце і зялёнай паўмасцы, што спаўзала ўвесь час набок, нічога ў рукі не атрымаў. Ён апусціў галаву, рэдкія светлыя валасы зліпліся, рукі сутаргава ўхапіліся за край стала… Хоць малюй з яго карціну «Адчай».

Але вось зноў шарык мусіў пакаціцца па коле, і зноў гарэлі прагай вочы, як у ваўкалакаў… Толькі светлавалосы хлопец, не ў змозе сачыць, як вырашаецца ягоны лёс, стаяў, захінуўшы твар рукамі, якія заўважна дрыжэлі. Па ўсім відаць, толькі што выграб апошнія манеты са сваіх кішэняў, каб паставіць на лічбу сем. Ды ён жа маладзей за Алеся... Пранціш адчуў востры ўкол шкадобы.

Шарык паціху спыняўся… І ясна было, што ён не патрапіць на тую лічбу, на якую паставіў усе свае грошы хлопец. А ў таго ўжо плечы пачалі трэсціся… А гардыян паглядае падазрона, ці не час выштурхнуць немаёмаснага гульца, пакуль не ўчыніў плач Іерэміі?

Раптам з-за спіны быццам павеяў вецер… У роце з'явіўся слабы мядзяны прысмак... Шарык нібыта падштурхнула нечая нябачная рука, а потым рэзка прытрымала.

Светлавалосы гулец апусціў рукі і яшчэ ціха ўсхліпваў, але на твары яго праяўлялася недаверлівае шчасце…

Пранціш у неразуменні азірнуўся. За спінай стаяў Лёднік, які адразу ж адвёў вочы. Не можа быць! Ён жа забараняў сабе карыстацца сваімі адмысловымі здольнасцямі!

Тое, што Лёднік перахрысціўся, прамармытаў пакаянную малітву і знарочыста ўтаропіўся ў другі канец залы, пацвердзіла здагадку… Пашкадаваў хлапчыску… Які зараз, ашалеўшы ад шчасця, напэўна прайграе ўвесь свой выйгрыш, не ведаючы, што той падораны міласэрнасцю былога полацкага алхіміка.

Але да гасцей, мяркуючы па паважлівым шуме, набліжаўся той самы таямнічы граф Лудус. Ён быў з адкрытым тварам. Пранціш ажно вочы працёр…

— Міхаська! Міцкевіч! Ты?

Сцягнуў паўмаску.

— Вырвіч! А я ўжо думаў, не пабачымся!

Былыя сябры па Менскім езуіцкім калегіюме абняліся. Ну так, у Міхаські яшчэ там было прозвішча «Гулец», што, уласна кажучы, на лаціне і ёсць «Лудус».

Значыць, здзейсніў свой намер стацца каралём шулераў.

— Чаму ж не выбраць ролю ваўка, а не авечкі, якую стрыгуць, — выскаліўся граф Лудус, калі яны сядзелі ў шыкоўным гаспадарскім пакоі з непустымі келіхамі ў руках, і граф атрымаў пасылку — свой працэнт ад «Залатога льва», і настаў час успамінаў і прызнанняў старых сяброў. Лёднікі з Рэгінкай, якую прадставілі як Антонія, малодшага сына доктара, далікатна перайшлі ў іншую залу, любавацца бібліятэкай і калекцыяй зброі.

— Праз што прыйшлося прайсці — не пытайся. І абдзіралі як ліпку, і збівалі за занадта ўдалую гульню… Пальцы ў кроў сціраў, штукарствы засвойваючы.

Вырвіч адразу ўспомніў Лёдніка, які валодаў гэтай жа здольнасцю — не шкадаваць сябе, каб засвоіць нейкае ўменне.

— Ну, пабачыце Эрнэста — перадавайце вітанне. Удала я ўклаўся ў ягоную карчму… Грошы лішнія меліся, якраз тады ў Вільні пана Міхала Брастоўскага добра аблупіў.

Вось хто вінаваты ў бядотным становішчы падскарбія літоўскага!

Вырвіч адпіў віна, ягоны келіх адразу напоўніў матэрыялізаваны нібыта з паветра лёкай. Паколькі Лёднік больш не сачыў дакорліва за кожным глытком, віно ў горле не перасядала. Галава пачала ўжо трохі круціцца. Ды хіба ён не шляхціц, не можа даць сабе волі ў сяброўскай бяседзе? Ты не стрыяшка і не вуяшка, будзь здаравенька, пляшка!

Граф Лудус прыжмурыў хітрыя светлыя вочы — а ладны дзяцюк стаў, плячысты. Сапраўдны граф. Твар спешчаны, напудраны, парык модны з тупеем, кашуля галандская, камзол шэры парчовы…

— Дык і ў цябе, Пранціш, вялікія здольнасці да гульні… Няўжо занядбаў? Зброя і карты — тое, чым павінен дасканала валодаць шляхціц. А ты, мусіць, зусім развучыўся… Любы шчаўлік абыграе.

Пранціш весела падміргнуў:

— Не раіў бы тваім шчаўлікам са мной калоду перакідваць. Тое-сёе магу.

— Ну давай, пакажы! Успомнім шкалярскія гады!

Міхаська ўсміхаўся так ветла, віно было такім заборыстым, што Пранціш сам не заўважыў, як аказаўся за сталом з яшчэ двума гульцамі. Адзін, немалады і насаты, гаварыў з нямецкім акцэнтам, другі, малойца ў залацістым касцюме, меў на шчацэ шнар, які не магла цалкам прыкрыць маска.

Пачалі ў фараона, гульню самую модную, хоць у многім ад Фартуны залежную, а не ад майстэрства. І Вырвіч праявіў сябе сапраўдным улюбёнцам Фартуны. Стопкі талераў высыпаліся перад ім, цэлая залатая горка! Малойца ў залацістым касцюме і немец ажно за парыкі хапаліся… Лёкай не забываўся папаўняць Пранцішаў келіх, Міхаська глядзеў з сапраўдным захапленнем… Не заняпаў былы шкалярскі правадыр, не страціў спрыту!

Урэшце малойца паставіў на кон цэлую вёску… І прайграў! А перад гэтым на рахунку Пранціша аказалася карэта немца… Ашалелы Вырвіч не мог ачомацца. Цяпер яму не трэба будзе пераймацца, што жыве ў жончыным маёнтку, ажаніўся з багацейшай… Падобна, на выйгрыш ён зможа збудаваць цэлы палац!

А потым набытае багацце пачало неяк раставаць. Вырвіч разгублена глядзеў на апошнюю залатую манетку, якую, аднак, зараз жа спрытна падгрэбла чужая рука.

— Ну, яшчэ разок? — Міхаська ўсміхаўся так весела, што ўсё здавалася сном. — Давай, Пранціш, братка, у мяне прыкмета дакладная: Фартуна зноў усміхнецца!

Вырвічу і абмацваць кішэні не трэба, ведаў, што пуста… Зразумела, ён — чалавек самавіты, не тое, што тыя, хто да кашулі прайграецца. Ставіць на кон цесцеў маёнтак ды жончын пасаг не збіраецца. Ёсць спакуса ў Лёдніка, галоўнага скарбніка кампаніі, грошай пазычыць, але былы прафесар толькі лекцыю прачытае, як студыёзусу.

Графу Лудусу Вырвічавы парыванні былі ясныя, бы крайчаму — гатунак віна.

— Ну якія рахункі між старымі сябрамі? Хіба ж я не паверу свайму аднакласніку, з якім разам у вокны калегіюма лазілі? Давай штосьці ўмоўнае ў заклад… Ну, дапусцім мы ацэнім у сто тысяч злотых пацалунак тваёй жонкі… Ці што да кожнага з тых, хто выйграе, прыйдзеш пешкі з хамутом на шыі і ў ручку цмокнеш, ці што твой спадарожнік, надзьмуты такі, тут карты параздае…

Вырвіч зарагатаў: так смешна агучваў Міхаська неверагодныя прапановы! Адразу ўспомнілася, як яны разам прыдумлялі страшныя клятвы, якія мусіў даваць кожны чалец іхняй банды ў калегіюме. Уласныя зубы ў бот ссыпаць, пячонку змеям скарміць… Ну, Дамініку ў любым выпадку ўмешваць сюды нельга. І з хамутом на шыі нават жартам сябе ўявіць немажліва. Вось Лёднік з ягонай злавеснай поснай фізіяноміяй, які раздае карты — гэта смешна!

Пранціш адсёрбнуў віна… У вушах шумела. Ну, давай, Фартуна, дары сваю ўсмешку! Жалуды і кубкі на картах мітусіліся, як мурашкі.

— Ну што ж, пан Вырвіч, мы ўжо і так загуляліся занадта... Панам Факльштайну ды Пшадзецкаму час дамоў. Не сумняюся, што пан трымае слова і гонар шляхецкі шануе. Ці не так?

Вырвіч мыкнуў у пацверджанне…

А нараніцу і з’ясавалася наконт гонару і слова… Аказваецца, Вырвіч прайграў учора ў карты год працы Лёдніка ў гэтым гульнявым доме, у заклад ста тысяч злотых.

Не, усё не так жорстка, не ў якасці прыслугі і тым больш вязня. Пан Лёднік проста стане асабістым памочнікам графа Лудуса, паселіцца ў найлепшых пакоях і нават займее працэнт ад даходу. А тады, як рассмакуецца, сам не захоча гэтую справу кідаць. Мільянерам стане — з ягонымі здольнасцямі!

Пранціш глядзеў на вясёлага гаваркога Міхася Міцкевіча, які распісваў перспектывы доктара ў гульнявой справе, галава гула, як разгайданы звон, і хацелася праваліцца скрозь паркетную падлогу, а тады яшчэ ніжэй. Бо побач стаяў Баўтрамей Лёднік, і перавесці на яго вочы было страшна

— Вырвіч, вы што, мяне ў карты прайгралі?

Пранціш спрабаваў аднеквацца… Але тут жа з’явіліся ўчорашнія напарнікі па гульні і ўсчалі вэрхал пра святасць картачнага доўгу…

Вядома, Лёднік мог адмовіцца расплачвацца за сябра. Тады таму належала здабыць сто тысяч злотых, што была сума проста фантастычная. Адмовіцца выплаціць такі доўг — ганьба, усё роўна, як пабаяцца пайсці на двубой. Уся шляхецкая грамада адвернецца, у дамы не пусцяць. Даўжніка маглі аддаць пад суд, забраць усю маёмасць.

Некаторыя ў такіх выпадках страляліся.

— Міхась, ды нашто табе Бутрым?

Граф Лудус таямніча ўсміхнуўся і перайшоў на шэпт:

— Я ніяк не магу ўпусціць чалавека, які адным поглядам здольны кіраваць шарыкам рулеткі.

Вось жа, адгукнулася недарэчная Лёднікава міласэрнасць!

— Думаю, доктар, вы і карты з лёгкасцю адгадваеце…

Лёднік сціснуў зубы, прасіпеў.

— Паверце, граф, вы б не хацелі пазнаёміцца з усімі маімі здольнасцямі.

Выгляд у Лёдніка быў злавесны, але граф Лудус не спалохаўся ні на каліва.

— Што вы чалавек небяспечны, пан Лёднік, не сумняюся. Чуў я пра аднаго Чорнага Доктара, якога ў Менску асудзілі за забойства дзяўчыны.

А вось гэта ўжо кепска… І тут наперад выйшаў Алесь Лёднік.

— Вашыямосці, дазвольце ўдакладніць… Наколькі я разумею, фармулёўка была наступная: «Пан Лёднік мусіць год дапамагаць графу Лудусу ў гульнявым доме». Так ці не? Вы пацверджваеце кожнае слова?

Прысутныя заківалі.

— Выдатна! Я — пан Лёднік, і я застаюся на год у доме графа.

Вырвічаў аднакласнік разгубіўся. Сапраўды, не прычэпішся… Але нашто яму гэты смаркач? Хіба што і ён… Алесь цвёрда зазначыў:

— Мушу расчараваць, я не ўспадчыннію здольнасць да магіі. І картаў у руках нават не трымаў. Так што не ведаю, як вы мяне скарыстаеце, граф.

— Пана Аляксандра нельга скарыстоўваць! Ён рыцар!

І Рэгінка выскачыла са сваёй абаронай, кулачкі сціснула.

— І, дарэчы, я таксама… пан Лёднік! Антоній Лёднік! Можа, вы мяне ў карты выйгралі?

Вырвіч глыбока ўздыхнуў… Што ж, за свае хібы трэба адказваць самому…

— Спыняем гэты фарс. Мой пройгрыш. Я афіцыйна аб'яўляю сябе банкротам, бо не ў змозе расплаціцца. І гатовы за гэта ісці ў турму. Давай, Міхась, выклікай варту.

Граф Лудус злосна ашчэрыўся… Цяпер Пранціш бачыў, як мала ў тым засталося ад колішняга пракудлівага Міхаські.

— Калі вы так настойваеце, пан Вырвіч…

Далібог, адправіць у вязніцу. Больш за тое — згноіць там. Пакуль не адсудзіць дзеля выплаты святога картачнага доўгу ўсю маёмасць, і Вырвіча, і ягоных сваякоў… Воўк, і законы ваўчыныя.

— Давайце сыграем з вамі, граф. Вы ставіце доўг пана Вырвіча, я — год свайго жыцця.

Лёднік не выказваў ні гневу, ні злосці. Ён быў спакойны і засяроджаны… Нават расслаблены. Як заўсёды перад двубоем.

Пан Міцкевіч ледзь стрымаў пераможную ўсмешку.

— Ну, за рулетку я з вамі не стану. Косткі? Баюся, вы з імі можаце тое ж, што з шарыкам рулеткі. Карты…

Доктар ганарыста ўскінуў галаву:

— У карты не гуляю — бо пакляўся.

Вырвіч, і праўда, не мог прыпомніць, каб Бутрым трымаў у руках карты ці косткі. У Лондане замест гульнявога дому доктар пайшоў у байцоўскі клуб, супраць бандзюганаў біўся, калі спатрэбіліся сродкі на выкуп лабараторыі доктара Дзі… А ў рулетцы сапраўды, кіруючы шарыкам, можна мільёны наварыць. Але калі змагацца без магіі… Граф Лудус, мяркуючы па ўсім, майстар найвышэйшы. Куды Бутрыму супраць яго?

— Застаецца більярд…— са знарочыстым сумнівам прагаварыў граф. — Гэта не грэх, гэта амаль што фехтаванне… Вы ўмееце гуляць у більярд, пан Лёднік?

Бутрым не змяніўся ні рысачкай.

— Калі вы нагадаеце мне правілы, думаю, прыпомню.

Вырвіч ажно ў валасы ўчапіўся…

— Глядзі ж, Лёднік, без твайго штукарства. Як пабачу, што шар коціцца не ў той бок, — а я пабачу гэта, не сумнявайся, атрымаеш пяро пад скабы.

Вочы Міхася Міцкевіча гарэлі нейкім жоўтым агнём: усё-ткі гульня была ягонай жарсцю, а тут чакалася адметная баталія.

У пакой з більярдным сталом адразу ж набілася народу. «Сам граф будзе іграць!», «Лудус за кій бярэцца!» Пра ягонага суперніка распытвалі з паблажлівай шкадобай. Яго прадставілі як пана Айсмана — гэта была старая мянушка Бутрыма. Пранціш, які і без таго адчуваў сябе вінаватым, быў у адчаі: ці ж выйграеш у логвішчы шалбера! Вунь Пане Каханку прыдумаў у Нясвіжы якое штукарства: у пакоі з більярдным сталом — рухомая падлога. Калі супернік Радзівіла прыцэльваўся, слугі пераходзілі на адзін бок пакоя, падлога нахілялася, і цэліцца трапна было немагчыма.

Між тым Чорны Доктар няўважна слухаў, як яму ахвотныя тлумачаць правілы гульні. Дзіўна, паненка Рэгінка звонка сакатала з веданнем справы: падобна, пан Гервасій Агалінскі дачушку і да більярда прывучыў. Бедны малы Штакельберг, ну і жонку ён атрымае праз гады, калі яму не пашанцуе адмяніць шлюб!

Бутрым скінуў каптан, застаўшыся ў адной кашулі, і нават рукавы падгарнуў. Той-сёй з цікаўнасцю ківаў на рукі доктара — далоні ўпрыгожвалі шнары, нібыта іх калісьці прабілі цвікамі. Пану Айсману дазволілі на спробу трохі паарудаваць кіем. Гледачы гучна каментавалі памылкі — не так трымае, не так цэліць… Праўда, няўклюдным прасцяком Бутрым не выглядаў: высокі, жылісты, гнуткі, нават з-пад маскі відаць — дзюбаносы, сапраўдны драпежнік… Граф Лудус толькі ўсміхаўся паблажліва.

Нарэшце доктар кіўнуў, што гатовы. Граф вытанчаным рухам нахіліўся над сталом… Шары пакаціліся па зялёным сукне.

— Ён можа так усе і загнаць у лузы адзін за адным, не даць суперніку нат ударыць… — з захапленнем прагаварылі за спінай Пранціша.

Але граф, відаць, вырашыў пакрасавацца, дазволіць Лёдніку праявіць няўмельства. І шырокім жэстам паказаў: ну, давай, даражэнькі… Бачыш, я табе нават ход саступаю!

Усмешкі, аднак, вельмі хутка з твараў пазнікалі. Доктар метадычна біў, нібыта перацякаючы з месца на месца, шары падалі дакладненька…

На некалькі імгненняў доктар застыў на месцы…

— К-курва!

Каржакаваты спадар, які прысунуўся да Лёдніка, раптам з лаянкай паваліўся на спіну. Вырвіч паспеў краем вока заўважыць, як перад гэтым Рэгінка падскочыла і з усяе моцы падбіла мацака пад калена. Ля правай рукі пана па паркеце зазвінеў доўгі стылет.

Граф злосна ашчэрыўся на паваленага хлапчыскай, і таго звалаклі:

— Кеп няшчасны!

Лёднік не зважаў на інцыдэнт, зноў працягваў рухацца хутка і метадычна. Стук! Стук! Стук! Ягоная кашуля, справа на паясніцы, была парэзаная.

Вырвіч зараз жа заняў пазіцыю за спінай доктара, перасоўваючыся разам з ім. Алесь прыпыніў слугу, які ўпарта соваў гульцу кавалак крэйды на срэбным падносе, схапіў тую крэйду, памацаў і схаваў у кішэню, шапнуў Вырвічу:

— Мылам намазана…

Стук! Стук!

Лёднік заканчваў партыю. Але апошнія шары раскаціліся неяк вельмі няўдала — і вельмі нечакана… Рэгінка тузанула Вырвіча за рукаў:

— Вунь той дзядзька сунуў руку пад стол, націснуў, і шары ўбок пайшлі…

Вось халера! Граф Лудус выскаліўся — ну дакладна воўк… Лёднік трохі падумаў, нешта павылічваў… Прыцэліўся…

Гэта сапраўды было падобна да магіі. Шар закруціўся ваўчком, пайшоў неяк па дузе…

Міхась Міцкевіч, былы шкаляр менскага езуіцкага калегіюма, моўчкі глядзеў на пусты зялёны стол, і вось цяпер Вырвіч яго пазнаваў… Гэтак жа сябрук выглядаў, калі настаўнік адабраў ягоныя ўлюбёныя астрагалы.

Публіка была ў захапленні. Пляскалі ў ладкі. Перагаворваліся, пераводзячы позірк з графа Лудуса на пана Айсмана… Людцам заўсёды ў радасць, калі хтось занадта ўмелы атрымлівае па носе, і графа ніхто не шкадаваў.

Пранціш паправіў змакрэлую аксамітную маску на твары і пакляўся сабе, што ніколі не возьме ў рукі карты.

Прынамсі, пасля таго, як вып’е.

Больш бутэлькі.

— А гаварыў, што гуляць не ўмееш…

— У мяне была бурлівая маладосць, — меланхалічна прагаварыў Лёднік, апранаючы каптан. — У Лондане я хадзіў у адзін клуб пры Медычным таварыстве… Там быў такі маркёр, Джон Дзью, ён яшчэ пасля трактат напісаў пра майстэрства гульні ў більярд. Яно сапраўды блізкае з фехтаваннем. Займаўся са мною… Але я праўду казаў — не гуляў даўно, сучасных правілаў мог не ведаць.

Пазёр…

Трэба было ўцякаць, пакуль раззлаваны ўшчэнт граф не прыдумаў якой помсты.

Ля ганка пахістваўся светлавалосы юнак у расшпіленым камзоле, ягоныя вочы былі чырвоныя і запухлыя ад недасыпу, слёз і віна. Камяк бруду паляцеў у спіну Лёдніка:

— Здраднікі! Знішчылі Польшу, цяпер балююць!

Прайграўся ўшчэнт і адразу стаў патрыётам.

Колы брычкі падскоквалі на брукаванцы. Вінаваты Пранціш маўкліва сядзеў за фурмана. Дзесьці раставалі прывіды палаца, карэты і вёскі.

— Дзякую, сын…

За спінай Вырвіча Лёднік абняў Алеся.

— Ты ж тое самае для мяне рабіў. Але ў нас ёсць сапраўдны герой… Гераіня!

Чорны Доктар павярнуўся ў другі бок і пачціва пацалаваў руку паненкі:

— Вы ратавалі мне жыццё, панна Рэгіна! Я вам абавязаны.

Яе вусны, вечна ўсмешлівыя, дрыжэлі…

— Ён мог забіць вас, пан магік… І мяне…

Лёднік абняў дзяўчынку, прытуліў: усё-ткі дзіця, усё-ткі спалохалася… Князёўна трохі пасапла ў плячо Чорнага Доктара, паўздыхала…

— А вы за гэта падорыце мне кінжальчык, пан доктар-магік? І марцыпаны. Многа.

***Працяг будзе.***



Анатоль ЗЭКАЎ

# Я Ў ГОМАНЕ ВЕЧНЫМ СПАКОН

## ПЕРШЫ

А нехта ж першы назвы даў
прадметам, з'явам, рэчам,
няхай вядомым і не стаў
у родзе чалавечым.

З чаго прыдумваў, каб надаць
сэнс словам адмысловы?
А нам бы дзякуй хоць сказаць
яму за нашу мову.

Аднак каму сказаць, бо ён
імя нам не пакінуў,
хоць словы, што жывуць здавён,
і праз вякі не гінуць.

* * *

Я пражыў узрост Хрыста,
і нават больш — ажно ўдвая,
аднак ці ўсё зрабіў я так
і ці зрабіў хоць нешта я?

---

*__Зэкаў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Книга и мы», «Добры вечар», «Беларуская лясная газета», часопісаў «Вожык», «Полымя», «Вясёлка», у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Промнік позірку твайго» (2008), «Пад кронай белых аблачын» (2013), «Белае сонца бяроз» (2016), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Вінегрэт пад фуршэт» (2015), «Тары-бары» (2015), «Замарожаныя пачуцці» (2015), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Зязюля Гулюля» (2011), «Неказкі пра Сашку» (2013), «Безбілетны Зай» (2014), «Азбуку мядзведзь вучыў» (2015), «Лічба з літарай сябруюць» (2016) і інш.*

Жыццё правёў у мітусні,
кудысьці бег, чагось шукаў,
ды неўпрыкмет мільгалі дні,
а я ўсё нечага чакаў.

А я ўсё марыў, што вось-вось —
і жыць пачну інакш, аднак
праходзілі гады, а штось,
як і раней, жылося так.

Ляціць жыццё, як пад адхон,
за паваротам — паварот.
Пара збіраць жыццёвы плён,
а плёну — як наплакаў кот.

Ці так жыццё сваё звярстаў,
ці годна лёсу крыж пранёс?
Я перажыў узрост Хрыста,
ды ці галоўнае — узрост?

* * *

Я да рысы тае набліжаюся,
за якою мяне ўжо не стане.
Ды жыву, як раней, і не каюся,
бо наўрад ці ўтрымаць на аркане
мне натуру маю энергічную,
што імпэт мой суцішыць не можа.
Хоць наперадзе — рыса крытычная,
ды яна мяне мала трывожыць.

## ПАРКАЛЁВЫЯ ЎСПАМІНЫ

***Сястры***

Давай той дзень успомнім, Галя,
калі з сельпоўскай крамы
адрэз квяцістага паркалю
дамоў прынесла мама.

Якія то былі абновы
табе,
          і мне,
                    і брату!
Ад успамінаў паркалёвых
аж пасвятлела хата.

## НАЎЗДАГОН ДЗЕДУ

А я даўно дамоў не еду.
Усё вядзе ад дому след.
Я не сустрэну дома дзеда,
бо без мяне памёр мой дзед.

Памёр завейнаю зімою —
Такі, напэўна, дзедаў лёс.
А я не плакаў над труною,
труны на могілкі не нёс.

Вось і застаўся ўжо без дзеда,
Затым — яшчэ без аднаго…
Я некалі дамоў прыеду.
А да каго?

* * *

Са шпітальнага акна, звысоку,
я гляджу на парк скрозь ліхтары.
Хоць унізе дождж ідзе і мокра,
толькі ўсё-ткі лепш там, на двары.

І палата там не прыгнятае,
і пад ветру ціхага ўскалых
нават працэдура дажджавая
з працэдур найлепшая з усіх.

## ТРАЛЕЙБУСНЫ ПАРК

Тралейбусны парк ля акон
    не дае ў цішыню акунуцца.
Я ў гомане вечным спакон —
    і наўрад ці мне з ім размінуцца.

А я і прывык, бо, калі
    ноччу змоўкнуць тралейбусы строем,
мне страшна, нібы на зямлі
    штосьці стала не так і не тое.

У хвілі такія, аднак,
    мне чамусьці зусім не да жартаў.

А што, як тралейбусны парк
    перанесці задумаюць раптам?



**Вольга НІКОЛЬСКАЯ**

# ДВА КРОКІ НАСУСТРАЧ...

*Апавяданне*

Андрэй зачыніў дзверы за апошняй сваячкай у чорным і толькі тады адчуў, як стаміўся. Ногі сталі ватнымі, у горле перасохла, здавалася, нават няма сілы, каб павярнуць ключ у замку, не кажучы ўжо пра тое, каб дайсці да пакоя, распрануцца і легчы ў ложак.

Ён паволі апусціўся ў крэсла, што стаяла каля дзвярэй і адразу ўвесь неяк абмяк, быццам цела страціла нейкі нябачны стрыжань, што трымаў паставу.

Гэты стрыжань на працягу ўсяго апошняга тыдня не даваў яму расслабляцца, здаецца, дапамагаў жыць і неяк дзейнічаць, не ўпадаць у адчай. Як ні дзіўна, за ўвесь гэты час Андрэй не дакрануўся да спіртнога, каб знайсці ў забыцці суцяшэнне, моўчкі пакутаваў. І толькі цяпер, калі ўся гэта невыносная, але абавязковая ў такіх выпадках, афіцыйная частка мінула, яму раптам захацелася напіцца, каб, забыцца на ўсё.

І хоць Андрэй разумеў, што спіртное — гэта часовая падманлівая палёгка, бо потым будзе яшчэ горш, але цяпер не бачыў для сябе іншага выйсця з таго становішча, у якім апынуўся.

Пакуль у кватэры было шмат людзей, усё здавалася нечым нерэальным, быццам кашмарны бясконцы сон. Але, як толькі ён застаўся адзін, усведамленне таго, што здарылася, абрынулася на яго ўсім сваім цяжарам. Гэта было падобна на вялікую марскую хвалю, якая ў ціхі дзень раптам накрые цябе, і ты ажно захлынаешся, прыкладаеш усе намаганні, каб выкараскацца з-пад яе, але толькі з той розніцай, што накацілася яна не звонку, а знутры і ад яе няма паратунку… Пачуццё страты, болю і бездапаможнасці ад таго, што ты нічога не можаш перайначыць, узнялося аднекуль з глыбіні сэрца, падступілася да горла, пачало душыць так, што на вочы навярнуліся слёзы… Дарослым Андрэй плакаў упершыню, плакаў бязгучна, і плечы яго раз-пораз уздрыгвалі…

---

***Нікольская Вольга Уладзіміраўна** нарадзілася 20 чэрвеня 1986 года ў горадзе Мінску. Скончыла Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2009). Працуе ў Белтэлерадыёкампаніі на радыёстанцыі «Сталіца».*

*Аўтар трылогіі для дзяцей «Мы — агенты «КолбаФир» (2011), «Приключение агентов “КолбаФирЖик”» (2014), и «Похищение шедевра, или Новые приключения агентов “КолбаФирЖик”» (2017), а таксама сучаснай аповесці-казкі «Фей по имени Светик» (2018).*

*Друкуецца як перакладчыца з беларускай на рускую мову ў часопісах «Неман» и «Наш современник» (Москва), з рэцэнзіямі і літаратурна-крытычнымі артыкуламі выступае ў беларускіх часопісах і газетах.*

Андрэю сорак чатыры, і сёння ён пахаваў адзінага роднага чалавека — маму. Ён ніколі не бываў жанатым і дзяцей у яго не было, і ўсё сваё жыццё ён пражыў з ёй. Бацька пайшоў ад іх, калі Андрэйка быў яшчэ зусім маленькім, а мама больш так і не выйшла замуж. Нехта скажа: няшчасны… Але Андрэй няшчасным ніколі сябе не лічыў. Наадварот, яму здавалася, што ў многім ён больш шчаслівы, чым іншыя, разумнейшы за іх. Вечарамі яму не даводзілася выслухоўваць заўсёды незадаволеную жонку, выціраць дзецям соплі, хаваць нейкія грошы з зарплаты — ды ці мала чаго яшчэ «прыемнага» можа быць ў сямейным жыцці…

Канешне, сярод яго знаёмых сем'яў былі і іншыя, больш удалыя прыклады. Але і ў тых сем'ях хапала праблем: камусьці не ставала грошай, нехта ніяк не мог займець уласную кватэру, у некага кепска вучыліся дзеці…

У Андрэя такіх праблем не было. Зрэшты, у яго, здаецца, не было ніякіх праблем. Ён атрымаў добрую адукацыю: скончыў іститут, уладкаваўся прарабам у адну даволі паспяховую будаўнічую фірму. Дзейсны Андрэй хутка паказаў кіраўніцтву, чаго ён варты і праз два гады ўжо стаў галоўным інжынерам, а неўзабаве і намеснікам дырэктара.

Грошай хапала на ўсё: на наведванні рэстаранаў, паездкі на мора, на падарункі дзяўчатам, дарэчы, ні з адной з іх ён доўга не быў. Маці не падабалася, калі сын раптам захапляўся якой дзяўчынай. Калі ён позна прыходзіў дадому, тым больш на падпітку, маці заўсёды станавілася кепска: у яе было хворае сэрца. Таму пасля таго як аднойчы ён прыйшоў дадому а першай гадзіне ночы і ўбачыў у кватэры акрамя мамы яшчэ і доктара «хуткай дапамогі», вырашыў, што з начнымі забавамі трэба канчаць. І змог зрабіць гэта: пасля таго выпадку пасля працы ён адразу ж спяшаўся дадому, дзе яго заўсёды чакала лагодная, шчаслівая маці і смачная вячэра.

Часам Андрэй задумваўся пра сваё жыццё і пераконваў сябе, што трэба жыць так, як ён жыве. Але лепш пасля працы, дзе ты зарабляеш добрыя грошы, спяшацца да клапатлівай добрай матулі, чым да вечна незадаволенай жонкі і дзяцей, якія шумяць, румзаюць, і невядома што патрабуюць…

Ён вячэраў, расказваў маме, як прайшоў яго дзень. Затым браў з халадзільніка бутэлечку піва і ішоў да канапы, садзіўся на яе, глядзеў тэлевізар, і, часта здаралася, засынаў перад ім…

Так міналі дні, месяцы, гады. І дзіўна, Андрэю не было сумна, не хацелася нешта мяняць у сваім жыцці. Наадварот, у гэтай стабільнасці і нязменнасці ён знаходзіў своеасаблівую асалоду: ён мог прадбачыць кожны свой наступны дзень, жыццё было прадказальным і ён памылкова лічыў сябе яго гаспадаром.

Андрэй хутка назбіраў грошы на новую дарагую машыну і па выхадных стаў вазіць маці на рынак. Яна купляла прадукты, Андрэй нёс іх да машыны, грузіў у багажнік, і яны прыязджалі дадому задаволеныя і па-свойму шчаслівыя.

Праз колькі гадоў ён сабраў грошы на новую кватэру і купіў яе. Навошта яна была патрэбна яму — Андрэй не ведаў, бо ён не збіраўся пераязджаць у яе, пакінуўшы маці ў старой. Ды і яна сама ніколі не згадзілася б прамяняць сваю ўтульную трохпакаёўку ў пяціпавярховым доме з зялёным дворыкам, дзе ведала ўсіх суседзяў па імёнах, на новае, няхай і больш раскошнае жыллё.

Магчыма, купляючы кватэру, Андрэй проста ўкладваў грошы. А можа, адначасова гэта быў і хітры ход — адцягнуць увагу родзічаў і знаёмых ад яго, як яны лічылі, аднастайнага жыцця: маўляў, я паступова рыхтуюся да змен, да магчымага сямейнага жыцця…

У новай кватэры, якая знаходзілася недалёка ад старой, Андрэй зрабіў шыкоўны рамонт. Усё: шпалеры, плітку, мэблю ён выбіраў разам з маці. Яна, дарэчы, была не супраць, успрымала рамонт, як новае захапленне сына. Да таго ж ёй было прыемна разам з ім бавіць час у будаўнічых крамах. У сваёй жа кватэры яна нічога мяняць не хацела.

Давёўшы новую кватэру да ладу, яе зачынілі на ключ. Затое ў выхадныя ў Андрэя з'явіўся новы занятак: правяраць, ці ўсё ў ёй, як мае быць...

Ці думаў Андрэй, прыходзячы туды, што некалі будзе тут жыць з сям'ёй: з жонкай, дзецьмі? Не, не думаў…

Здаралася, калі часам клаўся ў верхняй вопратцы на двухспальны ложак, нібы міжволі ўяўляў, што побач з ім магла б ляжаць маладая прыгожая жонка… А за сцяной, у іншым пакоі, мог бы гучаць дзіцячы смех…

Канешне, надараліся хвіліны, калі думалася аб тым, што некалі ўсё ж ажэніцца, але потым, у нейкай далёкай будучыні, уяўнай і быццам нерэальнай. Ды і маці заўсёды супакойвала: «У нашым родзе ўсе мужчыны позна жаніліся, паспееш і ты…»

Быццам на яве пачуўшы гэтыя словы, Андрэй здрыгануўся, расплюшчыў вочы, цяжка ўздыхнуў і падняўся з крэсла. Насупраць на сцяне вісела люстэрка, цяпер завешанае ручніком. Андрэй скептычна ставіўся да ўсялякіх забабонаў, зрэшты, як і сама ягоная маці. Таму ён зняў ручнік, якім люстэрка закрыла стрыечная цётка ў той дзень, калі памерла маці, і паглядзеў на сваё адлюстраванне.

Ён заўсёды быў прыгожым: высокі, стройны з шыкоўнай капой цёмных валасоў. Маці з дзяцінства паўтарала сыну, што ён самы лепшы, таму годны ўсяго лепшага, што толькі можа быць у жыцці: лепшай працы, лепшых сяброў, і, вядома, калі ўжо вырас, лепшай жанчыны.

Андрэй з юнацтва ведаў, што падабаецца дзяўчатам. А крыху пазней — жанчынам, многія з якіх нават з заручальнымі пярсцёнкамі на пальцах, як заўважаў, паглядалі на яго з цікавасцю. Але ён стараўся ні на кога не звяртаць асаблівай увагі: у кожнай былі свае недахопы, а ён шукаў тую самую ідэальную, якую б адобрыла маці….

І толькі цяпер, убачыўшы сябе ў люстэрку, ён раптам усвядоміў свой узрост.

Прыгожыя, яшчэ не так даўно густыя валасы парадзелі і пасівелі, твар стаў шэрым, лоб перакрэслілі глыбокія маршчыны, вочы ўпалі і пацямнелі, з'явіўся другі падбародак. Але ва ўсёй Андрэевай знешнасці яшчэ былі бачны прыкметы маладосці, і калі б не гора, канечне ж, выглядаў бы лепш, хаця ўсё адно гэта ягонай сутнасці, як адзінокага немаладога чалавека, не змяняла б. А ўвогуле, больш ён ужо і не быў, як кажуць, мамчыным сынком: у свае сорак чатыры гады Андрэй застаўся зусім адзін.

* * *

Першыя дзевяць дзён пасля смерці маці цягнуліся жудасна і вельмі доўга. На працу Андрэю не трэба было ісці: ён застаўся без працы. Дарэчы, выпала так, што ўсе яго беды пачаліся менавіта са звальнення, дакладней, яго не звольнілі, проста раптам іхняя такая стабільная і паспяховая будаўнічая фірма перастала існаваць. У свеце эканамічны крызіс! І адразу ж пачалі рушыцца, так бы мовіць, асновы ягонага ўладкаванага жыцця, распланаванага на многа гадоў наперад.

Цяпер яму ўжо не трэба было раніцай ісці на працу: трэба было думаць, што рабіць днём, куды падзець сябе вечарам, і наогул, чым заняць сябе. Тады, калі ён стаў беспрацоўным, маці яшчэ была жывой. Яна бачыла, што сын перажывае, хоць грошай яшчэ хапала. Зрэшты, справа была не ў іх: проста атрымалася так, што яго веды, вопыт і спрыт, якімі ён вылучаўся ў калектыве, цяпер, нікому не былі патрэбны.

Маці, бачачы, як ён пакутуе, супакойвала, як магла. Раніцай яна па-ранейшаму гатавала яму яго любімыя сырнікі, днём, як і раней, калі ён прыязджаў з працы, карміла яго абедам з трох страў, і па-ранейшаму на вячэру прыдумвала штосьці новае і незвычайнае.

«З тваёй адукацыяй і вопытам цябе ў любую фірму возмуць з рукамі і нагамі», — казала яна і шукала на камп'ютары фірму, якой быў бы патрэбны Андрэй. Але патрэбная фірма не знаходзілася, праўда, былі тыя, якім патрабаваліся простыя рабочыя, але хіба гэта для яго…

Так мінуў год, а працы не было. Паступова Андрэя пачалі апаноўваць гнятлівыя думкі: ці правільна ён жыў і жыве? Ды і навошта, для каго, для чаго? Жыў, каб мець шмат грошай, добрую машыну, дзве кватэры?..

Калі так думаў, знаходзіў і нібыта апраўданне: так, жыў для сябе, як і большасць людзей, ну і, вядома, для маці. І ўсё нібыта было ўціснута ў гэтыя рамкі, за якія не выйсці…

Грошы сталі заканчвацца, на маміну пенсію не пражывеш. Тады разам з маці вырашылі здаць яго новую кватэру.

Такім чынам, захісталася яшчэ адна цаглінка ў падмурку стабільнага і ўладкаванага Андрэевага жыцця, з ягонай звычкай наведваць сваё прыгожае новае жыллё, якое было своеасаблівым сімвалам і падцвярджэннем яго паспяховасці. Але здаць кватэру ён так і не паспеў: аднойчы раніцай у маці здарыўся інсульт. Яе пры памяці адвезлі ў бальніцу. Там яна пабыла тыдзень, затым два дні дома, інсульт паўтарыўся, і маці больш няма. Раптоўна, хутка, дачасна, і яму было жахліва, жудасна і балюча ўсведамляць гэта…

«Мабыць, так яно і бывае», — праз некалькі дзён пасля таго як пахавалі маці, думаў Андрэй.

Сыход блізкага і любімага чалавека ніколі не можа быць звычайнай з'явай, нават калі яго прадбачыш, нават калі здагадваешся, што ён набліжаецца. А калі не ведаеш, гэты сыход і зусім выбівае цябе з твайго звычайнага стану, разрывае душу і агаляе там такія пласты існавання, пра якія ты раней нават не здагадваўся…

Чамусьці, калі памерла маці, Андрэй раптам успомніў вядомы лацінскі выраз, які чуў яшчэ студэнтам «Memento mori» — памятай пра смерць. Тады ён асабліва не задумваўся над ім, ён здаваўся яму проста канстатацыяй факта таго, што кожны з нас памрэ. І толькі зараз ён зразумеў усю глыбіню і сэнс гэтага выказвання: памятаць трэба як пра сваю смерць, каб цаніць кожны пражыты дзень, так і пра смерць тваіх блізкіх і родных людзей, каб цаніць сваё жыццё у адпаведнасці з іхнімі жыццямі.

Пра тое, што маці некалі памрэ, ён ніколі не задумваўся. Яму здавалася, што яна заўсёды будзе побач, заўсёды будзе клапаціцца пра яго, аберагаць ад тых памылак і няўдач, якія маглі трапіцца на яго шляху, і якія, напэўна, ўсё ж такі трэба было прайсці самому.

Маці памерла, і адразу ж адзінота і сум абрынуліся на яго. Андрэй адчуў, які ён цяпер слабы ў гэтым вялікім і вірлівым свеце.

* * *

Усе дзевяць дзён пасля пахавання да яго прыходзілі родзічы, сябры, суседзі, таварышы па былой працы — суцяшалі, як маглі, нешта прыносілі… Ён слухаў іх, іхнія галасы слізгалі паўз яго, недзе знікалі, і толькі рэха нейкі час яшчэ ледзь чулася недзе здалёк, паступова затухаючы і не пакідаючы ніякага знаку…

Наведвальнікі сыходзілі гэтак жа нечакана, як і з’яўляліся, ніяк і нічым не кранаючы яго, а ён адчуваў толькі адно пры іх і без іх — халодную гнятлівую адзіноту. І тады вечарамі ён пачынаў піць. Так быццам было лягчэй справіцца з гэтымі нязвыклымі, жудаснымі пачуццямі, захмялелы, ён нібыта выпадаў з рэальнасці, засынаў…

І толькі ў сне яму станавілася лягчэй. Яму снілася маці. А часам, калі яна сыходзіла, аднекуль з’яўлялася нейкая маладая і прыгожая жанчына, ад якой, здаецца, маці аберагала яго. Жанчына клалася побач з ім на двуспальным ложку ў яго новай кватэры, і ён чуў, як у суседнім пакоі весела шумелі дзеці — прыйшла не адна…

Ён не бачыў рысаў гэтай жанчыны, не бачыў рысаў дзяцей, проста адчуваў, якімі б яны маглі быць. Яна добрая, клапатлівая, слабая і адначасова моцная, яго падрымка, і безумоўна, яго прыгажуня. І дзеці яго. Шумлівыя, непаседлівыя, яны надаюць яму сілы, вяртаюць жаданне жыць. Думалася, калі б у яго была свая сям’я зараз яму б было лягчэй.

Але ці сустракаў ён калі-небудзь такую жанчыну? Здаецца, не. А можа, сустракаў, але не змог разгледзець і ацаніць?

Такім шчырым з самім сабой, такім бязлітасным да сваіх пачуццяў, такім сентыментальным Андрэй быў упершыню.

Калі прайшло 9 дзён пасля пахавання маці, родзічы і суседзі перасталі прыходзіць, і Андрэй пачаў піць ужо і днём, і сны больш не суцяшалі яго, і ўсё часцей сталі з’яўляцца кашмары. Але аднойчы яму зноў прыснілася маці. У сне яна была маладой і вельмі прыгожай. Аднак яна зусім не ўсміхалася, наадварот, яе бровы сышліся на пераносіцы, на лбе з’явіліся глыбокія маршчыны, вусны сціснуліся, маці злавалася на свайго непаслухмянага Андрэйку за тое, што той сябе так кепска паводзіць. Атрымлівалася, што нават з таго свету яе мацярынская любоў працягвала аберагаць яго.

Андрэй прачнуўся потны, з яго вачэй каціліся слёзы, ён страшэнна перажываў, што маці незадаволена ягонымі паводзінамі…

Што так жыць больш нельга, Андрэй адразу зразумеў, нібыта пачуўшы наказ маці. Да таго ж грошай заставалася катастрафічна мала. Трэба было прывесці сябе ў чалавечы выгляд, каб нешта рабіць: далей так нельга…

* * *

У краму ён пайшоў вечарам, адчуваючя сябе, здаецца, зусім нармальна. Спачатку падышоў да паліцы з безалкагольнымі напіткамі — яму патрэбна была мінеральная вада, потым узяў малако, а каля каўбаснага аддзела разгубіўся, бо ніяк не мог успомніць, якую каўбасу яму купляла маці.

І раптам нібыта ніадкуль побач з ім узнікла маладая жанчына. На выгляд ёй было гадоў 30—35, а можа, і крыху менш. Вызначыць узрост было не проста, бо апранута яна была, як яму падалося, даволі дзіўна. Модная яркая сукенка праз плечы была пакрыта вялізнай, у буйныя жоўта-зялёныя кветкі хусткай — у яго ўяўленні так хадзілі пажылыя жанчыны. Нават яго маці,

нягледзячы на салідны ўзрост, нічога падобнага не апранала, наадварот, яна заўсёды імкнулася выглядаць модна і сучасна.

Галаву жанчына трымала высока, яе ўпрыгожвалі светлыя валасы, сцягнутыя на макаўцы ў высокі пук, а на твары на здзіўленне зусім не было макіяжу, таму рысы здаваліся дастаткова невыразнымі. На лбе, вакол вачэй і вуснаў выявіліся першыя лёгкія маршчынкі. Але яны зусім не псавалі свежасць і першародную чысціню яе вабнага твару, хоць асаблівай прыгажуняй жанчыну назваць было нельга. У яе знешнасці было нешта загадкавае: крыху сутулыя плечы, вусны, якія злёгку дрыжалі, сведчылі аб тым, што жанчына не вельмі ўпэўнена ў сябе, і ўсё ж яе вобраз здаваўся вельмі кранальным.

Жанчына паглядзела Андрэю прама ў вочы і раптам сказала:

— Мужчына, можа, вам дапамагчы выбраць каўбасу?

Гэтая фраза, як яму падалося, прагучала адначасова і какетліва, і гулліва, аднак разам з тым і недарэчна.

Усё разам: і вопратка жанчыны, і выраз яе твару, і гэтыя яе словы рассмяшылі Андрэя, і ён упершыню за апошні месяц усміхнуўся, яму на нейкае імгненне стала лягчэй, быццам нябачныя абцугі, што сціскалі ўвесь час яго сэрца расціснуліся. І тады ён нечакана сам для сабе гучна засмяяўся.

Гэта не быў дзікі, нястрыманы смех мужчыны, які пагарджае жанчынай, Андрэй ніякім чынам не хацеў пакрыўдзіць незнаёмку — так атрымалася…

Пра тое, што адбывалася ў жыцці і ў душы Андрэя, жанчына, безумоўна, не ведала, таму, мабыць, падумала, што ён смяецца з яе. Было бачна, што яна вельмі разгубілася, у яе вачах з'явіліся слёзы. Праз імгненне жанчына рэзка крутанулася на невысокіх абцасіках сваіх старамодных туфелек і кінулася да выхаду з магазіна, пакінуўшы каля касы кошык з прадуктамі.

Усё адбылося так нечакана і недарэчна, і хутчэй за ўсё Андрэй не змог бы дагнаць яе, каб растлумачыць, што не хацеў пакрыўдзіць і папрасіць прабачэння. Але жанчына зачапілася сваёй доўгай хусткай за металічную стойку паміж касамі, на хвіліну спынілася, каб вызваліцца з нечаканага палону, і ён дагнаў яе на выхадзе з магазіна.

* * *

У гэтым годзе восень выдалася на здзіўленне мяккай і цёплай. Нягледзячы на тое, што ўжо пачатак кастрычніка, людзі хадзілі яшчэ ў лёгкіх паліто, а хто і без іх, яшчэ мала ў каго на галаве былі шапкі, хіба што ў дзяцей.

Аб тым, што набліжаецца зіма не думалася. Яшчэ захаваліся свежымі ўспаміны пра лета, пра нечакана цёплы верасень. І толькі даволі цёмныя вечары, быццам незнарок, нагадвалі жыхарам горада аб тым, што зараз восень, а значыць, і зіма ўжо недзе паблізу…

Галін пачырванелы твар, так звалі жанчыну, і заплаканыя вочы пры цьмяным святле вулічнага ліхтара, Андрэй наўрад ці мог разгледзець. І, трымаючы яе пад руку, адчуваў, як яна хвалюецца.

Учынак, які ў магазіне толькі што здзейсніла Галя, не быў для яе характэрны. Раней яна сама ніколі б першай не асмелілася б загаварыць з мужчынам, тым больш прапанаваць яму сваю дапамогу. Калі сказаць больш дакладна, такой смелай з незнаёмым мужчынам яна была ўпершыню. І чаго варта была гэтая смеласць, Галя адчувала і цяпер: ногі злёгку дрыжалі, сэрца часта і гулка тахкала, у роце да гаркаты было суха…

Тое, што адбылося між ёй і незнаёмым мужчынам, было выклікана сумам, адчаем, і нават дэпрэсіяй, у палоне якіх Галя жыла апошнія два гады. Два гады

таму, калі ёй было трыццаць, яна гэты свой узрост вызначыла як мяжу, за якой наўрад ці ўжо магчыма будзе знайсці сваё жаночае шчасце — пакахаць, выйсці замуж, займець дзяцей…

Гадоў з дваццаці двух Галя чакала, што нарэшце сустрэне свайго мужчыну, і была ўпэўнена, калі гэта не здарыцца ў 23, 25, 27, то ўсё адно да трыццаці яна будзе з суджаным.

Галя верыла ў сапраўднае каханне, у тое, што ў кожнага ёсць свая палавінка, у тое, што трэба чакаць яе і не разменьвацца на выпадковае. Таму яна чакала, калі з'явіцца менавіта яе палавінка, не шукала яе, а менавіта чакала, бо меркавала, што лёс сам абавязкова знойдзе яе.

Яна чакала, з недаўменнем назіраючы, як яе сяброўкі і знаёмыя здраджваюць сабе: выходзяць замуж, ледзь пазнаёміўшыся з мужчынам, хутка нараджаюць дзяцей, не думаючы аб тым, наколькі моцныя іх сем'і, разводзяцца, а потым адны гадуюць сваіх, як думала Галя, няшчасных дзетак.

Не, Галя такой, як яны, не была. Яна лічыла, што варта толькі самага лепшага мужчыны: разумнага, прыгожага, багатага, які б бязмерна кахаў толькі яе. У тым, што ёй зацікавіцца такі ідэальны мужчына, Галя не сумнявалася, бо маці з дзяцінства даводзіла ёй, што яна самая лепшая, самая прыгожая, самая разумная, духоўна дасканалая — яна ж выхоўвалася ў набожнай сям'і.

І толькі, калі Галі споўнілася трыццаць, ружовыя акуляры паступова сталі спаўзаць з яе носа, адкрываючы вочы. Зваліліся і разбіліся аб рэаліі жыцця менавіта ў той дзень, калі Галя адзначала свой трыццаць другі дзень нараджэння.

Спачатку яе напалохала гэтая лічба: мінула ўжо два гады з той даты, якую яна сама сабе вызначыла, як своеасаблівую мяжу, да якой павінна сустрэць сваё шчасце. І раптам, глянуўшы ў люстэрка, заўважыла, што ў яе на скронях з'явіліся першыя сівыя валасы, а на лбе і вакол вуснаў — маршчынкі… Божа!.. У сяброўак і знаёмых равесніц дзеці ўжо даўно пайшлі ў школу, у некага з'явіўся новы муж, нехта шчаслівa жыве з першым, а хтосьці пабраўся з тым, з кім паспеў разысціся… А ў яе жыцці нічога не змянілася, яна па-ранейшаму — адна!..

Два гады таму нечакана памёр бацька, і мама, якая раней «пілавала» яго, стала «пілаваць» Галю, некуды зніклі тыя кампліменты, якімі раней яна засыпала дачку, і цяпер яна была без віны ва ўсім вінаватая. Вінаватая ў тым, што паступіла не ў той інстытут, працавала не на той працы, атрымлівала мала, а галоўнае, так і не выйшла замуж.

І Галя зразумела: тое, у што яна верыла раней, сталася падманам, міфам, легендай, ды проста нічым, і не мела ніякіх адносін да рэальнага жыцця.

Аказалася, што яна нічым не лепшая за сваю аднакласніцу Юльку, якая ў васямнаццаць без мужа нарадзіла дачку. Так, той было цяжка, але ж у яе была цудоўная дачушка, а пасля знайшоўся і муж, і Юля была не адна. А Галя са сваімі прынцыпамі, мараллю, патрабаваннямі і да цяперашняга часу так і не выйшла замуж…

Сёння Галі споўнілася трыццаць два. Святкаванне дня нараджэння дома, на якое яна запрасіла сяброўак, скончылася сваркай: маці зноў, як ужо было не аднойчы, пры ўсіх абуралася, што яе дачка адна. Пры гэтым нават не дапускаючы думкі, што ў тым у нейкай ступені ёсць і яе віна.

Канешне, можна было зноў пакрыўдзіцца, упасці ў дэпрэсію, пайсці ў царкву, як рабіла раней — яна ж выхоўвалася ў набожнай сям' і — паспрабаваць знайсці суцяшэнне ў малітвах. Але менавіта сёння Галя вырашыла дзейнічаць.

Такая думка прыйшла да яе ўпершыню, усё жыццё яна быццам плыла па цячэнні, цвёрда верыла ў лёс, у наканаванне, якое даецца звыш, і ў сваю выключнасць. І ад гэтага жадання здзейсніць нечаканы і супярэчлівы здаровай логіцы ўчынак ёй станавілася страшна — па целе ажно прабягалі дрыжыкі.

Але ў гэтым быў нейкі асаблівы адрэналін, які падштурхоўваў Галю да дзеяння. Яна раптам зразумела, што менавіта дзеяння, актыўнасці ёй і не хапала раней, што яна сама гаспадыня свайго лёсу.

Як натура рамантычная і эмацыянальная, Галя з той жа ўпэўненасцю, з якой некалі вырашыла даверыцца лёсу, сёння раптам паспрабавала адразу, як кажуць, кінуцца ў бой, пакуль яшчэ ёсць запал, энтузіязм і хоць колькі смеласці.

Смеласці ёй надавала і шампанскае, якое яна выпіла за святочным сталом… Калі пачалася сварка, сяброўкі, спаслаўшыся на клопаты, спешна пакінулі кватэру. Галя, ледзь стрымліваючы сябе, каб не накрычаць на маці, амаль услед за імі таксама сышла з дому. Спачатку яна вырашыла, што проста выйдзе з пад’езда і пазнаёміцца з першым мужчынам, які трапіцца на вочы, і будзе адпавядаць ёй па ўзросце.

Першы мужчына, якога яна ўбачыла, мабыць, быў жанаты: вельмі акуратна апрануты, у руцэ — вялікі пакет прадуктаў… Другі выглядаў фанабэрыста… Трэці здаўся не сімпатычным… Убачыўшы чацвёртага яна не асмелілася падысці да яго: надта ж прыгожы…

І тады Галя, расчараваўшыся сама ў сабе, вырашыла зайсці ў магазін, каб купіць чаго-небудзь салодзенькага — супакойвае…

Яна зайшла ў магазін, і раптам сярод мноства наведвальнікаў-мужчын ўбачыла *яго.* Сімпатычны, прыстойна апрануты, інтэлігентны, і разам з тым нейкі разгублены і няcмелы. Значыць, калі яна яму не спадабаецца, то ён наўрад ці ёй гэта скажа.

На пальцы ў мужчыны не было заручальнага пярсцёнка, і гэта прыдало Галі смеласці.

Каля каўбаснага аддзела былі толькі дзве бабулькі, якія, як і ён, чакалі прадаўшчыцу, што некуды знікла. Галя ўважліва паглядзела на мужчыну і зразумела, што зараз яна або зробіць першы крок насустрач новаму жыццю, або больш ніколі не асмеліцца на гэта.

Прапанова дапамагчы выбраць яму каўбасу ўзнікла нечакана, і гэтая ідэя адразу ж падалася ўдалай. Дарэчы, у адным жаночым часопісе Галя чытала, што мужчыну трэба здзівіць, уразіць сваёй смеласцю і незвычайнасцю, і тады ён — твой!..

Яна глыбока ўдыхнула паветра, быццам на ватных нагах падышла да яго, і выдыхаючы сказала тое, што хацела. Пры гэтым паспрабавала казаць упэўнена, і, разам з тым, каб у словах адчувалася жаночая гуллівасць, ды такая, каб ён зразумеў, што для яе няма нічога незвычайнага першай загаварыць з мужчынам.

Як толькі Галя вымавіла фразу, яна, стрымліваючы сябе, каб не ўцячы і не расплакацца ад перажытай напругі, зноў уважліва паглядзела на мужчыну, спрабуючы надаць твару ўпэўненасць і спакой, і на імгненне здалося, што ў яе гэта атрымалася.

Мужчына паглядзеў на яе, і спачатку, як ёй здалося, прыязна ўсміхнуўся, а потым раптам гучна, абразліва засмяяўся.

Такой рэакцыі яна не чакала: гэта было самае горшае з таго, што яна магла сабе ўявіць.

Яна сарвалася з месца, пабегла. Слёзы імгненна хлынулі з яе вачэй — такая прыніжаная, расціснутая, нікчэмная — такой яна не адчувала сябе даўно, ды, мабыць, ніколі.

Ёй было так сорамна, так няёмка — хоць ты праваліся скрозь зямлю…

Як назло, тым часам у магазін набілася шмат людзей — працоўны дзень скончыўся, і ёй падалося, што ўсе яны сталі сведкамі яе ганьбы.

Мінаючы пакупнікоў і супрацоўнікаў магазіна, яна кінулася да выхада, і кепска помніла, што было з ёй далей — хіба, як балюча выцяла нагу аб металічную стойку — нага балела і зараз. А яшчэ помніла, што прылюдна перажыла стрэс…

І вось Андрэй і Галя ішлі па вуліцы і ім абаім было добра, прыемна і лёгка. І ён, размаўляючы з дзіўнай незнаёмкай, зноў адчуў сябе маладым і бесклапотным, а Галя — правабнай жанчынай, а яшчэ, чаго з ёй ніколі не было раней — смелай і рашучай гаспадыняй свайго лёсу.

Яны гаварылі пра ўсё, пра што толькі можна было гаварыць…

Усё пачалося з таго, што Андрэй, дагнаўшы яе на вуліцы, спыніў, і рашуча сказаў:

— Даруйце, калі што не так. Я не хацеў вас пакрыўдзіць… Вам кепска?

У яго голасе было столькі шчырасці, што яна адразу ж паверыла яму, сцішылася, выцерла вольнай рукой вочы, павярнулася да яго, прамовіла:

— Нічога, усё добра…

Яны гаварылі і гаварылі… І не заўважылі, як падышлі да дома, у якім жыў Андрэй, дзе была яго старая кватэра. А калі ён сказаў ёй пра гэта, ды пра тое, што атрымліваецца, не ён праводзіць жанчыну, а яна яго, абое засмяяліся. А потым Андрэй сказаў, што цяпер ён пойдзе праводзіць яе.

Аказалася, што яна жыла недалёка ад яго: і як жа раней ён ніколі не сустракаў яе?.. А можа, проста не звяртаў увагі?..

Праз нейкі час яны падышлі да дома, у якім жыла Галя. Спыніліся каля яе пад’езда. Ёй раптам стала вельмі сумна, што трэба развітвацца. А яшчэ — страшна: раптам яны развітаюцца і больш ніколі не сустрэнуцца, Андрэй жа нават не папрасіў нумар яе тэлефона, не спытаў нумар кватэры, у якой яна жыла.

Што сёння перажыла Галя, ведала толькі яна. Чаго для яе варта было гэтае знаёмства, як яна была ўзрушана, што адчула, калі ён дагнаў яе, як запаважала сябе і яго!..

Быццам не маладзенькая, але жаночага вопыту яна не мела. Галя была рамантычнай, замкнёнай, наіўнай — і ўсё гэта дазваляла ёй і па сёння захаваць у сабе рысы, якімі вызначаюцца юныя наіўныя дзяўчаты, якіх так лёгка пакрыўдзіць…

Яе сэрца заўсёды было адкрыта для шчырых пачуццяў, яна з нецярпеннем чакала іх і верыла ў каханне з першага погляду, якое пакуль так і не сустрэла, а вось сёння…

За той кароткі час, праведзены разам з Андрэем, яна амаль закахалася ў яго, ва ўсялякім выпадку, ёй так здавалася. Бо калі ў жыцці жанчыны нічога не адбываецца, калі здаецца, што надзеі на асабістае шчасце больш няма, дастаткова нават маленькай успышкі пачуццяў, каб выклікаць у душы сапраўдную буру, і ў адно імгненне перавярнуць пагляды на сябе, свет, на людзей, якія яе акружаюць.

Не, проста так адпусціць Андрэя Галя не магла. І яна вырашыла зрабіць яшчэ больш нечаканы і больш рашучы для сябе ўчынак, чым той, які здзейсніла ў магазіне. Яна вырашыла першай пацалаваць Андрэя. На вуліцы ўжо

было цемнавата, і гэта надало ёй упэўненасці. Так, яна пацалуе яго, але каля пад'езда, на развітанне…

Калі яны падышлі да пад'езда, Галя спачатку ўбачыла маці, а потым і пачула голас яе. Тая стаяла каля дзвярэй пад'езда, мажная, з растрапанымі валасамі, з накінутай хусткай на плечы. Пры цьмяным святле лямпачкі пад казырком пад'езда яна выглядала злоснай, і разам з тым, смешнай.

Але Галі было не да смеху. Ці то ад страху, ці то ад крыўды і сораму сэрца яе закалацілася, шчокі палалі, у роце перасохла. Адчуванне свабоды, упэўненасці ў сабе, смеласці, радасці жыцця імгненна знікла. Галя зноўку, як часта бывала, калі маці прылюдна сварылася на яе,ператварылася з трыццацідвухгадовай жанчыны ў маленькую зацюканую дзяўчынку, якая не мае ўласнага меркавання, сціплую, ні на што не здольную.

— Ты дзе блындаеш па начах?! — злосна вымавіла маці, затым так незычліва глянула на Андрэя, быццам спрабавала гэтым паглядам прапаліць яго наскрозь…

Недзе толькі к гадам трыццаці Галя, аналізуючы сваё жыццё, стала задумвацца над тым, як маці паводзіць сябе з ёй. Канешне, асуджаць бацькоў грэшна. Аднак, Галя ніяк не магла зразумець, чаго тая хоча ад яе, якой хоча бачыць дачку. Маці ўпікае яе за тое, што ў Галі не склалася асабістае жыццё. Але колькі яна сябе памятала, менавіта маці сваімі бясконцымі званкамі, сустрэчамі каля пад'езда, размовамі пра тое, як трэба сябе паводзіць з хлопцамі і мужчынамі, адбівала ўсіх кавалераў ад дачкі, сярод якіх, канешне ж, маглі быць і такія, хто мог бы ўзяць Галю замуж.

Такім чынам, знаходзячыся пад празмернай апекай маці, Галя была нібы ізалявана ад таго жыцця, у якім жылі яе замужнія сяброўкі і знаёмыя…

Ды і сёння за святочным сталом маці дакарала яе за тое, што яна адна. І вось, калі Галя стаяла побач з мужчынам, можа, гэта яе апошні шанец, маці была страшэнна незадаволена …

Андрэй жа, ад нечаканай сустрэчы з Галінай маці, зніякавеў і разгубіўся, не ведаў, як сябе паводзіць. Ён не адразу зразумеў, што здарылася, хто гэтая дзіўная і несімпатычная пажылая жанчына, кім яна даводзіцца Галі, і чаму так непрыязна глядзіць на яго. Але, зразумеўшы, што гэта маці яго новай знаёмай, паглядзеў на сцішаную, засяроджаную, бездапаможную і пакрыўджаную Галю, і яму стала вельмі шкада яе.

Не, ягоная маці ніколі не дазваляла сабе такога. Тым больш, у прысутнасці некага староннядга. Чаму Галіна маці такая?.. Так празмерна любіць дачку?.. Аберагае яе?.. Хаця, напэўна, любоў да свайго дзіцяці не можа быць празмернай. Напэўна, яна і павінна быць усеаабдымнай, бязмежнай, але ж у той жа час мудрай і бескарыснай. У ёй не месца эгаізму. Тады яна сапраўдная, правільная ў адносінах да жанчыны, мужчыны, свайго дзіцяці, маці, бацькі, сястры, брата або сябра…

Але пра гэта Андрэй падумае пазней. У тую ж хвіліну, гледзячы на Галю і яе раззлаваную маці, яму захацелася нешта зрабіць, нейкім чынам дапамагчы сваёй новай знаёмай, падтрымаць яе. Цалаваць Галю яму зусім не хацелася, ён так даўно ні з кім не цалаваўся, ды і тэмперамент ужо быў не той, ды і сітуацыя не лепшая, каб можна было даць волю пачуццям. Але гэта было першае, пра што ён тады падумаў. І калі ўсё роўна маці будзе на яе сварыцца, дык няхай будзе за што, каб не было так крыўдна, як бывае ў дзяцінстве: пакаралі проста так….

І раптам ён адчуў сябе зусім маладым, нават не юнаком, а гарэзам падлеткам, якому не могуць перашкодзіць ні плот, ні замок, ні тым больш маці

дзяўчыны. І ён пацалаваў Галю хутка, няёмка, так, як сапраўды зрабіў бы нявопытны хлапчук.

Галя стаяла знямелая і не магла паварушыцца. Калі ж зразумела, што адбылося, ёй стала лягчэй, і раптам уся гэтая прывычная сітуацыя з маці здалася проста недарэчнай, ні больш.

Галя заўсміхалася. Гэты пацалунак азначаў, што яна не толькі сама змагла пазнаёміцца з мужчынам, але яшчэ і спадабалася яму.

А маці?.. Маці стаяла разгубленая і збянтэжаная, уся яе злосць, гнеў і ўпэўненасць у тым, што яе праўда, быццам выпарыліся. Але ніхто з іх трох не ведаў, што рабіць далей.

Першым апамятаўся Андрэй. Паўза вельмі зацягнулася, трэба было ісці. Ён ветліва, амаль галантна развітаўся з Галяй і яе мамай, павярнуўся і пайшоў.

* * *

Упершыню за апошнія некалькі месяцаў Андрэй прачнуўся бадзёрым, са светлай галавой, у добрым настроі і з жаданнем жыць. Упершыню за апошні час ноччу яму не снілася маці. Яму наогул нічога не снілася, ён проста моцна спаў, набіраўся сіл для новага цудоўнага дня.

У яго нават узнікла крамольная думка, што яму аднаму стала лягчэй, што ён свабодны ад той непатрэбнай апекі, якой маці акружала яго. І ўвогуле яму не трэба было планаваць свой дзень пад дыктоўку маці, рабіць усё так, як хоча яна. Яму больш не трэба было спяшацца да маці. Не трэба было…

Андрэй спахапіўся, імгненна раскаяўшыся ў шчырасці з самім сабой: ды як ён можа так думаць?! Гэта ж жорстка! Амаральна! Непрыстойна!..

Але ён сапраўды так думаў. І калі плынь думак мог перапыніць і перанакіраваць у іншы бок, то ад адчування лёгкасці, свабоды, радасці і бесклапотасці пазбавіцца не змог ды і не хацеў. Таму, выпіўшы кубачак кавы з халасцяцкімі бутэрбродамі, вырашыў дараваць самому сабе, прызнацца, што быў жорсткім і грэшным, дзеля таго, каб атрымаць ад дня, які толькі пачынаўся, як мага больш задавальнення. Бо апошнія дзесяць гадоў свайго жыцця атрымліваў асалоду толькі ад смачнай ежы, высокай зарплаты, спіртнога, але ні ад самаго жыцця ва ўсіх яго праявах…

Ён выйшаў на вуліцу, і нягледзячы на тое, што надвор'е было дажджлівае і наогул вельмі кепскае, бадзёры настрой не пакідаў яго.

Зайшоў у новую кватэру, якую нядаўна адрамантаваў. Пах тынкоўкі, новай мэблі прыемна заказытаў у носе. Андрэй чыхнуў, зняў паліто, неахайна кінуў яго на крэсла, якое стаяла ў калідоры — вешалкі там яшчэ не было, і, не здымаючы абутку, прайшоў на кухню. Адчыніў верхнюю скрынку шафкі, акрамя цукру, пачка кавы і двух кубачкаў там нічога не было. «Трэба купіць чай, тое-сёе з ежы, ды не забыць пра посуд, пра кававы сервіз», — адзначыў ён.

Потым прайшоў у спальню, прысеў на край вялікага двухспальнага ложка, затым лёг на яго тварам уверх і, салодка пацягнуўшыся, падумаў, што трэба прынесці з дому падушкі, коўдру, пасцельную бялізну і пару ручнікоў.

Ад усіх гэтых будучых клопатаў, ад салодкага прадчування будучага вечара, яму стала цёпла і неяк па-дзіцячы хвалююча: дзіця з нецярпеннем чакае свята, якое набліжаецца, каб нарэшце атрымаць падарунак.

Так, сёння ён збіраецца прывесці ў сваю новую цудоўную кватэру Галю, прывесці і ўразіць яе, і адразу ж пакарыць яе сэрца…

* * *

Нумар тэлефона ў Галі Андрэй не ўзяў, але ведаў, дзе яна жыве. Таму бліжэй да вечара, зрабіўшы ў кватэры ўсё, што задумаў, накіраваўся да яе пад’езда.

Быў звычайны будзённы дзень, значыць, недзе гадзін каля сямі яна павінна вяртацца з працы.

Пра тое, што яна ўжо дзесяць гадоў працуе натарыусам у невялікай прыватнай фірме, ён ужо ведаў — сказала ўчора, калі праводзіў яе, а таксама тады ж паведаміла, што праца ёй невыносна надакучыла сваёй аднастайнасцю, і Галя свае абавязкі выконвала па звычцы і, вядома ж, дзеля стабільнай, хоць і невысокай зарплаты.

Ён вырашыў, што будзе чакаць Галю непадалёк ад пад’езда: раптам маці выйдзе яе сустракаць. Ведаў, што роўна ў сем яны вячэраюць.

У тым, што Галя пойдзе з ім да яго на кватэру, Андрэй не сумняваўся. Упершыню ўбачыўшы яе ўчора і паглядзеўшы ёй у вочы, ён зразумеў, што яна вельмі адзінокая, у нейкім невыказным адчаі, няўпэўненая ў сабе і ўдзячная яму за тое, што звярнуў на яе ўвагу.

Канешне, якія эмоцыі ахапілі Галю, ён не мог ведаць, Андрэй не быў псіхолагам, ён проста мужчына. Але быў упэўнены, што яна настроена на сур’ёзныя адносіны з ім. Ён адчуваў і сваю ўладу над ёй. І ў тым, што гэтая жанчына будзе ягонай, не сумняваўся.

Якія пачуцці былі ў яго да яе?.. Ды асабліва ніякіх. Звычайная мужчынская цікаўнасць да жанчыны, якая хоць і не вельмі прыгожая, але вабіць да сябе.

Андрэй, сталася так, вельмі даўно не сустракаўся з жанчынамі. Яму проста захацелася расслабіцца, зноў адчуць смак жыцця, які ён даўно страціў, зразумець, што жыццё працягваецца, што наперадзе яго яшчэ чакае нешта цікавае.

І разам з тым Андрэй разумеў, што крыўдзіць яе не трэба. «Хаця, у рэшце рэшт, якая крыўда, калі яны пазнаёміліся па яе ініцыятыве? Ды і ўзрост у яе даволі сталы, каб самой адказваць за свае ўчынкі, сваё жыццё»,— супакойваў сябе Андрэй.

На сцежцы, якая вяла да Галінага дома, яна з’явілася без пятнаццаці сем. Андрэя не заўважыла. Ён падышоў да яе толькі тады, калі яна спынілася каля дзвярэй пад’езда, засунула руку ў сумачку, каб дастаць ключы, і калі ён падышоў і мовіў: «Прывітанне», здрыганулася, павярнулася і выпусціла іх з рукі.

Яна пазнала яго. Захвалявалася. Пастаралася супакоіцца, але гэта далося ёй нялёгка. А калі крыху супакоілася, вельмі ўзрадавалася: ён прыйшоў!.. Учора яна амаль не спала ўсю ноч думала, прыйдзе Андрэй ці не, ці спадабалася яму.

Андрэй падняў ключы, падаў іх Галі, сказаў:

— Запрашаю цябе да сябе дадому на вячэру.

— Калі? — здзіўлена і крыху спалохана спытала яна.

— Акурат цяпер, — адказаў ён.

Яму здавалася, што ён глядзіць на Галю і на сябе з боку. І свой вобраз крыху самаўпэўненага і нахабнага мужчыны яму падабаўся. Праўда, яго здзівіла Галя. Здавалася, яго запрашэнне напалохала яе. Ён адчуваў, што Галя хоча згадзіцца, але чагосьці баіцца.

Так, Галя адначасова была і радая, і разгубленая, і напалоханая. Як толькі ўбачыла Андрэя, то адразу ж зразумела, што будзе згодна на ўсё, што ён ёй прапануе. І справа была нават не ў тым, што ўспрымала яго, як апошні шанец,

яна сапраўды пакахала Андрэя. Калі?.. Ды каб пакахаць яго ёй хапіла той іхняй нядоўгай прагулкі ад магазіна да яе дома, а потым мінулай вельмі доўгай бяссоннай ночы, калі яна ні на хвіліну не забывалася на яго. Закахалася, як дзяўчынка, хаця ў душы ёй і была. Яна не мела блізкіх адносін з мужчынамі. Лёс, ды ці ён, у гэтым яшчэ трэба разабрацца, доўгія гады пазбаўляў Галю кахання, але разам з тым і аберагаў яе ад расчараванняў, крыўд, болю, якія заўсёды ідуць пасля, калі расчаруешся ў ім.

Галя ведала, што пойдзе. Але як сказаць пра гэта маме?.. Яна паглядзела на гадзіннік: роўна сем. Значыць, вячэра ўжо на стале. Як жа маці раззлуецца, калі Галя не прыйдзе на вячэру!.. Як злосна будзе сварыцца на яе, можа, нават, пачне абражаць, што яна пайшла на кватэру да мужчыны!.. Як доўга потым будзе крыўдзіцца і маўчаць, усяляк паказваючы дачцэ, што тая нявартая яе мацярынскай увагі!

Што будзе менавіта так, Галя не сумнявалася. Але хіба гэта важна, калі ў душы табе шаснаццаць, калі ты ўпершыню пакахала, і твой каханы кліча цябе за сабой?

Галя паклала ў сумачку ключы, якія падаў ёй Андрэй, уздыхнула і з абаяльнай усмешкай, на якую толькі здольна закаханая шаснаццацігадовая дзяўчына, сказала:

— Я рэдка хаджу ў госці. А да малазнаёмых мужчын наогул не хаджу. Але думаю, Андрэй, што вам можна даверыцца…

— Не вам, а табе, Галя, — паправіў ён яе. — Мы ж учора, калі развіталіся, былі на ты.

— Так, табе, Андрэй, — пагадзілася яна. І пачырванела, успомніўшы ўчарашні нечаканы пацалунак

* * *

Галю вельмі ўразіла Андрэева кватэра. Вялікая, багаты рамонт: яна з мамай жыла ў маленькай двухпакаёвачцы даволі сціпла.

Андрэй заўважыў, як яна ўражана, і зноў адчуў сябе «героем», гаспадаром жыцця, упэўненым у сабе мужчынам. Такім, якім быў не так ужо і даўно, калі ў яго была добрая праца, грошы і клапатлівая маці, якая ва ўсім яго падтрымлівала і накіроўвала.

Гэтае пачуццё надало яму рашучасці, разняволіла, і ён стаў нават крыху нахабным. Таму, паказаўшы здзіўленай Галі кватэру, Андрэй вырашыў адразу ж перайсці ў наступленне і прапанаваў ёй выпіць.

Яна ж, вельмі хвалюючыся, саромеючыся, баючыся, вырашыла: каб супакоіцца, выглядаць больш упэўненай і абаяльнай гэта не пашкодзіць.

Галя глядзела на Андрэя, такога сімпатычнага, упэўненага ў сабе, моцнага і, мяркуючы па кватэры, яшчэ і багатага, паспяховага ў жыцці, і не верыла свайму шчасцю. Няўжо яна дачакалася?.. Няўжо, страціўшы ўсялякую надзею на асабістае шчасце, лёс усё-такі ўзнагародзіць яе за цярпенне і пакорнасць?..

У пакоі на тумбачцы каля вялікага двухспальнага ложка стаяла ваза з белымі ружамі. Галя заўважыла іх адразу, як толькі яны зайшлі ў пакой, трымаючы ў руках бакалы шампанскага, якое Андрэй наліў на кухні.

— Дарэчы, гэта табе, — апамятаўся Андрэй, паказваючы рукой на прыгожы букет.

Галя была шчыра ўражана. «Несумненна, Андрэй той, каго яна чакала, — думала яна. — Мабыць, толькі мужчына, якога мне нарэшце паслаў лёс, вось

так, нічога не ведаючы пра мяне, мог выбраць менавіта белыя ружы, якія я люблю».

Галя не падазравала, што белыя ружы Андрэй выбіраў не для яе, а хучэй у памяць аб сваёй маці — яна ж іх таксама вельмі любіла. Ён жа, як адданы сын, быў упэўнены: калі такія кветкі любіла маці, значыць, яны самыя лепшыя…

Але мы жанчыны, ва ўсякім выпадку многія з нас, мабыць, у любым узросце здольны да самападману, фантазій, веры ў цуды… Хаця, хто ведае, можа, тое, што Галя і Андрэева маці любілі адны і тыя ж ружы і было нейкім знакам лёсу.

Тое, што здарылася далей, Галі здалося цудоўным сном…

* * *

…А раніцай Галя варыла каву Андрэю і сабе. (Вечарам яна патэлефанавала маці і сказала, што будзе начаваць у сяброўкі). Андрэй яшчэ ляжаў у ложку, калі яна, трымаючы ў руках паднос з двума кубачкамі кавы, зайшла ў пакой і спытала, як бачыла ў кіно ў падобных выпадках:

— Каву ў ложак?

— Так, моцную і без цукру! — адказаў ён, сядаючы на край ложку і закурваючы.

Увогуле, ён ужо гадоў пятнаццаць як не курыў. Але пасля таго, як памерла маці, калі ён пачаў шукаць уяўнае суцяшэнне ў гарэлцы, Андрэй зноў пачаў курыць. І цяпер, калі Галя падышла да ложка, зрабіўшы зацяжку, скамячыў цыгарэту ў фужэр з-пад шампанскага, што стаяў побач на часопісным століку, пацягнуў руку, каб узяць кубачак кавы і заўважыў, што адзін з іх — любімы кубак яго маці, з якога яна піла чай, калі прыходзіла з ім сюды на новую кватэру.

Гэта непрыемна здзівіла Андрэя: на кухні было шмат посуду, які ён купіў, і які прынёс са старой кватэры, нават — кававы сервіз! Але Галя чамусьці дастала з дальняга кутка шафы, што стаяла на кухні, менавіта кубак яго маці!..

Рука Андрэя быццам застыла ў паветры, Галя падала яму кубак, а кубак маці ўзяла сабе, паставіла паднос на столік, і з асалодай зрабіла маленькі глыток. Потым яна наважылася сесці побач з Андрэем на край ложка, але нечакана зачапілася нагой за яго штаны, што ляжалі на падлозе, і з кішэні якіх ён даставаў цыгарэты, і пахіснулася. Кубак выпаў з яе рукі, стукнуўся аб падлогу, рассыпаўся на дробныя друзачкі: кава абпырскала штаны, край ложка, расцяклася па падлозе.

Галя, як стаяла напаўсагнутая, так і замерла на месцы, не ведаючы як быць далей. Андрэй жа глядзеў на яе не хаваючы злосці і нават з агідай. Яму падалося, што ў пакоі з’явіўся нехта трэці. І той трэці не быў тут лішні: яго меркаванне для Андрэя было надзвычай важным. А таксама, што гэты трэці па-свойму і зусім непрыязна паглядзеў на Галю: хто яна такая? І ці вартая яго? Не!..

Андрэй глядзеў на Галю і не мог зразумець, чаму яшчэ хвіліну таму яна падабалася яму, і што такога асаблівага ён знайшоў у гэтай жанчыне. Не фігурыстая. Бледны невыразны твар. Сутулыя плечы. Няўпэўненыя вуглаватыя рухі... Ды як яна магла падабацца яму!?.

Хіба яна была прыгожай? Не. Грацыёзнай? Не. Паспяховай? Не. Разумнай?.. Магчыма з-за сваёй няўпэўненасці і нясмеласці яна здавалася, хутчэй,

наіўнай і недалёкай, чым разумнай. Хіба яна магла спадабацца ягонай маці? Ды ніколі! Дык як жа гэтая жанчына магла спадабацца яму?

Галя не разумела, чаму так хутка ў Андрэя змяніўся настрой, чаму ён так раззлаваўся з-за разбітага кубка: гэта ж усяго толькі посуд!... Але яна адчувала сябе няўклюднай, не разумнай, выродлівай, карацей, такой, якой толькі можа адчуваць сябе жанчына ў падобнай сітуацыі, у якой апынулася яна.

Галя цьмяна памятала, як збірала друзачкі і замывала падлогу, як хутка надзявала на сябе астатнюю вопратку, і як побач з ёй апранаўся маўклівы і хмурны Андрэй, як яны разам прайшлі ў калідор, як ён дапамог ёй апрануць паліто, як моўчкі ішлі да яе дому. Каля пад’езда ён працягнуў ёй букет белых руж і сказаў:

— Дзякуй.

І вось гэтае кароткае слова ўсё растлумачыла Галі: сухое «дзякуй», якое ён вымавіў халодным абыякавым голасам дало зразумець, што працягу ў іхніх адносінах не будзе.

Галя потым яшчэ доўга думала пра яго, гэтае слова: «Дзякуй». Дзякуй за што? І знаходзіла толькі адзін адказ: дзякуй за той час, які правялі разам.

Ад разумення гэтага ў Галі кожны раз ад крыўды і болю сціскалася сэрца.

Пасля таго яны больш не бачыліся…

* * *

Мінуў амаль год. Як увесь гэты час жыў Андрэй? Нармальна, як звычайна. Здаў нарэшце кватэру, знайшоў працу. І хоць на новым месцы яму плацілі намнога менш, чым на ранейшым, але прыбытак ад кватэры, у якой жылі кватаранты, дазваляў яму жыць дастаткова бязбедна. Ды і ці многа аднаму трэба?

Ці ўспамінаў ён Галю? Усвядомлена амаль не ўспамінаў. Ён проста стараўся пра яе не думаць. Але ўсё ж ускосна яна заўсёды прысутнічала ў яго ўяўленні. Калі, здаралася, выпадкова спыняў погляд на якой маладой жанчыне, то заўсёды міжволі параўноўваў яе з Галяй. І, што было самым цікавым, цяпер яна не здавалася яму такой непрыгожай як тады, калі разбіла любімы кубак яго маці.

Дарэчы, злосць на Галю прайшла хутка, і яе вобраз зноў стаў нейкім прывабным, замілаваным і кранальным.

Праз нейкі час Андрэю нават захацелася сустрэцца з ёй, папрасіць у яе прабачэння за тое, што быў такім грубым, і працягваць сустракацца, быццам нічога не здарылася. Але хіба лёгка даросламу мужчыну прасіць прабачэння ў жанчыны, калі быццам і няма за што?.. І адразу ж узнікала тысяча прычын, каб не рабіць гэтага. Маўляў, прыдумаў, не такая яна і прыгожая, ды і ў яго ўзросце позна ўжо ствараць трывалыя адносіны з жанчынай, даваць ёй надзею на нешта. Але зноў жа, напэўна, самай галоўнай прычынай не сустракацца з Галяй было тое, што яна наўрад ці спадабалася б ягонай маці.

Пра маці Андрэй успамінаў кожны дзень, у кватэры адчувалася яе прысутнасць. Вопратка маці па-ранейшаму вісела ў шафе. У калідоры на тумбачцы і на паліцы ў ванным пакоі як і раней стаялі шкляначкі і ляжалі цюбікі яе касметыкі. На тумбачцы каля яе ложка ляжала кніга, якую яна не паспела прачытаць, з закладкай пасярэдзіне. Адзіная рэч маці, з якой ён міжволі расстаўся — той кубак, які разбіла Галя.

Андрэй стараўся не ўспамінаць той момант, бо адразу бачыліся спалоханыя, сумныя і разгубленыя Галіны вочы, у якіх застылі слёзы.

Безумоўна, Андрэй адчуваў сябе нягоднікам, які пакрыўдзіў наіўную шчырую дзяўчыну, хаця па ўзросце яна павінна была быць даволі сталай жанчынай. Але ў той момант ён нічога не мог зрабіць з сабой: абурэнне і злосць валодалі ім, а Галін выгляд, варты жалю, не толькі не выклікаў спачування, а наадварот, раздражняў яго.

Свае эмоцыі, якія былі ў яго тады, Андрэй добра памятаў. Цяпер яны палохалі і насцярожвалі, падштурхоўвалі да думкі, што наладжваць пастаянныя і трывалыя адносіны з жанчынай, якія могуць скончыцца жаніцьбай, у ягоным узросце, з яго характарам, з яго аглядкай на тое, што будзе, ужо няварта і позна…

Лічыцца, калі родным сніцца нябожчык, значыць, ягоная душа яшчэ не знайшла спакою, магчыма, ён хоча нешта сказаць таму, каму сніцца ці нават за нешта папрасіць прабачэння…

Маці Андрэю снілася шмат разоў. Часцей за ўсё ў яго снах яна была маладой, а ён быў хлапчуком, яе адзіным і любімым сыночкам.

Ад такіх сноў было незвычайна цёпла і спакойна, прачнуўшыся, не хацелася ўставаць з ложка, хацелася, каб яны доўжыліся і доўжыліся.

Гэтай ноччу маці прыснілася Андрэю ў незвычайным вобразе… Ён стаяў на прыпынку, чакаючы аўтобус. Ён быў такім, як быў цяпер, адзінокі саракапяцігадовы мужчына. Калі зайшоў у салон патрэбнага яму аўтобуса, то ў ім нікога не было, і толькі на адным сядзенні, спінай да Андрэя сядзела пажылая жанчына ў белай хустцы. Яна ўважліва глядзела ў акно. Але як толькі дзверы зачыніліся і аўтобус крануўся з месца, жанчына павярнулася да Андрэя і паглядзела на яго. Што гэта ягоная маці, ён не адразу здагадаўся: яна ж ніколі не насіла хусткі. Калі ж зразумеў, што гэта яна, то адразу памкнуўся да яе, стаў перад ёй на калені і пачаў пяшчотна цалаваць ёй рукі.

— Мама родная, ты жывая! — шаптаў Андрэй, яшчэ не верачы свайму шчасцю. — Мне так няўтульна без цябе…

Маці вызваліла адну руку і як маленькага пагладзіла яго па галаве.

— Мама, куды ты едзеш? — крыху супакоіўшыся, спытаў Андрэй, прыўзняўшы галаву.

Ён устаў з калень і паглядзеў у акно. За акном быў цудоўны зялёны лес, дрэвы раслі блізка адно ад аднаго. Іхнія кроны былі вельмі пушыстыя, галіны перапляталіся і час ад часу шкрабаліся ў шкло вокнаў аўтобуса. Было незразумела, як вадзіцель можа ехаць сярод гэтага густога лесу.

— Далёка, — адказала маці, паказаўшы рукой у нейкім невядомым кірунку.

— А можна, я з табой? — з надзеяй спытаў Андрэй.

— Табе са мной нельга. Ты на наступным прыпынку выходзіш, — сказала яна. Сказала так цвёрда і пераканаўча, што ён зразумеў: пярэчыць нельга.

Андрэй паслухмяна ўзняўся, падышоў да дзвярэй. Аўтобус спыніўся, ён выйшаў з яго, павярнуўся, каб яшчэ раз глянуць на маці, але дзверы зачыніліся. І ён доўга стаяў на прыпынку пасярод густога лесу і плакаў, як дзіця, гледзячы як у зялёных непраходных шатах знікае аўтобус з ягонай мамай…

Калі Андрэй прачнуўся, твар яго быў мокры ад слёз. Ён яшчэ доўга ляжаў у ложку, уражаны незвычайным сном. Андрэй помніў кожную драбніцу, быццам гэта быў не сон, а эпізод з незвычайнага фільма, які яго вельмі ўразіў.

Што гэта было?.. Блаславенне маці, развітанне з ёй, яе дараванне яму за ўсё непрыемнае, што здаралася ў іхнім жыцці?..

«Гэта проста сон, — урэшце вырашыў ён, — бо менавіта так у падобных выпадках і павінен разважаць дарослы разумны чалавек».

Андрэй падняўся з ложка. Памыўся, зайшоў на кухню. Заўважыў, што кава скончылася. Яек таксама няма, а малако ў бутэльцы скісла. Ён да цяперашняга часу не мог звыкнуцца з тым, што зараз менавіта ён сам адказвае за сваё жыццё. І ўся гэтая хатняя руціна, якой заўсёды займалася маці, легла на яго плечы.

У пакоі ён узяў з крэсла пакамечаныя штаны, якія ўчора вечарам забыўся павесіць у шафу на вешалку, надзеў іх, затым апрануў пакамечаную сарочку.

Выгляд у яго быў неахайны, і калі б была жывая маці, вядома, такім яна не пусціла б яго на вуліцу. Але яе побач не было, таму, сунуўшы грошы ў кішэню, Андрэй накіраваўся ў магазін, каб купіць што-небудзь на вячэру.

* * *

Быў схіл лета. Але на вуліцы было цёпла і сонечна. Лёгка і хораша дыхалася, ноччу прайшоў невялікі дождж, і цяпер вільгаць выпаралася пад цёплымі промнямі ранішняга сонца, напаўняючы паветра прыемнай свежасцю.

Андрэй вырашыў скараціць шлях ад дому да магазіна. Для гэтага яму трэба было ісці не вуліцай, якая паўкругам агінала вялікі гай, што ляжаў між ягоным домам і магазінам, а напрамкі.

Звычайна праз гай ён не хадзіў, бо там сцежкі, пратаптаныя між кустоў і дрэў, пасля дажджу былі гразкімі, а адзіную заасфальтаваную дарожку аблюбавалі жанчыны з каляскамі, прагульваючыся з дзеткамі.

Безумоўна, сёння там гразка, і вільготная зямля будзе ліпнуць да чаравікаў.

Андрэй падумаў пра гэта, але ўсё ж вырашыў, што гэта не так ужо і важна. Па-першае, ён і так выглядае не вельмі, касцюм пакамечаны, абутак не пачышчаны. Па-другое, быў выхадны, а гэта азначала, што ў яго яшчэ будзе час, каб надаць сабе прыстойны выгляд. Па-трэцяе, і гэта быў галоўны аргумент, каб ісці праз гай, а гэта ўдвая карацей, — Андрэй быў вельмі галодны.

Ён ішоў па асфальтаванай сцежцы, апусціўшы галаву. Думаў пра дзіўны сон, які прысніўся яму сёння. У яго было прадчуванне, што гэта не просты сон, што ён нешта прадказвае. Вось толькі што?..

Наперадзе ён убачыў чарговую маці з каляскай з немаўлём, сышоў з вузкай сцежкі, даючы ім дарогу. Калі каляска праехала і ён прайшоў некалькі крокаў, раптам яго аклікнуў жаночы голас:

— Андрэй!..

Ад нечаканасці ён здрыгануўся, голас падаўся знаёмым, але Андрэй не адразу пазнаў яго. Ён павярнуўся, убачыў Галю. Так, гэта была яна!..

Андрэй адразу заўважыў, што яна стала больш прыгожай, крыху падабрэла, і, мабыць, таму рысы яе твару сталі мякчэйшымі і больш жаноцкімі…

* * *

Галя ўбачыла яго адразу. Дакладней, перш чым убачыць, адчула яго. Яна павярнулася за хвіліну да таго, як Андрэй параўняўся з ёю. Павярнулася, але праз імгненне спалохана адвярнулася назад: раптам ён заўважыць яе, што тады?..

Ёй захацелася збегчы прэч, схавацца разам з каляскай і дзіцём за дрэвамі. Але зрабіць гэта было не проста: высокая трава адразу за сцежкай і калючыя кусты…

Ёй зноў чамусьці стала сорамна ад думкі, што Андрэй убачыць яе і даведаецца пра яе тайну, якую яна скрывала ад яго. Гэтаксама, а можа, яшчэ больш сорамна было і ў той дзень, калі даведалася, што цяжарная і не ведала, як пра гэта сказаць маці.

Неяк кепска тады ў іх з Андрэем атрымалася: усяго адно спатканне, і адразу… Не прадумана, без пачуцця адказнасці — ды ці мала на гэты конт можна знайсці слоў, якія б давалі таму, што здарылася, адпаведную ацэнку…

Але калі тады Галя асмелілася і сказала маці, што зацяжарыла, тая на здзіўленне адрэагавала на гэта не тое, што спакойна, а нават радасна. Яна абняла дачку і сказала:

— Нарэшце… Нічога, як-небудзь выгадуем. Затое цяпер у нас будзе дзіця, у цябе дачка або сын, а ў мяне ўнук ці ўнучка.

Галя добра разумела, як складана маці даўся гэты спакой. Але яна была веруючай жанчынай, і ніколі не згадзілася б прыпыніць цяжарнасць.... За гэта Галя была ёй бязмерна ўдзячная. Ад маміных слоў ёй тады стала так добра, так цёпла і лёгка, што ўся крыўда, уся злосць, ды і нянавісць на сябе і Андрэя імгненна знікла. Сапраўды, неўзабаве ў яе будзе дзіця, яна больш не будзе адна, у яе з’явіцца сапраўдная мэта жыцця…

Усю цяжарнасць Галя была шчаслівая. Мама стала пяшчотнай і клапатлівай. Такой Галя яе амаль не помніла. Гэта быў як далёкі ўспамін з яе дзяцінства, калі між ёй і мамай быў лад, калі мама бязмежна любіла яе. Але разам з тым былі выпадкі, калі маці спрабавала ўпікнуць дачку, закрануць яе пачуцці, дакараючы, што *ён* не бярэ на сябе ніякай адказнасці за тое, што здарылася. Злавалася яна нядоўга, і толькі тады, калі цяжка было з грашамі: здаралася і такое…

Але бачачы, як Галя крыўдліва рэагуе на гэта, маці адразу ж пераводзіла гаворку на іншае, баючыся нашкодзіць ёй — будучае дзіця паспела ўжо стаць сэнсам жыцця і для яе, пажылой жанчыны, якая засталася без мужа.

На працы Галя да апошняга хавала пад аб’ёмнымі сукенкамі і світарамі сваю фігуру, якая добра-такі змянілася да часу дэкрэтнага водпуску. Яна не хацела лішніх пытанняў, на якія трэба было б адказваць, слоў суцяшэння, абгавораў, плётак. Усё гэта магло азмрочыць яе чароўнае пачуцце будучай маці, хвалюючы стан, яе шчаслівае жыццё ў чаканні цуду, на якое яшчэ нядаўна яна нават і не спадзявалася…

Канешне, спачатку расстанне з Андрэем Галя ўспрыняла, як трагедыю, як крах яе надзей на сапраўднае шчасце. Але пастулова стала адносіцца да таго, што здарылася, як да наканавання лёсу, да яго падарунку, магчымасці нарэшце стаць маці. Таму, калі цяпер яна ўбачыла Андрэя, то не адчула да яго ніякай злосці або нянавісці, але разгубілася, не ведала, як быць, і ёй было сорамна. Яны ж тады, крыху больш за год таму, рассталіся непрыгожа, і безумоўна, у гэтым быў вінаваты Андрэй.

Толькі, ці правільна яна зрабіла, вырашыўшы не паведамляць яму, што зацяжарыла? Ці мела яна права не сказаць Андрэю пра гэта?.. Яна шмат разоў хацела сустрэцца з ім, але так і не сустрэлася. Значыць, хацела і не хацела?.. І што ёй перашкаджала гэта зрабіць? Яна ж ведала, дзе ён жыве.

Мабыць, спачатку яе спыняла пачуццё гонару: як яна можа прыйсці да яго першай, калі ён, правёўшы яе тады, пасля іхняга першага і апошняга спаткання да дому больш не захацеў сустрэцца? Потым з’явілася пачуццё страху:

раптам ён пачне крычаць, што яна цяжарная не ад яго, і гэтым самым ушчэнт разбурыць яе цудоўны стан, яе шчаслівае чаканне?..

А на шостым месяцы цяжарнасці яна наогул стала думаць, што Андрэю неабавязкова ведаць пра тое, што ў яе ад яго будзе дзіця. Тым больш, што ў гэтым рашэнні маці яе падтрымлівала….

І вось цяпер, калі яна ўбачыла яго, пытанне аб тым, ці павінен ён ведаць, што ў яго нарадзілася дзіця, зноў паўстала перад ёй.

Калі Галя зразумела, што гэта прайшоў Андрэй, яна з палёгкай уздыхнула. Але гледзячы на тое, як ён аддаляецца, на яе зноў нахлынулі трывожныя думкі, яе не пакідала пачуццё таго, што яна сама пазбаўляе дзіця бацькі. І як тады, у дзень першага знаёмства з Андрэем, Галя вырашыла: цяпер або ніколі…

Калі Галя выкрыкнула яго імя, ёй здалося, што гэта зрабіла не яна — голас быў нейкім чужым, глухім, далёкім.

Андрэй павярнуўся на гэты голас і здзіўлена паглядзеў на яе. Да горла падступіў камяк, на вачах навярнуліся слёзы, сэрца шалёна закалацілася. І Галя раптам зразумела: калі ён захоча быць з ёй, дакладней, захоча быць з *імі*, яна толькі тады па-сапраўднаму адчуе сябе шчаслівай. Яна зразумела, што для шчасця ёй патрэбны яго падтрымка, яго клопат і любоў.

Андрэй, убачыўшы Галю з каляскай, у якой ляжала немаўля, адразу пра ўсё здагадаўся. У тым, што гэта ягонае дзіця, ён не сумняваўся ні на імгненне.

Ён зазірнуў у каляску і ўбачыў там малюсенькую блакітнавокую дзяўчынку ў белым чэпчыку. Чамусьці зноў вельмі выразна ўспомніў свой апошні сон пра маці, якая паехала ад яго на аўтобусе, і якая не ўзяла яго з сабой, яе блакітныя, крыху выцвілыя вочы і светлы твар, акаймлёны белай хусткай.

— Гэта Люся. Ёй тры месяцы, — шэптам сказала Галя.

— Люся?— здзівіўся ён. — Як ты даведалася?

— Даведалася пра што? — спытала яна.

— Што так звалі маю маму, — адказаў Андрэй, і раптам для яго сон з аўтобусам, у якім невядома куды ад’язджала маці, стаў зразумелым.

Галя нахілілася над каляскай, асцярожна дастала з яе маленькае кволае цельца, загорнутае ў пялюшкі і падала Андрэю. А ён, узяўшы малечу, якая раптам заплакала, трымаючы яе на руках, адчуў, што гэта яго сапраўднае шчасце, сэнс яго далейшага жыцця, і падумаў, як шкада, што побач няма ягонай маці.

Толькі цяпер Андрэй зразумеў, што ўсе гэтыя гады сам пазбаўляў сябе гэтага шчасця, і маці тут ні пры чым. Гэта ён баяўся жыць, як усе, баяўся нарэшце адпусціць падол мамінай спадніцы, за які, як узяўся ў маленстве, так і не адпускаў ужо сталым мужчынам, пакуль яна была жывая, баяўся растлумачыць ёй, што і для яе будзе шчасцем ягоная маладая дружная сям’я, яго дзеці, а яе ўнукі. Усё жыццё баяўся і ўпусціў столькі часу.

А можа, і не ўпусціў? А можа, акрамя Галі яму ніхто і не быў патрэбны?.. І, гледзячы на маленькае цельца, ухутанае ў пялюшкі ў ружовым канверце, падумаў, што наперадзе ў яго яшчэ шмат часу, каб пачаць жыць сапраўдным жыццём, дзеля дачкі, дзеля любімай жанчыны, і дзеля памяці аб самай лепшай і самай клапатлівай маці.





Галіна ЗАГУРСКАЯ

# У ВЯНОК ЯНКУ КУПАЛУ

*Вянок санетаў*

**1**
Купальскаю ночкай пагоднаю
Чароўная зорка заззяла,
Мігцела на небе, лагодная,
А потым на росы упала.

І гэтай часінаю годнаю,
Калі ўся зямліца спявала —
І песня была пераможнаю —
Прарок нарадзіўся — Купала.

Каб ён быў акрылены марамі,
Зямля яго ў росах купала,
У зорнай калысцы люляла,
І песціла летнімі чарамі,
І долю яму прадказала:
Пясняр нарадзіўся — Купала.

**2**
Пясняр нарадзіўся — Купала,
Каб стаць пераможным паэтам,
Пра вольнасць радзімы дбаць стала
І бачыць адзінаю мэтай.

Ды толькі радзіма шчэ спала —
Знямоглаю, горка апетай…

---

***Загурская Галіна Пятроўна*** *нарадзілася 5 студзеня 1945 года ў вёсцы Лявонпаль Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1967). Настаўнічала ў Лявонпальскай сярэдняй школе, а таксама ў сярэдняй школе вёскі Жодзішкі Смаргонскага раёна. З 1973 года жыве ў Полацку. Працавала выкладчыкам і метадыстам у медвучылішчы, потым у ГПТВ № 66 будаўнікоў. Рэдактар народнага літаратурнага аб’яднання «Наддзвінне».*

*Аўтар паэтычных кніг «З далоняў сэрца» (2007), «Да зямлі прытуліцца» (2009), «З росаў святаянных» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2015).*

І так яму ў сэрца запала,
Што шчыра прасіў у Сусвету —

І «сэрцам маліўся, і думамі»,
І кожным збалелым радочкам,
Завеі каб зніклі варожыя…
Глядзеў ён на зоркі над гумнамі
У родным да болю куточку,
Упаўшы на травы мурожныя.

**3**
Упаўшы на травы мурожныя,
Глядзеў Янка на паднябессе
І марыў пра вёскі заможныя
Ад Полацка і да Палесся,

Што будзем двары мець прыгожыя.
Ў прыволлі, як птушкі у лесе;
Што скінем аковы астрожныя,
Якія сусед нам навесіў.

Краіну ён вольнаю бачыў,
Што мела калісьці імя.
Цяпер зноў яна гаравала:
Даўно нехта ўсё перайначыў —
Імя таго болей няма.
Пра тое і зорка шаптала.

**4**
Пра тое і зорка шаптала,
І лес задуменна шаптаў;
Калі поўня мроіва прала,
Шаптаў асакой срэбны стаў;

І рэчка самотна спявала,
І «млын гутарлівы» гукаў,
Жалейка надрыўная грала,
І сад разам з ёй гараваў.

«Мастацкія звівы» натхнялі,
Вучылі «вянок завіваць»,
Каб вершы пісаліся гожыя.
Пшаніцы калоссем шапталі,
Каб мог у краі кожны знаць:
Ён ласкай падораны Божаю.

**5**
Ён ласкай падораны Божаю
Забранай надоўга зямлі,

Надзеі яе гэта множыла,
І волі чакалі палі,

І сцежкі, якія нясходжаны,
І ўсходы на весняй раллі,
І конік на лузе стрыножаны,
І дрэў стогадовых камлі.

А ў песнях «у суме і горы»
Паэт наш з гаркотай пісаў,
Што быў бы шчаслівы Купала,
Калі б над зямлёй нашай зоры
Ўзышлі, месяц ясны заззяў —
Для краю, дзе волі не стала.

**6**
Для краю, дзе волі не стала,
Ёе «скібіну слова» ўздымаў.
«Загнанае слова» Купала
Як Божы дар сэрцам прымаў.

І слова ў дарогу прызвала —
Ён іншага выйсця не знаў,
А доля зямлі вымагала,
Каб ён на ўвесь голас спяваў —

Пісаў, што «мы дома — не дома»,
Мінулае ў нас аднялі —
Ідзём мы сцяжынай няхожаю.
Спяваў ён аб гэтым свядома
Для люду на роднай зямлі —
Лагодзіў нядолю нягожую.

**7**
Лагодзіў нядолю нягожую —
Да лепшае долі ўсіх зваў.
Кляйміў задумы варожыя
І шчыра народ шкадаваў:

Апратка — парою рагожная,
І лапці мужык абуваў…
І думка шчымела-курожыла:
Народ доўга волі не знаў.

Ён марыў: урэшце «прачнецца
Мільённы прыспаны народ»,
А доля, што доўга так спала,
Дабром для яго адзавецца —
І будзе шчаслівым наш род.
Да зораў народ зваў Купала.

**8**

Да зораў народ зваў Купала
І мройна на неба глядзеў,
Якое яму дар паслала,
Каб зорным ягоны быў спеў.

І слава паэта чакала —
Шырокім яе быў павеў…
Планіда ж, напэўнае, знала,
Што хтось абарве яго спеў…

Купала «загнанае слова»
«Грымець» зваў над роднай зямлёй.
Яму беларуская мова
Мілей была мовы чужой.
Яна і ляцела замовай
Над любай яму стараной.

**9**

Над любай яму стараной
Ён песню пачуў лебядзіную.
Было гэта ранняй вясной —
Сустрэўся Купала з дзяўчынаю.

Здалася яна незямной:
Прыгожая, сэрцам наіўная,
Ды толькі прайшла стараной,
Бо стаць не схацела адзінаю.

Пасля пашкадуе яна —
Калі ўжо вяртацца запозна,
І пойдзе сваёю сцяжынаю…
Каханне ж у вершах спаўна
Аціхнецца песняю лёзнай,
Дзе явар шаптаўся з калінаю.

**10**

…Дзе явар шаптаўся з калінаю,
Уладку сваю ён сустрэў,
З ёй слухаў бароў родных спеў.
Навек яна стала адзінаю.

І чулася музыка дзіўная,
Сусвет таямніча мігцеў…
Паэт жа забыць не хацеў
Пра долю зямелькі радзіннае.

Народу свайму «у аковах
З-пад сэрца ён песню» спяваў
Вясною сваёю шчаслівай.

Жадаў яму долі ён новай —
Пра гэта і песні складаў,
Калі каласіліся нівы.

**11**
Калі каласіліся нівы,
Калі сенажаці цвілі,
Туманаў гулялі завівы,
Паэтавы песні плылі.

Быў рэдка паэт наш шчаслівым,
Хоць іншымі песні былі
У часе савецкім імклівым…
Даносы ж паўсюль расцвілі.

Гняздоўі наладзілі каты —
Там здзекі тварылі свае
Над кожнай жывою душой,
Загнанай за іхнія краты.
Хто ж весела тут запяе
Ці ўвосень, ці бурнай вясной?!

**12**
Ці ўвосень, ці бурнай вясной,
Ці ўлетку, ці ў час завірухі
Душэўныя мудрыя зрухі
Вадзілі паэта рукой.

І часта парой верасной
Ён слухаў птушыныя гукі.
Да высяў цягнуліся рукі
З-пад дрэў, што паўсталі сцяной.

У лесе рабіў ён «папас»,
Ўбіраючы шумы лясныя,
Калі размаўляў там з калінаю —
І гэтым лячыўся не раз
Ў прыгожыя дні верасныя…
Сцякаў сум нябеснай слязінаю.

**13**
Сцякаў сум нябеснай слязінаю.
Калі ж лістападаўскім днём
Жыццё стала мукай адзінаю —
Хацеў развітацца з жыццём.

І гэтай адчайнай часінаю
Яго апаліла агнём:
Жыццё прамільгнула карцінаю,
Дзе зноў у хлусні мы жывём.

Змірыцца — сябе гэтым знішчыць:
Ён марыў аб іншым зусім…
Народ зноўку стаў палахлівым…
«Марусі» начамі ўсё вішчуць,
А думкі мільгаюць: за ім…
Няўжо Беларусь для маўклівых?

**14**
Няўжо Беларусь для маўклівых?
І думка шчымлівай была:
Не бачыў народ ён шчаслівым
І клікаць не мог да святла.

Былі нам падрэзаны крылы,
Ды толькі надзея жыла…
Не можа паэт быць маўклівым
І лётаць на паўкрыла.

І жыў ён сваёю надзеяй,
Бярог яе як толькі мог…
І светлаю верай-надзеяю
Яго падарыў нам Сам Бог.
А слова яго палымнее,
Квітнее, як летні мурог.

**15**
Купальскаю ночкай пагоднаю
Пясняр нарадзіўся — Купала.
Упаўшы на травы мурожныя,
Пра тое і зорка шаптала.
Ён ласкай падораны Божаю
Для краю, дзе волі не стала:
Лагодзіў нядолю нягожую —
Да зораў народ зваў Купала.

Над любай яму староной,
Дзе явар шаптаўся з калінаю,
Калі каласіліся нівы,
Ці ўвосень, ці бурнай вясной
Сцякаў сум нябеснай слязінаю:
Няўжо Беларусь для маўклівых?





Юльяна ПЯТРЭНКА

# БЕЗЫМЕННЫЯ ПРАРОКІ

*Апавяданне*

***Нават самая павольная рака
некалі зліваецца з морам***

## 1

*Восень. Месяц і дата не вядомыя — у маім пакоі каляндар адсутнічае.*

Сёння Прарок казаў палка, як ніколі. Ён сядзеў блізка-блізка — адно працягні руку — і можна крануцца яго нябесна-блакітнага ўбрання, гладкіх попельных валасоў і бронзавай скуры. Тонкі маршчыністы твар выглядаў схуднелым і зморaным, як заўсёды пасля дальніх дарог і вандровак. Толькі па агністых вачах яго і засяроджаных, усхваляваных тварах слухачоў можна было зразумець, што гутарка ідзе аб нечым вельмі важным і ўзнёслым.

Седзячы ў вялікім Нябесным пакоі на мяккай падлозе паміж аднадумцамі і паплечнікамі ў такіх жа нябесна-блакітных убраннях, я намагалася засяродзіцца на белай столі, знаёмых тварах вернікаў і вуснах Прарока, але дарма — бяссонная ноч давалася ў знакі: толькі глухім перакатным рэхам далятаў да мяне голас Прарока, быццам тугое паветра Нябеснага пакоя паглынала яго, як размораная вячэрнім сонцам мутная вада. Тая вада, што зноўку і зноўку ўрывалася пеністымі вірамі ў мае сны, бурліла, шумела, расцякалася чорнай плямай па венах і жылах, сціскала грудзі, падыходзячы да самага горла, запаўняла лёгкія і нястрымна апякала нутро. А потым прыходзіла выратавальнае святло: балючае і колкае, яно вырывалася тысячамі іскраў, пырскаў і галасоў… Чыстых, мяккіх, далёкіх, як голас Прарока…

— Цябе зноў мучылі ўяўленні?

— А? — спахапілася я, разумеючы, што голас Прарока цяпер гучыць у пустым Нябесным пакоі, над самым маім вухам і для мяне асабіста.

— Ты зноў чула Галасы?

— І шум вады, — прызналася я.

— Ты выбрала небяспечны шлях.

---

***Пятрэнка Юльяна Вітальеўна*** *нарадзілася 13 снежня 1981 года ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка (2005). Працавала сурдапедагогам.*

*Апавяданні друкаваліся ў часопісе «Маладосць».*

*Жыве ў г. Гомелі.*

— Я не выбірала. Я нікога і нічога не клічу ў свой сон, — я ўзнялася з аблочна-белай падлогі, але сухая гарачая рука Прарока настойліва прытрымала маё плячо:

— Гэта ты так лічыш. Шлях не абірае цябе. Ты абіраеш яго сама. Упускаеш у сваё жыццё, а потым падпарадкоўваешся. Сцеражыся. Галасы паклічуць і забяруць цябе, як некалі забралі мяне.

Пазіраючы ўслед Прароку, я не ведала, радавацца мне альбо плакаць.

Няўжо і я буду вось так гуртаваць вакол сябе людзей і несці ім сваё Слова? Няўжо яны з трапятаннем і надзеяй будуць лавіць кожны мой рух? Шанаваць, пакланяцца, раіцца? Вобразы, галасы, уяўленні некалі зробяць сваю справу і ўзнясуць мяне на вяршыню нашага цеснага свету, наблізяць да аблокаў, зробяць Абранай, даруюць прызнанне і славу. А як да гэтага паставіцца сам Прарок? Ці не адбяру ягонае імя разам з ягоным Словам? Сталы, мудры, навучаны жыццём і дарогамі — ён сыходзіць, калі яму ўздумаецца і вяртаецца, каб прынесці нам Слова. Якім бы стомленым і змарнелым ад блуканняў ён ні быў, а вочы заўжды гараць, і голас гучыць бадзёра і ўпэўнена. А што магу сказаць людзям я? Што данесці? Якое яно, Слова? Дзе і калі яно нараджаецца? Якім чынам трапляе да Прарокаў, каб выліцца нястрымным патокам і прыйсці да народа?

У самоце я доўга сядзела на падлозе Нябеснага пакоя. Тут не было вокнаў, мяккае блакітна-серабрыстае святло лілося са сцен і столі, але я ведала, што надышоў вечар — слугі ў белых адзеннях (адзнака ніжэйшай касты па словах Прарока) прынеслі паднос з вячэрай, пітвом і ўсім неабходным.

За імі зазірнуў Руды. Апошнім часам ён адшукваў мяне паўсюль, дзе б я ні знаходзілася — і гэтым вельмі раздражняў. І не столькі ён сам, як яго сутулая постаць і нязграбная шаргатлівая паходка, абыякавы выраз рабаціністага твару, выцвілы голас і блукаючыя вадзяністыя вочы. Вобраз дапаўнялі ўскудлачаныя медныя валасы, залішняя хударлявасць і бледнасць, доўгія нязграбныя рукі і поўная абыякавасць да ўсяго, што адбываецца.

— Сядзіш? — ляніва спытаў Руды, гледзячы скрозь мяне. — Ну і сядзі.

Я ўздыхнула:

— Руды! Вось скажы, цябе хоць што-небудзь хвалюе ў жыцці? Ходзіш, спіш, ясі — існуеш… А пра што ты думаеш? Ёсць у тваёй калматай галаве хоць якія думкі?

— Думаю, што годзе тут сядзець — слугі напоўнілі ванны і разаслалі ложкі. Каралева будзе шукаць цябе.

— Каралева… — хмыкнула я. Зараз мяне найменш цікавіла Каралева. Яе паважалі і баяліся ўсе, але не любіў ніхто: фанабэрыстая, заўжды ўпэўненая ў сабе і сваёй уладзе, бо ўлада гэтая трымалася на пакорных слугах і баявой варце, яна кіравала ўсім: сняданкамі і вячэрамі, ваннамі, ложкамі і нашымі розумамі. А я не любіла яе больш за ўсіх, таму што яна не любіла Прарока. Канешне, яна ўважліва слухала яго і ківала галавой, але насмешлівыя агеньчыкі ў вачах і паблажлівая ўсмешка выдавалі яе недавер. Ці бачыў гэта сам Прарок? Вядома. Бачыў і працягваў быць шчырым з ёй і з самім сабой. Ён не імкнуўся забраць яе народ. Народ сам цягнуўся да Прарока. А ці разумела гэта яна? Што казала яму ў доўгіх размовах, калі запрашала ў свае пакоі?

Мне яшчэ расці і расці да Прарока. А пакуль я звыкла апускаю ў прысутнасці Каралевы вочы — каб яна не заўважыла, не пабачыла ў іх равучыя пенныя віры Галасоў — бурлівыя ручаі, гатовыя прарваць на сваім шляху любыя плаціны і гаці, каб вырвацца на волю і прынесці людзям Слова.

— Ці чуеш? — манатонна, як надакучлівая муха, паўтарыў Руды, вяртаючы мяне ў Нябесны пакой. — Уставай, кажу. Пайшлі.

Спаць мне не хацелася. Мы моўчкі прагуляліся па зарослай плюшчом і папарацццю аранжарэі да самага фантана, дзе стаяла шырокая лаўка на каменных лапах. Па-над шкляной столлю павольна плылі шызыя аблокі, часам праглытваючы тонкі шчарбаты месяц і бляклыя зоркі.

Руды застаўся стаяць, задраўшы галаву і разглядаючы іх. Я прысела на лаўку і зірнула на бурлівы фантан:

— Руды, мне здаецца, я не люблю ваду. Нават баюся яе.

— Добра. Тады пойдзем спаць.

— Чаму ты гэтакі смоўж? Чаму не пытаеш, з-за чаго, навошта і па якой прычыне?

Ён адвёў позірк ад неба, і зноў паціснуў плячыма. Затым прашамацеў сваім выцвілым голасам:

— Захочаш — раскажаш.

— А нічога я не раскажу, раз табе нецікава.

— Як знаеш, — абыякава кінуў ён і пашаркаў да выхада.

Я рашуча перагнала яго, лёгка штурхнуўшы худую постаць плячом, і накіравалася акурат у спальню, дзе мяне ўсё яшчэ чакала прыслужніца ў белым адзенні, каб дапамагчы ўкласціся ў ложак, падаткнуць коўдру і патушыць святло.

Руды апошнім часам вельмі, вельмі раздражняў мяне…

## 2

*Дакладна кастрычнік, 26.*

*Атрымалася зірнуць на каляндар у пакоях Каралевы.*

Сёння Прарок выглядаў яшчэ больш стомленым і паніклым, выходзячы з пакояў Каралевы — мабыць зноў нешта дарэмна даводзіў ёй, марнаваў час і Слова.

— Хачу несці людзям Слова, як і ты, — я ступіла яму насустрач. — Скажы мне, яно аднолькавае для ўсіх ці ў кожнага нараджаецца сваё?

Ён узняў глыбокія ўдумлівыя вочы:

— Хадзем…

Для пропаведзі было занадта рана. Мы прайшлі скрозь шкляную галерэю і прыселі на каменную лаўку побач з фантанам.

Прарок пачакаў, пакуль пара цікаўных прахожых схаваецца на сцежцы за зараснікамі дробных жаўтлявых руж, і спытаў:

— Ты цвёрда ўпэўнена ў сваім рашэнні?

Я нясмела кіўнула.

— Уступіўшы ў гэтую раку, ты пазбавішся спакою, і жыццё тваё ніколі не будзе ранейшым.

— Калі я чую Галасы, то яны абралі мяне, а я — іх. Хіба не так ты казаў?

— Пэўна, ты хацела пачуць гэта. Што кажуць табе Галасы?

Я збянтэжылася ад увагі Прарока:

— Не магу разабраць… Спярша мяне паглынае цёмная несуцішная вада, з-за шуму якой Галасы чуюцца слаба… Немагчыма разабраць іх словы.

— Дрэнна. Як я магу навучаць цябе, калі ты сама не ведаеш, ці чуеш Слова.

— Я навучуся! Змагу! Я буду прыслухоўвацца, ныраць на тую неабходную глыбіню, каб пачуць яго! — паабяцала я, узрадаваная тым, што Прарок бярэ мяне ў вучаніцы і паслядоўніцы.

— Ці зможаш стрымліваць сябе, не быць падобнай да гэтага фантана, — махнуў ён рукой, — які бяздумна расплюхвае ваду, замест таго, каб збіраць у сабе мудрасць? Зможаш супрацьстаяць плыні, каб свавольныя струмені не адняслі цябе далёка? Зможаш не заліць, не затапіць нікога навокал, каб яны не захлынуліся — няхай лепш па кроплі ўбіраюць твае Слова і прапускаюць яго скрозь сябе, паглынаючы столькі, колькі здольныя паглынуць?

— Буду вучыцца ў цябе. Я змагу, калі гэта неабходна.

Ён змякчыўся і загаварыў проста, быццам і не Прарок, а звычайны Руды:

— Сказаць папраўдзе, ніколі не сніў вады. Затое Галасы я чую гэтак жа выразна, як зараз цябе. Слова само нараджаецца ў маёй галаве. Прыходзіць з ніадкуль. І трэба хуценька запісаць ці запомніць яго, каб не сышло ў нікуды. Не абдумаць, не раскласці на гукі і сэнсы, а проста запомніць, каб у чыстым неразбаўленым выглядзе данесці людзям.

— Што яшчэ мне трэба знаць?

— Ёсць адна цяжкасць, — Прарок пільна сачыў за маім тварам. — Як ведаеш, часам я пакідаю вас…

— Так, бо ўсім людзям патрэбна твае Слова.

— Не зусім. Я сыходжу ў Іншасвет — бо я адзіны, каму Каралева дазваляе гэта рабіць.

— Іншасвет! Няўжо?! Ён існуе! Я верыла, я ведала! Народ шэпчацца пра гэта!

— Цішэй! — Прарок да болю сціснуў маю руку і абярнуўся да зараснікаў руж. — Пра Пераход туды ніхто не павінен ведаць, акрамя Прарокаў… Спачатку разбярыся ў сабе і сваіх снах, а потым будзем думаць, што рабіць далей, і ці патрэбен табе Іншасвет для натхнення, як патрэбен ён мне.

— Дзякуй за давер, — я з такім замілаваннем глядзела на майго настаўніка, што слёзы ўдзячнасці ледзь не засцілалі вочы. — А які ён, Іншасвет? — я таксама сцішыла голас і пасунулася бліжэй.

— Амаль такі, як наш. Але толькі звонку. Многія з’явы і рэчы азначаюць зусім не тое, чым падаюцца, а людзі — зусім не тымі, за каго сябе выдаюць.

— Людзі?! Там ёсць людзі?

— Жаласнае падабенства людзей. Іх цені, адбіткі і адлюстраванні. Здані.

— Ты размаўляў з імі? Хадзіў да іх з пропаведзямі?

— Іншасвет жыве іншымі клопатамі. Душы — сляпыя, глухія і нямыя — зачыненыя для Слова. Здані кажуць толькі тое, што хочуць чуць іншыя, і бачаць тое, што ім хочуць паказаць.

— Як гэта? Я заблыталася…

— У Іншасвеце кожны лезе са скуры, каб спадабацца іншым, робіць тое, каб адпавядаць іх запытам і агульным, невядома кім і калі прыдуманым нормам. Тое, што кіпіць у іх сэрцах — не выносіцца вонкі, затое з лёгкасцю выплюхваецца тое, чаго там ніколі не было. Таму здані баяцца зазірнуць у сябе, спазнаць свае сапраўдныя жаданні і патрэбы; баяцца свабоды. Там няма свабоды. Ні ў чым. І гэта таксама норма. Яны ненавідзяць адно аднаго, але не могуць жыць у адзіноце — для самалюбавання ім патрэбны іншыя.

— Як страшна… Ты не баішся?

— Калі ты свабодны — табе няма чаго баяцца. І вось яшчэ: ты трапляеш у Іншасвет толькі ў снах і толькі розумам. Я — на яве і целам. Вось у чым розніца. Падумай над гэтым.

— А як мне патрапіць туды?

— Час. Хопіць на сёння, — Прарок узняўся, расправіў нябесна-блакітнае адзенне і пакрочыў прэч — адно захрабусцелі пад чаравікамі дробныя каменьчыкі на віхлястай сцежцы.

Сённяшняя пропаведзь была доўгай. Заклапочаны тым, што народ бянтэжаць чуткі пра Іншасвет, Прарок тлумачыў, чаму жыць у ім немагчыма. Толькі тут, у нашым бяспечным, стабільным, і спакон веку правільна ўладкаваным свеце, мы можам заставацца сабою і паважаць права іншых на гэта. Затым нагадаў пра неабходнасць сачыць за сваімі думкамі і дзеямі, не пераліваццa цераз край фантанам, каб не патапіць блізкіх і не захлынуцца самому. Бо толькі пакорлівыя і цярплівыя могуць ствараць шоўк з лісця, мёд з ружовых пялёсткаў і ўзоры са слоў...

І тут я з жахам зразумела, што не згодна з Прарокам, упершыню ўсумнілася ў Слове яго.

Што гэта? Ганарлівасць і высакамернасць? Я ж таксама цяпер Абраная — таксама чую Галасы і адчуваю сябе нароўні з Прарокам.

Я аглядзела зацікаўленыя твары прысутных, што сядзелі на мяккай падлозе. Якое глупства! Як можна назваць Нябесным пакой, у якім ніколі, ніколі не бачна неба!? Нават акна ніводнага не маецца! Як бессэнсоўна ўсё зроблена: воблачна-белыя сцены, бялюткая мяккая падлога, па якой нязручна ступаць, і снежна-белая столь, з якой льецца нябеснае святло, ад якога балюча вачам, калі глядзець на яго доўга. Якая бязглуздзіца! І ў нашым «уладкаваным» свеце, і ў пустых нікчэмных пропаведзях! Пакора і воля не ходзяць побач!

Слухачоў было чалавек дваццаць — не болей. Амаль усе яны не зводзілі вачэй з твару Прарока, ловячы кожнае яго Слова. І толькі Руды абыякава разглядаў свае доўгія бледныя пальцы, ды ў дальнім куце ціхенька ўсхліпвала старая кручканосая Марта.

Ну што ж, сабой — дык сабой. Я зрабіла тое, што не рабіла ніколі: узнялася і выйшла. Хацелася пабыць адной.

У цесным блакітным калідоры з рыпучымі масніцамі мяне нагнаў Руды:

— Давай у шахматы.

— Чаму ты не на пропаведзі?

— А ты? Ці толькі табе адной можна?

— Прарокі (чамусьці я казала ў множным ліку, маючы на ўвазе і сябе) ніколі нікога не прымушаюць слухаць Слова.

— А я цябе прымушаю: давай у шахматы, — ён прыадчыніў белыя дзверы, прапускаючы мяне.

— Як ты мне надакучыў са сваімі гульнямі, — зморшчылася я, але паслухмяна прысела на край высокага крэсла з рэзьбяной спінкай, якое стаяла круглымі ножкамі на падлозе з чорна-белымі квадратамі. Побач з ім выраслі квадратныя ножкі круглага століка, на якім ляжала квадратная чорна-белая дошка з бела-чорнымі фігурамі. На суседніх століках і палічках ляжалі іншыя нікчэмныя гульні: фішкі, кубікі і карткі.

— Я — чорнымі.

— Як знаеш, — Руды раўнютка расставіў восем белых пешак на сваёй палове дошкі і прыняўся за іншых. Потым без папярэджання зрабіў пешкай крок на два полі.

Я адказала крокам на адно.

Затым скокнуў белы конь Рудога маршала.

Я зрабіла яшчэ адзін крок наперад.

Пешка Рудога раптам папаўзла па дыяганалі, падбіраючыся да маёй.

— Ты зусім не ўмееш гуляць, — суха паведаміў ён, забіраючы маю пешку ў палон. — Я ж вучыў.

Я перасунула наперад іншую, бязлітасна падстаўляючы яе пад удар каня:

— Руды, навошта ты марнуеш свой час і займаешся гэтай лухтой?

Ён соп і соваў фігуры:

— Я хачу абыграць Каралеву.

— І што?

— І ўсё.

— Дык гэта мэта твайго жыцця? Больш табе нічога не трэба? Каралева… Закахаўся хіба?

— Гэта ты закахалася. Увесь час праводзіш побач з Прарокам, — у гульню плаўна ўвайшоў белы ферзь.

Я рассмяялася. Потым нахілілася над дошкай, вызваляючы дарогу сваёй ладдзі:

— Ведаеш, я хачу несці Слова, як Прарок.

— Нельга стаць ім па сваім жаданні — не ўсім дадзена. Хадзі.

— А мне дадзена, — я перасунула ладдзю з А8 на А4, — толькі я не хачу, як Прарок, быць той лужынай, якая ад нараджэння да знікнення поўніцца Словам і чакае, які пакутуе ад смагі, каб падзяліцца з ім кроплямі. Я магу расказаць тое, што было, і дадумаць тое, што магло б быць. Я буду фантанам, накрываючым Словам усіх навокал. І не толькі ў гэтым свеце, дзе народ жыве агароджаным ад усяго, як ружы ў аранжарэі. Я хачу несці слова тым няшчасным зданям, што насяляюць Іншасвет. Мне ёсць што сказаць і на тым, і на гэтым свеце — абодва яны недасканалыя.

Руды адклаў у бок маю пераможную пешку, якую я пусціла для «затраўкі», і дапытліва ўтаропіўся ў мяне. Я працягнула:

— Не глядзі так. Я не магу больш маўчаць пра тое, што думаю. Думкі, Словы і вобразы хвошчуць мяне бязлітаснымі нястрымнымі хвалямі. Кожную ноч я бачу рэчы і з'явы, чую Галасы Іншасвету. Галасы тых, хто згубіў сцежку і мае патрэбу ў маім Слове, каб здабыць нарэшце свабоду і пабачыць сапраўднае жыццё. Разумееш?

Руды задумліва круціў у руках белую каралеву:

— А ў мае сны прыходзяць дзівосныя кветкі, чароўныя дрэвы і яркія рознакаляровыя птушкі… Нейкія істоты і сцежкі, пераплеценыя фарбамі ў зоркі і арнаменты…

— А раптам гэта твая існасць? Тваё пакліканне? Не думаў пра гэта? Ты мог бы маляваць свае сны і мроі, несці асалоду сабе і іншым — тым, каму не дадзена, але вельмі хочацца дакрануцца. І не тут, дзе ўсё распланавана загадзя — абед і вячэра, сон і ванна, шпацыр, пропаведзь і гульня ў шахматы — на сотні гадоў наперад. Мы не жывём — мы ўсе застылі,— я зноў пасунула ладдзю наперад, упершыню пабіўшы белую пешку, і гэтая маленькая перамога натхніла мяне.

Руды перастаў сачыць за гульнёй, лёгкі румянец выдаваў яго хваляванне:

— Хіба можа быць некалькі Прарокаў?

— Ды хоць тысяча! Вольны чалавек сам выбірае, каго слухаць і за кім ісці.

— Быў некалі яшчэ адзін Прарок… І знік. Назаўсёды…. Я не хачу, каб ты знікла назаўсёды… — Руды зазірнуў мне ў вочы, але я адвяла іх:

— Мабыць, ён не вярнуўся, застаўся па той бок. Ты ведаў, што наш Прарок сыходзіць у Іншасвет?

— А ты ведала, што Каралева сыходзіць туды разам з вартай і слугамі?

Мы кінулі гульню і сядзелі моўчкі, як два змоўшчыкі.

— Я не хачу, каб ты знікла назаўсёды, — нарэшце паўтарыў Руды.

— Ты пакажаш мне пераход у Іншасвет, і мы знікнем разам. Ты ж бачыў?

— Не бачыў. І гэта няправільна. Нельга пакінуць Каралеву, дзякуючы якой мы жывём у міры і бяспецы, і збегчы невядома куды. Іншасвет чужы і поўны жахаў — хіба не так казаў Прарок?

— Які ж ты смоўж, Руды! Дохлая рыбіна, мёртвая вада!

— Ціха, не крычы — за намі прыйдуць.

Як жа Руды раздражняў мяне апошнім часам!

Я ўзнялася, штурхнуўшы круглы стол разам з квадратнай шахматнай дошкай. На чорна-белую падлогу шэрым дажджом пасыпаліся бела-чорныя фігуры.

— Ну і сядзі тут, у гнілым смуродным балоце, у сваім акварыуме, і збірай па кроплі сваю так званую мудрасць, баючыся павярушыцца і расплюхацца! — я са злосцю абярнула і крэсла.

На шум збегліся ўстрывожаныя слугі, правялі мяне ў пакой і далі заспакаяльнага адвару.

### 3

*Дзень наступны апасля таго, які быў учора.*

Мне снілася вада. Сярдзітымі раз'юшанымі патокамі яна абрушвалася з усіх бакоў, падмінала, круціла і камячыла цела і розум. Павярушыцца і супрацьстаяць яе велічы і гневу было немагчыма. Шалёна бурліла і цягнула ўніз, дзе ветліва гойдалася багавінне, абяцаючы прытулак і сховішча. Цеплыня верхняга, прагрэтага сонцам слоя пакрысе змянялася мёртвай халадэчай, быццам я апускалася ў цёмны склеп. Бліснула і зноў згасла святло і пачуўся голас: «Дыхай! Ну! Давай жа ж! Прашу цябе, жыві! Дыхай!»

Я прачнулася ў халодным ліпкім поце.

За вокнамі шарэла мутная раніца, грукаў у шыбу аднастайны калючы дождж. У мяккім крэсле пад васковым святлом таршэра сядзеў Руды, адсутна пазіраючы на шкло, па якім сцякалі дробныя кроплі.

— Руды, а, Руды?! — крыкнула я, нават забыўшыся здзівіцца, якім чынам ён патрапіў сюды.

Ён павольна павярнуў да мяне апельсінавую, гладка прычэсаную галаву.

— Руды, скажы, я памерла?

— Не думаю, што мёртвыя размаўляюць, — як заўсёды абыякава адказаў ён.

— Знаеш, я бачыла дзіўны сон… Мне здаецца, Руды, што ўсе тут мёртвыя, — я звесіла з ложка босыя ногі. — Мы ўсе, як дурні, сядзім на мяккай падлозе Нябеснага пакоя, дзе не бачна неба, і слухаем Прарока. Потым ідзём у свае ложкі, не клапоцячыся ні пра што і не ведаючы, што даўно памерлі.

— Мёртвыя не сядзяць на падлозе і не слухаюць Слова Прарока. Мёртвыя не бачаць сноў.

— Адкуль ты ведаеш? Ты заўсёды разважаеш пра тое, чаго не ведаеш.

— А ты?

— Ды ну цябе… Закрый лепш шторы — я больш не жадаю бачыць гэты мярзотны дождж.

Ён працягваў сядзець. Акуратна прычэсаны і на дзіва бледны сёння.

Не дачакаўшыся, я накінула халат паверх начной кашулі і басанож накіравалася да акна. Зашмаргнула шторы і павярнулася да Рудога:

— Не пакрыўдзіўся? За ўчора?

Ён маўчаў, пазіраючы на акно, быццам праз завешаныя шторы ўсё яшчэ праводзіў позіркам кроплі.

— Што ні кажы, але ж ты — мой адзіны сябра, а я не ўмею іх выбіраць,— я прысела на ложак і пачала абувацца. — Хочаш, згуляем у шахматы? Ці пройдземся да фантана?

— Там цяпер ідзе дождж і гуляе вецер…

— Тады давай сачыць за Каралевай і Пераходам у Іншасвет. Ты павінен быў бачыць тое месца. Сам казаў.

— Я не ведаю.

— Усё ты ведаеш, Руды. Ты навучыўся хлусіць.

— А ты не навучылася верыць.

— Ідзі прэч.

Слугі сёння спазняліся, але я ніколі не сердавала на іх. Прыбіраючы ложак, я чакала апраўданняў Рудога, бо размова яшчэ не скончылася. Але за вокнамі сцішыўся дождж і ў нябесна-блакітным пакоі панавала цішыня. Крэсла пад таршэрам пуставала.

Я зазірнула за шторы — там не было нічога, акрамя аслізлага неба і шэрага каменнага двара ўнізе. Ад старых слупоў ліпкім чорным павуціннем цягнуліся да абшарпаных будынкаў правады, спрабуючы ўдавіць і выцягнуць з іх усе сокі. Шэры двор, далёкія шэрыя дамы з пустымі вачніцамі, брудныя цагельныя трубы — усё шэрае. Толькі мы і нашыя сцены нябесна-блакітныя, як адлюстраванне недасяжнага неба ў чыстай вадзе.

З калідора данёсся шоргат. Расчыніўшы дзверы, я нос у нос сутыкнулася са старой Мартай.

— Сёння Каралева будзе ведаць, што ты падслухоўваеш пад чужымі дзвярыма, — адразу заявіла я.

— Сёння Каралева будзе ведаць, што ты размаўляеш сама з сабой, — па сухім кручканосым твары ў атачэнні сівых пасмаў блукала ўсмешка.

— Падслухоўваць навучылася, дык навучыся і падглядаць. Руды толькі што прайшоў паўз цябе.

— Падслухоўваць, падглядваць, падседжваць, падлічваць, падбіваць, падлоўліваць, падсочваць, падахвочваць, пад’юджваць, падвываць, — залапатала Марта і раптам выпаліла, пырскаючы слінаю: — Забойца! Ты — забойца! Я бачыла! Я ўсё бачыла, як ты сварылася з Рудым і кідалася ў яго мэбляй!

— Аб чым ты? Ідзі праспіся!

Я з сілай адшурхнула яе і накіравалася ў Нябесны пакой — прытулак для адчыненых і прасветлых душ — каб знайсці свайго настаўніка.

— Адсюль нельга выйсці, — настойліва паўтараў Прарок.

— Але ж ты выходзіш! І Каралева!

— Ты не Прарок і не Каралева.

— Вы што, з Рудым змовіліся?

— Рудога больш няма сярод нас. Ён пакінуў гэты свет.

— Сышоў? Усё ж такі збег? Якім чынам?

— Ноччу пасля шахмат і размовы з табой яго знайшлі каля фантана… Разбіў шкляную сцяну галерэі каменнай лаўкай, але на волю так і не выйшаў. Перарэзаў шклом вены. Наўмысна ці не — хто ж ведае… Жудаснае відові-

шча… Навошта ты ўводзіш народу ў вушы, што ні тут, ні там няма сапраўднага жыцця? Як ім жыць пасля гэтага?

Я падціснула вусны і пакрочыла ў свой пакой. Вось табе і сябры... Руды ўсё расказаў Прароку. Змовіліся, каб выбіць мяне з каляіны, пахіснуць у маёй асабістай веры. Больш ні нагой ні на пропаведзь, ні да Рудога. Бачыць яго не жадаю. Калі вярнуся, ён яшчэ пашкадуе, што не адправіўся са мной пазнаваць той свет, што распрасцёрся за ўтульнымі нябесна-блакітнымі сценамі.

Сачыць за Каралевай было няпроста. Варта каля яе пакояў штораз строга вяртала мяне назад.

Я навучылася быць незаўважнай — быць маўклівым ценем, дрыготкім адлюстраваннем, лёгкай хваляй, марской пенай, ціхай плынню...

Пад вечар, калі прыйшлі новыя слугі, а сама Каралева знікла і яе пакоі аказаліся зачыненымі, я дабралася да ліловага калідора, дзе не рыпелі масніцы, і насценныя ліхтары падсвечвалі не дрэўцы ў кадках, а размешчаныя на сценах радавыя гербы, граматы і фамільныя партрэты. На адным з іх красавалася выява знаёмай жанчыны, маладой і круглатварай, з бліскучымі шэрымі вачыма і прыбранымі вакол галавы цёмнымі косамі.

**КАРАЛЕВА**
**Марыя Эдуардаўна**

— абвяшчаў надпіс.

Я і не ведала, што наша Каралева звалася Марыяй…

У самым канцы калідора я пабачыла дзве калоны, побач з якімі размаўлялі рослыя мужчыны з варты Каралевы, і дзверы — напалову шкляныя. Спачатку я надумала вярнуцца і адабраць белую вопратку ў адной са сваіх служанак, каб пракрасціся незаўважна. Але да гэтага не дайшло — хутка мужчыны зніклі за дзвярыма, стала ціха. Хаваючыся за дрэўцамі, я падабралася да шкляных дзвярэй. На дзіва, яны былі не замкнутымі.

Якім жа было маё здзіўленне, калі за імі паўсталі яшчэ адны дзверы — гладкія і бліскучыя. Адшукаць на іх паверхні клямку, ручку ці замочную шчыліну не атрымалася. Са злосці я грукнула ў іх, ажно далонь запалала. Няўжо ўсе намаганні пабачыць Іншасвет і яго насельнікаў дарэмныя? У адчаі я прытулілася лбом да прахалоднай, як веснавы лёд, паверхні.

За дзвярыма задрыжэла, загуло, заскрыгатала, быццам ажыў вялізны механізм у жалезным чэраве: зарыпелі цяжкія тросы, закашляўся рухавік, закруціліся шасцярэнькі.

Спалоханая, я ледзь паспела нырнуць за кадку са штучнай калматай раслінай, як бліскучыя дзверы расчыніліся самі — распаўзліся ў бакі, як вусны гіганцкай пачвары ў нядобрай усмешцы — і ў іх паказалася Каралева. Няўжо забыла нешта важнае? Побач з ёй ступаў чалавек у чорным, якога я ні разу не бачыла ні сярод варты, ні сярод слуг. Пэўна, гэта госць з Іншасвету — ад яго сыходзіў холад, насцярожанасць і страх.

Яны выйшлі і, ціха размаўляючы між сабой, зніклі ў шкляных дзвярах, што вялі ў ліловы калідор і пакоі Каралевы.

Бліскучыя дзверы заставаліся адчыненымі — і я, не думаючы, ускочыла ў іх. Дзверы жахнулі і адразу зачыніліся за мной — быццам жалезная пачвара

марыла заглынуць некага і выплюнуць яго, чужароднага, у загадкавым далёкім Іншасвеце

Але ж і яны не з’яўляліся Пераходам.

Цяпер я апынулася ў пастцы: гэта быў цесны пакойчык без вокнаў і дзвярэй з цьмяным ліхтаром пад столлю і гладкімі сценамі, якія, здавалася, жадалі раздушыць мяне. Затаіўшы дыханне, я ўціснулася ў сцяну. Пераход у Іншасвет, такі прываблівы і забаронены, пільнаваўся надзейна.

Усё загуло, затрэсліся сцены, ускалыхнулася падлога, замільгала святло, скрозь шчыліну ў дзвярах пацягнуліся да мяне доўгія цені.

Чаму, чаму я не паслухалася Прарока і Рудога сябра? Навошта палезла непадрыхтаванай у гэту жудасць і ці змагу калі-небудзь вырвацца з яе?

Зарыпела і грымнула, быццам падлога абрушылася на зямлю, і ўраз усё сціхла. Бліскучыя сцены раз’ехаліся ў бакі. Я нясмела ступіла з цеснай кабінкі ў прасторны светлы калідор, а маё месца занялі две сталыя кабеты і зніклі за дзіўнымі дзвярыма. У калідоры было людна: сноўдалі туды-сюды людзі і слугі, спяшаліся і ляпалі шматлікімі дзвярыма па абодва бакі калідора. Няўжо зноў? Няўжо зноў пасткі і лабірынты, калідоры і дзверы? Столькі перасцярог, каб толькі заблытаць, не даць простаму смяротнаму перасячы мяжу з Іншасветам. Ці гэта ўсё засцярогі ад іншасветных зданяў?..

Але мяне было не спыніць, я добра ведала куды ісці: самыя вялікія і прыгожыя дзверы напрыканцы калідора так і вабілі, прыцягвалі ўвагу мяккім святлом, што лілося скозь іх, і зялёнымі агеньчыкамі: «Хадзі сюды, Пераход адчынены…»

Першае, што я пабачыла, апынуўшыся па-за дзвярыма, быў нябесна-блакітны будынак з шэрагамі вокнаў і сумнымі голымі дрэвамі пад імі. Далей пачыналася высокая сцяна, вароты ў якой былі прыадчынены.

Крок, яшчэ крок… да святла, да свабоды, да Слова…

Дык вось ты які, Іншасвет… Іншыя дрэвы, іншыя сцены і нават неба іншае — дымнае і гарачае. Тут няма дажджу — тут ёсць барвовае замглёнае сонца. І пахі зусім не такія... Замест тонкага гаючага паху Нябеснага пакоя, салодкіх дурманлівых водараў сырой глебы, свежага лісця і жаўтлявых руж аранжарэі тут цяжкім воблакам вісіць удушлівы смурод.

Шумна… Носяцца туды-сюды рознакаляровыя механізмы і захутаныя з ног да галавы людзі. Людзі, а не здані! Звычайныя людзі, толькі твары іншыя: замкнёныя і адчужаныя. Такія розныя і такія аднолькавыя.

Недзе далёка, у снах і мроях, што прыходзілі пад раніцу, я бачыла гэтае неба, і гэтыя дрэвы, і людзей, і механізмы; удыхала пахі смалы і пылу… Ніяк не атрымлівалася ўхапіцца за гэтую празрыстую нітачку, каб раскруціць яе, каб прачнуцца, апамятацца, зразумець нешта няўлоўнае, што блукала ў паветры…

Налётны вецер бязлітасна трапаў доўгія валасы. Мерзлі босыя ногі. Вакол праносіліся людзі, гарлалі вароны, кружылася лісце, кіпела жыццё.

Я стаяла сярод гоману і бруду, хапаючы ротам сухое паветра, як выкінутая на бераг рыбіна.

Шкадаваць пра тое, што выбралася са свайго акварыума не было часу. Калі патрабуецца, я дапаўзу да апошняй мяжы Іншасвету, да апошняй яго пясчынкі.

— Людзі! Жыхары Іншасвету! — пачала я. — Так, вы — людзі! Не адбіткі, не цені, не адлюстраванні, а людзі! Узніміце свае галовы, уздыхніце вольна! Я навучу вас, як быць шчаслівымі, я пакажу вам, што такое свабо-

да! Я раскажу пра жыццё! Пра нашае і вашае жыццё! Будзьце шчаслівымі, людзі! Чі чуеце?

А яны прабягалі і прабягалі паўз мяне: адныя быццам не чулі, іншыя паварочвалі галовы і смяяліся — гэты свет не быў спагадлівым і дасканалым. Працы прадбачылася шмат.

Нехта схапіў мяне за плячо, балюча выкруціў рукі і паваліў, падмінаючы пад сябе. Сцягно пранізаў востры боль. У вачах пацямнела, адняло язык, рукі і ногі перасталі падпарадкоўвацца. Іншасвет расплыўся і закружыўся пярэстым лісцем, пякучае сонца заскакала па небе жаўтлявымі, як ружы, зарніцамі і згасла, павольна, але няўхільна несучы мяне ў мяккі і выратавальны, як улонне маці, зацішак…

## 4

*Нейкі дзень. Здаецца, усё яшчэ кастрычнік.*

*Зрэшты, мне ўсё роўна.*

Першае, што я ўбачыла, расплюшчыўшы вочы — гэта задумлівы твар Каралевы, якая сядзела побач на маім ложку. Я ляжала ў сваім пакоі, вокны былі занавешаны, за акном шапталіся між сабой кроплі дажджу, а са столі лілося мяккае святло.

Вакол завіхаліся слугі ў белых адзеннях, грымелі, шапацелі і тупалі.

Пабачыўшы, што я апрытомнела, Каралева кіўком галавы загадала пакінуць нас адных. Павісла цішыня, толькі нябачны аднастайны дожджык не пераставаў грукаць у шыбу.

— Ну і чаму цябе туды панесла, дурное ты дзіця? А калі машына, а? І босая… Не хапала запаленне яшчэ лячыць, — Каралева строга зірнула на мяне паверх акуляраў. Яна заўсёды імкнулася здавацца добрай і клапатлівай.

Я паспрабавала ўзняцца і зразумела, што не магу варухнуцца — рукі і ногі аказаліся прывязанымі.

— Развяжыце мяне, вы не маеце права, — язык усё яшчэ заплятаўся і не слухаўся, кожнае слова давалася з вялікім намаганнем.

— Развяжу. Калі паабяцаеш не збягаць.

— Лічыце, што толькі вам і Прароку дазволена наведваць Іншасвет? Гэта несправядліва!

Каралева ўзяла з майго століка яблык і павярцела яго ў мяккіх дагледжаных руках.

— Ведаеш, дзіця, я адкрыю адну, вядомую толькі мне і твайму Прароку тайну, якая здзівіць цябе. Справа ў тым, што ў Іншасвеце жывеш менавіта ты. І павер, мала хто жадае патрапіць сюды і апынуцца на тваім месцы.

— Хлусня! — крыкнула я.

— Ну во… Быць спакойнай і паслухмянай дзяўчынкай ты не жадаеш… Значыць, адвязваць не будзем. І чаму вас, несапраўдных, цягне ў сапраўдны свет? Для чаго? Вы там чужыя і лішнія, як і свет чужы для вас, запомні гэта. Тваё шчасце тут — у тваім асабістым Іншасвеце. Адпачывай, — яна ўзнялася з ложка.

— Стойце! — я адчула, як па маіх шчоках сцякаюць цёплыя кроплі, якія трапіўшы на куточкі рота кранаюць іх соллю. — Гэта Руды? Руды здаў мяне?

Яна вагалася з адказам.

— На жаль, твой сябар больш не прыйдзе да цябе.

— Ён і праўда памёр? Гэтага не можа быць! Не можа! Я размаўляла з ім!

— Я прапішу дадатковыя лекі, усё будзе добра, — у вачах Каралевы чытаўся сум. — Дзякуючы папярэджанню Прарока мы хутка вярнулі цябе. Я дазваляю выходзіць яму, бо ён заўжды вяртаецца. М-да… Добры, выбітны быў паэт… Шкада, што спіўся. Але ж, як кажуць мае калегі, усе мы недаабследаваныя…— Каралева паклала руку на дзвярную ручку.

Салёныя кроплі на маім твары ператварыліся ў ручаі:

— Тут няма шчасця! Я не хачу сачыць за ружамі і гуляць у шахматы! Я хачу несці Слова! Мне ёсць, што сказаць людзям! Калі табе дадзена — маўчаць нельга!

— Паабяцаеш весці сябе ціха — загадаю развязаць. І прынесці алоўкі з паперай. Пішы свае словы, раз дадзена… — Каралева грукнула дзвярыма, пакідаючы мяне адну.

Адну і ў гэтым, і ў іншым свеце.

Усе мае надзеі і мары, мае планы, адчуванне сябе і свайго месца сярод іншых не былі згублены і зломлены, не праваліліся ў бездань, не былі знесены сухавейнымі вятрамі і смярдзючым паветрам сапраўднага свету, які распрасцёрся па-за нябесна-блакітнымі сценамі і зараснікамі некалючых жаўтлявых руж. Усё са мной — ува мне. І будзе са мной. І прыйдзе праз мяне да народа. Я не буду ўцякаць ад вады, бо вада — і ёсць жыццё, а жыццё — і ёсць слова, цякучае, бруістае, як вада, і я — вада…

## 5

*Можа, і не кастрычнік… Можа, наступны…*

*Даўно я была ў Каралевы і бачыла каляндар з чырвонай рамачкай на даце…*

Наступнай раніцай я стрымала сваё абяцанне і стала падобнай да ціхай, мудрай і павольнай вады, а Каралева стрымала сваё: я была адвязаная і надзеленая аркушамі паперы і алоўкамі.

Я буду пісаць. Пісаць усё, што немаведама як прыходзіць да мяне і імкнецца выліцца праз мае рукі, вочы і вусны, каб патрапіць да іншых людзей — не важна, у якім часе і прасторы яны існуюць. Каб не затапіць іх, але дапамагчы знайсці свой асабісты прытулак — раку ці ручай, сваё ўтульнае возера, сваё мора ці свой бязмежны акіян…

Я звыкла размясцілася на ложку з паперай і прыкусіла аловак, як да мяне завітаў госць. Дзіўны, шэра-зялёны, са смешнай бародкай і вусамі, ён пах спякотай і дымам, а ў руцэ трымаў вялікі скрутак.

— Мілая! — кінуўся да мяне незнаёмец і схапіў за плечы. — Як ты, мілая?! Усё будзе добра, вер мне! — ён паспрабаваў прыціснуць маю галаву да сябе, але я вызвалілася. — Навошта табе ўсё гэта? — працягваў незвычайны госць, паказваючы на стосік паперы. — Мы ж дамовіліся: хопіць з цябе раманаў, гісторый і эсэ…. Не пачынай, прашу цябе, — ён сеў на ложак і апусціў галаву. — У той дзень, калі ты саскочыла з моста ў раку…. Ведаеш, мне было значна цяжэй, чым табе. І да гэтага часу знаёмыя пытаюць у мяне: што здарылася? Што падштурхнула цябе? Няшчаснае каханне? Гора ў сям’і? Сварка? Здрада? Дэпрэсія? Алкаголь?.. Што я мог сказаць ім, што патлумачыць? Што

ты лічыла сябе іншай, адоранай, не такой як усе? Што ніяк не ўпісваешся ў агульную сістэму існавання?.. Што твая кніга не выйшла? Незнаёмец пачынаў ускіпаць і хвалявацца. — Ты таленавітая, усе бачаць, што таленавітая! А той крытык, той стары сыч… Знайшла каго слухаць! То ж ад злосці было напісана, ад зайздрасці! Жыццё на гэтым не скончылася. Ты вылечышся — Марыя Эдуардаўна заверыла. А калі выйдзеш адсюль, то абяцай: больш ніколі! Ніколі не возьмешся за пяро. Адпачывай, у цябе добрая палата, я ўсё аплачу. Тут апельсіны, сок, ёгурты, шакалад…

Я маўчала, каб не трывожыць госця. Калі незнаёмец выгаварыўся, высыпаўся гарачым пяском і цяжкімі, як камяні, словамі, то змоўк, паклаў скрутак на ложак і выйшаў. Дзівак.

Я прыадчыніла дзверы і вызірнула ў калідор — чалавек накіраваўся ў пакоі Каралевы.

І чаму ён вырашае за мяне, што і як рабіць? Слова прыходзіць і не пытае, ці хочаш ты пісаць, яно запаўняе цябе. І тады пішаш на шпалерах, абрыўках паперы, выдрапваеш на скуры — толькі каб не згубіць ланцужок. І падхопліваешся сярод ночы, каб запісаць яго, бо раніцай ты будзеш мучыцца, прыпамінаючы абрысы.

Калі Слова забараніць несці туды, дзе сухасць — людская і паветраная, калі яно будзе не патрэбна там — лепш я буду жыць у сваім утульным свеце, нябесна-блакітным акварыуме і несці яго тутэйшым удзячным слухачам.

Я прычыніла дзверы і абярнулася, пачуўшы за спінай знаёмы голас:

— Ты пішы. Пішы ўсё, што хочаш сказаць людзям. А я буду маляваць. Будзем несці ў свет Вялікае Слова. І ўсе будуць шчаслівыя, — у крэсле пад таршэрам, перабіраючы мае запісы і нататкі, звыкла сядзеў Руды, а па сценах павольна цурчала вада….



# АКРЫЛЕНАСЦЬ

***Паэзія Гомельшчыны***

Мікола ЖДАНОВІЧ

## У СЕЛІШЧАХ

Дома. З мамай. Душы — лацвей.
З палісадніка — водар кветкавы.
— Гадавала я вас, дзяцей,
а цяпер вы тут — госці рэдкія...
Ціхай жальбы адчайны крык
Б’ецца ў сэрцы званом трывогі.
Мацярынскі мой мацярык —
Нулявы кіламетр дарогі.
Ад яго нас жыццё вяло
Адмяраць і гады і вёрсты.
Колькі раз тваё, мама, цяпло
Сагравала у сівер востры,
Колькі раз тваіх кветак агні
(Ты іх любіш запальваць ля хаты)
Шлях пракладвалі ў лепшыя дні,
Вызначалі надзейны фарватар,
Дзе, за поплавам, косы звіняць,
Дзе зязюля нам век накукуе...
Шчасце, мама, тваю прытуляць
Да грудзей галаву сівую.
Даланёй твае пасмы збіраць —
Найвялікшая радасць для сына.
Глянь, сустрэчнай вясёлкай гараць
Пад акном тваім зноўку вяргіні.
Дыяментамі роснай зары
Углядаюцца астры ўтрапёна —
Як сусветныя ціхнуць вятры
У зубцах каляровых каронаў...

## СУМНАЕ

*Светлай памяці сябра*

Толькі ўчора, здаецца, твой голас у трубцы гучаў
То ўзнёсла-шчасліва, то строга.
Сёння ж — як галіной спатайка сцебануў па вачах
З гора чорны радок некралога.

А ў прыродзе — вясна. Сонца ранкам залоціць дамы.
Промняў жарам расквеціць кварталы.
Ты павер, такой нуднай і доўгай зімы
У жыцці маім шчэ не бывала.

Дня патухне ліхтар. Я з надзеяй зірну ўгару,
Каб пагляд адшукаць твой між зорак.
Падаецца, што зноў я з табой гавару,
Завітаўшы ў нябесны твой горад.

Не знікай, я прашу, з вышыні сваёй светла глядзі
(Ці прыветна табе на нябёсах?),
Будзь суддзём маім строгім, ды толькі хто стане судзіць
Недарэчнасць адчайную лёсу?!

Цырымонна калегі збяруцца цябе памінаць,
Толькі ў плыні самоты агульнай
Я адчую вастрэй: мне па гэтым жыцці веславаць
Без цябе будзе надта няўтульна...

* * *

Распусціць сонца вогненныя косы
Ды кіне неспадзеўкі у ваду...
Ну дзе такі вось золатагалосы
Яшчэ я смех на ўсёй зямлі знайду,
Дзе адшукаю вуснаў хмель салодкі?!.
Дык будзьма ж слухаць нашых сэрцаў стук,
Пакуль плыве твайго жадання лодка
Да берага маіх пяшчотных рук.

**Міхась БОЛСУН**

* * *

Месяц зоры збірае на веча.
Ноч на лодцы сюды прыплыве.
Сож малітву вячэрнюю шэпча,

Адбівае паклоны траве,
Што прыбегла вясною пагрэцца
І жыве ля гаючай вады.
Салаўі шчодра радуюць сэрца,
Л'юцца спеваў каленцы-лады.
Адзінокі ліхтар жоўтай бэрай
Ля прычала павіс угары.
Хвалі мякка цалуюць свой бераг,
Покуль барва не ўспыхне зары.
Сож тады скіне коўдру туману.
Ранак мыцца сюды прыбяжыць.
…І прамень стралою зламанай
У руках маіх задрыжыць.

* * *

Зноў журбою на струнах дажджоў
Зацягнулася восені песня,
І на крылах кліны жураўлёў
Радасць цёплую ў вырай панеслі.

І звіняць звонкай меддзю лісты
Па-над сцежкамі ў вальсе апошнім,
А туман абдымае густы
Схаладнелую, рыжую пожню.

І зайздросціць кастрам пастухоў,
Дзе пахучая бульба пячэцца
Нават сонца. Яно раніцой
І само не супраць пагрэцца.

* * *

Пражыты дзень —
Касцёр патухлы,
Які аддаў спаўна цяпло.
…Халодны вокам месяц круглы
Глядзіць на соннае сяло.

Іду запозна каля рэчкі.
Ачах туману сырадой.
П'ю водар дзікае парэчкі,
Што густа льецца над вадой.

Вярба лапоча тут аб нечым.
Дзяркач не змог начлег знайсці.
…А роздум доўжыцца аб вечным
І Богам дадзеным жыцці.

Тамара КРУЧЭНКА

## ЁЛКА Ў ДЗІЦЯЧЫМ ДОМЕ

Дзеці — нібы тыя птушаняты,
Што зляцелі з-пад крыла матулі,
Але ж святам казачным заняты,
Вераць: мама да грудзей прытуліць.
Вымавіць пяшчотна і з турботай:
«Як табе жывецца тут, дзіця?
Я ўладкавана на работу,
Больш не павярнуся да піцця».
Скача хлопчык ля святочнай ёлкі,
Шчыра так — захоплівае дух!
Тут і выхадныя, й панядзелкі...
Як ён хоча з мамай жыць удвух!
Тая шчодра пляскае ў далоні,
Падарункі дорыць Дзед Мароз...
Вочы раптам горыччу заслоніць—
Плачу, не хаваю сваіх слёз.

Уладзімір ШПАДАРУК

* * *

«Жыццё — імгненне» — я ў дзяцінстве чуў.
Чаму імгненне я не мог уцяміць,
Ныраючы у лютаўскую замець
І промню падстаўляючы плячук.

Я шмат разоў вясёлку сустракаў,
І мне яна ўсміхалася пяшчотна,
А колькі — не злічыць — у лесе шчодрым
Лісічак і чарніц я назбіраў…

Мільгае час слупамі цягніка,
І тых слупоў наперадзе ўсё меней.
І разумееш, і няма сумнення,
Жыццё і сапраўды — адно імгненне.

Імгненне тое — вечнасці рака.

Ганна АТРОШЧАНКА

## СМУТАК

Сад наш прыціхлы,
сад наш здзічэлы,
Ён яшчэ кліча, заве…

Жнівень пастукаў
яблыкам спелым,
Знік, быццам прывід,
ў траве.

Там, дзе стаяла
нашая хата,
Высіцца ўзгорак руды…
Ды на крыжах
наша памяць распята.
Дзе ж вы, юнацтва
гады?

Я азірнуся
на далягляды,
Думкі ляцяць
наўздагон...
Мне больш не трэба
слёз і спагады...
Лета прайшло,
быццам сон.

І не вярнуцца
у час той дзівосны...
І спадзяванняў няма.
Восень рыхтуе
жоўтыя кросны,
Дзесьці ў дарозе
зіма.

## Стася КАЦЮРГІНА

* * *

Акрыленасць!
Малітвамі зямлі
Так бессаромна вырастаюць крылы.
Маёй душы распранутай, астылай
Не верацъ больш ні мачты-караблі,
Ні вецер.
Толькі вейкі твае блізка
І мора некранутай цішыні
На свеце.
Бы з маўклівай адаліскі
Разбэшчыным шаўком спадаюць дні.
І ўсё смяецца подыху жывому.
Што целу нежаданаму цяжар —

Акрыленасць!
Як плечы без крыжа:
Бліжэй да жарсці
Ці
Далей ад Бога?
Не ўсё адно!..
Малітвамі зямлі
з пункціру мора вырастае ранак,
Як незагойная святая рана.
Пакорлівая Богу пражыві,
Акрыленасць!
...Далёка ад Цябе
Здаецца ўсё мне важным ці бязважкім.
Твой карабель убачыць мне не цяжка,
Калі так проста сэрца там жыве!
Калі б пачуў,
у Госпада прасіла б
твой дзень адзін.
О Божа, не шкадуй!
Мне з літасцю за гэты лёс даруй
Акрыленасць,
бо ўсё жыццё без крылаў!





**Фарыд ГУСЕЙН**

# ПАШПАРТНЫ КАНТРОЛЬ У СЭРЦЫ

## СОН, РАСКАЗАНЫ ПРАРОКУ ЮСІФУ

Быць забытым — гэта значыць зліцца з уласнай гісторыяй.
Будучы забытым,
Зліваюся з тым днём, калі Ева яшчэ не была створана.
І ўрэшце, старанна вучуся маўчанню ля магілы бацькі —
Чалавека, што калісь навучыў мяне гаварыць.
Сёння я распавядаю яму пра свой боль,
Якім ніколі болей не дзялюся з маці.
Юсіф, як гэта — быць забытым у змроку калодзежа?

Чым больш сумленным становіцца чалавек,
Тым больш выразна ён усведамляе цяжар грахоў сваіх.
Калі ж грахі ператвараюцца ва ўспаміны,
Шчасце збягае з «ахопленай вайной краіны» у тваёй душы.
Посахам Мусы
Падзелены надвая мае ўспаміны і жыццё.
І мне… мне ўжо не перайсці на бок жыцця.

Каб накарміць сваіх улюбёнцаў —
Неаперaных птушачак —
А я быццам пелікан[1] заглыбіў сваю дзюбу ва ўласную плоць.
Вядома ж, апасля таго, як аддам канцы, хтосьці прамовіць услед:

---

***Фарыд Гусейн*** *нарадзіўся ў 1989 годзе ў горадзе Кюрдамір (Азербайджан). Скончыў бакалаўрыятуру факультэта мастацтвазнаўства Азербайджанскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва па спецыяльнасці «Выдавецкая справа і рэдактура», а таксама магістратуру факультэта культуралогіі па спецыяльнасці «Мастацтвазнаўства». Цяпер — дысертант Нацыянальнага азербайджанскага літаратурнага музея імя Нізамі Гянджэві.*

*Аўтар кніг «Алфавітны рад», «Не ведаць бы аковаў», «Трэніроўка цярпення». Рэдактар літаратурнага дадатка газеты «Каспій».*

*Вершы перакладзены на англійскую, сербскую, рускую, украінскую, грузінскую і турэцкую мовы.*

---

[1] «Аповед аб пелікане» сустракаецца ў хрысціянскіх апокрыфах.

«Як жа добра, што ён сышоў. Стала невыносным
ужо з дня ў дзень харчавацца адным і тым жа».
Юсіф, клянуся Творцам няўдзячных двуногіх —
Жыццё даравана табе не дзеля таго,
каб ты апынуўся ў калодзежы,
Жыццё даравана мне не для таго,
каб запаўняць калодзеж у душы.

Добрая частка чалавецтва і дагэтуль
Марнуе 30 срэбранікаў Іуды.
А мы таксама просім дароў ад Госпада,
Але ўжо не ад «воўчага стала».
На ўсіх, на ўсіх хачу забыцца і пісаць, пісаць адно толькі,
Аднак, як заўсёды — нестае сіл.
Менавіта таму, напісанае не астужае боль.
Суцяшаць мяне словамі — усё роўна,
Што «чытаць заклінанне заклінацелю»[1].
Цяпер, напэўна, усяго толькі вусны ўспамінаў
Без запінак у стане распавесці аб днях, напоўненых Ім.
Юсіф,
Горыч раз'ядае нутро наша, не кранаючы твары,
Падобна таму як «воўк, што разадраў» не кранаў кашулі[2] тваёй.
Сёння лепей — наводдаль ад усіх блукаць аднаму —
Чалавек жыве па меры таго, як крочыць.

Юсіф, толькі табе вядома глыбіня зямлі.
На колькі ж локцяў трэба зарыць каханне,
Каб на яго месцы вырасла забыццё,
А пульс перастаў адгукацца на імёны любых?

Нішто не здзіўляе так чалавека, як яго лёс,
У межах гэтага няведання і нараджаюцца мары
між тысяч аблiччаў.
І цяпер, цяпер я магу суцешыць няшчасце,
народжанае яднаннем кахання,
Адно толькі шматбожжам нафса[3],
І гэта дастаўляе мне вялікія пакуты.

З узростам лёс накладвае
Свой тэрмін заключэння ў засценках памяці.
У камеры — толькі чатыры сцяны,
А ты — адзін.

---

[1] Выраз з творчасці Нізамі Гянджэві — выкарыстоўваецца ў значэннях: «вучыць вучонага», «дарэмна старацца».

[2] Браты прарока Юсіфа, якія кінулі яго ў калодзеж, зманілі бацьку. Яны сведчылі, што брата разадралі драпежныя звяры. Аднак бацьку пры выглядзе кашулі Юсіфа, якую прынеслі сыны, ахопліваюць сумненні і падазрэнні: як можа ацалець кашуля Юсіфа, калі таго разадраў воўк?

[3] У ісламе — сутнасць чалавека, яго «Я». Нафсам таксама называюць страсці, усе адмоўныя рысы душы, якія характэрныя для людзей і джынаў.

Хочаш збегчы з палону,
Ды столь і падлога «змагаюцца» на баку сцен.

Юсіф, напэўна, самыя жорсткія рэчы ў свеце —
Не зброя, а дзверы,
Зачыненыя перад тваім носам.
Найбольш — дзверы дамоў, дзе калісь
Праходзілі твае бестурботныя шчасныя дні.

Пакуты дазваляюць чалавеку расці, казаў адзін мой сябар.
Я ж — не скарджуся на пакуты,
Проста баюся вырасці і не знайсці сабе пагодкаў.
Бесклапотнасць слоў — вось што мяне здзіўляе:
Хоць праўда, хоць хлусня — усё захоўвае спакой.

Нафс рве нітку, якой сэрца прымацоўваецца да душы,
І жамчужыны знутры сыплюцца долу.
Цэлае жыццё — чаляднікі сумлення,
А «урокі выхавання душы»[1] не ведаюць свайго завяршэння.
Магчыма, таму чалавек да самага скону свайго
Вядзе з сабой «ваўчынае сяброўства»[2].

Юсіф, голас у пустыні стаў ратаваннем тваім,
Аднак, я ўсё яшчэ глухі і сляпы ў калодзежы свайго нутра.
Не бачу ні веснікаў раю, ні сімвалаў пекла —
…І заклікаю да Ўсявышняга.

## ВУЗЕЛЬЧЫК УСПАМІНАЎ

Пасля здрады няверных сяброў
І пустых спадзяванняў
Становіцца яшчэ больш жорсткім
«пашпартны кантроль» у сэрцы.

Варта развязаць вузельчык успамінаў,
І тут жа полымя ахоплівае тваё Мінулае
І гарыць тваё Сёння,
А Будучыня — становіцца попелам...

Бачу: людзі шпацыруюць, спяшаюцца, смяюцца...
Але не чуваць ні тупату, ні водгаласу смеху,
Быццам нейкі «блатны» пералічвае навюсенькія купюры...

О, Надзея, ты выкрала сабе імя ў лепшых дзён,
Ідзі, гуляйся з дзецьмі,

[1] Выраз з класічнай азербайджанскай літаратуры, азначае бясконцы шлях удасканалення чалавека.

[2] Варожасць чалавека з самім сабой.

Збягай з урокаў філасофіі жыцця...
Ты ж, мой сябар, не крыўдуй, не наракай на сябе,
Толькі малі пра тое,
Каб сумленне памятала грахі, як горла помніць камяк...

## ЖЫЦЦЁ МАЁ

Падзяліце жыццё маё:
Да 18-ці — хай распавядзе маці,
Да 25-ці — каханая,
Астатняе — сябры і блізкія.
І падыдзе да канца аповесць мая...
А не, дык якая-небудзь Шахразада
Бойка ўключыць у байку сваю.
Не хачу, не, не трэба...

## СУЦЯШЭННЕ

Нас не забілі адразу, а значыць — ніколі і не любілі,
Сэрца перавярнулі на тыльны бок,
Але мы не ў стане існаваць у такім становішчы.
Абвыкнуцца — так і не ўдалося.
Толькі подлыя людзі да гэтага могуць прызвычаіцца.

І толькі зараз, у гэтым узросце, я разумею:
Калі ў жанчыны адымаецца жыццё —
Яна становіцца маці,
Калі жыццё адымаецца ў мужчыны —
Ён становіцца мёртвы.
Жанчыне яміну капае яна ж сама,
А Мужчыну — чужынцы.

Дык возьмемся ж за рукі — насуперак кайданам,
Паглядзім вочы ў вочы, каб сонца зміргнула.
Праспяваем пяшчотныя песні
Самаму стомленаму чалавеку —
І няхай увесь свет адпачне…

* * *

…І ўбачыў я ўсё, што Бог паказаў.
Убачыў, што ніць паветранага змея трымае рука чужынца,
Адчуў, што неабходна ствараць вобраз героя, каб захапляліся табой,
Што асыпаныя праклёнамі — ў нечым падобныя да прарокаў,
А любоўныя песні найчасцей ператвараюцца ў гул матораў,
І ўсвядоміў — успаміны блукаюць ува мне падобна аскепкам.

І толькі апасля гэтага не стаў я спрачацца з лёсам,
Быццам дрэвы, што скараюцца моцы ветру!

* * *

Я — яблык надкушаны Евай,
Шчасце маё — апынуцца ў руках Адама.
Магчыма, сэнс быцця не ў тым, каб поруч састарэць у раі,
Існасць — быць разам выгнанымі.

Сэрца маё — Ноеў каўчэг,
Падзелены надвая тваімі і маімі пакутамі.
Памяць мая аглядаецца закратаванымі вачыма —
Дні з табой сплываюць у плыні водаў.

Я — гук цвікоў, што ўбіваюцца ў крыж.
Нястомна бягу насустрач свайму апошняму ўздыху,
Збіраю скамянелыя грахі
І асыпаю камянямі д’ябла, што гукае нас…

Лепшы свой выдых пакідаю для сына,
Каб надзьмуць яго паветраны шар…

## ЧАЛАВЕК

У раннім дзяцінстве
была ўпрыгожана яго калыска,
Пазней — хадункі,
Затым — цацачны домік,
У час жаніцьбы — вясельны картэж,
Апасля смерці — труна,
Надмагільны камень.
А цяпер пра яго гавораць:
«Нябожчык быў чалавекам простым».

* * *

Дазволь, о Божа,
Апасля пакарання майго
Абмыць крывавыя рукі
Свайго к*а*та.

Дазволь, о Божа,
Ворагаў сваіх — вітаць ветла,
А ў блізкіх — журбу развейваць.

Жыцця майго не хапіла,
Ці ж хопіць смерці,
Каб змыць чарніла
З папер, што спісаны згарача?

***Пераклад з рускай Марыі КОБЕЦ.***

Серж МІНСКЕВІЧ

# ПАРАЎНАЛЬНЫ АНАЛІЗ ПЕРАКЛАДАЎ 90-ГА САНЕТА УІЛЬЯМА ШЭКСПІРА НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Санетарый Шэкспіра — прызнанае дасягненне сусветнай літаратуры, шэдэўр паэтычнага майстэрства, дзе адточанасць думкі спалучаецца з прыгажосцю формы. Яго санеты — шматпланавыя палотны, створаныя словам, на якіх раскрываецца некалькі ўзроўняў жыцця чалавека. У кожным вершы — гама перажыванняў, ёсць і пафас, і іронія, і сарказм, і што характэрна для Шэкспіра, — слоўная гульня.

Пераклад прызнанага шэдэўра, выкананага на высокім узроўні, — безумоўнае дасягненне майстра, а прызнанне — своеасаблівая ўзнагарода, своеасаблівы білет у гісторыю, бо чарговае ўзнаўленне арыгінала вялікага твора трапляе ў нацыянальны банк інтэрпрэтацый гэтага шэдэўра, дэманструе разуменне яго ў эпоху перакладчыка, сведчыць пра стан літаратурнага працэсу і пэўным чынам характарызуе асобу перакладчыка.

Падобнае адносіцца да перакладу на рускую мову санетарыя У. Шэкспіра, які выканаў С. Маршак. У свой час гэты пераклад у СССР стаў бестселерам, тыражы перавыданняў дахадзілі да мільёна экзэмпляраў. Перастварэнні Маршака зрабіліся ўзорнымі для савецкай аўдыторыі чытачоў. Аднак апошнім часам, калі сталі шырока даступныя, дзякуючы інтэрнэту, падрабязныя каментарыі да санетаў, празаічныя пераклады на сучасную англійскую мову, — з’явілася даволі шмат крытычных заўваг да перакладаў Маршака. Галоўная прэтэнзія — гэты пераклад не толькі з мовы на мову, але са стылю на стыль. Маршакоўскія праствaрэнні выкананы мовай рускіх рамантыкаў XIX ст., што не цалкам адпавядае Шэкспіру храналагічна і псіха-эмацыянальна. У. Казаравецкі падрабязна аналізуе з’яву замяшчэння іранічна-разважлівага (з каламбурнымі досціпамі) стылю Шэкспіра рамантычна-ўзвышаным стылем. У яго артыкуле «Возможен ли перевод сонетов Шэкспира?» [1] перакладам Маршака адведзены цэлы раздзел.

Даступнасць да інфармацыі пра гэтыя санеты — дало шанц імпэтным да літаратуры людзям паспрабаваць сябе на ніве іх узнаўлення сродкамі рускай мовы. Месца прафесійных літаратараў, як іранічна піша Ю. Ліфшыц, «занялі энтузіясты, а гэта якраз і прывяло да буму, ва ўмовах якога гіганцкая колькасць перакладаў хранічна не здольна перайсці ў іх колькі-небудзь адчувальную якасць…» [2].

Пакуль буму санетаў Шэкспіра ў Беларусі не назіраецца. Мы маем цалкам перакладзены санетарый, што належыць У. Дубоўку. За апошнія пяць гадоў з’явіліся перастварэнні Т. Дзям’янавай. На дадзены момант яна пераклала 24 са 154 санетаў (а менавіта: 2, 8 , 15, 17, 18, 19, 21, 22, 24, 27, 29, 32, 46, 66, 71, 75, 87, 90, 91, 100, 102, 130, 147, 150). Гэтыя пераклады, безумоўна, патрабуюць дапрацоўкі і рэдагавання, але свае дадатныя моманты яны маюць. У 2016 г. у серыі «Паэты планеты» выйшла кніга з выбранымі санетамі У. Шэкспіра, у якой сабраныя

---

***Мінскевіч Сяргей Леанідавіч,*** *дактарант Інстытута літаратуразнаўства імя Я. Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук.*

пераклады Р. Барадуліна, А. Ф. Брыля, Ю. Гаўрука, У. Дубоўкі, І. Крэбса, К. Маціеўскай, Г. Янкуты.

Перад перастваральнікам стаіць няпростая задача. І. Гаравая адзначае: «Санеты У. Шэкспіра — найбольш складаная для перакладу частка спадчыны пісьменніка. Напісаныя ў 1590-х гадах і надрукаваныя толькі ў 1640-м годзе 154 вершы сталі прычынай шматлікіх дыскусій і версій адносна іх літаратурных прататыпаў і варыянтаў перастварэння. Аўтар не толькі схаваўся ад сучаснага чытача за шэраг стагоддзяў і зацемненасць стараанглійскіх ідыём і метафар, але і наўмысна зашыфраваў у тэкстах рэальныя падзеі і адрасатаў…» [3, с. 116].

І. Гаравая і В. Небышынец комплексна даследавалі пераклады санетаў У. Шэкспіра (апошні разабраў перастварэнні У. Дубоўкі). У нашым артыкуле мы звернемся да найбольш папулярнага ў беларускіх перакладчыкаў 90-га санета Шэкспіра, тры новыя беларускія версіі якога з’явіліся пасля артыкулаў І. Гаравой і В. Небышынца. На сёння вядомыя сем перакладаў гэтага санета на беларускую мову.

Рускі літаратуразнаўца Шэкспіра Андрэй Корф аднойчы напісаў: «Менавіта ў ім (90-м санеце. — *С. М.)* ярчэй за ўсё бачныя зарніцы нястрыманай шэкспіраўскай драматургіі… Адна аголеная, ярасная жарсць. Тая самая, якую прынята называць “шэкспіраўскай”» [4].

На беларускую мову пераклалі 90-ы санет Ю. Гаўрук, У. Дубоўка, Я. Семяжон, Р. Барадулін, У. Мархель, Т. Дзям’янава, Г. Янкута. Арыгінал твора выглядае наступным чынам (разбіўка на катрэны тут і далей зроблена дзеля нагляднасці):

*Then hate me when thou wilt; if ever, now;*
*Now, while the world is bent my deeds to cross,*
*Join with the spite of fortune, make me bow,*
*And do not drop in for an after-loss:*

*Ah, do not, when my heart hath ‘scoped this sorrow,*
*Come in the rearward of a conquer’d woe;*
*Give not a windy night a rainy morrow,*
*To linger out a purposed overthrow.*

*If thou wilt leave me, do not leave me last,*
*When other petty griefs have done their spite*
*But in the onset come; so shall I taste*
*At first the very worst of fortune’s might,*

*And other strains of woe, which now seem woe,*
*Compared with loss of thee will not seem so*[1].

Лірычны герой — мужчына/ці/жанчына (у англійскай мове няма канкрэтнай пазнакі пра родавую прыналежнасць) — звяртаецца да свайго блізкага сябра з дзіўнай просьбай — калі ты так вырашыў, то *hate me* (шматзначнае слова, варыянты якога пададзены ў падрадкоўніку, хаця з першага погляду здаецца,

---

[1] Калі вырашыш адрачыся ад мяне (ад мяне адмовіцца, / выцурацца мяне / грэбаваць мной), то зрабі гэта цяпер;

Цяпер, калі свет такі скрыўлены (так выгнуўся / такі стаў пачварны), каб перакрыжаваць мае праблемы (парушыць мае планы)

Далучайся да злосці фартуны, прымусь мяне схіліцца,

І не нанясі ўдар для знішчэння пасля паразы (не стань ўдарам, пасля таго, калі ўжо ўсё — гульня ці бой — вырашана).

Ах! Не зрабі гэта тады, калі маё сэрца ўжо ўнікла гэтай мукі (пераадолела горыч той паразы),

У ар’ергардзе пераможанага гора,

Не дадай да віхурнай ночы дажджлівую раніцу,

Каб падоўжыць відавочны (паспяховы/выніковы, бачны паводле выніку) разгром.

што дакладнае значэнне — *зненавідзь*). І зрабіць гэта лепей цяпер, адкрыта, без какецтва, дакладней кажучы, — без адмысловых паводзінных манеўраў (Шэкспір карыстаецца ў санеце ваеннай лексікай). Зрабіць гэта трэба ў дадзены момант, каб не нанесці ўдар для дасягнення сітуацыі *an after-loss*, калі ўдар наносіцца пасля паражэння (прыкладны сэнс — не ўдарыць, таго хто ўжо і так ляжыць).

У першым катрэне таксама паведамляецца, што «свет стаў такім, што скрыжаваліся ўсе праблемы».

У другім катрэне ідзе разгорнутая метафара таго дзеяння (*hate me)*, калі яно будзе няўчасным. Яно стане падобным да:

— наскоку, атакі ар’ергарда на ўжо разгромленае войска, якое, верагодна, падняло белы сцяг і гатовае да перамоў, пераадолеўшы пачуццё паражэння;

— дажджлівай раніцы пасля начной буры, то-бок калі з цяжкасцю (верагодна ў адкрытым месцы ці дарозе) ты перажыў яе і з надзеяй чакаеш цёплы ранак, а замест яго прыходзіць халодная залева.

У трэцім катрэне, калі, здавалася, прыйшоў час маліць «не пакідай», просьба *hate me* ўзмацняецца, толькі з адной умовай — паспей зрабіць гэта да таго, як усе беды прынясуць сваё зло, і дай пакаштаваць найгоршае.

У замку санета, які напісаны афарыстычна, раскрываецца сэнс гэтай просьбы:

*And other strains of woe, which now seem woe,*
*Compared with loss of thee will not seem so.*

*І іншыя кшталты гора, якія цяпер падаюцца горам,*
*У параўнанні са стратай цябе, перастануць падавацца такімі.*

У гэтай фразе, з аднаго боку, бачыцца прызнанне ў вялікім пачуцці да адрасата, а з іншага — абвяшчаецца, што чалавечыя стасункі і ўнутраны свет чалавека нашмат мацнейшыя за ўсе вонкавыя абставіны.

Першым да перакладу гэтага санета падступіўся Ю. Гаўрук (20-я гады ХХ ст.):

*Цяпер мяне найлепей ненавідзець,*
*Калі жыццё заціснула бадай.*
*Твая бяда з маёй бядою прыйдуць*
*Як верныя сябры. Не адкладай!*

*Яшчэ не перамог я лютай скрухі,*
*Сябе ў апошні шэраг ты не стаў:*
*Не насылай асенняй завірухі*
*Пасля таго, як лівень перастаў.*

*Калі надумала, чаго марудзіць?*
*Гасі каханне, бо гараць агні.*
*Няхай шчымяць, няхай жа рвуцца грудзі, —*
*Адразу і навекі прагані.*

*Расколюцца пакуты на драбніцы*
*Ад перуна расстаннай навальніцы* [6, с. 9].

Перакладчык перадае форму арыгінала, выкарыстоўваючы альтэрнанс (усе беларускія перакладчыкі выконваюць гэтае правіла). Ю. Гаўрук ужывае прыблізныя рыфмы *ненавідзець — прыйдуць,* што не дадае вартасцей беларускаму ўзнаўленню.

Калі з разгорнутымі шэкспіраўскімі метафарамі Ю. Гаўрук справіўся, ёсць ваенны лексікон — *перамога*, *апошні шэраг*, у другім катрэне захоўваюцца метэаз’явы — *лівень* і *завіруха* (праўда, перастаўленыя месцамі), то замок санета выглядае «туманна», далёка ад шэкспіраўскай яснай думкі. Заўважна, што адрасат санета — жанчына.

Такое ўзнаўленне прынята называць вольным.
Пераклад Я. Семяжона:

*Калі пакінеш, пакідай без здрад*
*І хоць цяпер, калі ўвесь свет мне вораг.*
*Будзь самай горкаю з маіх утрат,*
*Ды толькі не апошняй кропляй гора!*

*Мо гэту скруху сіл знайду змагчы,*
*Але не асуджай на пакаранне,*
*Каб следам за грымотамі ўначы*
*Я сустракаў дажджлівае світанне.*

*Пакінь сягоння ж. Буду знаць што меў*
*І страціў тое, чым я жыў учора.*
*Пакінь, каб я адразу зразумеў,*
*Што горшага няма на свеце гора,*

*Што большай свет не ведае бяды —*
*Любоў любімай страціць назаўжды* [7, с 83].

У гэтым перакладзе, вобразна кажучы, праступае «цень» С. Маршака. (Маршак пераклаў поўны збор санетаў Шэкспіра ў 1948 годзе). Дзеяслоў *to drop* — у дадзеным выпадку азначае — нанесці ўдар, атакаваць знянацку — метафара з гульні ці з бітвы [5]. Маршак замяняе яе на назоўнік *a drop* — кропля. Атрымліваецца эфектны фразеалагізм — апошняя кропля. Яе, разам з *утратамі*, пазычыў і Я. Семяжон.
У С. Маршака:

*Будь самой горькой из моих потерь,*
*Но только не последней каплей горя!* [8]

У Я. Семяжона:

*Будзь самай горкаю з маіх утрат,*
*Ды толькі не апошняй кропляй гора!* [7, с 83]

Дарэчы, *апошняя кропля* ёсць у перакладах Т. Дзям’янавай і Г. Янкуты, але яны займаюць там іншае месца.
У сваім пераствапэнні Я. Семяжон замест ваеннай лексікі, што сімвалізуе ў арыгінальным творы бітву з лёсам, ужывае тэрміны з юрыспрудэнцыі:

*Але не асуджай на пакаранне…*

Зусім іншая інтанацыя — узнікае мальба, якой няма ў арыгінале. Дарэчы няма яе і ў варыянце С. Маршака, на які, несумненна, беларускі перакладчык абапіраўся. У іншых радках Я. Семяжон больш паслядоўна ідзе за рускамоўным тэкстам.
У С. Маршака:

*Оставь сейчас, чтоб сразу я постиг,*
*Что это горе всех невзгод больнее* [8].

У Я. Семяжона:

*Пакінь, каб я адразу зразумеў,*
*Што горшага няма на свеце гора* [7, с 83].

І замок санета, складваецца ўражанне, перакладаўся не з англійскай мовы, а з рускага пераствапэння Маршака, бо верагоднасць абдуманага пераносу афа-

рыстычнага выказвання з рускай мовы на беларускую яўна большая, чым выпадковае супадзенне:

У С. Маршака:

*Что нет невзгод, а есть одна беда —*
*Твоей любви лишиться навсегда* [8].

У Я. Семяжона:

*Што большай свет не ведае бяды —*
*Любоў любімай страціць назаўжды* [7, с 83].

Беларускі перакладчык выправіў адрасат — *любімая*. У Маршака, як і ў Шэкспіра — пол асобы, да якой звернуты верш, невядомы. Толькі ў кантэксце папярэдніх санетаў дапускаецца, што гэта «бялявы сябар». В. Берастаў у артыкуле «Судьба девяностого сонета» заўважае, што ў рускай класічнай паэзіі, у духу якой зроблены пераклад Маршака, «любоў і сяброўства выказваліся іншым разам на адной мове», то-бок стылістычна аднолькава [9].

Я. Семяжон, уяўляючы пры перакладзе маналог-прызнанне мужчыны да жанчыны, стылістычна выпраўляе санет. Поўныя ўнутраным напружаннем словы заменены роспачным умольваннем, ці пэўнай манернасцю, у якой, як падаецца, мужчына выконвае ролю каханага, што неяк правініўся, і чакае пакарання з надзеяй на дараванне. Перакладчык узмацніў рамантыку сітуацыі, мажліва, падсвядома, але пры гэтым, абапіраючыся на пераклад С. Маршака, скіраваў у рэчышчы не рускай класічнай літаратуры, а беларускай і польскамоўнай літаратуры эпохі рамантызму XIX ст. Вядома, што Я. Семяжон быў перакладчыкам А. Міцкевіча, і стылявыя адступленні ў дадзеным перакладзе дэманструюць, што ён незнарок, працягвае традыцыі нацыянальнай літаратуры.

Пераклад Уладзіміра Дубоўкі:

*Калі знялюбіш — знелюбі хутчэй,*
*Пакуль мне свет рыхтуе ўкрыжаванне.*
*Ліеш мне горыч, налівай паўней,*
*Страшней за ўсё чаканне пакарання.*

*Цяжкое гора пасылае лёс,*
*Ня трэба і табе з сваім пазніцца,*
*Навошта б золак мне імжу прынёс,*
*Калі ўсю ноч грымела навальніца?*

*Пакінь мяне, ды не ў апошні час,*
*Калі ушчэнт закатуюць нягоды.*
*Раптоўна кінь, каб праглынуў я ўраз*
*Свой горкі жаль ад найвялікшай шкоды.*

*І што нягоды дробныя тады,*
*Калі цябе губляю наўсягды?* [10, с. 90]

Трэба адзначыць знаходку для *hate me — знелюбі.* Таксама пераасэнсаваўшы англійскае слова *to cross* (скрыжаваць), У. Дубоўка слушна ўжывае аддзеяслоўны назоўнік *укрыжаванне,* далучаючы біблейскі сэнс непазбежнасці лёсу да тканіны свайго перастварэння. Беларускаму перакладчыку ўдалося схаваць таямніцу адрасата — няма падказак — хто гэта мог быць, «бялявы сябар» ці «смуглявая ледзі» (меркаваныя адрасаты санетаў Шэкспіра). З іншага боку ў гэтым перакладзе цалкам адсутнічае аўтарская ваенная лексіка — бракуе вобраза змагання. Але *змаганне* замяняецца больш трагічнай метафарай:

*Калі ушчэнт <u>закатуюць нягоды</u>…*

Магчыма, тлумачэнне трэба шукаць у біяграфіі У. Дубоўкі, які быў вязнем ГУЛАГу. Замок санета ўсё-ткі не цалкам адпавядае шэкспіраўскаму, бо ў арыгінале — *іншыя кшталты гора, ад дробных да буйных — не будуць падавацца горам*, а не толькі дробныя, як гэта чытаем у дубоўкаўскім перакладзе:

*І што нягоды* ***дробныя*** *тады,*
*Калі цябе губляю наўсягды?*

Апошняе слова санета ўжо ў 60 гг. ХХ ст. у беларускай мове гучала архаічна, бо ёсць прыслоўі *назаўжды, назаўсёды*.

Нягледзячы на відавочныя неадпаведнасці, у санеце спалучыліся сэнса-вобразнае напаўненне, закладзенае аўтарам, і свядомая і падсвядомая іх інтэрпрэтацыя.

Пераклад Р. Барадуліна:

*Захочаш зненавідзець, лепш цяпер,*
*Цяпер, калі мне свет рыхтуе краты,*
*Схіліцца змусь, знявер'ю лёс давер*
*Ды не ўпадзі бядой апошняй страты.*

*Як сэрца зможа скруху, не прыходзь*
*Укленчыць пераможанаму гору,*
*Не дай начы світаць дажджом, ну хоць*
*Не падаўжай знямеранасць дакору.*

*Не пакідай мяне ў апошні міг,*
*Калі здаволяць злосць сваю нягоды,*
*Прыйдзі ў пачатку бед маіх усіх,*
*Каб я адчуў магутнасць перашкоды.*

*Пакуты, што мне доля прынясе,*
*Калі згублю цябе, малыя ўсе* [11, с. 254].

Гэтаму перакладу характэрна пераасэнсаванне некаторых аўтарскіх выразаў. Там, дзе ў Шэкспіра прамаўляецца ясна:

*Join with the spite of fortune, make me bow,*
*(Далучайся да злосці фартуны, прымусь мяне схіліцца)*

У перакладзе чытаем:

*Схіліцца змусь, знявер'ю лёс давер.*

Вонкава прыгожы аксюмаран *даверыць знявер'ю,* але ўзнікае пытанне, пра чый *лёс* у гэтым выразе ідзе гаворка? Лірычнага героя ці адрасата? Ці *лёс* іх узаемаадносін?

Падобнае бачым і ў другім катрэне:

*...не прыходзь*
*Укленчыць пераможанаму гору...*

Што тут? Надзея, што адрасат устане на калені, спачуваючы разгромленаму ў бітве з нягодамі свайму сябру? Хоць у арыгінале — *не прыходзь (не атакуй) у ар'ергардзе...*

Пераасэнсоўвае перакладчык і шэкспіраўскі выраз:

*To linger out a purposed overthrow...*
*(Каб падоўжыць відавочны (бачны паводле выніку) разгром)*

замяняецца на:

*Не падаўжай знамеранасць дакору…*

Аказіяналізм *знамеранасць* — дапусцім гэта:

*знарок + намер = наўмыснасць*

Насамрэч *наўмыснасць* у адным значэнні адпавядае слову *purpose — намер, прызначэнне, мэта, задума…* У іншых значэннях *purpose* — гэта *вынік, поспех.* Але не зусім ясна ў гэтым кантэксце ўжыванне слова *дакор (папрок)*. Магчыма, Р. Барадулін стварае кранальна-ганарлівага лірычнага героя, для якога папрок роўны паражэнню.

Перакладчык удала знайшоў адпаведны арыгіналу афарыстычны выраз у замку санета:

*Пакуты, што мне доля прынясе,*
*Калі згублю цябе, малыя ўсе.*

Гэтым самым свой варыянт Р. Барадулін прымушае як бы балансаваць паміж наследаваннем і прыпадобленым узнаўленнем.

Пераклад У. Мархеля:

*А як са мной расстацца давядзецца,*
*То лепей знелюбі мяне цяпер,*
*Калі за ўчынкі свет з мяне смяецца,*
*І лёс укрыжаваў сярод хімер.*

*Не прынясі з сабой дажджысты ранак*
*Пасля начнога ветру акурат,*
*Калі сардэчныя зацягне раны,*
*Не стань апошняй стратаю між страт.*

*Не пакідай мяне пасля ўсіх бедаў,*
*Пасля ўсяго, што ўжо я перанёс,*
*Але пакінь спачатку, каб уведаў*
*Я горшае з таго, што дорыць лёс.*

*Калі мяне пакінеш, як гаворым,*
*Не будуць беды іншыя ўжо горам* [12, с. 190].

Версія атрымалася вельмі лірычнай, нагадвае размову з адрасатам. Герой твора не чалавек, якому свет нясе праблемы, а якога свет не разумее, над якім свет смяецца, і лёс/фартуна не злуецца, а *ўкрыжоўвае сярод хімер*. Фонавым сэнсам выступае старажытнагрэчаская міфалогія, дзе *хімера* адзін з сімвалаў нязбытнай мары, ідэі. Лірычнасць перакладнога санета супярэчыла б ваеннай тэрміналогіі, таму, лагічна, што яна адсутнічае ў версіі У. Мархеля. Замест манеўраў і атак ар’ергарду, паведамляецца проста:

*Калі сардэчныя зацягне раны,*
*Не стань апошняй стратаю між страт.*

Замок санета адпаведны арыгінальнаму, і ўсё-ткі фраза скіравана ў дыялагічнасць, падобная да годнага, але даверлівага адказу:

*Калі мяне пакінеш,* ***як гаворым****,*
*Не будуць беды іншыя ўжо горам.*

Відавочна, у перакладзе шмат ад асобы перакладчыка, падобна, што санет

выбраны для магчымасці выказаць свае думкі праз прызму Шэкспіра, мо гэты пераклад прысвячаўся знаёмаму чалавеку.

Пераклад Т. Дзям'янавай (2011 г.):

*Не любіш — дык парві са мной цяпер —*
*Цяпер, калі ўвесь свет мяне знішчае!*
*І здзейсні гэтым долі злы намер —*
*Зламіць мяне і кінуць у адчаі.*

*Але ж не дабівай, калі ўжо боль*
*З маёй істоты высмакча ўсе сілы!*
*Няхай імглу не зменіць ранка золь,*
*Каб з цемры зацягнуць у змрок магілы!*

*Апошняй кропляй гора мне не стань!*
*Між многіх страт апошняя — атрута.*
*Ты лепей сёння сэрца мне парань —*
*Каб заўтра не было цяжэй пакуты!*

*Бо ўсё, што потым прыйдзецца стрываць,*
*Мяне наўрад ці зможа даканаць* [13].

Атрымаўся вельмі рамантызаваны паводле стылістыкі пераклад, дзе аўтарскія вобразы гіпербалізуюцца:

*Не любіш — парві са мной…*
*Свет мяне знішчае…*
*Кінуць у адчаі….*
*Боль з маёй істоты высмакча ўсе сілы.*

І прыводзіцца для гэтага радка характэрная для рамантычнай літаратуры рыфма:

*Змрок магілы.*

Таму натуральна, што зноў узнікае метафара «апошняя кропля гора». Тут яна пастаўлена на месцы аўтарскага:

*If thou wilt leave me, do not leave me last…*
*(Калі пакінеш мяне — не пакідай мяне ў самым канцы напрыканцы ўсяго)…*

У Шэкспіра акцэнт зроблены на часавасць, а не на выніковасць — «апошняя кропля, якая перальецца», як мы бачым у перакладзе Т. Дзям'янавай. Трэба заўважыць, што яе версіі патрабуецца рэдактарская праўка:

*Каб заўтра не было* ***цяжэй*** *пакуты!*

Правільна было б — *цяжэйшай пакуты*. Хоць замена ступені параўнання прыметніка ступенню параўнання прыслоўя для эканоміі паэтычнага радка — нярэдка сустракаецца ў беларускім вершаскладанні.

Не пераканаўчы ў Таццяны Дзям'янавай пераклад замка санета, пры тым яго форму збядняе дзеяслоўная рыфма:

*Бо ўсё, што потым прыйдзецца стрываць,*
*Мяне наўрад ці зможа даканаць.*

У арыгінале маюцца на ўвазе *ўсе* кшталты гора, якія ёсць і прыйдуць, і яны ўжо будуць здавацца такімі.

Увогуле, калі гэтае беларускамоўнае ўзнаўленне ўважліва адрэдагаваць разам

з перакладчыкам, то атрымаецца адметная прыпадобненая версія санета з той вышэй адзначанай «шэкспіраўскай жарсцю», з унутраным драматызмам і напружанасцю.

Пераклад Г. Янкуты (2015 г.):

*Захочаш — кінь мяне, але цяпер,*
*Цяпер, калі ўвесь свет мяне пакінуў,*
*Ламай — як лёс, што паказаў ашчэр,*
*Не адкладай да будучых часінаў.*

*Калі душа перажыве злыбедзь,*
*Не будзь апошняй кропляй: бі адразу,*
*Не дай мне бурнай ноччу ацалець,*
*Каб золкім ранкам пацярпець паразу.*

*Калі ты сыдзеш — дык хутчэй сыходзь,*
*Пакуль я іншых мук яшчэ не зведаў,*
*Каб першы ўдар, магутнейшы стакроць,*
*Быў самай злой з наканаваных бедаў.*

*Найгоршай стратай будзеш ты маёй:*
*Я рэшту не заўважу побач з ёй* [14].

Знойдзеныя адметныя паэтычныя сродкі: паралелізм *кінь, калі свет пакінуў*; яскравы адпаведнік *take me bow — прымусь схіліцца — ламай, як лёс, што паказаў ашчэр;* ужываецца цікавае акзіянальнае слова — *злыбедзь* — прыклад перакладчыцкай кампенсацыі. Шэкспір у іншым месцы таксама ўжывае «паэтычную прыдумку» — *an after-loss.* Маецца лексіка двубою ці бітвы — *адразу бі*, *ацалець, параза…*

Зноў-такі з’яўляецца «апошняя кропля», якую ў свой час папулярызаваў С. Маршак. Тут у адрозненне ад варыянтаў Я. Семяжона, які, відавочна, пайшоў услед за рускім перакладчыкам, і Т. Дзям’янавай, гэты ўстойлівы выраз стаіць на месцы «апошняга знішчальнага» манеўра-атакі *ар’ергарда.* Безумоўна, дзеяслоў *to drop — удараць* — супадаючы коранем з назоўнікам *a drop — кропля* — выклікае ў кантэксце гэтага санета асацыяцыі з «апошняй кропляй». І ўсё-такі гэтая метафара адносна арыгінальнага тэксту не да канца можа быць дапасаванай, бо ў Шэкспіра апошні ўдар — наймацнейшы, знішчальны, а «апошняя кропля» — гэта калі нават маленькая драбніца можа выклікаць буру, калі саломінка можа зламаць хрыбет вярблюду. У санеце Шэкспіра — гэта скрышальны, неапраўданы ўдар у міг, калі ўжо ўсё скончана. Таму «апошняя кропля», якая тры разы ўзнікла ў беларускіх перакладах — не зусім адпавядае арыгіналу.

Г. Янкута ўдала перакладае замок санета:

*Найгоршай стратай будзеш ты маёй:*
*Я рэшту не заўважу побач з ёй.*

Узнаўленне Г. Янкуты ў некаторых месцах мае свае «перавышэнні тона», адносна арыгінала — *ламай,* а не *схіляй,*

*Калі ты сыдзеш — дык хутчэй сыходзь…*
*Каб першы ўдар, магутнейшы стакроць…*

Але за пэўныя рамкі стрыманасці, выказаныя ў словах аўтарам, гэтыя спробы *раскрыцця ў пачуццях* не выходзяць, межы выяўлення сваіх эмоцый не знятыя, у адрозненне ад папярэдняга перакладу.

На падставе вышэй сказанага мы можам сцвярджаць, што пераклад 90-га санета Шэкспіра, выкананы Ю. Гаўруком, блізкі да *наследавання.* Такім чынам можа ахарактарызаваць і пераклад Р. Барадуліна. Узнаўленні Я. Семяжона

(пэўным чынам як удалы ўзор перанясення ў беларускую стыхію версіі Маршака), У. Мархеля і Т. Дзям'янавай выяўляюць сабою прыпадобнены пераклад, хаця і захоўваюць рысы наследавання, збольшага ў стылістыцы. Пераклады У. Дубоўкі і Г. Янкуты, бліжэйшыя да арыгінала, іх можна лічыць найбольш адпаведнымі перакладамі.

Прычына адступлення ад арыгінала крыецца ў тым, што з аднаго боку змест і форма, асабліва ў вершаваных тэкстах, пры ўзнаўленні на іншую мову — уваходзяць у супярэчнасць, перашкаджаючы структуры тэксту. Перакладчыку неабходна вышукваць і нават вынаходзіць адэкваты, якія перадавалі б вобразна-сэнсавае напаўненне арыгінала. Часам спрацоўвае метад, які І. Гаравая азначае як «літаратурнае пераапрананне праз пераклад», «калі перакладчыкам рухаюць матывы не столькі найбольш дакладнага ўзнаўлення сэнсу і разблытвання аўтарскіх прататыпаў, колькі выяўленне свайго асабістага светабачання праз выбар канкрэтнага верша з вялікай колькасці іншых» [3, с. 117]. Апрача наўмыснага «літаратурнага пераапранання» да перакладчыцкай стратэгіі дадаецца падсвядомая «падгонка» перакладу, звязаная з ментальным багажом перакладчыка — наборам архетыпаў, паяднаных з нацыянальнай гісторыяй, побытавай і культурнай традыцыямі, з ландшафтам краіны.

Беларускія ўзнаўленні класічных твораў прыўносяць у сусветны літаратурны працэс свае нюансы прачытання, уступаючы ў дыялогавыя адносіны паміж арыгінальным і ўласнамоўным тэкстам, пашыраюць дыскурс абранага тэксту, адкрываючы пры гэтым новыя/прыхаваныя ўзроўні яго разумення, а таксама ўзбагачаюць нацыянальную культуру.

## Спіс літаратуры:


1. Козаровецкий, В. Возможен ли перевод сонетов Шекспира [Электронный ресурс] / В. Козаровецкий. — Режим доступа: http://perevodchick-x.narod.ru/05.htm. — Дата доступа: 17.09.2015.
2. Лифшиц, Ю. Введение. Как переводить сонеты Шекспира [Электронный ресурс] / Ю. Лифшиц. — Режим доступа: http://rus-shake.ru/criticism/Lifshits/Introduction. — Дата доступа: 09.09.2015.
3. Гаравая, І. Санеты Уільяма Шэкспіра: традыцыі беларускага прачытання / І. Гаравая // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. — № 5. — Ч. 1. — С. 116—118.
4. Шекспир, В. 90-й сонет [Электронный ресурс] / Шекспир В. — Режим доступа: http://www.korf.ru/assorty/sonnet_XC.shtml. — Дата доступа: 15.08.2015.
5. Shakespeare, W. Sonnet XC [Electronic resource] / W. Shakespeare. — Mode of access: http://www.shakespeares-sonnets.com/sonnet/90. — Date of access: 30.03.2017.
6. Гаўрук, Ю. Агні ў прасторах. Выбраныя пераклады / Ю. Гаўрук. — Мінск: Мас. літ., 1975. — 247 с.
7. Шэкспір У. Санеты / У. Шэкспір. — Полымя. — 1954. — № 4. — С. 83.
8. Шекспир, В. Сонеты (в переводе Маршака) [Электронный ресурс] / Шекспир В. — Режим доступа: http://lib.ru/SHAKESPEARE/sonets.txt. — Дата доступа: 09.11.2015.
9. Берестов, В. Судьба девяностого сонета [Электронный ресурс] / В. Берестов. — Режим доступа: http://s-marshak.ru/articles/berestov01.htm. — Дата доступа: 09.10.2016.
10. Шэкспір, В. Санеты / В. Шэкспір; пер. У. Дубоўкі — Мінск: Беларусь, 1964. — 168 с.
11. Кахаць — гэта значыць…: Старонкі з паэзіі свету / пер. з старажытнарус., польскай, серба-луж., англ., фр., ісп., моў Р. Барадуліна; прадм. М. Стральцова. — Мінск: Маст. літ., 1986. — 270 с.

12. Мархель, У. Але… выбраная лірыка / У. Мархель. — Мінск: БФК, 2007. — 280 с.

13. Шэкспір, У. Санет 90 [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.lightynna.ru/vershy/peraklad-saneta-90-u-sh. — Дата доступу: 15.03.2017.

14. Шэкспір, У. Санет 90 [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://www.facebook.com/hanna.yankuta/posts/692715184194256?comment_id=692715254194249. — Дата доступу: 09.10.2015.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 13 красавіка 2017 года.

## Рэзюмэ

**Серж МІНСКЕВІЧ**

### Параўнальны аналіз перакладаў 90-га санета Уільяма Шэкспіра на беларускую мову

УДК 81’255.2:821.111.09(092)Шэкспір=111=161.3

У артыкуле даследуюцца праблемы перакладу санетаў Шэкспіра. Праводзіцца параўнальны аналіз перакладаў 90-га санета англійскага паэта на беларускую мову і некаторых варыянтаў яго перакладу на рускую мову. На дадзены момант гэта найбольш папулярны ў беларускіх перакладчыкаў санет — існуе сем яго перакладаў. Аўтар артыкула прасочвае перакладчыцкую стратэгію, вызначае аддаленасць/набліжанасць беларускамоўных варыянтаў да арыгінала.

**Ключавыя словы:** санет, версіфікацыя, пераклад, перакладазнаўства, параўнальны аналіз, шэкспіразнаўства, стыль.

## Summary

**Serzh MINSKEVICH**

### Comparative analysis of the Belarusian translations of Shakespear’s Sonnet 90

The article examines the problems of translation of Shakespear’s sonnets. It presents a comparative analysis of all the Belarusian and some Russian translations of Sonnet 90 by the English poet. At the moment this Shakespear’s sonnet is the most popular among Belarusian translators — seven translations exist by now. The author of the article traces the translation strategy, defines distance and proximity of the Belarusian-language versions to the original.

**Keywords:** sonnet, versification, translation, translation studies, comparative analysis, Shakespeare studies, style.



Алена КРЫКЛІВЕЦ

# ЖАНРАВА-СТЫЛЁВАЯ МАДЫФІКАЦЫЯ АПОВЕСЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЕ АПОШНЯЙ ТРЭЦІ XX СТАГОДДЗЯ

Працэс мадэрнізацыі эстэтычнай сістэмы ў апошняй трэці XX стагоддзя звязаны з паглыбленнем крызіснага светаадчування, расчараваннем у існуючым палітычным, эканамічным і культурным развіцці. Трансфармацыі падвяргаецца прасторава-часавая арганізацыя твораў, пісьменнікі ўсё часцей звяртаюцца да другаснай мастацкай умоўнасці, пашыраючы асацыятыўны патэнцыял сваіх твораў. Гэта дазволіла адысці ад прынцыпу імітацыі рэчаіснасці, мадыфікаваць жанравыя формы, ізаморфныя дадзенаму прынцыпу. Як адзначае Е. Лявонава, «Прынцып імітацыі, адлюстравання жыцця ў мастацкіх формах, адпаведных самому жыццю, суправаджаецца ці нават выцясняецца міфам і сімвалам, замест канкрэтных вобразаў аўтары ўсё часцей звяртаюцца да абагульнена-сімвалічных, замест падрабязна, дакладна акрэсленых абставінаў і характараў выкарыстоўваюць умоўна-фантастычныя, алегарычныя, гратэскавыя. Літаратурныя творы ўсё часцей набываюць характар прыпавесці, прытчы» [5, с. 109].

У беларускай прозе апошняй трэці XX стагоддзя з’яўляюцца творы, якія сінтэзуюць праўдападобнае і ўмоўнае, прыватнае і агульнае, індывідуальнае і агульначалавечае. Разважаючы пра развіццё еўрапейскіх літаратур у XX стагоддзі, С. Ханеня выяўляе наступную тэндэнцыю: «Адмаўленне ад знешняга праўдападабенства жыццю пры адначасовым захаванні яго сутнаснага ўспрыняцця… гэта ў значнай ступені ўплывае на жанрава-стылёвыя адметнасці сучаснай літаратуры, яе формаўтваральныя пошукі» [7, с. 3].

Пашырэнне асацыятыўных межаў твора, актыўнае выкарыстанне пісьменнікамі другаснай мастацкай умоўнасці прыводзяць да мадыфікацыі эпічных формаў як на знешнім, так і на ўнутраным (змястоўным) узроўні. Узнікае свайго роду сімбіёз фальклорных і літаратурных жанраў, калі празаікі, імкнучыся да асэнсавання і адлюстравання рэчаіснасці ў метафарычным свеце, апелююць да фальклорных метадаў і прыёмаў стварэння характараў, пабудовы сюжэтных схем.

Паказальнай рысай некласічнай прозы апошняй трэці XX стагоддзя з’яўляецца ўзаемадзеянне з авангардысцкімі плынямі, што прыводзіць да размывання жанравых межаў і цяжкасцей у вызначэнні жанраў. Адной з ключавых тэндэнцый літаратурнага працэсу ў вызначаны перыяд часу становіцца пашырэнне ўмоўнасці, звязанае з асэнсаваннем глыбінных сутнасных пытанняў быцця. На думку А. Мельнікавай, «фармальнай рэалізацыяй падобнага пашырэння асацыятыўнага патэнцыялу мастацкага тэксту якраз і з’яўляецца зварот да жанру прытчы і парабалы. Зварот пісьменнікаў да жанру прытчы абумоўлены жаданнем спазнаць быційныя праблемы: сутнасці і прызначэння чалавека, характару і мэтаў яго дзейнасці» [6, с. 2].

З’яўляецца сінтэтычная жанравая форма — аповесць-прытча. Прынята адрозніваць прытчу-настаўленне, алегорыя ў якой закранае бытавую, паўсядзённую сферу чалавечага жыцця (такімі з’яўляюцца многія прытчы Саламона)

---

***Крыклівец Алена Уладзіміраўна,*** *дацэнт кафедры літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, кандыдат філалагічных навук.*

і прытчы, якія павінны зрабіць «адчувальнымі» катэгорыі духоўнага жыцця, індывідуальнага маральнага выбару і адказнасці за гэты выбар (Евангельскія прытчы). Сацыяльная завостранасць твораў, у якіх жанравыя асаблівасці прытчы сінтэзуюцца з элементамі антыўтопіі, дазваляюць лёгка эксплікаваць алегарычны падтэкст: ён, як правіла, закранае галіну грамадскага і ідэалагічнага.

Такой з'яўляецца, напрыклад, аповесць А. Мінкіна «Краіна Хлудаў». Названы твор цалкам можна было б ахарактарызаваць і як антыўтопію, паколькі ў ім мадэлюецца вобраз умоўнай краіны Хлудзіі з усталяванай у ёй таталітарнай сістэмай. Дзяржаўная сістэма Хлудзіі накіравана на безумоўнае падпарадкаванне сабе чалавека, на вынішчэнне ў ім асобасных якасцей і ператварэнне ў хлуда. Такая аснова сюжэта выклікае мноства паралеляў з вядомымі антыўтопіямі Т. Гобса «Левіяфан», Дж. Оруэла «1984», Я. Замяціна «Мы» і інш. Аднак акрамя традыцыйнага для антыўтопіі сацыяльнага папярэджання пра тое, якую грамадскую пагрозу ўяўляе сабой развіццё таталітарнай сістэмы, у аповесці А. Мінкіна змяшчаецца экзістэнцыяльнае папярэджанне пра духоўны крызіс, які непазбежна стане вынікам адмаўлення чалавека ад самакаштоўнасці ўласнага «я», ператварэння асобы ў «дэталь механізму» агульнай сістэмы, грэбавання законамі духоўнай і прыроднай сутнасці чалавека. Апошняе дазваляе гаварыць не толькі пра відавочныя прыкметы антыўтопіі ў аповесці А. Мінкіна, але і пра збліжэнне твора з жанравай формай прытчы (як у значэнні сацыяльнага павучання, так і ў сэнсе пераходу гістарычных і бытавых рэалій у галіну духоўнай абстракцыі).

Пагодзімся з меркаваннем І. Гоўзіч пра тое, што «прытчападобнасць не толькі канкрэтны мастацкі прыём, але і ход думкі, спосаб мыслення вобразамі, якому цесна ў рамках нарматыўных, класічных, тардыцыйных эстэтычных канонаў» [2, с. 32].

Познія аповесці В. Быкава дэманструюць выхад аўтара за межы класічнай эстэтыкі. Так, у аповесці «Ваўчыная яма» героі максімальна абязлічаныя (нават пазбаўленыя імёнаў), і ў той жа час максімальна тыпізаваныя. Салдат-дэзерцір і стары бомж-алкаголік уяўляюць сабой, з аднаго боку, своеасаблівы «сацыяльны зрэз» постперабудовачнага грамадства, з другога — апынуўшыся ў ваўчынай яме ў чарнобыльскай зоне, увасабляюць апакаліптычныя матывы згубы не толькі нацыі, але і ўсяго чалавецтва, якое стала на шлях самавынішчэння. Ваўчыная яма, як і ўся чарнобыльская зона, — мадэль свету-пасткі, у якім чалавек пазбаўляецца асобасных характарыстык, чалавечага аблічча, а ў рэшце рэшт, і жыцця.

У адрозненне ад больш ранніх, ваенных аповесцей В. Быкава, экзістэнцыйная праблематыка ў дадзеным творы абумоўлена не толькі асабістым маральным выбарам героя, але, магчыма нават у першую чаргу, — крызісам дзяржаўнай сістэмы. Вобразы, створаныя беларускім празаікам, схематычныя, але менавіта іх схематызм спараджае мноства магчымых варыянтаў трактоўкі: ад сацыяльнай да маральна-этычнай, духоўнай. Гэта сведчыць пра індывідуальна-аўтарскую рэцэпцыю жанравых асаблівасцей прытчы, паколькі яе спецыфіка, як правіла, не дапускае вялікай колькасці інварыянтаў тлумачэння.

Інтэграцыя жанравых структур аповесці і прытчы можа ажыццяўляцца на кампазіцыйным узроўні. У аповесці В. Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» прытча пра птушку апраўляе апавяданне, насычанае рэаліямі пасляперабудовачнага часу. Такая суаднесенасць элементаў сюжэта надае асноўнаму апавяданню глыбіню і шматузроўневасць. Вобразы набываюць сімвалічную афарбоўку, а грамадская і экалагічная праблематыка перацякае ў рэчышча экзістэнцыяльнай.

Семантыку прытчы надае аповесці В. Казько «Час збіраць косці» назва твора. Сюжэт аповесці, а дакладней, адсутнасць падзей у ёй уяўляе сабой плынь свядомасці (або плынь успамінаў) героя. Пры гэтым назва адсылае нас да старажытных паганскіх паданняў пра неабходнасць пахавання чалавека з усімі яго часткамі (косткамі), інакш душа памерлага не знойдзе заспакаення і не зможа пакінуць

месца пахавання; і да вядомай цытаты з Эклезіяста пра тое, што «ўсяму свой час на зямлі...» З хаты былі скрадзеныя рэчы, а значыць, і звязаныя з імі ўспаміны. Такім чынам, «сабраць усе косткі» і здабыць душэўны спакой немагчыма. Страта памяці пра мінулае і звязанай з ёй душэўнай гармоніі асэнсоўваецца ў творы і праз прызму праблемы нацыянальнага самавызначэння.

Невыпадкова, сюжэты многіх прытчаў уяўляюць сабой назіранне за ходам чалавечага жыцця і алегарычнае адлюстраванне гэтага назірання. Аснову сюжэтаў аповесцей В. Казько «І нікога, хто ўбачыць мой страх» і «Прахожы» складае падвядзенне вынікаў мінулага жыцця. Аўтар асэнсоўвае экзістэнцыяльнае быццё-да-смерці, напаўняе катэгорыю вечнасці цалкам адчувальным зместам: вечнасць перастае існаваць, калі ў свядомасці чалавека перастаюць існаваць маркеры нацыянальнай ідэнтычнасці. Беларускага празаіка, відавочна, не бянтэжыць пераклічка аповесці «І нікога, хто ўбачыць мой страх» з раманам М. Булгакава «Майстар і Маргарыта». Наадварот, думаецца, Майстар у аповесці В. Казько з'яўляецца свядома. Прызнаны ва ўсім свеце, ён працягвае пакутаваць на Радзіме, не ўцякаючы ў «зону камфорту». Гэты маральны выбар Майстра, як і яго свядомая падрыхтоўка да блізкай смерці, дазваляюць яму выконваць у аповесці ролю «духоўнага суддзі», які выносіць прысуд маральнаму абліччу сучаснага грамадства. Названая аповесць актуалізуе дыдактычную функцыю прытчы, звязаную з неабходнасцю духоўнага настаўніцтва.

Містычны складнік, аўтарская канцэпцыя свету, якая ўяўляе сабой паўнату асэнсавання і ўвасаблення Космасу і чалавека ў ім як часткі гэтага космасу, аб'ядноўваюць аповесці В. Казько «Прахожы» і А. Бароўскага «Ахутавана». Вобразы вандроўнай душы, героя-Прахожага прымушаюць задумацца пра пошукі чалавекам свайго духоўнага шляху, пра неабходнасць маральнага і інтэлектуальнага самаўдасканалення. Аповед у творах як бы заўсёды мяжуе паміж явай і сном, паміж містыкай і рэальнасцю, гэтак жа, як душа чалавека шукае сябе паміж зямным і нябесным. Героі абедзвюх аповесцей адчуваюць сваю глыбінную сувязь з прыродай і з усім навакольным светам, і ў той жа час «месцам сілы» з'яўляецца для іх культурная і нацыянальная прастора Радзімы.

Прытчавы характар прозы, максімальная абагуленасць вобразаў можа выступаць і як пэўны «мастацкі прыём (можа, прынцып) ператварэння рэчаіснасці ў вобразную мадэль, які цягне за сабою іншыя стылявыя адзнакі мастака: умоўнасць пачынае пераважаць над праўдападобнасцю» [2, с. 35]. У шэрагу выпадкаў мы маем справу ўжо не з інтэграцыяй жанравых структур аповесці і прытчы, рамана і прытчы, а з жанрам літаратурнай, аўтарскай прытчы, якой у прозе другой паловы XX стагоддзя надаецца «новае змястоўнае напаўненне — медытатыўнасць, што лучыцца з глыбінным псіхалагізмам, мае абавязковы выхад з лакальнага перажывання і асабістага пачуцця на ўсеагульны драматызм і ўніверсальную трывогу за свет і чалавека» [2, с. 33]. Так, як гэта адбываецца, напрыклад, у кнізе прытчаў Я. Сіпакова «Тыя, што ідуць».

Жаданне ў максімальна сціснутай форме ўвасобіць глыбокі філасофскі змест, разважанні «планетарнага» характару, «апрадмеціць» абстрактныя катэгорыі абумовіла наўмысна інтэлектуальны характар прозы апошняй трэці XX стагоддзя. Прадметам даследавання такой прозы становіцца «чалавек экзістэнцыяльны» [4, с. 142].

Аналіз твораў, у якіх ажыццяўляецца працэс жанравай інтэграцыі з прытчавай структурай, паказаў, што ў беларускай літаратуры адбываецца не толькі рэцэпцыя эпічных традыцый нацыянальнай і сусветнай літаратуры. Пісьменнікі пашыраюць жанравыя межы прытчы, у выніку чаго адбываецца «стварэнне ўласнай мадыфікацыі прытчы — так званай прыпавесці, якая мае шмат адрозненняў ад класічнай формы. Гэта менавіта беларуская адметнасць у жанравым вызначэнні» [7, с. 53].

Так, да прыпавесцей адносяць прозу В. Быкава са зборніка «Пахаджане», творы Я. Сіпакова з кніг «Тыя, што ідуць», «Падары нам дрэва» [6]. Даследуючы прыпавесць як жанравую мадыфікацыю прытчы, Р. Дубашынскі падкрэслівае:

«Адпачаткова прыпавесць — жанр вуснай традыцыі, і таму характэрныя рысы, уплыў народнага светабачання і светаадчування ў пазнейшым літаратурным творы будуць прысутнічаць заўсёды. Увасабленне народнай філасофіі, жыццёвай мудрасці ў прыпавесці сведчыць аб высокай інтэлектуальнасці прытчы як жанру і як твора. Але ўзровень, ступень гэтай інтэлектуальнасці залежыць ад таго, як народная філасофія і філасофія аўтарская адлюстроўваюцца ў творы і ў якой ступені яны спалучаны» [3, с. 13—14].

Характэрна, што ў беларускай прозе даследуемага перыяду мадыфікаваныя прытчавыя структуры гэтак жа, як і традыцыйныя эпічныя формы, дэманструюць імкненне да фарміравання метажанру шляхам цыклізацыі.

Прыкладам можа служыць аповесць А. Масарэнкі «Лесавікі», якая мае падзагаловак «Прыпавесці». Па сутнасці, гэта аповесць у прыпавесцях, бо толькі асобныя антыпартыйныя выказванні героя Янука Долькі сведчаць пра тое, што дзеянне, хутчэй за ўсё, адбываецца ў 1960-я гады, а сама аповесць пісалася ў гады перабудовы. У цэлым жа, міжасобасныя адносіны і адносіны чалавека да прыроды, апісаныя ў творы, не маюць часавага замацавання і маглі б мець месца ў любы час і ў кантэксце любой сацыяльнай сітуацыі. У аповесці шмат дзеючых асоб, улавіць сувязь паміж якімі чытачу цяжка, а часам немагчыма, паколькі сувязь гэтая не сюжэтная, а, хутчэй, абстрактная, абумоўленая светабачаннем аўтара і агульнай ідэйна-мастацкай канцэпцыяй твора. Сярод мноства бытавых дзеянняў, дэталяў, дыялогаў прасочваецца думка пра тое, што чалавеку бывае цяжка знайсці паразуменне сярод сабе падобных. Абагульняючы характар аповесці ў прыпавесцях надаюць гістарычныя рэмінісцэнцыі, якія адносяцца, як правіла, да ваеннага часу. Пагодзімся з Т. Шамякінай у тым, што ў «Лесавіках» А. Масарэнкі «гаворка ідзе пра ісціны, глыбока ўкаранёныя ў народзе, але спалучаныя з аўтарскім поглядам і на сам народ, і на эпоху, прычым поглядам як бы з вышыні адлегласці часу, у асвятленні жыццёвай мудрасцю ўжо шмат пажыўшага аўтара» [1, т. 4, кн. 3, с. 537].

Паглыбленне маральна-этычнай праблематыкі ў прозе апошняй трэці XX стагоддзя абумовіла апеляцыю аўтараў да жанравых форм царкоўнай літаратуры. У аповесці А. Бароўскага «Княжбор», якая, безумоўна, носіць алегарычны характар, прытча не толькі складае аснову сюжэта, але і прадстаўлена ў выглядзе ўстаўнога элемента — аповеду дзеда Ладуцькі пра страту першапачатковага адзінства паміж чалавекам і прыродай. Аднак аўтар ідзе яшчэ далей і ў апошняй частцы аповесці «Праклён неба» звяртаецца да жанру пропаведзі, каб у іншасказальнай форме выказаць свой погляд на разбуральнае ўздзеянне чалавека і ўсёй тэхнакратычнай цывілізацыі на прыроду.

Асноўнай мэтай пропаведзі ў царкоўнай практыцы з'яўляецца альбо паведамленне пра нешта пастве, альбо прароцтва, прадказанне будучыні, альбо павучанне. Апакаліптычная карціна Вялікага Суда, які ў фантасмагорыі А. Бароўскага чыняць не толькі нябесныя сілы, але і дрэвы, і звяры, уяўляе сабой прароцтва хуткай расплаты чалавека за разбурэнне гармоніі, парушэнне законаў прыроды. Акрамя таго, у аповесці з'яўляецца вобраз «Прарока-Бога-Суддзі», «сына беларускай зямлі — Вятчынкі». Яго прамова прыводзіць героя аповесці да думкі аб роўных правах і чалавека, і звера на жыццё ў агульным «доме». Зракацца гэтага адзінства — значыць, адракацца ад самога сябе, ад сваёй чалавечай сутнасці.

У цэлым, дадзеную аповесць А. Бароўскага можна супаставіць з жанрам «публіцыстычнай пропаведзі», дзе зыходнай кропкай развіцця думкі з'яўляюцца не толькі і не столькі пастулаты веры, колькі недахопы і заганы, якія можна назіраць у сучасным жыцці (на іх выкараненне, уласна кажучы, і накіравана дыдактыка пропаведзі).

Усё часцей у якасці сіноніма прытчы ўжываецца паняцце «парабалы». Для расійскага літаратуразнаўства тэрмін «парабала» ўяўляецца неадназначным, паколькі з'яўляецца перакладным. Аднак, улічваючы той факт, што беларуская

літаратура ў апошнія дзесяцігоддзі больш ці менш удала, але досыць актыўна асвойвае вопыт еўрапейскай некласічнай эстэтыкі, у айчынным літаратуразнаўстве паняцце парабалы (як і парабалізацыі прозы) ужо не здаецца чужародным. Прытчу і парабалу імкнуцца размяжоўваць: «Мастацкая з'ява парабалізацыі заснаваная на паэтыцы класічнай прытчы (філасофска-этычная іншасказальнасць, адметная сімвалічнасць, перавага інтэлектуальнага пачатку над вобразным і інш.). У адрозненне ад адназначнасці прытчавай алегорыі, парабалічныя вобразы больш схільныя да шматзначнай сімвалічнасці. Парабала максімальна адпавядае прынцыпу "адчужэння"» [7, с. 36].

Відавочна, што выразных жанравых межаў паміж парабалай і прытчай не існуе. «Размыццё» выразнасці жанравага канону і інтэграцыя розных жанравых структур — агульная тэндэнцыя літаратурнага працэсу апошніх дзесяцігоддзяў. Так, У. Някляеў жанравую своеасаблівасць сваёй аповесці «Вежа» сам вызначае як «фантастычна-дакументальную прыпавесць». Нам уяўляецца, што названы твор можна разглядаць і ў кантэксце размовы пра парабалу. З пункту гледжання С. Ханені ў аповесці «Вежа» аўтар «спалучыў казачную, фантастычную і легендарную плыні, міфалагічнае з рэальным, трагічнае з камічным, прозу, паэзію і драму» [7, с. 37]. Нягледзячы на тое, што У. Някляеў наўмысна палітызуе свой твор (гэтаму спрыяюць нават аналогіі з біблейскай гісторыяй пра Вавілонскую вежу), апавяданне ў ім развіваецца па прынцыпе парабалы: пачынаецца абстрактна, паступова набліжаецца да галоўнай тэмы і зноў сыходзіць у абстракцыю і адчужэнне.

Сюжэтна аповесць уяўляе сабой «пярэкрут» гісторыі пра Вавілонскую вежу. Вежа, пабудаваная Юткай Казубоўскім, дапамагла наладзіць кантакты з сусветнай грамадскасцю, праславіць звычайнага вясковага чалавека. Але гратэскавая проза У. Някляева насычана не проста алегарычнай — сатырычнай вобразнасцю. І таму алегорыя аповесці дапускае мноства варыянтаў тлумачэння. Сюжэтна «напрошваецца» выснова пра пацяпленне палітычнага клімату і значнасць чалавечай асобы, аднак яна абясцэньваецца парадыйнай інтанацыяй і элементамі карнавалізацыі.

Невыпадкова, Л. Гарэлік прыходзіць да высновы, што «дэфіцыт смеху, якога заўсёды бракавала беларускай прозе, запраграмаванай на сур'ёзны лад, — напэўна, адна з прычын, што абумовілі перарастанне Някляева-паэта ў Някляева-празаіка, але гэты пераход быў падрыхтаваны ўсёй яго папярэдняй творчасцю, асабліва тымі вершамі і паэмамі, дзе асноўныя сродкі самавыяўлення — іронія, парадыраванне, з'едліва-саркастычны смех, фантастычна-парадаксальнае асвятленне рэчаіснасці» [1, т. 4, кн. 2, с. 518].

Такім чынам, жанрава-стылёвая мадыфікацыя аповесці ў беларускай літаратуры апошняй трэці ХХ стагоддзя мае нацыянальныя асаблівасці. Свой плён ў прозе прыносіць пошук новых алегарычных апавядальных форм, здольных змясціць як сацыяльныя, так і глыбінныя, метафізічныя сэнсы. Адчувальнае развіццё атрымлівае так званая «парабалічная плынь». Аповесці шэрагу беларускіх аўтараў уяўляюць сабой рэцэпцыю прытчавых структур. У выніку сінтэзу жанравых форм аповесці і прытчы ўзнікае «спецыфічны» беларускі феномен прыпавесці. Можна меркаваць, што апеляцыя да нацыянальнай міфалогіі, актуалізацыя нацыянальных архетыпаў, паглыбленне маральна-этычнай праблематыкі адпавядае актуальнай для беларускай літаратуры задачы нацыянальна-духоўнага адраджэння.

## Спіс літаратуры:

1. Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. / НАН Беларусі, Аддз-не гуманітар. навук і мастацтваў, Ін-т літ. імя Я. Купалы; навук. рэд. У. В. Гніламёдаў, С. С. Лаўшук. — Мінск: Беларус. навука, 1999. — 2002. — 4 т.

2. Гоўзіч, І. М. Жанрава-стылявыя пошукі прозы Янкі Сіпкова ў святле праблемы традыцыйнага і наватарскага / І. М. Гоўзіч // Славянскія літаратуры ў кан-

тэксце сусветнай: матэрыялы VIII Міжнар. навук. канф., прысвеч. 125-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, Мінск, 1—3 лістапада 2007 г. / пад рэд. В. П. Рагойшы; рэдкал.: В. П. Рагойша (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2007. — С. 32—38.

3. Дубашынскі Р. Ю. Прыпавесць у сучаснай беларускай прозе / Р. Ю. Дубашынскі. — Мінск: Беларус. навука, 2011. — С. 13—14.

4. Корань, Л. Д. Беларуская проза XX стагоддзя: дынаміка жанравых структур / Л. Д. Корань. — Мінск: ВПП «Новік», 1996. — 158 с.

5. Лявонава, Е. А. Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX—XX стст.: Дапам. для настаўнікаў / Е. А. Лявонава. — Мінск: Рэд. часоп. «Крыніца», 1998. — 336 с.

6. Мельнікава А. М. Гісторыя беларускай літаратуры / А. М. Мельнікава // // [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://docs.gsu.by/_layouts/mobile/view.aspx — Дату доступа: 17.03.2018.

7. Ханеня, С. Амплітуда мастацкасці: Умоўнасць у беларускай прозе канца 20 стагоддзя / С. Ханеня. — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2001. — 117 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 2 верасня 2017 года.

## Рэзюмэ

**Алена КРЫКЛІВЕЦ**

### Жанрава-стылёвая мадыфікацыя аповесці ў беларускай прозе апошняй трэці XX стагоддзя

УДК 82.02:821.161.1:821.161.3—31”19”

У артыкуле выяўляецца жанрава-стылёвая трансфармацыя аповесці ў беларускім літаратурным працэсе апошніх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Аўтар артыкула робіць спробу сістэматызаваць асноўныя мадыфікацыі аповесці ў прозе гэтага перыяду, раскрыць асаблівасці зместу, суб’ектнай арганізацыі і паэтыкі аповесці-прытчы, аповесці-пропаведзі, прыпавесці, парабалы.

**Ключавыя словы:** руская літаратура, беларуская літаратура, параўнальна-тыпалагічны аналіз, мадэрнізм, стылёвая мадыфікацыя, аповесць.

## Summary

**Alena KRYKLIVETS**

### The genre-style transformation of the novel in the Belarusian prose of the last third of the twentieth century

The article reveals the genre-style transformation of the novel in the Belarusian literary process of the last decades of the twentieth century. The author of the article makes an attempt to systematize the main modifications of the novel in prose of this period and to reveal the features of content, subject organization and poetics of the novel-similitude, of the novel-preaching, of the tale, of the parable.

**Keywords:** Russian literature, Belarusian literature, comparative analysis, modernism, style transformation, novel.

**Валерый МАКСІМОВІЧ**

# ІДЭЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАНСАЛІДАЦЫІ Ў ТВОРЧАСЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Духоўныя высілкі Купалы былі скіраваны на вырашэнне тых неадкладных задач, якія мелі першаступенную важнасць і значнасць у плане нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, нацыянальнага самапазнання, самасцвярджэння. Архіважнай задачай было стварыць літаратуру не проста ў выглядзе корпуса розных тэкстаў, а надаць ёй адмысловы статус, ператварыць яе ў нацыязначны культурна-падзвіжніцкі і духоўна-адраджэнскі цэнтр, які б узяў на сябе функцыю кансалідуючую, аб’яднальную. Патрэбна было скіраваць энергію і эмоцыі людзей у кірунку сцвярджэння нацыянальнай свядомасці, самой ідэі нацыі як стваральнай сілы, разумеючы, што без гэтага немагчыма духоўная інтэграцыя беларусаў.

У суровых віхурах часу Купала шукаў шляхі паяднальнасці, духоўнага кантакту з народам дзеля ўсталявання — як канцовая мэта — нацыянальнай дзяржаўнай супольнасці. Надзвычай важна было мастацкім словам узварухнуць, абудзіць гістарычна прыспаную свядомасць народа з тым, каб наладзіць з ім духоўны дыялагічны кантакт, заклікаць да суразмоўя, да супольнага супрацьстаяння жыццёвым злыбедам, да пошукаў светланосных шляхоў у будучыню. Выпрацоўка стрыжнявога нацыянальнага ідэалу было злабадзённым патрабаваннем часу і аб’ектыўнай гістарычнай заканамернасцю.

Ідэю еднасці, згуртавання чалавечай супольнасці Купала лічыць вышэйшым і канцавым пунктам нацыянальнай кансалідацыі. Першаснай і галоўнай перадумовай дадзенага працэсу паэт бачыць самога чалавека, яго жаданне і волю актывізаваць свае духоўныя высілкі дзеля спраўджання ідэі згуртавання. Для самога Купалы гэтая ідэя мела лёсавызначальны характар, наўпрост звязвалася ім з перспектывай выжывання нацыі, са здольнасцю займець трывалы духоўны падмурак, дзе менавіта быццёва-анталагічнаму, сакральнаму, ментальна-светапогляднаму адводзілася рашаючая роля.

Спасцігнуць душу народа можна было толькі скіраваўшы сваю ўвагу на выяўленне і асэнсаванне глыбінных, узаемазвязаных і ўзаемазалежных, падчас даволі няпростых, супярэчлівых грамадскіх працэсаў і аспектаў, міжасобасных стасункаў у тым ліку. Важна было ў сферу мастацкага даследавання прыцягнуць увесь комплекс сацыякультурнай, духоўнай чыннасці ў шматстайных і ўніверсальных яе праявах. Паказваючы этапы духоўнага выспявання і духоўнай абуджанасці чалавека, Купала не мог абысці ўвагай тыя не вельмі прыязныя моманты, якія тычыліся высвятлення першаасноў духоўнасці. І гэта ніяк нельга расцэньваць як парушэнне праўды жыцця і мастацкай праўды. Наадварот, у спробе дакапацца да першапрычын «крыўд і бед» бачыцца імкненне бескампрамісна, але пры гэтым прынцыпова і сумленна падысці да асвятлення тых негатыўных праяў, якія служаць перашкодай на шляху да духоўнага абнаўлення. Купала як прарок нацыі добра ўсведамляў, што літаратура павінна служыць духоўнаму абуджэнню і нацыянальнай кансалідацыі, і таму ўсе свае намаганні прыкладаў дзеля канцэптуальнага асэнсавання нацыянальна-адраджэнскай ідэі.

Паэт паказвае сваіх герояў на зломе, на крутых паваротах, часам на мяжы жыцця і смерці, ставіць іх перад сітуацыяй выбару, каб глыбей зазірнуць у іхнія душы. У зону свайго мастацкага даследавання ён прыцягвае факт паталагічнай варожасці сярод блізкіх і крэўных людзей, што ўзмацняе пачуццё адчужанасці і ніколькі не спрыяе знаходжанню паразумення і згоды паміж людзьмі. Адмаўляючы згубны сіндром раз'яднанасці, ён адначасова сцвярджаў ідэю нацыянальнай кансалідацыі, братэрства, яднання, што мела б вынікам умацаванне нацыянальных каранёў.

Яшчэ раз падкрэслім думку: мастак слова няспынна звяртаўся да анталагічных праблем быцця, імкнуўся паглыбіцца ў быццёва-касмаганічную сутнасць з'яў і рэчаў. Анталагічны маштаб мастацкага мыслення Купалы заканамерна павінен быў прывесці да нараджэння эпічных форм, у якіх знайшлі месца драматычныя і трагічныя старонкі беларускай гісторыі. Гаворка ў першую чаргу ідзе пра яго паэмы «Сон на кургане», «Курган» і «Магіла льва». Невыпадкова, што цэнтральная ідэя, якая аб'ядноўвае іх, звязана з ідэяй свабоды, свабоднага волевыяўлення, прызнанне чалавека найвышэйшай каштоўнасцю жыцця. Менавіта ў гэтых паэмах Я. Купала выявіў сябе як мастак вялікага эпічнага таленту, здольнага дайсці да маштабных мастацка-эстэтычных абагульненняў, раскрыць сутнасную, субстанцыянальную і экзістэнцыяльна-анталагічную прыроду чалавечага духу, асэнсаваць гісторыка-культурныя складнікі нацыянальнага светабыцця.

Раз'яднанасць, якая ідзе поруч з падазронасцю, фатальнай абыякавасцю да лёсу іншага чалавека, паводле мастацкай канцэпцыяй Купалы, непазбежна вядзе да згубных вынікаў, чалавечай трагедыі. Прыгадаем вобраз Сама з паэмы «Сон на кургане». Ягоная трагедыя — ва ўсведамленні сваёй абранасці, вышэйшасці і немагчымасці рэалізаваць сябе, данесці праўду да народа. Чалавек, які жадаў справядлівасці, стаў ахвярай абставін і ўмоў, што аказаліся мацнейшыя за яго. Асабліва красамоўным у творы падаецца сцэна суда. «Суд» над Самам проста бянтэжыць найперш тымі безапеляцыйнымі сцвярджэннямі і патрабаваннямі аднавяскоўцаў Сама, якія ў адзін голас прызналі яго віноўцам падпалу: «*Падпаліў во гэты злодзей», «Няхай добра суд накажа!»* Прадстаўнікам афіцыйнай улады (сцэна рэалістычная) — прыставу і соцкаму — яны выказваюць нават сваю шчырую падзяку за прызнанне за Самам віны, на развітанне жадаюць шчаслівай дарогі: «*Дзякуй, барынька, вам шчыра», «І вам, барынька, шчасліва!»* Ніхто з прысутных не ўсумніўся ў правамернасці дзеянняў «суда», не выказаў сваёй нязгоды з незаконным абвінавачваннем Сама. Наадварот, народ, а не «суд» прадвызначыў лёс героя, абвінаваціўшы яго беспадстаўна і незаконна ў нібыта здзейсненым злачынстве — падпале вёскі. Больш за тое, усім чужая, страшная сама думка аб магчымасці змен. У гэтым бачыцца галоўная трагедыя людзей, аглушаных горам і праклёнамі, узаемнай адчужанасцю, недаверам.

У адносінах Сама і аднавяскоўцаў адсутнічае тое, што б звязвала іх ці хоць бы давала нейкую надзею на паразуменне. Словы не дзейнічаюць, ды і як ім дзейнічаць, калі гэтыя словы — як сведчанне адлучанасці ад жыцця, інертнасці, апатычнасці, ленасці душы. Душа людская звыклася з хаосам, непераборлівасцю, бязмэтавасцю. Ёй чужы ўсялякі пробліск святла — святла ўнутры сябе і святла прыроднага, дзённага. Вось чаму так палохае, страшыць і адурманьвае іх пажар. І не таму, што ён знішчае матэрыяльны дабрабыт, але і таму — і гэта больш істотна, — што агонь успрымаецца як агідны, страшны, непажаданы прадвеснік, «месія» ўнутранага прасвятлення. Народ — як той «вялікі інквізітар», які са сваіх жа рук прымае свой уласны хлеб. І пошукі скарбу — гэта і ёсць адна з магчымых умоў неабходнага паразумення, згоды, аднадушнасці. Пад найменнем скарбу хаваецца душа ці, па меншай меры, штосьці са сферы ідэальнага, духоўнага. У Сама душа тая, што пачынае ўжо абуджацца да жыцця, пачынае адчуваць самую сябе. Саму

ўжо адкрылася тое, што для іншых — пусты гук, нішто, пустата. Але гэта — толькі прыкмета, знак сапраўднага прасвятлення, прадбачання будучага, якое толькі на стадыі станаўлення, хаатычнага браджэння, складвання. І ўсе гэтыя вычварнасці, прывіды, метамарфозы — сведчанне гэтай стадыяльнай абуджанасці, якая праходзіць балюча, хваравіта, часам невыносна.

Як сведчыць паэма Купалы, няма паразумення і разумення ў стасунках паміж людзьмі. Насцярожвае і тое, што людзі паводзяць сябе, гавораць, дзейнічаюць як аднадумцы, згаварыўшыся загадзя. Такое адчуванне, што ўсімі імі кіруе адзін нябачны, тайны закон, пэўная ўстаноўка. Ніхто з іх не маўчыць, не задумваецца, не імкнецца штосьці зразумець, усвядоміць, а суздром падаўлены нейкай непатрэбнай мітуснёй, заклапочанасцю неістотным, што нагадвае сапраўдны балаган. Складваецца ўяўленне, што кожны з пагарэльцаў баіцца ці імкнецца адцягнуць штосьці больш важнае, істотнае, але ў той жа час і вельмі непажаданае, непрыемнае для кожнага. Нібы нейкая раз'ядноўваючая істота залягла паміж іх духам і імі самімі, паміж жыццём, што закранае ўсё існуючае, і жыццём, якое падаўлена горам, пакутай, безвыходнасцю. Як у Сама сонныя прывіды — сведчанне чаканага прасвятлення, так стан яго аднавяскоўцаў на пажарышчы — сведчанне іх спячай, змарнелай, неабуджанай душы. І любое ўмяшанне ў іх размераны лад жыцця, які пахіснуўся ўжо, у дадзены момант непажаданае, таму што гэта будзе ўспрымацца і адчувацца ці як агонія, ці як наступленне чагосьці новага, нязведанага, яшчэ больш страшнага. У абодвух выпадках гэта ўскладніла б і без таго вартае жалю існаванне пакрыўджаных лёсам людзей, якія жывуць у вечным забыцці сваіх правоў.

Можна небеспадстаўна дапусціць, што людзі, як, зрэшты, і Сам, знаходзяцца ў стане летаргічнага сну. «Душа» Сама высветліла сутонне душ людскіх, ахутаных покрывам дурману, блюзнерства, прыняўшы выгляд снабачання. Становішча Сама — адзінокага, нікім не зразумелага — блізка нагадвае соннае або пасмяротнае існаванне душы, змясціўшай у сабе ўвесь свет і замкнутай на самой сабе. Адсюль стан і пачуццё адзінокасці набываюць універсальныя прыкметы; межы паміж светам жывых і светам мёртвых сціраюцца адзінотай — і вёска, і пушча ў такім разе паўстаюць у іпастасі нейкага своеасаблівага некраполіса духаў.

Міф аб самасці, адзінокасці, асобнасці, які ўвасобіўся рэальна, «плоцева» ў абліччы Сама, набыў у паэме сваё лагічнае завяршэнне. Сведчанне таму — лёс героя, калі пасля смерці жонкі ён застаўся сам-насам, адзін, не прызнаны не толькі аднавяскоўцамі, але і ўласным сынам, які яго, па сутнасці, адцураўся. Паэма абрываецца на самым трагічным моманце ў жыцці героя. І гэта невыпадкова. У фінале твора бачыцца не толькі безвыходная замкнутасць героя на самім сабе, але і жорсткая асуджанасць грамадскага ладу жыцця, адкрытае папярэджанне-прадбачанне таго, да чаго можа прывесці свядомае ці неўсвядомленае ігнараванне законаў прыроды, духоўна-крэўная карозія. У адным канцэптуальным ключы з вышэй адзначанымі момантамі можа ўспрымацца і сцэна перарванага, няспраўджанага вяселля на пажарышчы — як спроба абнаўлення, амаладжэння крыві роду, вяртання яму генетычнай, жыццёвай моцы, а ў больш шырокім, сімвалічным сэнсе — далучанасці да агульналюдской скарбніцы, векавечных здабыткаў культуры і цывілізацыі. Вось чаму сітуацыя адзіноты, адчужанасці набывае ўніверсальнасць гучання. Яна ж прымушае падспудна засяроджвацца ў сабе, успрымаць свой унутраны свет як адзіную рэальнасць.

Сімптаматычна, што ў завяршальнай сцэне «У шынкоўні» пастаяльцы-наведвальнікі (у большасці люмпенізаваны працоўны люд) гавораць відавочна парадаксальныя тосты, накшталт: «*За згубу лепшай, светлай долі*; *«За працвітанне чорных хвіляў»*; *«За тых усіх, што хлеб мой елі»*; «*За тыя дзікія напасці»*; *«За нашу брацкую нязгоду»*. Парадаксальнасць сітуацыі і лагічных канструкцый

падкрэслівае алагічнасць свету, прыгнечанасць чалавека невядомымі сіламі, якія ўладараць над яго лёсам і жыццём. У паэме даволі паслядоўна праводзіцца думка аб згубнасці для саміх людзей адстойвання сваіх інтарэсаў эгаістычнымі, часам здрадніцкімі метадамі, што параджае атмасферу падазронасці, недаверу, варожай непрыязнасці. Паводле канфармісцкай псіхалогіі гэтых людзей, дабрабыту, шчасця, жыццёвай уладкаванасці можна дасягнуць не іначай, як за кошт іншых, не ахвяруючы пры гэтым ні адным са сваіх перакананняў.

Адмаўляючы згубны сіндром раз'яднанасці, Купала адначасова сцвярджаў ідэю нацыянальнай кансалідацыі, братэрства, згоды, што мела б вынікам умацаванне нацыянальных каранёў. Усім гучаннем сваёй паэмы паэт нібы сцвярджаў, што свет, які страціў магчымасць цвяроза думаць і разважаць, сапраўды можа толькі паспадзявацца на ірацыяналізм, толькі высілкі духу могуць вывесці яго з апатычнага стану сну і непрытомнасці. Галоўнае, да чаго сягала купалаўская думка, — праблема нацыянальнай непрыкаянасці народа і чалавека на забытых скрыжалях гісторыі. Трагічныя выдаткі жыццёвай недарэчнасці, выяўленай у паэме, так востра Купала адчуў упершыню. Паэт раскрыў усе магчымыя праявы і наступствы з'явы адзіноцтва ў розных яе іпастасях: і як адзіноцтва асобы ўнутры роду, і як адзіноцтва роду ўнутры нацыі, і як адзіноцтва нацыі на зямлі і ў сусвеце.

Героіка-рамантычная паэма «Курган» пабудавана па тыпова рамантычнай (антынамічны), героіка-дыдактычнай схеме. Галоўная праблема ў ёй звязана з адлюстраваннем невырашальнай дыхатаміі: мастак і «ўладары свету», мастак і тыран. Галоўны герой паэмы — Гусляр — з'яўляецца ўвасабленнем непахіснасці духу, непадкупнасці мастацтва, вернасці ідэалу свабоды, высокай праўды жыцця. Ён не можа здрадзіць свайму пакліканню быць народным спеваком (песняром), не можа змірыцца перад жорсткасцю, гвалтам, прымусам уладалюбнага тырана-князя, прызнаць сілу золата і багацця. Наадварот, Гусляр гатовы на самаахвяраванне ў імя сцвярджэння уласных перакананняў. Ідэя твора — у бессмяротнасці праўдзівага мастацтва, што вызначае ідэалы справядлівасці і дабра, чалавечнасці і гармоніі. У шырокім кантэксце сэнсавых канатацый заўважаецца наказ паэта прытрымлівацца героікі мінулага, мацаваць дух барацьбы і самаахвярнасці, гераічныя асновы нацыянальнага характару, адстойваць рашучасць і гатоўнасць супрацьстаяць любому гвалту, тыраніі і дыктату.

Паэма «Магіла льва» служыць узорам мастацкай актуалізацыі «гістарычнага», фальклорнага прататыпа: у ім творча пераасэнсавана легенда пра ўзнікненне Магілёва, канва народнага падання і народныя ўяўленні аб Машэку як пра асілка, што валодае аграмаднай волатавай сілай. Паводле падання, ён быў пахаваны на гары з назваю Магіла льва або Машэкавай гары. Народная легенда стала толькі адпраўным пунктам для Купалавай фантазіі, якая спрычынілася да разгадкі скрытых механізмаў і сімвалаў нацыянальнага быцця. У творы арганічна перапляліся самыя разнастайныя элементы — фальклорныя і літаратурныя, якія адкрываюць магчымасць для размовы пра рамантычны, рэалістычны і сімвалічны сімбіёз, пра шматварыянтнасць, паліфанізм сэнсаў і значэнняў.

Змест твора з'яўляецца прыкладам пазітыўнай актуалізацыі жыццёвага матэрыялу, адыгрывае прагнастычную функцыю ў адносінах не толькі да тагачаснай, але і сучаснай нацыянальнай рэальнасці. Ідэя сацыяльнага пратэсту, помсты, якая ляжыць на паверхні паэмы, узмоцнена філасофска-псіхалагічным кантэнтам. Асноўны пафас скіраваны ў рэчышча «разгадкі нашых крыўд і бед» — глыбінных, анталагічных асноў быцця нацыі. Праз умоўна-сімвалічную вобразнасць раскрываюцца стасункі асобы і грамады, адзінкі і масы, паказваецца трагедыя чалавечага духу, што не можа выбіцца з цянётаў адвечнай непрагляднасці, гібення, апатычнасці, — духу, скаванага шэрай і аднастайнай будзённасцю. Як і ў іншых сваіх творах, Купала выступае тут супраць патрыярхальна-кансерватыўнай

маралі, якая трымаецца на непрацiўленні прымусу, пасіўнасці, прышчэпленых значнай частцы сялянства вякамі насілля і занядбання сваіх правоў.

Паэма Купалы істотна адступае ад рамантычнага канона, і перш за ўсё тым, што яна пазбаўлена станоўчага рамантычнага героя. У ёй адсутнічае ўказанне на ідэал наогул, сюжэтная калізія не разгортваецца па тыпова рамантычнай (антынамічнай) схеме, якая ўключае наступныя моманты: наяўнасць «класава-палярных страсцей» (А. Лойка), героя-антыподаў як выразнікаў непрымірымых антаганістычных супярэчнасцей, барацьбу перадавога і кансерватыўнага, высакароднага і бесчалавечнага, што, урэшце, становіцца ўвасабленнем адвечнага антаганізму дабра і зла. «Антаганізм» паэмы іншага роду. У «Магіле льва» паэт не звяртаецца да адкрытага рамантычнага канфлікту, які мысліцца як канфлікт паміж народам і прыгнятальнікамі, паміж тыраніяй і свабодай (разнавіднасць апошняга назіраем у «Бандароўне»). «Антаганізм» паэмы — абсалютна іншага кшталту. Гэта антаганізм не сацыяльна, а *псіхалагічна* матываваны. Ён натуральна вынікае з унутранага ўлоння паэмнага дыскурсу «Гусляра» і «Бандароўны» і накіраваны ў рэчышча спасціжэння ўласна нацыянальна-эзатэрычных філасафем народнага жыцця. Фігуральна кажучы, Купала адмыслова трансфармаваў знешнюю антаганістычную апазіцыю Бандароўна — Патоцкі, Гусляр — Князь у своеасаблівы псіхалагічны комплекс, «прывіўшы» яго Машэку. Канфлікт набывае не адзнаку барацьбы, змагання ў імя высокіх ідэалаў, а характар помсты, адплаты, якія прадыктаваныя ўнутраным імператывам — знявагай гонару і годнасці героя, якому здрадзіў свет. Ніхто іншы як сам народ сваім здрадніцкім маўчаннем, знаходзячыся ў палоне адвечнай глухаты-«крыўды», справакаваў стыхійны пратэст героя. Першапачаткова аб’ектыўна набыўшы ўсе прыкметы бунтарства, але не падмацаванага неабходным рэестрам стрымліваючых унутраных (маральных) рэгулятараў, гэты пратэст-помста ператварыўся ў сваё адмаўленне. Кіруючыся агульначалавечымі гуманістычнымі ўніверсаліямі, апантаныя дзеянні наваяўленага самазванца-сатрапа, функцыі якога міжволі бярэ на сябе Машэка, ніяк не выпадае кваліфікаваць як прававыя (легітымныя), справядлівыя. Першапачатковае жаданне адстаяць права на каханне, свабоду і волю паступова абярнулася маніякальнай прагай крыві і ўпэўненасцю ў беспакаранасці, што дарэшты асляпіла Машэку, зрабіла з яго крывавага забойцу, мізантропа, монстра. У творы можна заўважыць адмыслова прэпарыраваны ніцшэанскі матыў бунту супраць маралі, што прыводзіць у выніку да татальнай усёдазволенасці. Акрамя таго, прасочваецца механізм ператварэння богападабенства ў багароўнасць з наступным этапам суперніцтва з Богам, што прыводзіць урэшце да адмаўлення маральнага імператыву ўвогуле.

У «канфлікце» Машэкі з народам яскрава выявіла сябе купалаўская эгацэнтрысцкая манера вырашэння праблемы паэтычнага адраса, якая цесна спалучана з трагічным гуманізмам паэта. Глыбокі знаўца народнай душы, Купала паказаў сябе ў гэтым творы з абсалютна нечаканага боку, з усёй перакананасцю прадэманстраваў уменне балансаваць на мяжы цяжка спасцігальнага, узаемаабарачальнага, парадаксальнага. Глыбінны падтэкст паэмы сведчыць за тое, што Машэку штурхае на лютае забойства, як гэта ні дзіўна гучыць, прага праўдашукальніцтва, дакладней, немагчымасць разабрацца ў сваім становішчы і знайсці першапрычыну зла. Герой прагнуў ісціны любой цаной, а яна падманвала яго, здраджвала яму, пакуль, нарэшце, не ператварылася ў сваю супрацьлегласць. Менавіта бескампрамісная адданасць ідэалам дабра, ісціны і справядлівасці прыводзіць героя да немінучага краху.

Як сцвярджае Ала Петрусевіч, «праз драму Машэкі падаецца трагедыя беларускай нацыі. Яна ў тым, што здольныя нарадзіць, узгадаваць у сваім асяроддзі сапраўдных асілкаў, волатаў незвычайнай сілы, дабрыні, беларусы не ўмеюць выкарыстаць гэтыя найлепшыя чалавечыя якасці на сваю карысць. Больш таго,

свядома ці часцей несвядома скіроўваюць іх супраць сябе. Машэка і сапраўды валодаў усім, што магло зрабіць яго героем, заступнікам, абаронцам людства ад бедаў і нягодаў, ад шматлікіх ворагаў, якіх у нашага народа ніколі не бракавала. Сам жа стаўся гэткай бядой, гэткім ворагам». Маючы вялікія патэнцыйныя задаткі, Машэка пры шчаслівым збегу абставін мог бы стаць тым, хто нясе людзям новую праўду, новыя ідэалы, новы маральны кодэкс светабыцця. Але насамрэч стаў віноўцам непапраўнай бяды, жорсткім, не ведаючым жалю і шкадавання разбойнікам, сапраўдным нелюдзем, страціўшым чалавечае аблічча.

Цэнтральная гераіня твора, Наталька, як і Машэка, таксама процістаўляе сябе грамадзе. Менавіта яна паклала пачатак неапраўданым забойствам, стала першапрычынай гібелі Машэкі. У творы звяртаецца ўвага на рэдкую, ні з чым не параўнаную прыгажосць гераіні: «Наталька ў вёсцы між сваімі / Найпрыгажэйшаю была, // Грудзямі, шчочкамі, вачыма // Як мак, між макамі цвіла». Але гэтая прыродная знешняя прыгажосць не перашкодзіла ёй здейсніць найстрашэннае злачынства — забіць калісьці каханага ёй чалавека. Наталькай валодае хутчэй інстынкт захавання, а не ўсвядомленае пачуццё еднасці з народам. Бо яна свядома «пад чарам варагавай казкі // Зраклася мілага свайго, // Не прачувала горкай долі, // Якую лёс людзям пашле», г. зн. стане галоўнай віноўніцай людскіх трагедый. Па сутнасці, для яе не існавала ніякіх унутраных ці боскіх забарон, устанаўленняў, перашкод, таго маральна-этычнага імператыву, якім спрадвеку кіраваліся людзі ў міжасобасных стасунках. Таму і дастаткова матываваным і апраўданым стала яе ўласнае жаданне пайсці «пуцінамі крывымі», аддаць сябе ва ўладу пошасці і блуду, «звязаўшы дружбай сябе з ямай». Як сведчыць Ала Петрусевіч, «Купала спачувальна адносіцца ў гэтым выпадку да гераіні. Няма тут папрокаў з боку аўтара, бо, на жаль, тыя, хто мог бы дапамагчы дзяўчыне абысці гэтую глыбокую яму, падтрымаць, адвесці бяду, толькі штурхалі яе ў тую пастку, што была расстаўлена маладым баярынам. Толькі касыя погляды, толькі папрокі («... пачала ўся вёска тыкаць // На дзеўку пальцамі штодзень») з боку тых, хто — ці сам бязгрэшны. Гэтае каменне, кінутае ў Натальку, падштурхоўвае яе насустрач бядзе».

Дзякуючы новай сустрэчы з Наталькай у зняверанай, ачарсцвелай душы Машэкі пачаліся змены, здольныя былі б прывесці героя да магчымага выратавання, вяртання да ранейшага. Ды Наталька не магла «ўжо так, як некалі, любіць» Машэку. «Спазнаўшы панскія раскошы, // Дзіцё сяла і грамады, // Не мела сіл змагчы ў пустошы // І адзіноцтва і жуды». Учыненае злачынства Натальκі — не помста за народ, а сведчанне легкадумасці, эгаізму, чэрствасці, жорсткасці. У гэтай сувязі З. Санюк заўважае, што «Наталька ў сілах была вярнуць Машэку да нармальнага жыцця, але замест таго яна крывважэрна і жорстка забівае яго «нажом агромным», ударыўшы тры разы. Справа тут, канешне, не ў тым, што яна вымушана знішчыць крывавага бандыта. Само апісанне забойства Машэкі Наталькай, якая з такім азвярэннем робіць усё гэта, характарызуе яе як пачварную істоту». Наталька пазбавіла жыцця Машэку ў той момант, калі яго зболеная душа паімкнулася пазбавіцца ад забойчага здранцвення, знямогласці, шукала той выратавальны эліксір, які б змог вярнуць яго да жыцця. Нечакана наноў успыхнуўшае каханне і стала тым дзейсным штуршком, што даў надзею на выратаванне, шанец зноў вярнуць страчанае. Наталька не дазволіла спраўдзіцца гэтым марам Машэкі. Яе бесчалавечны ўчынак нельга трактаваць як сведчанне таго, што яна свядома помсціць за народнае гора, за ўчыненыя забойствы. Бо, «завабленая панскімі заляцаннямі, аслепленая панскімі харомамі» (А. Лойка), не маючы кроўнага радства з народам, дaастатку страціла чалавечую і жаночую годнасць. Купалагуманіст асуджае духоўную слепату, духоўнае рабства ва ўсіх яго праявах як бесчалавечнае і антыгуманнае, а таксама ўмовы, якія іх спарадзілі.

Разбойніку Машэку народ насыпае курган, што вельмі сімвалічна. Тым самым робіцца свядомая спроба ўшанаваць яго памяць, здзейсніўшы пэўны сакральны рытуал. Мала сказаць, што народ не трымае на яго зла, умее забываць пра крыўды. На першы погляд, даволі нечаканы, нематываваны цягам развіцця дзеяння ў паэме «ўсенародны» ўчынак ушанавання разбойніка, забойцы дае падставу меркаваць, што герой застаўся вялікім і ў сваім дабры, і ў сваім зле. Сімвал насыпанага кургана можна трактаваць як сведчанне ўсвядомленай віны перад Машэкам, як адзнаку паступовага прасвятлення, празарэння народнай душы.

Усім сваім ідэйным гучаннем паэма адмаўляе гвалтоўны шлях дасягнення праўды і справядлівасці, вучыць разумна стрымліваць свой унутраны парыў, не кіравацца ў жыцці сляпым запалам і гіпертрафіраваным эгаізмам, а шукаць шлях дасягнення кампрамісу, згоды і ўнутранага прымірэння.

Адмаўляючы згубны сіндром раз’яднанасці, Купала адначасова сцвярджаў ідэю нацыянальнай кансалідацыі, братэрства, згоды, што мела б вынікам умацаванне духоўных каранёў. Паэт актыўна садзейнічаў фарміраванню нацыянальнай свядомасці, самой ідэі нацыі як стваральнай сілы, разумеючы, што без гэтага немагчыма духоўная інтэграцыя беларусаў. Купала як прарок нацыі добра ўсведамляў, што літаратура павінна служыць духоўнаму абуджэнню і нацыянальнай кансалідацыі, і таму ўсе свае намаганні прыкладаў дзеля канцэптуальнага асэнсавання нацыянальна-адраджэнскай ідэі. Разам з тым, ён быў глыбока перакананы, што менавіта асоба чалавека выступае той дзейснай сілай, якая прывядзе да абнаўлення жыцця, да ўсталявання здаровага маральнага клімату, духоўнага пачатку ў грамадстве. Нацыянальнае адраджэнне і звязвалася ім перадусім з узвелічэннем чалавека як асобы, з увагай да яго, з далучэннем яго да агульначалавечых гуманістычных і эстэтычных традыцый, да агульначалавечых духоўных каштоўнасцей.



**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

# ПАЛЕССЕ — ЛЮБОЎ І БОЛЬ

Самабытным, цалкам асобным кутком Беларусі з'яўляецца Палессе са сваёй заўсёднай любоўю Прыпяццю і такім яго куточкам, як Жыткаўшчына. Тамашняя зямля дала нямала талентаў. Сярод іх празаік і публіцыст Уладзімір Гаўрыловіч, які з радасцю ўспрымае сябе «вясковым пісьменнікам».

Нарадзіўся ён 30 жніўня 1967 года на Жыткаўшчыне, у вёсцы Вятчын, якая «схавалася за легендарным Князь-Возерам, ахутаная балотамі і змешанымі лясамі, багатымі на ягады і грыбы». Яго маці Яўгенія Буякевіч працавала паляводам, потым на ферме. Бацька Мікалай Васільевіч у мясцовым лясніцтве. Валодзя быў меншым у сям'і пасля старэйшага на адзінаццаць гадоў брата Мікалая і адпаведна на дзевяць і шэсць сясцёр Ніны і Наталлі. Вялікі ўплыў на выхаванне хлопчыка, фарміраванне яго інтарэсу да ўласных каранёў і гісторыі краіны, народных традыцый і характараў пакінулі бацькі маці: мудрыя і гаспадарлівыя бабуля Ганна і Ігнат Буякевічы. Якраз на жыццёвы вопыт апошняга, асабістыя перыпетыі яго лёсу, скрушныя ўспаміны пра раскулачванне гаспадароў-хутаранцаў у 30-я гады мінулага стагоддзя і абапіраецца ўнук-пісьменнік у рамане «Забранае шчасце». Другі яго дзед Васіль Гаўрыловіч, як пазней устанавіў пісьменнік пасля доўгіх пошукаў, загінуў маладым пры абароне вёскі Добрая 30 жніўня 1942 года. Яго прозвішча значыцца на мемарыяльнай пліце, устаноўленай у вёсцы Бахмутава Ржэўскага раёна Калінінскай вобласці (Расія) у памяць больш як сямі тысяч загінулых воінаў.

Скончыўшы Вятчынскую СШ, У. Гаўрыловіч паступіў на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага. Займаўся таксама на аддзяленні журналістыкі факультэта грамадскіх прафесій, удзельнічаў у самадзейным тэатры «Жывое слова». Пасля трэцяга курса вярнуўся на радзіму. Вучыўся завочна і выкладаў беларускую мову і літаратуру ў роднай школе. Два гады служыў у арміі. Пазней быў прызначаны дырэктарам Бялёўскай СШ, кароткі час працаваў намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 2 у Жыткавічах. З 1997 г. узначальваў калектыў жыткавіцкай раённай газеты «Новае Палессе», потым абласных «Гомельскіх ведамасцей».

Цяпер — уласны карэспандэнт штотыднёвіка Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі «Беларускі час» па Гомельскай вобласці. У снежні 2005 г. выбраны старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ініцыятар правядзення ў Гомелі і вобласці міжнародных свят «Славянскія літаратурныя дажынкі», шырокафарматнага фэсту «Гомельская літаратурная восень».

Лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1998), літаратурнага конкурсу Саюза пісьменнікаў Беларусі і газеты «Звязда» (2000), абласных літаратурных конкурсаў імя Кірылы Тураўскага (2007, 2013) і Івана Шамякіна (2016). За кнігу прозы «Плата за каханне» адзначаны статуэткай «Залаты купідон» (2008). Лаўрэат расійскай літаратурнай прэміі памяці паэта Мікалая Мельнікава (Масква, 2009).

У сваёй творчасці часта звяртаецца не толькі да праблем сённяшняга жыцця, але і да перажытага народам у папярэднія пераломныя часы. Такі падыход да

першаматэрыялу абумоўлены непахіснасцю наступнага аўтарскага перакanання: «Ведаць гісторыю роднай зямлі — ведаць сябе». Пісьменніка цікавіць даўніна і фальклор, архітэктура і археалогія роднага краю, наогул уся яго матэрыяльная і духоўная культура. Да прыкладу, тураўскія саркафагі і славутыя крыжы, што растуць на мясцовых могілках. Або мясцовае паданне пра ўзнікненне дзіўнага Князь-возера і рыбы-краснапёркі ў ім (раман «Забранае шчасце»). Ці легенда пра паходжанне назвы роднай вёскі Вотчыны-Вятчын (рамантычная аповесць «Анёлак мой, Анёлак…»), якую многа гадоў ахоўвала пабудаваная некалі і спаленая яшчэ да рэвалюцыі драўляная царква. На яе месцы пазней вырасце бяроза, што набудзе ў народзе сакральную місію святога аб’екта: «Вернецца царква — вёска будзе абароненая ад усіх нягод, а не будзе царквы — рана ці позна знікне. Таму людзі на гэтым месцы і моляцца Богу, просяць яго, каб вёска не знікла, каб яе людскі род не перапыніўся».

Матыў вытокаў, непарыўнай повязі сучаснасці з мінулым роднага краю, гістарычнай памяці як умовы захавання яго нацыянальнай непаўторнасці рэалізаваны ў кнізе нарысаў «Жыватворная крыніца Жыткавіцкага краю» (2004). Пра выбітных землякоў Жыткаўшчыны, а сярод іх былыя франтавікі, настаўнікі і хлебаробы, святары, народныя спевакі, майстры і мастакі, скульптары і разьбяры, расказваецца ў творах цыкла «Паяднаныя з зямлёй», што пазней увойдзе ў кнігу публіцыстыкі «Крокі па роднай зямлі» (2005). Трагізмам зместу, вялікай пошукавай працай, прачулым суперажываннем болю і незагойным ранам суразмоўцаў уражвае прысвечаная маладым землякам, ахвярам Афганскай вайны, дакументальная аповесць-плач У. Гаўрыловіча «Памятаць, каб жыць», упершыню надрукаваная ў зборніку «Спорныя яблыкі» (1999).

Дакументальная і мастацкая проза ўвайшла ў шматлікія зборнікі пісьменніка.

Уладзімір Гаурыловіч — аўтар ідэі і тэксту альбома «Тураўская рапсодыя». Змест раманай трылогіі «Палешукі» склалі раман «Забранае шчасце», аднайменная другая частка, што раней не друкавалася, і раман «Тут твае карані», заснаваны на перапрацаванай у 2017 г. аповесці «Глыбокія карані» (1999). Увайшла ў кнігу і новая аповесць «Краіна Валодзькава».

Творы У. Гаўрыловіча вызначаюцца вастрынёй і актуальнасцю сацыяльнай і маральна-этычнай праблематыкі, выверанасцю і займальнасцю сюжэта, дакладнасцю назіранняў і асобных дэталей, арыгінальнасцю стылю, пранікнёным адчуваннем лексікі і сінтаксісу роднай мовы, яе палескага дыялектнага варыянта праз выкарыстанне трапных выказванняў (супыніць душу; у барыню гуляць; кропля да кроплі; трасецца, як дзічка на выгане; на сухі лес, на цёмныя воды; як рак на гарышчы свісне; распрагацца, нібы кабыла з аглобляў і інш.), свежых, «незацёрханых» слоў і іх адметнага вымаўлення (камака, бражнік, мучанкі, баламуць, крапач, узножыцца, ухаджорыцца, зацекацца, нацюкацца, скаліцца, анігаткі, сястро, хумалітарка і інш.).

Ужо ў напісаным у свой час аўтарам-пачаткоўцам нельга было не заўважыць удумлівага ўглядвання ва ўнутраны свет асобы, тонкага адчування чалавечай душы і адпаведнай перадачы самых дробязных зрухаў у ёй, такіх неабходных для ўзнікнення пачуцця суперажывання ў чытача. Бадай, першым пра псіхалагізм У. Гаўрыловіча загаварыў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь У. Саламаха, рыхтуючы да друку кнігу яго ранніх апавяданняў «Спорныя яблыкі». Пісьменнік, для якога «няма шляху чужога» і якога неадступна прыцягваў і працягвае вабіць загадкавы сусвет людской дабрыні, чалавечай філасофіі ўвогуле, быў уражаны «аўтарскім разуменнем чужой душы, розных чужых душ. І — крыўд…» Паводле далейшага назірання даследчыка, «…героі Уладзіміра Гаўрыловіча жывуць і дзейнічаюць у складаных сітуацыях, якія вымагаюць напружанай духоўнай працы. І — дабраты да іншых…» Акрамя таго, дзякуючы таленавіта ўвасобленай у творах надзеі «на дабро сярод людзей» (У. Саламаха), сустрэчнаму руху ў кірунку да сваіх герояў і адзінадушшу з лепшымі з іх аўтару

ўдаецца дасягнуць эфекту непасрэднай прысутнасці ў творах, сумеснага пражывання і асабістага ведання ўдзельнікаў гісторыі ці здарэння, што ў рэшце рэшт не можа не выклікаць пачуцця даверу да пададзенага матэрыялу і стаць яшчэ адным доказам плённага суседства журналісцкага і ўласна літаратурнага досведу ў лёсе мастака.

Думаецца, менавіта па гэтай прычыне лепшыя з апавяданняў У. Гаўрыловіча, а гэта «Агледзіны», «Даўні сон», «Сподні яблыкі», «Карміцель», «На мяжы», «Вяртанне бацькі» і іншыя, не згубіліся сярод багатых наробкаў малой эпічнай формы ў сучаснай літаратуры і працягваюць знаходзіць жывы інтарэс сярод чытачоў. Вострыя сацыяльныя праблемы ў іх, бо «нялёгкае сёння жыццё вясковае», «людзі баяцца боль свой выказаць адкрыта…», ураўнаважваюцца роздумамі пра трывалыя сямейныя каштоўнасці, маральна-этычныя і аксіялагічныя прыярытэты; побытавая дэталізацыя часта выступае пераходнай прыступкай да разваг пра спрадвечнае; прыцягальная вабнасць жыхароў палескага рэгіёна ў іх гарманічным суіснаванні з людзьмі і непрадказальным акаляючым раслінна-водным светам — падставай для выяўлення ў іх спецыфічных рыс нацыянальнага характару і агульначалавечых вартасцей.

Да прыкладу, Вулю з апавядання «Кармілец» (1999) сярод іншых персанажаў вылучаюць назіральнасць, нечаканая для сябе самой смелая крытыка начальства, але найбольш — заўсёдны мацярынскі клопат пра дзяцей, негаспадарлівага мужа, дабрыня ў адносінах да ўсіх. У тым ліку, і да ўедлівага свёкра. Зразумела, што не толькі з-за пенсіі, дзякуючы якой яе сям’я хоць неяк выжывае ў галодныя часы перабудовы, і не толькі з-за магчымых людскіх перасудаў так шчыра аплаквае нявестка старога, памерлага ў час бурлівай паводкі на Прыпяці, калі крыгі адчайна ломяць платы, а вада залівае хаты, не мінаючы і той, дзе толькі што памёр чалавек. Заварожваюць эпічным спакоем, разуменнем і прыняццем своеасаблівай велічы смерці наступныя радкі апавядання: «А там, на дзвюх лавах, выпрастаны на ўвесь рост, ужо не ведаючы ніякай бяды, прыбраны як на вялікае свята, ляжаў былы партызан і партыец, васьмідзесяцітрохгадовы дзед Андронік. У хаце ён быў адзін і, здавалася, дзівіўся са сваёй адзіноты, хоць калі б быў жывы, зразумеў бы — ох як не ў пару, калі ў людзей такі клопат, выбраўся ў такую дарогу». Роспачнае галашэнне нявесткі на могілках каля дамавіны Андроніка — і даніна народнай традыцыі развітання з тым, хто адпраўляецца ў вечны вырай, і жывы боль за блізкага ёй чалавека (на думку іншых, чужога), бацькі мужа і дзядулі сваіх дзяцей, і магчымасць узгадаць, колькі нябожчык «добрых спраў за сваё жыццё каму нарабіў».

Просіць у Госпада для сябе смерці, а для сына Сцяпана, які застаўся на Поўначы пасля службы і забыўся пра маці, даравання (і каб «каб корань яго не зводзіўся на зямлі» мудрая і цярплівая Ганна Парэйка («На мяжы», 2003). Яна не сумняваецца, што толькі Усявышні «ведае, калі забраць» чалавека, і ўсё ж спадзяецца, што за чаканне і пакуты ёй будзе дадзена адпушчэнне і адкрыецца час хуткага адыходу «адсюль». Прадчуваючы блізкую прысутнасць ужо вызначанай небам свежаўзаранай мяжы, на якой жанчына хутка памрэ «…у адзіноце і спакоі» і якую не зможа зрушыць нават чаканая дзесяцігоддзямі і нарэшце атрыманая тэлеграма пра заўтрашні прыезд сына з сям’ёй, Ганна з уласцівай ёй гаспадарлівасцю даводзіць да ладу ўсе зямныя справы. Старая старанна дакопвае бульбу, цярэбіць буракі, просіць добразычлівага суседа Івана засеяць на зіму жыта. Вольцы, яго жонцы, Ганна гэтак жа няспешна дае падрабязныя распараджэнні на выпадак сваёй смерці: і чым дамавіну-дамоўку абабіць, і ў што апрануць, і дзе грошы і гарэлку на памінкі ўзяць, і на якім месцы пахаваць. Такое стаўленне да смерці, годная сустрэча з ёй адпаведна са шматвяковымі абрадамі і звычаямі з’яўляюцца цалкам натуральнымі для ментальнасці беларусаў.

Свае стасункі з жыццём-смерцю ў Сцёпчыка з апавядання «Вяртанне бацькі» (2004). Яго жонка Поля і маленькі сыночак Васілёк, які васьмігадовым утапіўся ў

Прыпяці, ляжаць на могілках у зоне, «дзе галасы людскія пачуеш толькі на Радаўніцу…» Сам стары пад неадступным настойваннем спешчанай дачкі вымушаны прадаць пабудаваны пасля перасялення катэдж і пераехаць да яе жыць. Але адразу ж пасля забраных грошай (нават пенсію прыбралі!) ён становіцца тут непатрэбным. Як толькі гаспадары сыходзілі па сваіх справах, кватэру закрывалі на ключ, а бацьку адпраўлялі на вуліцу да іх прыходу: «…нібы і не чалавек у даччыной сям'і, а быдла нейкае…» Калі людзі сталі адкрыта асуджаць Ірыну, зяць пабіў старога.

Не мог былы вязень канцлагера, старшыня калгаса, герой-працаўнік цярпець такія здзекі, не захацеў больш жыць, ды толькі здзейсніць задуманае не ўдалося. У час лячэння ў бальніцы стары канчаткова вырашае вярнуцца ў радыяцыйную зону, да родных магіл, каб там завяршыць свой жыццёвы шлях. Тым больш, што «клапатлівая» дачка ўжо выбіла для бацькі пакой у інтэрнаце для ветэранаў вайны. Толькі лёс распараджаецца інакш. Па дарозе да засыпанай зямлёй роднай вёскі Сцёпчыку пашчасціць сустрэць па-сапраўднаму клапатлівых і з маладосці закаханых адзін у аднаго маладых людзей. Зведаўшы напоўніцу сіроцтва, яны не толькі змаглі адагрэць, шчыра суцешыць пакрыўджанага старога, але і ўбачыць у ім чулага бацьку і дзядулю для сваіх дзяцей.

Яшчэ больш магчымасцей для паспяховага ўвасаблення вострапраблемных і шырокіх па ахопе жыццёвага матэрыялу творчых задум, плённай рэалізацыі разнастайных прыёмаў псіхалагізму, прынцыпаў падзейна-кампазіцыйнай арганізацыі тэкстаў і моўнага майстэрства адкрыла для У. Гаўрыловіча буйная эпічная форма. З другога боку, падкрэсленая арыентацыя пісьменніка-сучасніка на традыцыі класічнага нацыянальнага рамана, як і дэталёвае веданне мастацкіх ттвораў, валоданне прафесійнымі навыкамі іх літаратуразнаўчага аналізу, заўжды хавае ў сабе небяспеку ў нечым паўтарыцца, тэматычна ці стылёва супасці з папярэднікамі, так або інакш выклікаць алюзіі з іх вобразным светам і выяўленчымі сродкамі, спосабамі сюжэтабудовы і характарастварэння (скажам, з тымі ж Іванам Мележам, Якубам Коласам, Кузьмой Чорным і іншымі). Іншы раз узнікае ўражанне, што аўтар свядома кідае выклік пагрозе ўзнікнення магчымых паразоваў, цалкам упэўнены ў тым, што ў любым выпадку зможа застацца арыгінальным. Але дзеля аб'ектыўнасці адзначым, што не заўжды такі эфект непаўторнасці бездакорна дасягаецца і вытрымліваецца.

Больш дэталёва спынімся на адным з лепшых раманаў У. Гаўрыловіча «Забранае шчасце» (2000—2005). У яго ўвайшлі напісаныя ў розны час аповесці «Хмары над хатамі» (1999—2000), «Дзе ты, доля?» (2001), «Дзікая завея» (2001) і «Плата за каханне» (2003—2005). Падзеі адбываюцца на жыткавіцкім Палессі, каля балотнага Князь-возера, у час карэнных грамадскіх перамен, звязаных з калектывізацыяй. У пасляслоўі да рамана празаік лічыць патрэбным яшчэ раз падкрэсліць думку пра тое, што ў гэтага часу была свая неаспрэчная праўда, «якая вяла да трагічнай, непазбежнай гібелі адных, не згодных з сістэмай ці не паспеўшых да яе прыстасавацца, і маральнай — немінучай, не менш страшнай, ракавой, якая паклала адзнаку на дзясяткі гадоў наперад, пагібелі другіх, хто выбару інакшага, як падначаліцца, не бачыў». У працэсе несупыннага дзеяння гэтага механічнага, бяздумна запушчанага і безаглядна жорсткага ў адносінах да сваіх ахвяр сацыяльнага калаўрота-сістэмы паступова змешваліся і змяняліся прынцыпы, ідэалы, мэты, сама чалавечая сутнасць. І ў выніку адбылося самае страшнае: «Ашалелая, безразважная лютасць усё больш захоплівала, змярцвяла душы людскія».

Няма падстаў сумнявацца ў слушнасці высноў пісьменніка. Сапраўды, кожную эпоху ці яе асобны перыяд характарызуюць свае праўда і крыўда, віна і пакаранне (шырэй: вінаватыя і пакараныя), свае законы і беззаконне, свая плата за вернасць і здраду, ацалелае жыццё і ўкрадзеную долю, радасці і гора. І тое,

наколькі гэтага гора можа быць многа, якім пякучым і невыносным яно бывае, добра адчулі на сабе, лёсах сваіх родных палешукі — героі «Забранага шчасця».

Ведае і любіць працу («От жа, чалавек. Жылы рве, перасільваецца, а ўсё мало»), па-свойму дбае пра дабрабыт і заўтрашнюю забяспечанасць блізкіх, жыве спадзяваннямі на тое, што і яго дзеці, асабліва адзіны сын, нешта дададуць да нажытага, гаспадарлівы хутаранін Расевіч. Бо не толькі ён сам, усе ў сям'і выжыльваліся, бы тыя валы. «Працавалі як заведзеныя. Не хапала дня — абкрадалі ноч». Яго, дзікаватага і недаверлівага па натуры, не вабіць калектыўная гаспадарка, куды трэба аддаць усё потам прыдбанае, гэтаксама як і навязаны звыш абавязак плаціць вялікія падаткі за самім жа заробленае. «Накруцілі, навярцелі нечага на сваіх сходках-арцелях, самі не разбяруцца, чаго, адзін аднаго гатовы, бы ваўкі, з'есці…», — у лютым гневе крычыць стары.

Жадаючы не толькі захаваць гаспадарку (праз раздзел маёмасці на дзве сям'і), але і прымножыць дастатак (жаніцьба Рыгора з заможнай і адзінай у бацькоў Ядзяй Скрыпачовай), бацька ўласнаручна распачынае зацятую вайну, нішчыць лёс сына, закаханага ў Верку Арцёмаву, становіцца галоўнай прычынай перажыванняў уласнай жонкі, што вельмі пакутуе ад разладу ў хаце, і няшчасця нявесткі, якую падкрэслена не заўважае і з пачуццямі якой не жадае лічыцца малады муж. Спроба Расевіча схаваць ад уліку частку сабранай збажыны набліжае хуткі трагічны фінал як яго ўласнага, так і лёсу ўсёй сям'і, вывезенай з хутара ў невядомасць разам з толькі што народжанай дачушкай Ядзі, якую яна перад самагубствам паспявае перадаць залоўцы.

За ўсімі гэтымі няшчасцямі родных, вымушаны прытаіцца, назірае Рыгор. Ад арышту яго ўратавала толькі знаходжанне на далёкім сенакосе і папярэджанне Веркі. Але з гэтага моманту малодшы Расевіч як яшчэ адзін вораг народа, на якога пачынаецца сапраўднае паляванне, мусіць доўгі час быць беспрытульнікам. Цяпер да ўсіх выпрабаванняў Рыгора дадаецца неадступнае пачуццё вялікай віны перад Ядзяй, якая так моцна кахала яго, асірацелымі Скрыпачамі і немаўляткам, перад любай Веркай, ад якой не па сваёй волі адмовіўся, не абароненымі ім роднымі, перад тым жа бацькам. Яго не здолеў пераканаць і так не адважыўся душэўна пагаварыць.

Пакутуе ад здрады і не перастае кахаць Рыгора Вера Арцёмава, носячы пад сэрцам яго працяг — дзіця. Доўга гаруе ад страты сваёй весялухі Ганькі Ігнат Адамчык. У рэшце рэшт прымае незваротнасць сітуацыі. Нанова натхняецца прагай жыцця побач з такой жа гаротнай і ўжо адданай яму Верай, не змяніўшы паважлівага і адданага стаўлення і тады, калі даведаецца пра яе сардэчную і самую балючую таямніцу.

Доўгімі гадамі чакаючы свайго шчасця, пажылы старшыня сельсавета Ілля Міронычык знаходзіць яго ў асобе Зінкі і яе сына Васілька, сястры Веркі і жонкі кулака Хведара Лейбы. «Бальшавік з чатырнаццацігадовым стажам», нават трапіўшы ў турму, усё яшчэ хоча верыць: «Партыя абы-каго не саджае, абы-каго не карае…» Толькі-толькі адчуўшы ў сабе парастак новага, падараванага ім, Іллём, жыцця, згарае ў агні яго Зінка, не жадаючы больш падпарадкоўвацца былому мужу-гвалтаўніку і забіваючы яго. Цалкам магчыма, што, як тое і бачылася ў турэмным сне Міронычыку, яна светлай выявай узнімецца над Святой гарой.

На зямлі ўсё дзейсніцца па сваіх законах. Некага падштурхоўваюць да злачынства, кагосьці рыхтуюцца арыштоўваць. Нехта працягвае «нішчыць тых, каму хоць у нечым зайздросціў, хто быў разумнейшы за яго». Некаму нарэшце адкрыецца ўся горкая праўда часу — «жудаснага зводу на зямлі» сапраўдных, адданых зямлі, гаспадароў. Пушчаныя імі ў тутэйшую глебу глыбокія карані бязлітасна высякаюцца.

Можна не сумнявацца, што, нягледзячы на абяцанні *мечанага* следчага Калатовіча (гэтая мастацкая дэталь асабліва настойліва падкрэсліваецца ў тэксце твора), забяруць у дзетдом ад Веркі і Ігната Зінчынага Васілька як дзіця ворага

народа. Няцяжка ўявіць, што за выпрабаванні чакаюць Расевіча Рыгора, які добраахвотна здасца новай уладзе, дачакаўшыся нараджэння іх з Веркай дзіцяці. Ён ужо не бачыць прычын хавацца, бо перакананы: «Яго кроў, яго сын будзе жыць сярод людзей, якія выгналі Расевічаў з роднай зямлі, спляжылі іх шчасце, але яны не ведаюць, што працяг лепшых гаспадароў ёсць. З нараджэннем сына, як цяпер здавалася Рыгору, усе: бацька, маці, сястра, яго з Ядзяй дачушка — усе вярнуліся назад, на свой хутар, вярнуліся назаўсёды, радуюцца такой навіне!»

Такая непахіснасць сцвярджэння Рыгора абумоўлена яго ўласнай укаранёнасцю ў тутэйшую зямлю, трывалай повяззю душы не толькі з незабыўнымі роднымі людзьмі, але і з персаніфікаванымі Князь-возерам, балотам, лесам, ракой, садам, Святой гарой, былой царквой, задуменнымі палескімі лірычнымі і абрадавымі песнямі, паданнямі, легендамі і замовамі. Усе мы вяртаемся да сябе. І ўсё вяртаецца. Будзем спадзявацца, што і загубленае шчасце таксама.

Прынамсі менавіта так здарылася з героямі яшчэ аднаго рамана У. Гаўрыловіча «Цяпло маладзіка». Толькі ці не позна? Над гэтым шматпланавым творам з некалькімі разгалінаванымі вострасюжэтнымі лініямі і драматычнымі калізіямі, якія настолькі багатыя на нечаканыя і адначасова рацыянальна выверания завязкі і вырашэнні, што цалкам маглі б прэтэндаваць на права існаваць асобна, празаік працаваў у 2006—2008 гг. У скарочаным варыянце раман друкаваўся ў часопісе «Полымя», кнізе «Вяртанне» (2008), асобным выданнем выйшаў у 2013 г. (серыя «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі»).

У творы, як на тое ўказваюць даты-падназвы першай і заключнай дзясятай частак, перспектыўнае развіццё сюжэта абмяжоўваецца па сутнасці толькі некалькімі калляднымі днямі (з 10—11 па 14 студзеня 2008 года). Але праз далёкія і нядаўнія ўспаміны Волькі і Ганны, дзвюх сясцёр сталага веку, іх дэбаты з прадстаўнікамі мясцовай улады і нямецкага гуманітарнага фонду, прысутнасць у прадуманай эпічнай структуры ўстаўных тэкстаў (урыўкі з рамана «Каханне і вайна» ў 4 і 8 частках), паралельнае разгортванне — у адносінах да асноўнага дзеяння — сюжэта пра каханне Ігара Косціча і Мерыям, што далучае да абсягаў Беларусі сучасную Швейцарыю (у 2 і 6 частках), хранатоп твора пастулова істотна пашыраецца, набывае шматвектарнасць. У ім цесна пераплятаюцца падзеі Вялікай Айчыннай вайны (а праз згадкі Домны і Васіля пра сваю маладосць — яшчэ і ранейшыя голад і холад), пасляваенная і постчарнобыльская рэальнасць, трагічныя і шчаслівыя гісторыі чалавечых лёсаў.

І ўсё ж нягледзячы на тое, што часапрастора рамана так ці інакш сягае за межы Беларусі, яго асноўная сюжэтная лінія пераважна звязана з Пралескамі, суседнімі вёскамі і толькі перыферыйна, разам з вялікай колькасцю інфармацыйных звестак пра славутых асоб, культуру і гісторыю краю (а такая публіцыстычнасць, як і ў некаторых момантах прагаворванне дзеяння замест яго паказу, папярэднія падказкі на яго далейшыя зрухі і вырашэнне лёсаў, пэўная моўная недагледжанасць, месцамі парушае адзінства зместу і формы мастацкага тэксту) перамяшчаецца ў Тураў, Мазыр, Гомель, Мінск. Як і ў «Забраным шчасці», лёс вёскі, няхай і на яе новым гістарычным этапе, па-ранейшаму застаецца ў цэнтры аўтарскай увагі.

Праўда, гэта ўжо іншая вёска. Нават Каляды святкуюцца толькі фальклорным гуртам. А вось Вольцы Брылёвай, каб хоць крыху забыцца на незагойнае з ваеннай пары гора, вёска яе маладосці згадваецца інакш: «Як успомню, Ганначка!.. У брыгадзе рабіла… На балоце сена грэблі. За некалькі вёрст, толькі сонца ўсміхнецца, на тое балота заходзілі, назад апоўначы вярталіся. А ў вёсцы да досвітку — песні. Мне хоць і цяжка на душы, але таксама спявала, забівала песняй сваё няшчасце. А цяпер, бачыш, як жыццё павярнулася, і пеўні на вёсцы спяваць не хочуць…» Надзея на тое, што ўсё зменіцца да лепшага, што вёскі перастануць паміраць і некалі адродзяцца, заквітнеюць садамі, дарамі зямлі, напоўняцца пахам мёду, дабрабытам і песнямі, звязваецца ў рамане з асобамі гаспадарлівых суседзяў Ганны Зосі і Івана, працавітых бацькі Пятра і сына Антона Ахрэмчыкаў.

Але найбольш звязаны з гісторыяй Пралесак лёсы старых сясцёр, цесна перапле-ценых між сабой у адзін вузел.

Варта ўдакладніць, што ў значнай ступені, няхай і без супадзенняў у дэталях асабістага жыцця, у аснову вобраза Ганны Сасноўскай з рамана «Цяпло маладзі-ка» пакладзены лёс ветэрана педагагічнай працы і вайны, настаўніцы нямецкай мовы Ганны Васільеўны Бобрык, якая па ўзгадненні з партызанскім камандаван-нем і па падказцы чэха Аўгуста Клёўзе, які служыў у тылавой службе Турава і спагадаў беларусам, была старастам у вёсцы Вароніна. Якраз гэтай выключнай жанчыне пісьменнік прысвяціў нарыс «“Ліпа” выходзіць на сувязь». Гэты факт яшчэ раз пацвярджае, што У. Гаўрыловіч часта адштурхоўваецца ад уласна пера-жытага, канкрэтных падзей, сустрэч з цікавымі людзьмі і што ў акаляючай нас рэальнасці сустракаецца намнога больш неверагоднага, чым у самых закручаных літаратурных сюжэтах.

Але вернемся да рамана. Кожнай з сясцёр давялося шмат перажыць у гады вайны. У тым ліку — страту Волькай мужа і адзінай дачушкі Васілінкі; розна-прычынную падазронасць да Ганны землякоў і ворагаў з-за пасады старасты; здзекі чужынцаў і мясцовых здраднікаў над сям’ёй Брылёў і іншымі землякамі, спальванне большасці з іх; забойства бацькоў Васіля і Домны, апошні прытулак якой — надзел Ахрэмчыкаў каля балота ў Азёрцах — стане вядомым толькі ў самым фінале. Ці не па прычыне іх раз’яднанасці смерцю, якой так баялася маці ад самага пачатку вайны, ці не з-за вымушанага сіроцтва-адзіноты Васілінкі-Яніны, ацалелай дзякуючы апошнім перадсмяротным намаганням бабулі Домны, прах родных, таго ж расстралянага на дарозе бацькі, бунтуе, не знаходзіць супа-каення, наведвае сясцёр у аднолькавых снах і будзіць блізкім да народнага гала-шэння плачам? «Ганначка, няма дзе душы прыткнуцца, лес і балота перашкаджае, палі шырокія, канаўкі глыбокія, не вярнуцца ніяк дадому. Дапамажы, дзіцятка. Жменьку зямлі ў хусціначку набяры ды на свае, вясковыя могілкі, дзе ўсе нашы ляжаць, высып…»

Перажытыя ў вайну трагедыі («У кожнага свой ён, боль…» і праз гады не адпускаюць сясцёр, не дазваляюць забыць і даравацьь. Вось чаму, у адрозненне ад астатніх аднавяскоўцаў, яны не спяшаюцца за хумалітаркай — гуманітарнай дапа-могай з Германіі і ў рэшце рэшт адмаўляюцца прыняць яе. Волька, старэйшая з сясцёр, абураецца: «Слова нейкае брыдкае — не вымавіш. Чужынскае яно і ёсць чужынскае. Вось нашы словы — такія мяккія. Свае бо». Асабліва катэгарычная ў сваім рашэнні Ганна. З непрыхаваным болем і роспаччу яна спрабуе растлума-чыць прадстаўнікам мясцовай улады і фонду непахіснасць уласнай пазіцыі, якую яшчэ больш падкрэсліваюць прамоўленыя жанчынай фразы ў форме нанізаных адно на адно рытарычных пытанняў: «Мне што — за бацькоў сваіх закатава-ных — пасылку атрымаць? За тое, што муж мой, Колька, пасля вайны не пажыў як след? Што тая вайна жыццё ў мільёнаў людзей адабрала? А на ўсіх тых, хто не нарадзіўся, таксама — хіба дадуць?» Недзе глыбока ў сэрцы (цалкам магчыма, што якраз таму, надарванае і стомленае, так моцна баліць яно) Ганна хавае ад усіх, носіць яшчэ адну вялікую крыўду-непаразуменне на некалі каханага ёю лангвера Аўгуста фон Хангера, па ўласным няведанні і з-за нагавораў іншых паверыўшы ў тое, што да гора-злыбед яе родных і землякоў спрычыніўся менавіта ён. І раптам гэтая нечаканая сустрэча праз дзесяцігоддзі, пакутлівае высвятленне адносін, гісторыі ўласнага выжывання і не менш балючай праўды пра сапраўдных забой-цаў бацькоў і вяскоўцаў…

Напэўна, ва ўсе часы для прадстаўнікоў самых розных народаў застанецца неабвержным сцвярджэнне: «У кожнага чалавека ёсць мінулае, і гэтае мінулае рана ці позна яго даганяе» [1, с. 123]. Так адбылося з таямніцамі паходжання і кахання Мерыям у «швейцарскай» сюжэтнай лініі рамана. У асноўным жа дзе-янні твора, якое разгортваецца на беларускім Палессі, знешняй кропкай вяртання герояў да падзей мінулага і пераасэнсавання яго становіцца прыезд у Пралескі з

гуманітарнай місіяй з памочнікамі і ўнукам ужо сталага нямецкага пісьменніка Аўгуста фон Харнера, аўтара рамана «Каханне і вайна».

Некалі, у канцы чэрвеня 1941 года, ён, нядаўна прызваны ў войска нямецкі афіцэр, які паходзіў з антыфашысцкай сям'і, меў славянскія карані, а таму нядрэнна гаварыў па-руску, апынуўся ў палескай вёсцы і ўпершыню пазнаёміўся з прыгожай і смелай Ганнай. Яна валодала мовай Гётэ і Шылера. Першапачатковыя прыемныя ўражанні ў душы Аўгуста досыць хутка перараслі ў шчырае і глыбокае захапленне дзяўчынай. «Нечаканае, нясмелае, але самае лепшае пачуццё ў жыцці…» Дый Ганна з першых сустрэч з чужынцам насуперак сваёй волі заўважыла хараство яго бяздонных сініх вачэй, знешнюю вабнасць і дасведчанасць у літаратуры, адчувала нясмелае нараджэнне нязведанага раней пачуцця, што яшчэ не мае пэўнага наймення. «Нейкі няўцямны неспакой, неспазнаная трывога і адначасова прасвятленне адбіліся ў душы маладой настаўніцы». Агульныя справы па падпольным змаганні, сувязі і дапамозе партызанам пад мянушкамі Маланка і Лівень яшчэ больш аб'ядналі маладых людзей. А ў адной з крытычных сітуацый, у цёплую месячную ноч, калі іх жыцці маглі назаўжды трагічна абарвацца, калі стала адчувальнай пагроза ніколі не пабачыць «ні заходу сонца, ні ранішняй расы, ні золаку…», калі «заўтра ўсё адбярэ смерць…», яны дарэшты аддаюцца каханню. Наперакор усяму яно стане пачаткам новага жыцця для іх сына і падставай для наступнай, як хочацца верыць, ужо без расстанняў, сустрэчы. Бо сапраўднае каханне, незалежна ад асвечанасці яго сонечным святлом або цяплом маладзіка, не трымаецца ўмоўнасцей і меж.

Вядома, што кожны, хто аднойчы ўзяўся за пяро, выношвае мару стаць сапраўдным пісьменнікам ці хоць бы аўтарам аднаго выдатнага твора. На ўвасабленне такой задумы, пры ўсім аб'ектыўным разуменні вартасцей ужо здзейсненага, але і не менш пякучым адчуваннем недамоўленага, не без падстаў спадзяецца і У. Гаўрыловіч. Найперш, празаік марыць стварыць «Самы праўдзівы раман на свеце. Пра бацькоў, пра іх і сваё жыццё». Няма сумнення, што сёння ён максімальна наблізіўся, у тым ліку, як ні горка гэта прызнаваць, і праз складанасці жыццёвага і літаратурнага вопыту, да стварэння такога ўзроўню сацыяльна-псіхалагічнага палатна пра сябе і свой род, загадкавых палешукоў і Палессе, усю Беларусь. А гэта значыць, абавязкова здолее годна здзейсніць задуманае.



**Пётр ВЯЖЭВІЧ**

# ДЗЁННІК ПАСОЛЬСТВА ДА ЦАРА МІХАІЛА ФЁДАРАВІЧА АД КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ УЛАДЗІСЛАВА IV

## Дыпламат і майстар слова

*Пётр Вяжэвіч — дзяржаўны дзеяч і яркі беларускі пісьменнік эпохі Барока. Ён меў шляхецкі тытул і займаў пасаду мсціслаўскага стольніка. Пэўны час выконваў абавязкі каралеўскага пісара. У 1635 г. у якасці сакратара ўдзельнічаў у пасольстве ў Маскву.*

*Пяру Вяжэвіча належаць два празаічныя гісторыка-літаратурныя творы — «Дзённік пасольства да цара Міхаіла Фёдаравіча ад караля і вялікага князя Уладзіслава IV» і «Рэляцыя». Найбольш каштоўным у мастацкіх адносінах з'яўляецца першы. У ім раскрыты падрабязнасці аб'яднанага пасольства Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства ў Маскву ў 1635 г. Дыпламатычная місія на ўсход, як вынікае з «Дзённіка...», ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам Аляксандра Песачынскага і Казіміра Лявона Сапегі — сына знакамітага канцлера і віленскага ваяводы Льва Сапегі.*

*Аўтар «Дзённіка...» абараняў інтарэсы, перш за ўсё, дэлегацыі Вялікага Княства Літоўскага. Ён, відавочна, быў набліжаным К.-Л. Сапегі. Невыпадкова, пісьменнік часцей і больш падрабязна пісаў пра яго, чым пра Песачынскага. Падчас дыскусій і спрэчак паслоў па пытанні аб захоўванні пакта аб вечным міры, а таксама аб месцах за царскім сталом, як правіла, прымаў бок К.-Л. Сапегі.*

*Творчы метад і мастацкі стыль П. Вяжэвіча відавочна сфарміраваліся пад уздзеяннем эстэтыкі Барока. У творы арганічна спалучаюцца тры моўныя стыхіі — беларуская, руская і польская, што адпавядала мастацка-эстэтычным уяўленням гэтага часу. Аўтар «Дзённіка...» пісаў пераважна пра людзей і гістарычных асоб, якіх ведаў і з якімі кантактаваў. Таксама паведамляў пра факты і здарэнні, вядомыя яму асабіста.*

*Пётр Вяжэвіч у поўнай меры ўсведамляў пісьменніцкую адказнасць, выключную важнасць для гісторыі ўсяго таго, што адбываецца. Ённ пастараўся дэталёва асвятліць мэты і склад пасольства, маршрут руху, характар перамоў і іх вынікі. Выкладаў падзеі ў строгай храналагічнай паслядоўнасці, па месяцах, дзень за днём, пачынаючы з 20 студзеня да 8 красавіка 1635 г. Скрупулёзна зафіксаваў чарговасць, у якой рухаўся пасольскі абоз. Вельмі часта называў адлегласць, якую паслы пераадольвалі за вызначаны дзень, паведамляў пра месцы начлегаў і прыпынкаў, звяртаў увагу на шматлікія дэталі і абставіны. Старанна фіксаваў ўбранне і вупраж коней, падрабязна пералічваў стравы, якімі частавалі паслоў.*

*Кульмінацыя «Дзённіка...» — сустрэчы вялікіх паслоў з рускім царом Міхаілам Фёдаравічам у Крамлі, у Гранавітай палаце. Вяжэвіч падрабязна і вельмі маляўніча адлюстраваў сцэны афіцыйных прыёмаў, абмаляваў дыпламатычныя рытуалы таго часу, з пратакольнай дакладнасцю перадаў словы ўдзельнікаў перамоваў. Пісьменнік паказаў нябачанае напружанне і складанасць дыпламатычнай гульні, гістарычную адказнасць удзельнікаў перамоваў за прынятыя рашэнні.*

*На старонках «Дзённіка...» Вяжэвіч распавёў пра норавы і звычаі рускіх людзей, іх уважлівае стаўленне да замежных паслоў, непадробную цікавасць да іх.*

*Такім чынам, «Дзённік пасольства да цара Міхаіла Фёдаравіча ад караля і вялікага князя Уладзіслава IV» Вяжэвіча — сінтэтычны твор эпохі Барока, створаны таленавітым майстрам слова. Ён мае выключную мастацка-эстэтычную каштоўнасць, з'яўляецца сапраўдным літаратурным шэдэўрам, унікальнай гістарычнай крыніцай, рарытэтным помнікам дыпламатыі і міжнародных адносін.*

*Пераклад «Дзённіка...» на беларускую мову ажыццёўлены паводле выд.: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильня, 1867. Т. 4. С. 92—174.*

***Іван САВЕРЧАНКА***

Пасля перамогі над маскоўскім войскам і ўзяцця Смаленска, у выніку доўгай і складанай аблогі, паўстала неабходнасць падпісання мірнай дамовы з Маскоўскім княствам. На двухтыднёвым Варшаўскім сойме ў 1634 годзе, які адкрыўся 18 ліпеня, было сфармавана пасольства ад яго міласці караля Уладзіслава IV і ад усіх саслоўяў Польскай Кароны і Вялікага Княства Літоўскага. Пасольства накіроўвалася да маскоўскага цара Міхаіла Фёдаравіча з мэтай падпісання вечнага міру і атрымання ад яго прысягі.

Сустрэчу паслоў з прадстаўнікамі маскоўскага цара намецілі на 20 лютага 1635 года паводле нашага календара і на 10 лютага па маскоўскім календары, каля ракі Палянаўка. Адтуль разам паслы і царскія баяры павінны былі ехаць у сталіцу.

Вялікае пасольства ўзначалілі: ад Польскай Кароны — Аляксандр Песачынскі, камянецкі і ўланоўскі кашталян, староста наваградскі; ад Вялікага Княства Літоўскага — Казімір Лявон Сапега, віленскі ваяводзіч і вялікакняскі пісар, староста гродзенскі, волпенскі і любашанскі.

Іх міласці паслы — Казімір Лявон Сапега і Аляксандр Песачынскі — пісьмова дамовіліся аб папярэдняй сустрэчы ў Смаленску ў студзені 1635 года.

Віленскі ваяводзіч Казімір Лявон Сапега выехаў з Замосця, ад караля яго міласці, спачатку ў Львоў і знаходзіўся там непрацяглы час. Затым ён накіраваўся ў свае ўладанні ў беларускім краі — у Чарэю і Талачын, дзе пачаў рыхтавацца да ад'езду. Тады ж ён уступіў у перапіску са смаленскім ваяводам, які абараняў мяжу на ўсходзе. Неўзабаве пан Сапега выехаў з Талачына, з імем Божым на вуснах.

# I

***Студзень 1635 года.***

*20 студзеня ў суботу*. Начавалі ўсім дваром у Старым Сяле. Праехалі пяць міль. Яго міласць пан Сапега начаваў на паўдарозе ў Дудокавічах, у пана Цеханавецкага, аршанскага земскага суддзі.

*21 у нядзелю*. Абедалі ў Старым Сяле. На ноч паехалі ў Копысь. Праехалі дзве мілі.

*22 у панядзелак*. На абед паехалі ў Сяльцо, маёнтак яго міласці пана маршалка Вялікага Княства Літоўскага. Начавалі ў тым жа месцы. Праехалі 5 міль.

*23 у аўторак*. Абедалі ў Горках. Праехалі пяць міль. Двор і падводы начавалі там жа. Яго міласць пан Сапега ўлегцы паехаў начаваць у Горы. Праехалі 2 мілі.

*24 у сераду*. Увесь двор і падводы карміліся ў Звяровічах. Праехалі пяць міль. Начавалі там жа. І яго міласць пан Сапега там жа начаваў.

*25 у чацвер*. Начавалі ў Зарнаўцы. Праехалі 5 міль.

*26 у пятніцу*. Прыехалі абедаць у Смаленск. Праехалі 6 міль.

*27 у суботу*. Знаходзіліся там жа. Яго міласць пан Сапега аглядаў сцены і пралом у іх.

*28 у нядзелю*. Знаходзіліся там жа. Падводы і пешых яго міласць пан Казімір Лявон Сапега выправіў паперадзе сябе. Сам ён, разам з усім сваім дваром, застаўся чакаць пана Аляксандра Песачынскага, камянецкага кашталяна. Пан К.-Л. Сапега накіраваў некалькі маладых людзей у Дарагабуж, каб папярэдзіць аб хуткім прыездзе туды паслоў.

У той жа дзень яго міласць пан К.-Л. Сапега даведаўся аб хуткім прыбыцці яго міласці камянецкага кашталяна ад яго слугі, пана Кавальскага, які спецыяльна прыехаў паведаміць аб хуткім прыбыцці свайго гаспадара.

*29 у панядзелак*. Пасля поўдня прыехаў яго міласць Аляксандр Песачынскі, кашталян камянецкі. Выйшаўшы з карэты, ён неўзабаве паведаміў яго міласці пану ваяводзічу віленскаму, што пакуль не можа яго наведаць, бо яшчэ не ўладкаваўся. Яго міласць пан ваяводзіч віленскі сам пайшоў да яго. Там некалькі гадзін яны правялі разам за агульнай гутаркай.

*30 у аўторак*. Яго міласць пан Аляксандр Песачынскі з усімі сваімі слугамі быў на абедзе ў яго міласці пана Казіміра Лявона Сапегі, ваяводзіча віленскага. Там іх міласці ўсё ўзгаднілі і напісалі паведамленне пану Крамянецкаму, капітану дарагабужскаму. Яны апавяшчалі яго, што 5 лютага хочуць спыніцца каля рэчкі Палянаўкі. Паслы гэтаксама прасілі яго звярнуцца з просьбай да вяземскага ваяводы, каб той выдзеліў корм і падводы для пасольства. Для нарыхтоўкі корму і падвод пан Сапега выслаў наперад сваіх слуг — пана Станіслава Кошчыца і пана Андрэя Дзевялтоўскага. Яго міласць пан Песачынскі з той жа мэтай выслаў наперад свайго прыяцеля пана Глагоўскага.

*31 у сераду*. Пасля набажэнства і сняданку яго міласць пан Сапега выехаў са Смаленска. Амаль усіх сваіх слуг ён накіраваў гасцінцам на Пнеўна. Сам жа, з некалькімі маладымі людзьмі, паехаў іншым шляхам. Пан Песачынскі, камянецкі кашталян, рухаўся трэцяй дарогай. Пасольства падзялілася на тры калоны па прычыне спустошанасці тамтэйшых зямель. Інакш бы ўзніклі цяжкасці з забеспячэннем іх харчаваннем.

Недалёка ад пана Сапегі знаходзіліся калёсы са ўсякай жыўнасцю, прывезенай з рускіх зямель; ён меў лепшы доступ да пачастункаў.

Пан Песачынскі вымушаны быў рухацца іншым гасцінцам, каб здабываць харчаванне, якое паслы заўсёды атрымлівалі дарма.

Яго міласць пан Сапега праехаў у той дзень 4 мілі, да вёскі Немікеры, якая належала смаленскай плябаніі.

## II

***Люты 1635 года.***

*1 у чацвер*. Атрымалі прадукты харчавання ў Сяльцы, маёнтку пана Вярхоўскага. Праехалі 5 міль.

Ехалі па цеснай і гарыстай дарозе. Яна праходзіла паміж лясамі, якіх там нямала. Затым ўбачылі пана Песачынскага. Заехалі да яго. Начавалі ў вёсцы Куркова, над ракой Вужай. Праехалі 4 мілі.

*2 у пятніцу*. Яго міласць пан Сапега вырашыў прыбыць у Дарагабуж на досвітку, да набажэнстваў. Але па пэўных прычынах ён не хацеў сустракацца з маскоўскім паслом. Пан Сапега даведаўся ад сваіх людзей, спецыяльна дасланых наперад, аб прыбыцці таго маскоўскага пасла ў Дарагабуж і хуткім выездзе з яго. Таму яго міласць пан Сапега спыніўся ў вёсачцы, за паўтары мілі ад Дарагабужа, што складала паўдарогі да месца начлегу.

Абоз маскоўскага пасла быў наступным. Спачатку рухаліся падводы. Затым — верхавыя коні лікам 54, сярод якіх было некалькі турэцкіх, а астатнія нашы — вельмі несамавітыя. Адны коні ішлі пад дзерхамі і ў каптурах, іншыя — пад коўдрамі і гунямі. Некаторыя коні былі асядланыя і пад скупамі леапардаў. Частка

коней ішлі ў хамутах; на кожным з хамутоў вісела па некалькі лісіных хвастоў. Наперадзе коней і ззаду іх ехалі конюхі. Затым рухаліся яшчэ сто коней. За імі ішоў 21 чалавек, узброены доўгімі і прыгожымі стрэльбамі.

Потым ехаў сам пасол на адным коні ў санях, стылізаваных пад белага мядзведзя. Перадок саней быў накрыты кармазінавым (ярка-чырвоным) сукном, вышываным кветкамі. Пасол сядзеў у аксамітавай чырвонай футры, падшытай собалямі. Старэйшы конюх кіраваў канём у санях. Два халопы, таксама апранутыя ў футры, стаялі на падножках.

Затым рухалася яшчэ больш за дзесяць саней. Людзі, якія знаходзіліся ў іх, былі ў аднолькавых футрах.

У канцы абозу ішло некалькі парожніх саней, а таксама пара запасных коней для пасла, накрытых зялёным сукном.

Яго міласці пану Сапегу неўзабаве прынеслі спіс абозу маскоўскага пасла. Маскавіты самі склалі дадзены спіс і перадалі яго праз пана Сакалінскага, падваяводу смаленскага.

*Спіс дваран, пад’ячых, пасольскіх і дваранскіх людзей, а таксама коней і вазоў, якія былі з вялікім паслом, намеснікам суздальскім, баярынам і князем Аляксеем Міхайлавічам Львовым, падданым вялікага гасудара і вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча — самаўладцы ўсёй Русі, валадара многіх зямель і ўладальніка царскага тытула.*

З баярынам і суздальскім намеснікам, князем Аляксеем Міхайлавічам Львовым — 50 яго людзей, 100 коней, 80 фурманак.

З думным дваранінам і намеснікам шацкім Сцяпанам Мацвеевічам Праесцевым — 40 яго людзей, 80 коней, 30 фурманак.

З думным дваранінам Міхаілам Данілавым — 40 яго людзей, 80 коней, 20 фурманак.

З Іванам Пераносавым — 30 яго людзей, 42 кані, 15 фурманак.

Са стольнікам яго царскай вялікасці, князем Васілём Львовічам Пятровым — 22 чалавекі, 13 коней, 15 фурманак.

Стольнікаў дваран — 7. У кожнага з іх па 7 чалавек, па 10 коней, па 12 фурманак.

Дваран — 3 чалавекі. У кожнага з іх па 4 чалавекі, па 5 коней.

З перакладчыкам — 5 яго людзей, 7 коней з падводамі.

Старых пад’ячых — 3. У першага з іх — 4 чалавекі, у другога і трэцяга па 3 чалавекі; 15 коней, 7 фурманак.

Маладых пад’ячых — 5. У кожнага з іх па адным чалавеку, па 7 коней, па 15 фурманак.

Собальнікаў — 2. З імі — па адным чалавеку, па 2 кані і па 2 падводы.

Вартаўнікоў — 2 чалавекі. У кожнага з іх — 2 кані і 2 падводы.

Усіх людзей — 296, коней — 378, фурманак — 266.

Яго міласць, пан Сапега, даведаўшыся аб выездзе маскоўскага пасольства з Дарагабужа, выехаў з той вёсачкі, дзе ён стаяў, праехаў тры мілі і гадзіны за тры да вечара быў ужо ў горадзе, дзе і спыніўся на начлег. У гэты час горад пакідалі апошнія людзі маскоўскага пасольства, якіх яны бачылі на свае вочы.

Яго міласць пан Сапега заспеў у Дарагабужы *пана Вяжэвіча, мсціслаўскага стольніка, сакратара пасольства*, і пана Мадаленскага, мсціслаўскага войскага. Яны адразу ж пайшлі да вялікага пасла і праседзелі ў яго да позняй ночы, размаўляючы з ім.

*3 у суботу*. Яго міласць пан Сапега меў удосталь усякай ежы. Ён убачыў, што ў пана Песачынскага, камянецкага кашталяна, не хапае правіянту, які затрымліваецца ў дарозе. Таму ён распарадзіўся забяспечыць яго рыбай і некалькімі бочкамі аўса.

*4 у нядзелю*. Яго міласць пан Сапега выехаў з Дарагабужа. Адпачываў і еў у вёсцы у пана Мадаленскага. Начаваў у вёсцы Шамлова. Праехаў 13 міль.

У Шамлова да яго прыехаў яго каморнік Раецкі, слуга, які займаўся забеспячэннем пасольства ежай. Ён паведаміў Сапегу, што маскоўскія людзі, як здаўна ў іх павялося, груба паставіліся да прадстаўнікоў пасольства. Калі нашы ў першы дзень прыехалі па правіянт, маскавіты груба запыталіся:

— Навошта вы прыехалі і хто вы такія?

Нашы паведамілі пра сябе і хацелі з імі гаварыць пра тое, для чаго былі пасланыя да іх. Маскавіты не адрэагавалі. Затым нашы запатрабавалі сустрэчы з ваяводам, каб з ім асабіста пагаварыць пра патрэбы пасольства.

Маскоўскія людзі адказвалі ім:

— Ні ваявода і ніхто іншы з вамі не будзе нічога вырашаць. Прыстава і прыёмшчыка ад яго царскай вялікасці няма. Увесь корм гатовы, ды няма каму з вамі пра тое казаць.

І не пусцілі нашых людзей у прадмесце.

Маскавіты загадалі нам размяшчацца за горадам у хацінах, якія былі пачварна пабудаваны і не мелі ніякіх выгод.

У той дзень даставілі нашым людзям вельмі сціплы харч. Тыя людзі, што даставілі яго, перадалі на словах:

— Ваявода з міласэрнасці сваёй даслаў вам ежу. А заўтра, пакуль тут будзеце знаходзіцца, за грошы сабе ўсяго здабывайце.

Іх міласці паслы зразумелі, што дамовіцца з маскавітамі ў іх не атрымаецца. Яны накіравалі Раецкага да вяземскага ваяводы. Раецкі павінен быў перадаць ваяводу ліст ад пана Мадаленскага. Начаваць паны паслы засталіся на ранейшым месцы.

*5 у панядзелак*. Пасля набажэнства і сняданку іх міласці паны паслы рана адправіліся ў шлях. Яны рухаліся ў наступнай чарговасці. Спачатку, наперадзе вазоў, ішлі верхавыя коні лікам 49. З іх — 5 коней пана Сапегі ў прыгожых і багата ўпрыгожаных пакрывалах, з пазалотай, у зялёных аксамітных каўпаках; 10 коней пана Песачынскага і яго прыяцеляў; астатнія коні, таксама ў багатай збруі, належалі слугам паслоў. З ліку апошніх, трое коней належалі пану Вяжэвічу.

За верхавымі коньмі рухаліся вазы. Спачатку вазы прыяцеляў яго міласці пана Песачынскага, па пары. Затым вазы слуг яго міласці пана Сапегі, па тры, па чатыры, па пяць, па шэсць. Пасля іх у карэце ехалі самі паслы.

За карэтай, верхам на конях, рухаліся ахайна апранутыя маладыя людзі: 26 з іх суправаджалі пана Сапегу і 13 — пана Песачынскага. З двух бакоў карэту ахоўвалі: венгерская пяхота, лікам 60 чалавек, якая належала Сапегу, і 32 драгуны, якія належалі Песачынскаму. У канцы абозу рухалася некалькі сотняў фурманак і купецкі табар.

Прыехаўшы да рэчкі Палянаўкі, мы спадзяваліся, што нас там сустрэнуць. Але ніхто нас не чакаў. У адпаведнасці з ранейшымі дамоўленасцямі, паслы накіраваліся проста да Вязьмы.

Праз некалькі міль наперадзе нас з’явіліся два коннікі. Іх выслалі наперад, каб даведацца, ці едуць паслы. Убачыўшы паслоў, яны вярнуліся назад да сваіх. У паўмілі ад горада Вязьмы да нас пад’ехалі маскоўскія казакі на 40 конях. Трохі пакруціліся каля пасольскай карэты, а потым рыссю ад’ехалі ў горад.

Неўзабаве тыя казакі вярнуліся назад разам з царскімі дваранамі — Філонам Міхайлавічам, Аляксеем Іванавічам і Малютам, які з’яўляўся стольнікам над стральцамі. Дваране мелі даручэнне — сустрэць вялікіх паслоў. З царскімі дваранамі са сталіцы прыбылі 100 стральцоў, якія падпарадкоўваліся Малюту. Самі дваране сядзелі разам у адных санях, у якія былі запрэжаны двое коней. Кіраваў коньмі халоп. Калі дваране зраўняліся з карэтай паслоў, яны спыніліся. Паслы таксама загадалі сваім спыніцца. Дваране выйшлі са сваіх саней і сталі каля пасольскай карэты, чакаючы пакуль паслы высадзяцца.

Па даручэнні паслоў з карэты да царскіх дваранаў выйшаў пан Мадаленскі. Ён выказаў дваранам абурэнне ў сувязі з тым, што яны абняславілі паслоў, не

сустрэўшы іх на мяжы. Маскавіты ўсклалі ўсю віну на пана Крэмяноўскага, які, як быццам бы, не папярэдзіў іх аб прыбыцці вялікіх паслоў. Пан Мадаленскі далажыў дваранам пра тое, што пaслы, у знак крыўды і абурэння, не стануць высаджвацца з карэт.

Маскавіты адказвалі:

— Калі вялікія паслы не высадзяцца, мы з імі ні пра што размаўляць не будзем.

Пан Мадаленскі прапанаваў маскавітам падысці да карэты паслоў і выказаць ім прывітанне.

Маскавіты адказвалі:

— Гэта будзе знявагай для царскай вялікасці, калі мы так непрыгожа зробім.

Але затым яны знялі шапкі, адышлі ад свайго вазка і наблізіліся да пасольскай карэты. Паслы свядома не спяшаліся, але ўсё ж высадзіліся адзін за адным з карэты. Праўда, яны далёка не адыходзілі ад карэты.

Філон звярнуўся да іх вялікасці паноў паслоў з наступнымі словамі:

— Ад вялікага гасудара, цара і вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самаўладцы і многіх дзяржаў гаспадара і ўладальніка пасланыя сустракаць вас, вялікіх паслоў найяснейшага Уладзіслава Чацвёртага, Божай ласкай караля польскага, вялікага князя літоўскага і іншых, і корм вам даць у гаспадарстве яго царскай вялікасці.

Адказваў яму пан Аляксандр Песачынскі:

— Мы пасланыя вялікімі пасламі ад найяснейшего Уладзіслава IV, Божай ласкай караля польскага, вялікага князя літоўскага і іншых, да вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самаўладцы і многіх дзяржаў гаспадара і ўладальніка — дзеля вялікіх спраў. Але вы нас абняславілі, не сустрэлі нас. Мы, нягледзячы на вашы глупства і гонар, прыехалі сюды, не чакаючы вашай сустрэчы.

Пасля сказаных прамоваў, яны выказалі ўзаемныя прывітанні. Затым паслы пайшлі ў сваю карэту, а царскія дваране селі ў свае сані. Яны суправаджалі карэту па глыбокім снезе, у той час як карэта рухалася павольна. Царскія дваране праводзілі паслоў да жытла, у якім паслы заначавалі. Калі мы праязджалі па вуліцах горада, па баках стаялі стральцы са стрэльбамі. Прыставы праводзілі паслоў да месца адпачынку і хацелі гаварыць з імі аб харчах для людзей і фуражы для коней. Але паслы ім сказалі, што для гэтага ёсць слугі, з якімі прыставам і варта абмяркоўваць пытанні забеспячэння пасольства.

Іх міласці паны паслы таксама заўважылі:

— Нам трэба будзе гаварыць з вашым гаспадаром пра вялікія справы. Не пасуе нам з вамі гаварыць і тым больш аб такіх грубых рэчах.

З такім адказам паслы сышлі.

Ужо хілілася да вечара.

Увечары даслалі нам вельмі сціплае забеспячэнне: адну ялавіцу, 30 вазкоў сена і патроху астатняга, чацвёртую частку ад таго, што патрабавалася для людзей і для коней. Мы ў знак пратэсту не прынялі дастаўленага нам забеспячэння.

Паслы даручылі перадаць маскавітам:

— Паколькі вы не далі нам удосталь усяго неабходнага, пакажыце, дзе мы можам самі купіць за нашы грошы неабходнае харчаванне для людзей і корм для коней. Мы яшчэ лепш абыдземся без вашых падачак. Ні аб чым вас больш прасіць не станем. Мы толькі рыхтуемся да сустрэчы з вашым гаспадаром.

Ад месца начлегу да Вязьмы пяць міль.

*6 у аўторак*. Там жа. Увесь дзень патрацілі на гандаль з маскавітамі аб забеспячэнні пасольства. Ні да чаго грунтоўнага не прыйшлі. Вымушаны былі выкарыстоўваць асабістыя запасы. Яго міласць пан Сапега загадаў забяспечыць усім неабходным пана Песачынскага.

Увечары пана Сапегу наведалі прыставы. Яны прасілі яго не трымаць на іх

зла, калі ў чымсьці не змаглі дагадзіць. Прыставы спасылаліся на тое, што край спустошаны і выпалены. Яны казалі, што нават за царскія грошы не могуць набыць усяго неабходнага для поўнага забеспячэння пасольства.

Пан Сапега адказваў прыставам:

— Я менш за ўсё пра тое турбуюся. У мяне дастаткова грошай у кашальку. Прашу толькі аб адным — пакажыце, дзе можна купіць усё неабходнае для нас. Дзіўлюся вашай нялюдскасці. Вы абыходзіцеся з намі, вялікімі пасламі, зусім не гэтак, як належыць і не гэтак, як было ў вас у ранейшыя часы, калі паслоў сустракалі з гонарам і з павагай. Мой бацька — Леў Сапега — прыязджаў у якасці пасла да вашых гаспадароў. Яго заўсёды сустракалі належным чынам, аказваючы павагу і пашану.

Прыставы зноў пачалі тлумачыць усе нязручнасці спустошанага краю. Яны клятвенна абяцалі:

— Як толькі вы прыедзеце да яго царскай вялікасці, то будзеце цалкам усім забяспечаны.

Сядзелі каля дзвюх гадзін, абмяркоўваючы розныя справы. Яго міласць пан Сапега загадаў прынесці віна. Ён наліў поўны келіх Філону. Прыстаў выпіў і спытаў у Сапегі, што гэта за віно. Сапега адказаў яму, што віно — вугорскае. Філон выпіў яшчэ трохі і перадаў чарку свайму таварышу. Калі пан Сапега спытаў Філона, чаму ён не выпіў да дна, той адказаў:

— У нас толькі гарэлку да канца п’юць, а гэта вельмі моцны напой.

Ён думаў, што віно больш моцны напой, чым гарэлка. Трохі пасядзеўшы, Філон сышоў ад пана Сапегі.

*7 у сераду*. Пасля доўгіх нараканняў і частых абурэнняў з нашага боку, маскавіты, нарэшце, прывезлі забеспячэнне для людзей і корм для коней. У пана Сапегі было, аднак, шмат людзей і коней. На ўсіх не хапала. Ён загадаў купляць за грошы ўсё неабходнае.

Пану Песачынскаму і пану Вяжэвічу хапала прывезенага забеспячэння, паколькі ў іх было менш людзей і коней. Экспедыцыя пана Сапегі ўключала звыш 400 чалавек. Ён загадаў свайму старэйшаму слузе, пану Пясрэцкаму, каб той звярнуўся да Песачынскага і Вяжэвіча падзяліцца з яго людзьмі харчаваннем для людзей і кормам для коней.

Увечары прыставы прыйшлі да пана Сапегі. Ён зноў загадаў прынесці віна для іх. Сапега выпіў за здароўе Філона. Прыстаў наліў сабе віна і спытаў пана Сапегу:

— Ці можна мне за цябе, вялікага пасла, выпіць?

Пан Сапега адказаў, што ён з удзячнасцю прымае яго тост.

Філон нізка пакланіўся і выпіў за здароўе пана Сапегі, жадаючы яму поспехаў у вялікай справе служэння дзяржаве, добрага здароўя, шчаслівага вяртання ў сваю Бацькаўшчыну і заслужанай узнагароды з боку караля.

На гэты раз прыстаў выпіў усё да кроплі, бо яму патлумачылі, што віно не такое моцнае, як ён думаў раней. Філон дазволіў наліць яму яшчэ раз. Паколькі слуга пана Сапегі наліў яму не занадта шмат, Філон прамовіў:

— Не правільна робіш.

Ён звярнуўся наўпрост да пана Сапегі:

— Пан, загадай напоўніць да краёў.

Сапега не рэагаваў.

Тады Філон зноў сказаў:

— Алтын на капейку не змяняеш, пане Казімір Львовіч.

Падчас доўгай гутаркі і шчодрага пачастунку з нашага боку, часта ўспаміналі пра бацьку пана Сапегі — вялікага гетмана літоўскага Льва Сапегу, які бываў паслом у Маскве і рабіў добрую справу — паспяхова пагаджаў абодва бакі.

Пасля пачастунку, прыставы сышлі, нізка кланяючыся.

*Спіс забеспячэння, дастаўленага маскавітамі на 300 чалавек і 350 коней.*

По два калачы кожнаму з вялікіх паслоў, коштам адзін грош.

Кожнаму паслу па 6 чарак смаленай гарэлкі.

Усім паслам па 10 кубкаў патачнага мёду. Па адным вядры салодкага пітнога мёду. Па адным вядры моцнага мёду. На ўсіх паслоў па 6 вёдраў добрага піва.

Пасольскім людзям на кожнага па 4 чаркі гарэлкі.

Лепшым пасольскім людзям — па дзве конаўкі мёду, па куфлю піва. Усяго 75 вёдраў. Ялавіц на ўсіх — 6. Бараноў — 55. Поўных кабаноў — 10. Гусей — 15. Зайцоў — 10. Цецерукоў — 10. Курэй — 30. Воцату — 6 вёдраў. Яек — 350. Масла — 2 пуды. Солі — 3 пуды. Круп — 3 кракаўскія карцы. Цыбулі — чвэртка. Часнаку — чвэртка. Пшанічнай мукі — васьмушка. Свечак сальных — 30. Дроў колькі заўгодна. Фурманак — 300.

Гародніны і напояў не далі, тлумачачы іх адсутнасцю. Маскавіты абяцалі ўсё прадаставіць у сталіцы.

Рыбу даваць па меры яе здабычы. На кожнага пасла — да 10 шчупакоў замарожаных; шчупака запечанага, шчупака з хрэнам, шчупака з юшкай, шчупака салёнага. Лешч для смажання, лешч на засолку. Чорнай асятровай ікры — пуд на ўсіх.

Аўса — 45 чвэрцяў. Кожная меншая за тры кракаўскія карцы. Але прыставы яшчэ паменшылі меру.

Сена — 40 вазоў. Саломы на подсціл для коней — 20 вазоў.

Увесь атрыманы харч дзялілі на дзве часткі. Адну частку атрымліваў яго міласць пан Сапега. Яму і яго людзям не хапала, і ён вымушаны быў дакупляць прадукты і фураж. Другую частку атрымлівалі пан Песачынскі і пан Вяжэвіч. Яны як-кольвек абыходзіліся, паколькі людзей і коней у іх было значна менш, чым у Сапегі.

*8 у чацвер.* Выезд паслоў прыставы затрымлівалі. Затрымку яны тлумачылі тым, што не ўсе падводы пад’ехалі.

Перад абедам у доме, дзе размясціўся пан Песачынскі, адбывалася яго гутарка з панам Сапегам і панам Вяжэвічам. Неўзабаве туды прыйшлі царскія прыставы. Пан Песачынскі строга адчытаў іх за агіднае і непаважлівае стаўленне да вялікіх паслоў. Ён з абурэннем казаў ім пра тое, што ад голаду і холаду ноччу ў яго здохлі некалькі драгунаў. Песачынскі ва ўльтыматыўнай форме заявіў прыставам, што не жадае больш марнаваць час дарэмна і патрабуе неадкладна суправадзіць яго ў сталіцу. Прыставы спасылаліся на негатоўнасць фурманак і непагадзь. Яны не раілі паслам выпраўляцца ў дарогу. На самай справе, тады пачаўся моцны ўраган са снегам.

У сваю абарону пан Песачынскі сказаў:

— Мяркую, што вы затрымліваеце нас, не ўзгадніўшы сваіх паводзін з царом. У нас важная справа, і нам трэба спяшацца. Вы не даяце нам кармоў у дастатковай колькасці, а цяпер яшчэ і беспадстаўна затрымліваеце ў дарозе. Мы больш не можам стаяць тут. Выконваючы загад нашага караля, мы зараз жа сядзем на коней, пакінуўшы вазы і ўсе нашы рэчы, і рушым у сталіцу. Там нам не складана будзе расказаць цару, як вы з намі абыходзіцеся. Калі хочаце нас затрымліваць, затрымлівайце не тут, а калі мы сядзем на коней. Мы будзем рухацца наперад, нягледзячы ні на якія перашкоды.

Прыставы тлумачылі:

— Мы не можам вас праводзіць звычайнай дарогай па прычыне яе вузкасці і розных нязручнасцей.

Тады пан Сапега ўступіў у гутарку з прыставамі. Ён сказаў ім:

— Мы сюды прыехалі не для таго, каб марна траціць час. Мы павінны выканаць волю нашага караля. Нам не патрэбныя спецыяльныя дарогі. Калі вы не жадаеце нас суправаджаць, мы рушым у дарогу без вас. Шаблі нашых людзей, а

таксама мае продкі — дзед і бацька, падчас здзяйснення пасольстваў, — праклалі для нас добрыя дарогі.

Збянтэжаныя моцнымі словамі паслоў, прыставы пайшлі ад іх. Затым яны звярнуліся да пана Мадаленскага:

— Гэта горш за бізуны, калі вялікія паслы абураюцца.

Увечары прыставы прыйшлі да пана Сапегі і далі яму ведаць, што яны гатовыя праводзіць паслоў звычайнай дарогай.

У той жа дзень пан Сапега, з-за недахопу кармоў, адправіў назад некалькі вазоў і некалькі дзясяткаў чалавек. Пан Песачынскі прасіў Сапегу не адсылаць людзей і падводы назад. Па яго перакананні, неабходна было падтрымаць прэстыж пасольства ў Маскве і не быць абсмяянымі там.

Па даручэнні паслоў я адправіў лісты да яго вялікасці караля.

*Вайсковыя артыкулы і ніжэй змешчаны ліст, падрыхтаваны для абвяшчэння ўсім.*

Паны паслы, якія кіруюцца добрай радай і супольнай згодай, увасабляюць годнасць яго каралеўскай міласці. Яны, перадусім, шчыруюць дзеля бяспекі і дабра таго народа, да якога выязджаюць. Толькі ад іх залежыць, ці здабудуць яны славу і пашану.

Іх міласці паслы мусяць імкнуцца, каб паміж усімі, хто накіроўваецца з пасольствам, панавалі спакой, згода, узаемная міласць і шанаванне. Аніякіх сварак, цяганіны, крыкаў і розных звадак сярод іх не павінна быць.

Усялякія эксцэсы, калі яны надарацца, будуць разглядацца ў двухбаковым судзе, які іх міласці паслы створаць з прадстаўнікоў двух народаў. Вінаватыя будуць жорстка пакараныя, паводле артыкулаў вайсковага права, пра якія неабазнаныя няхай спытаюць у абазнаных.

На працягу ўсяго шляху руху пасольства павінен захоўвацца выключны парадак. Адзін на аднаго не павінен наязджаць, не спіхваць з дарогі, не заязджаць наперад. Кожны мусіць пільнаваца вызначанага месца.

Калі некаму ўчынена шкода, ён не мае права дамагацца справядлівасці праз сварку і лямант, а абавязаны цярпліва паведаміць пра бясправуе свайму старэйшаму і ў судзе спакойна распавесці пра здарэнне.

Кожны павінен слухаць трубы і пабудкі, а таксама без затрымкі выконваць каманды аб спыненні на адпачынак і пачатку далейшага руху пасля прыпынкаў.

Калі нехта не згодны выконваць вызначаны парадак і даведзеныя ўсім артыкулы, няхай сумленна пра гэта спытае сябе, і мяжы з іх міласцю панамі пасламі не перасякае, а вяртаецца назад дадому.

Два суддзі, якія мусяць ажыццяўляць усе суды падчас пасольскай місіі: з боку Кароны — пан Ажэхоўскі, з боку Вялікага Княства Літоўскага — яго міласць пан Ерашынскі, падсудак рэчыцкі.

*9 у пятніцу*. Прыйшлі прыставы і паведамілі, што ўсе падводы сабраны і яны самі гатовыя, каб праводзіць далей паслоў. Не затрымліваючыся, мы ў той жа час выехалі з Вязьмы. Начавалі ў Царовым Займішчы. Там каля 40 хацін. Праехалі 8 міль па пратаптанай дарозе і па глыбокім снезе, які даходзіў коням да пуза. Таму коні рухаліся з вялікай цяжкасцю.

Прыставы прынеслі раманеі, віна і агародніны, а таксама падагналі неабходную колькасць фурманак, памятаючы пра ўчарашнія прэтэнзіі да іх.

*10 у суботу*. Выехалі рана. На начлег спыніліся ў Калачынскім манастыры. Шлях быў складаным і пустынным. За час дарогі не бачылі ніводнай хаціны. Рухаліся па вельмі глыбокім снезе.

*11 у нядзелю*. Да іх міласці паноў паслоў рана прыйшлі прыставы. Старэйшы прыстаў Філон, ад імя думных баяраў, звярнуўся да паслоў:

— Прыйшлі да вас, вялікіх паслоў, сказаць ад імя баяраў, думных людзей, якія даслалі да нас грамату. У той грамаце паведамляецца, што вы парушаеце

заключныя пагадненні і маеце з сабою больш людзей, чым было ўстаноўлена. Ты, Казімір Львовіч, маеш з сабой вельмі вялікую колькасць сваіх людзей. Твае таварышы — Песачынскі і Вяжэвіч — правільна зрабілі, што ўдвух узялі менш людзей, чымся ты адзін. Ты да таго ж прывёў з сабой гайдукоў. Вы, вялікія паслы, прыйшлі да нас, каб гаварыць аб добрай справе, а не на бойку. Таму вам варта частку людзей адправіць назад.

*Водпаведзь маскавітам.*

Дзівімся з незвычайнага гонару і пыхі нашых братоў — думных баяраў! Не разумеем іх непаважлівых да нас адносін! Хочуць вучыць нас пасольскім звычаям і, пры гэтым, прагнуць камандаваць намі, свабоднымі людзьмі! Паведаміце ім або напішыце, што мы адправіліся ў шлях па волі нашага караля, а не па загадзе цара і думных баяраў. Наш кароль ведаў, каго і з чым накіроўваць. Вы беспадстаўна патрабуеце ад нас адаслаць назад пяхоту. З намі няма лішніх людзей. Мы едзем з такім суправаджэннем, з якім звычайна наведваем нашага караля. Пяхота нам заўсёды патрэбна ў дарозе для розных патрэб, — для аказання паслуг, дапамогі ў перамяшчэнні цяжкіх вазоў і для ўзвядзення мастоў.

Ведайце, мы прыедзем у сталіцу ў такім складзе, у якім вы нас цяпер бачыце. Мы і з Вязьмы выехалі не паводле вашага запрашэння, а таму, што не маглі дастаць корму для людзей і коней.

Што тычыцца харчавання, то думныя баяры няхай не хвалююцца. Значную частку ежы і фуражу мы набываем за свае грошы. Мы трацім асабістыя сродкі і не наносім ім аніякай шкоды.

Нагадайце думным баярам, нашым братам, каб яны перасталі ставіцца да нас з дурной пыхай. Мы не перастаём здзіўляцца з іх высакамернасці.

Атрымаўшы такую рэзалюцыю ад паслоў, прыставы сышлі.

Пасля святой літургіі ў яго міласці пана Сапегі адбылося снеданне, на якім прысутнічалі пан Песачынскі, пан Вяжэвіч і царскія прыставы. Падчас сняданку шмат гутарылі. Паслы пілі за здароўе караля і маскоўскага цара. Затым прыставы прамаўлялі тосты за здароўе манархаў.

Калі пан Песачынскі выпіваў за здароўе старэйшага прыстава Філона, ён казаў пра неабходнасць вечнага міру і ў заключэнне, разам са словамі падзякі, прамовіў:

— Калі свет здохне, то і лес засохне!

Прыстаў у адказ распавёў аб бязмежнасці царскіх уладанняў:

— У нашага гаспадара, яго царскай вялікасці, ёсць зямля, у якой водзіцца шмат усялякіх звяроў і белых мядзведзяў. У той зямлі ў кастрычніку пачынаецца ноч, якая доўжыцца да паловы лютага. У той зямлі людзі не жывуць. Яны бываюць там альбо праездам, альбо з нейкай мэтай. Прыязджаюць туды ў канцы лютага і да кастрычніка там жывуць, а затым назад вяртаюцца.

Потым прыставы з добрым настроем сышлі. Віно ўсё ўпарадкавала. Не лаяліся, як было ў пачатку.

Пасля сняданку паслы адправіліся ў дарогу. Праехалі 4 мілі. Начлег прыйшоўся на Мажайск.

Як і ў Вязьме, тут, у Мажайску, прыставы не жадалі пускаць нас у горад. Яны прапанавалі нам начлег у заняпалым прадмесці. Там не было нават добрых чорных хат, а пра белыя хаты — і чуць не чулі! Такім мізэрным было іх існаванне!

*12 у панядзелак*. На ноч прыставы праводзілі нас у вёску Алексіна. Там усяго восем хацін. Праехалі чатыры мілі. Дарога была вельмі дрэннай. Вёска знаходзілася ў мілі ад галоўнай дарогі, таму давялося звярнуць убок. Большая частка двара пана Сапегі ўлегцы адправілася ў Кубінск.

Пан Вяжэвіч прыйшоў наведаць пана Песачынскага. Затым Вяжэвіч запрасіў туды прыставаў.

Пан Аляксандр Песачынскі паведаміў прыставам:

— Мы маем распараджэнне нашага караля, таму павінны неадкладна ехаць да вашага ўладара. Мы, выконваючы волю нашага манарха, гатовыя птушкамі паляцець у сталіцу. Але вы нам чыніце ўсякія перашкоды, на начлег адпраўляеце далёка ў бок ад гасцінца. Калі вы робіце з намі так па сваім меркаванні, то тэрмінова паведаміце пра гэта вашаму цару. Калі ж вы выконваеце загад думных баяраў, тэрмінова напішыце ім, каб яны не стваралі непатрэбных перашкод на шляху пасольства.

Прыставы паабяцалі напісаць. Нашы людзі пазней бачылі, што прыставы і на самай справе пісалі думным баярам пра нашу заклапочанасць.

*13 у аўторак*. Начлег прыйшоўся на Кубінск. Праехалі 4 мілі. У Кубінску налічвалася каля 60 хацін.

Мы раней шмат чулі аб пакаранні парушальнікаў закона ў Маскоўскім княстве. Тут жа мы змаглі на свае вочы ўбачыць, як сурова караюць злачынцаў. У той галодны час у іх было прынята рашэнне аб закрыцці ўсіх шынкоў. Усім і ва ўсіх месцах забаранялася гнаць гарэлку і варыць піва. Нашы купцы везлі ў Маскву гарэлку на продаж. Маскоўскія людзі гатовыя былі пераплачваць за яе і без усялякай меры піць з нашымі возчыкамі. З-за гарэлкі вясковыя халопы ўчынялі крывавыя бойкі. Яны збівалі адзін аднаго палкамі, дугамі, аглоблямі, пугамі. Біліся, хто чым мог.

Убачыўшы бясчынства, прыставы загадалі стральцам схапіць задзір. Ім прызначылі па некалькі дзясяткаў удараў бізуном. Калі задзір збівалі, іх па чарзе паварочвалі на чатыры бакі свету. Аднак, устаўшы з зямлі, халопы дзякавалі за ласку і мірна адыходзілі, нібы нікому нічога дрэннага не зрабілі.

Прыставы прыйшлі да пана Сапегі і папрасілі, каб ён загадаў купцам не прадаваць больш гарэлкі. Яго міласць пан Сапега загадаў старэйшаму слузе спыніць продаж гарэлкі.

Прыставы таксама папрасілі пана Сапегу, каб ім далі спіс дваран, слуг, маладых людзей і ўсяго складу пасольства, каб адправіць яго думным баярам для азнаямлення. Думныя баяры жадалі ведаць, колькі з пасольствам едзе ўсіх людзей і якіх саслоўяў. Неўзабаве прыставы атрымалі падрабязны спіс усіх удзельнікаў пасольскай місіі. Прыставы адразу ж адправілі спіс у сталіцу.

*14 у сераду*. Начавалі ў Вязёмах. Праехалі 4 мілі. Хацін там каля 70. Туды прыставам прыйшла грамата ад цара і думных баяраў. У ёй гаварылася, каб мы да пятніцы былі ў сталіцы. Прыставы прыйшлі да паслоў і паведамілі ім гэтую прыемную навіну.

*15 у чацвер*. Начавалі ў Тушына. Па словах прыставаў, праехалі 6 міль, а на самай справе, больш за 10. Дарога была дрэнная, узгорыстая. Мы тройчы пераязджалі Маскву-раку. Мабыць, нам хацелі паказаць вёскі, што раскінуліся па берагах ракі. Да гэтага часу мы ехалі пустынным шляхам. Тут мы ўбачылі добра ўладкаваныя паселішчы.

*16 у пятніцу*. Да паслоў прыехаў баярын са сталіцы. Ён паведаміў, што цар выслаў насустрач паслам князя Міхаіла Казлоўскага і Грыгорыя Гарыхвостава з таварышамі. Яны павінны былі сустрэць паслоў у пяці мілях ад Масквы.

Паснедаўшы, паслы адправіліся ў дарогу. Калі паслы былі ўжо ў дарозе, да іх прыскакаў сотнік Малюта. Ад імя Казлоўскага і Гарыхвостава ён прасіў паслоў не трымаць зла за тое, што тыя не змогуць сустрэць паслоў каля рэчкі Ходынкі. Ён казаў, што гэта зроблена і для карысці паслоў, каб яны мелі магчымасць адпачыць. Малюта пры гэтым заяўляў, што калі паслы будуць настойваць, то іх усё ж сустрэнуць каля Ходынкі.

Перад рэчкай Ходынкай да нас пачалі пад’язджаць розныя людзі — немцы, маскавіты, татары. Яны з цікаўнасцю разглядалі нас. Людзі прыязджалі цэлымі палкамі, натоўпамі і паасобку, як каму падабалася. Чым бліжэй мы набліжаліся да сталіцы, тым больш людзей прыходзіла паглядзець на нас. Сярод тых, хто нас

сустракаў, былі і багата апранутыя людзі, на дыхтоўных конях, а таксама шмат простых людзей.

Калі мы набліжаліся да сталіцы, па абодва бакі дарогі, на працягу паўмілі, шчыльна стаялі людзі. Іншыя з іх беглі па баках, суправаджаючы наш абоз. Зірнуць на нас прыязджалі таксама баяры. Яны былі апранутыя ў каштанавыя касцюмы, на выдатных конях. Ні адзін з іх, аднак, не сказаў нам ні слова. Пагледзеўшы, баяры з'язджалі да сваіх.

Набліжаючыся да сталіцы, мы рухаліся павольна. За чвэрць мілі ад горада, ці як кажуць маскавіты, за вярсту, нас з вялікім картэжам сустрэлі афіцыйныя асобы: князь Міхаіл Рыгоравіч Казлоўскі, Грыгорый Іванавіч Гарыхвостаў, Мікіта Навумовіч Ніглецкі, а таксама дзякі — Міхаіл Васільевіч Нявераў і Неронаў (Няўноў). Яны пад'ехалі на конях і спыніліся з левага боку ад карэты паслоў. Паслы таксама спыніліся, але не выходзілі з карэты.

Праз прыставаў, царскія пасланцы, якія сустракалі гасцей, папрасілі паслоў высаджвацца з карэты. Яны перадалі, што пасланыя царом для сустрэчы вялікіх паслоў абгаварыць з імі некаторыя пытанні.

Вялікія паслы адказалі праз прыставаў:

— Мы не станем выходзіць з карэты. Хай яны спачатку спусцяцца з коней, пешшу падыдуць да нас і перададуць прадпісанні цара. Да таго часу мы не выйдзем з карэты.

Дэманструючы звычайную грубасць і пыхлівасць, маскавіты заявілі:

— Мы не спусцімся з коней. Усю ноч будзем тут стаяць, пакуль яны не высадзяцца з карэт.

Паслам не спадабаўся такі ультыматум. Пан Песачынскі адказаў:

— Нават калі нам на гэтым полі трэба будзе змерзнуць, трываць невыносны голад і нават скласці нашы галовы, мы не паступім інакш. Мы, як вялікія паслы, накіраваныя яго вялікасцю каралём, не будзем губляць нашага гонару.

Прастаялі некалькі гадзін у чаканні. Пачало ўжо хіліцца да вечара. Прыставы зразумелі, што паслы не выйдуць з карэты, пакуль царскія людзі не сыдуць з коней і не падыдуць да іх.

Нарэшце прыставы паведамілі, што баяры хацелі б спусціцца з коней і падысці да паслоў першымі, але просяць, каб і паслы выходзілі з карэты.

Жадаючы пакараць царскіх прадстаўнікоў за грубасць, паслы заявілі ім, што ў нас не прынята выходзіць на левы бок. Яны запатрабавалі, каб сустракаючыя перайшлі на правы бок. Тыя выканалі просьбу паслоў і пераехалі на правы бок карэты. Затым яны спусціліся з коней, падышлі да карэты паслоў і спыніліся ў некалькіх кроках ад яе.

Паслы выйшлі з карэты, але не адыходзілі далёка ад яе. Баяры прасілі паслоў падысці да іх:

— Мы спусціліся з нашых коней, і адышлі далёка ад іх. Вы ж не хочаце насустрач нам зрабіць і кроку. Вы прыніжаеце гонар яго царскай вялікасці. Мы прыехалі сустракаць вас не ад сябе, а паводле распараджэння нашага цара. Вы ж вельмі непрыгожа робіце.

Затым Гарыхвостаў дадаў:

— Казімір Львовіч Сапега, твой бацюшка Леў Іванавіч Сапега — ваявода віленскі, вялікі гетман і першы канцлер — бываў у нас паслом для здзяйснення добрых спраў. Ён прыязджаў да ранейшых, светлай памяці, цароў. Ён добра ведаў звычаі і пасольскія нравы і не паступаў з намі гэтак, як робіце вы.

Адказваў ім пан Сапега:

— Мне добра вядома, што мой бацька тут паслом бываў і як ён паступаў з вашымі гаспадарамі і з вамі. Я іду яго слядамі і хачу абыходзіцца з вамі гэтак, як абыходзіўся мой бацька і як належыць абыходзіцца вялікаму паслу, які прыехаў здзейсніць вялікую справу.

Пан Песачынскі таксама звярнуўся да маскавітаў. Ён сказаў прамову на іх мове, каб яны лепш зразумелі яго:

— Калі б вы доўга з намі не таргаваліся, мы б выйшлі з карэты і самі да вас падышлі. Не хораша вы робіце. Так не прымаюць гасцей, з якімі хочуць жыць у любові і якія прыехалі для падпісання вечнага міру. Вы не ўдзячныя. Адмоўцеся ад сваіх грубых нораваў. Вам бы нас, вялікіх паслоў, варта было б з дабром і падзякай прымаць. Вы ж нас памарозілі, без патрэбы доўга трымалі ў полі.

Казлоўскі адказваў:

— Акажыце вы, вялікія паслы, нам хаця б крыху вашай павагі. І мы з вамі таксама пачнём па-братэрску абыходзіцца.

Паслы таго ж запатрабавалі ад маскавітаў. Тады царскія прадстаўнікі зрабілі некалькі крокаў насустрач. Паслы таксама да іх наблізіліся.

Князь Міхаіл Казлоўскі зняў шапку. За ім рушылі ўслед ўсе астатнія і знялі галаўныя ўборы.

Князь сказаў:

— Вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхаіл Фёдаравіч, усяе Русі самаўладца і многіх дзяржаў гаспадар і ўладальнік, даслаў нас дваран, сваіх халопаў, да вас, вялікіх паслоў Уладзіслава Чацвёртага, Божай ласкай караля польскага, вялікага князя літоўскага і іншых. Цар загадаў нам сустракаць вас і прымаць. Яго царская вялікасць пытаецца, ці добра вы даехалі і ці ў добрым здароўі прыбылі ў Маскву.

Адказваў пан Песачынскі:

— Дзякуем яго царскай вялікасці за гасціннасць і клопат. Дзякуй богу, прыехалі ўсе ў добрым здароўі.

Прамовіў Гарыхвостаў:

— Яго царская вялікасць пытаецца вас, ці мелі вы, вялікія паслы, дастаткова людзей і коней у дарозе, і ці добра вы жылі ў дарозе.

Адказваў пан Сапега:

— Мелі столькі, колькі нам давалі. І за тое дзякуем.

Убачылі дваране, што нас у шляху забяспечвалі вельмі сціплым правіянтам.

Яны сказалі паслам:

— Вялікія паслы, не здзіўляйцеся. Зямля ў тых краях занадта спустошана. Не было вам чаго даваць. Але тут усяго ў дастатку. Усё кампенсуецца вам, дваранам, і вашым коням. А цяпер яго царская вялікасць загадаў паказаць вам двор.

Узаемныя папрокі і гандаль пра сыходжанне з коней, пра крокі паслоў насустрач баярам доўжыліся гадзіны дзве ў тым месцы, дзе нас сустрэлі. Нарэшце абодва бакі супакоіліся і прыйшлі да згоды. Паслы і баяры цёпла віталі адзін аднаго. Пасля гэтага царскія баяры селі на сваіх коней, а паслы на сваіх, і рушылі ў горад.

*Уезд быў такі.*

Спачатку ехалі два пакаёвыя яго міласці пана ваяводзіча віленскага — пан Палубінскі і пан Вайніловіч.

За імі аб’езджаныя коні, яго міласці ваяводзіча, — пяць выдатных скакуноў, упрыгожаных пазалочанымі капамі і шосты з каштоўным казацкім сядлом — адкрытым. А за імі вялі пару асядланых коней пана камянецкага.

Пасля коней стройна ехалі дваране іх міласцяў паслоў. Яго міласці ваяводзіча віленскага, на выдатных конях, каштоўна аздобленых — 21 асоба. Некаторыя з іх сядзелі з крыламі з белых пёраў. Яго міласці пана камянецкага — 6 прыяцеляў, 2 слугі. Яго міласці пана Вяжэвіча — 2 слугі.

Дзякі ехалі перад іх міласцямі пасламі, а потым ехалі іх міласці паслы разам з царскімі дваранамі.

За іх міласцямі рухалася моладзь яго міласці ваяводзіча віленскага ў барвовай вопратцы на цудоўных конях — 26 асоб. Яго міласці пана камянецкага — 13 асоб. У канцы рухалася чэлядзь пана Вяжэвіча, а таксама вялікая грамада слуг і чэлядзі яго міласці пана ваяводзіча віленскага.

Драгунаў яго міласці пана камянецкага — 22.

Венгерскай пяхоты яго міласці пана ваяводзіча віленскага налічвалася 60 асоб. Яны былі ў чырвоных жупанах, у зялёных катанках, падшытых футрам, усе з пасярэбранымі нажамі і стрэльбамі, а таксама з іншым патрэбным рыштункам. Мушкеты ў іх віселі на рамянях. Пяхота рухалася па абодвух баках у парадку адзін за другім.

Напрыканцы вазы іх міласцяў паноў паслоў. Тут жа калёсы са скарбам, кухоннымі рэчамі і вінамі ішлі парадкам.

Завяршалі поезд купцы сваім табарам, на санях і падводах.

Коннікаў, якія выехалі нам насустрач, магло быць каля дзесяці тысяч. А ў горадзе люду — на тых вуліцах, якімі мы ехалі, — на зямлі, у вокнах, на дахах цэркваў і дамоў, была незлічоная колькасць.

Праводзілі нас з Цвярскога прадмесця ў Белы горад. А ў Кітай-горад — праз другую браму.

У той другой крэпасці, названай Кітай-горад, далі нам двор. Ён быў непадалёк ад Крым-горада, новы, але вельмі цесны і не вельмі зручны.

Іх міласцям панам паслам далі асобныя гмахі, паблізу сябе.

Слугам прыйшлося размяшчацца паўсюль, паводле магчымасці.

Праз гадзіну пасля прыезду, калі пачало ўжо змяркацца, прыйшоў да іх міласцяў дзяк. Ён сказаў: «Царская вялікасць вас, вялікіх паслоў, даруе. Пасылае вам царкоўнае віно — раманею, мёд, рыбу і ўсякія прысмакі».

Усё, што ім было прывезена, прачытаў у рэестры іх міласцяў.

*17 у суботу*. Сышліся іх міласці да пана камянецкага. Туды да іх прыйшлі дваране — Карскі, Казлоўскі і Гарыхвостаў з таварышамі, а таксама нашы приставы.

Іх міласці паслы прапанавалі прыставам: «Данесці ад нас думным баярам, братам нашым, каб яны білі чалом цару ад нас і ад сябе і прасілі яго прыняць нас да аўторка, за дзень да прызначанай даты. Каб ён не прапусціў вызначанага раней дня і прынёс прысягу, як папярэдне дамоўлена. Таксама перадаць, што нас вельмі ўразіла тое, што з намі абыходзяцца не як з пасламі, а як з палоннымі. Закрылі нас у вельмі цесным двары, у якім па некалькі дзясяткаў чалавек жывуць у адной ізбе. А пяхота і вялікая колькасць коней наогул стаяць на падворку пад адкрытым небам. Там жа знаходзяцца купцы і драбнейшая чэлядзь. Да таго ж, нас вакол двара акружылі вартай — стральцамі. Мы вольныя людзі, якія сюды прыехалі паводле добрай волі. Пра ўсё гэта просім вас, думных баяр, братоў нашых, паведаміць цару. Каб ён загадаў гэтак не паступаць з намі. Пры ўсёй цеснаце нашы людзі і коні ў дадатак церпяць яшчэ і голад. Да нас даходзіць вельмі скупы харч, а ў горад для набыцця патрэбных рэчаў нам забаронена вольна выходзіць».

Маскавіты, як народ паняволены, нічога на тое не сказалі. Яны толькі паабяцалі пра ўсе нашы клопаты перадаць думным баярам, а таксама прынесці іх міласці паслам адказ ад іх. Яны ад’ехалі і адразу накіраваліся да замка.

Увечары прыйшлі приставы да яго міласці пана камянецкага з адказам. Яго міласці пана ваяводзіча віленскага там не было. Приставы там крыху пасядзелі і, не зрабіўшы адказу, пайшлі.

*18 у нядзелю.* Пасля малебна сышліся іх міласці ў ізбе пана камянецкага. Туды приставы прынеслі ім адказ ад думных баяр на ўчарашнія іх прапановы.

Думныя баяры адказалі: «Нельга вам, вялікім паслам, у тую пару, як вы хочаце, быць у царскай вялікасці. У гэтыя дні царская вялікасць занятыя набажэнствамі і духоўнымі справамі. А тое, што вы казалі аб варце, што стральцы вас і вашых людзей аберагаюць у двары і не выпускаюць з двара, дык гэта ў нас так заведзена. Пакуль паслы не ўбачаць годных царскіх вачэй, да таго часу будзеце пад вартай. Толькі потым, пасля аўдыенцыі, зможаце свабодна выходзіць з двара ў горад».

Выслухаўшы адказ, яго міласць пан ваяводзіч віленскі, прамовіў: «Дзівуемся з вычварэнстваў вашага народа. Вашы старэйшыя і вы ўсе чыніце перашкоды гэтакай добрай і Божай справе. Бо ёсць жа за што Пана Бога хваліць, які спыніў праліццё крыві паміж хрысціянамі. А вы не ўдзячныя дабрачыннасці Божай і ласцы яго міласці караля нашага. Вашы паслы каля рэчкі Палянаўкі ўчынілі даканчальныя запісы і цалаваннем крыжа пацвердзілі агавораныя дні. Або яны не мелі з сабой святароў і календароў, каб усё дакладна выверыць? Калі ў тыя дні нешта перашкаджала, маглі б перанесці прысягу на іншы час. Але чаму б нам у гэтыя святыя дні не здзейсніць гэтую вялікую, прыемную Богу і мілую добрым людзям справу! Мы ад імя яго міласці нашага караля прыехалі ў прызначаны час і рыхтуемся належным чынам завяршыць распачатую справу. Таму патрабуем, каб папярэдне да цара наведаліся».

Яго міласць пан Вяжэвіч ва ўнісон яму гэтаксама прамовіў: «Спадзяюся, вы зразумелі, што сказаў яго міласць. Таго ж і я патрабую».

Яго міласць пан камянецкі потым дадаў: «Я не хачу страціць маёй душы з-за таго, што прысягнуў на тыя даканчальныя запісы. Няхай не загінуць і вашы душы, што перашкаджаеце, а таксама вашых вялікіх паслоў, а па-нашаму камісараў, якія прысягнулі ў тым, што 10 лютага, паводле вашага календара, павінен быць вечны мір паміж нашымі гаспадарамі і гаспадарствамі, пацверджаны царскай прысягай. Дарэмна тады нас марынуеце. Бо калі захочаце далей затрымліваць, давядзецца нам атрымліваць новыя інструкцыі ад яго міласці нашага караля. Потым будзе вам вядомы іх вынік, калі дойдзе да таго. Таму давайце мы сядзем на нашых коней і паедзем да цара. Знойдзем спосаб прыйсці да яго. Той, хто пачне перашкаджаць, не зазнае радасці. Увесь свет будзе ведаць, што разарванне распачатай справы адбудзецца не па віне яго міласці нашага караля і не па нашай, яго паслоў, віне. Меч царскі, а шыі нашы. Мы гатовы за годнасць караля яго міласці галовы нашы скласці, каб не толькі Богу, які ведае пра ўсе, але і ўсяму свету была вядомая наша праўда і вашае вычварэнства. За яго непазбежна Божая помста вісіць над вамі. Таму хочам быць у вашага гаспадара і выконваць цалкам загад яго міласці нашага караля».

На тое Гарыхвостаў адказаў: «Немагчыма вам, вялікім паслам, у бліжэйшыя дні быць у царскай вялікасці. На наступным тыдні дапусціць вас да сваіх годных вачэй. А калі хацелі хутчэй быць у нашага гаспадара, чаму не прыехалі крыху раней?»

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі зазначыў: «Калі б мы і раней прыехалі, хоць мы і цяпер не спазніліся, усё адно давялося б чакаць прызначанага дня. Нават, калі вы і кажаце пра ранейшую сустрэчу з вашым гаспадаром, яе належыць праводзіць акурат у той дзень, які пазначаны ў заключных запісах, за які і вашы паслы цалавалі крыж. Чаму вы займаецеся ашуканствам, спасылаецеся на набажэнства, не зважаючы на тое, што мы прыехалі раней за вызначаны час? Апрача таго, паводле нашых разлікаў і нашай язды, мы былі б тут у вас яшчэ раней на некалькі дзён. Але ваш Філон затрымаў нас у Вязьме прынамсі на тры дні. Мы нават хацелі насуперак яму ўзяць нашы вазы, усе рэчы і самастойна ехаць у сталіцу. Гэтаксама пасля Вязьмы нас наўмысна прымушалі далёка збочваць на частыя начлегі, каб нас і надалей даўжэй затрымаць у дарозе».

Прыставы адказалі: «Філон сцвярджае, што вас прыспешваў, але вы, вялікія паслы, ехалі павольна».

Прамовіў пан Вяжэвіч: «Ён бы засароміўся з-за сваёй хлусні, каб тут знаходзіўся».

Казлоўскі рэзка выказаўся на тыя словы: «Кажаце, што хацелі сесці на вашых коней і самастойна ехаць у сталіцу. Ды і цяпер хочаце самаўладна да гаспадара ехаць. Ня дапушчальна вам тут, у царстве нашага вялікага гасудара, такім чынам ездзіць. Гэта вам не ў Літве і не ў Польшчы!»

Адказаў яго міласць пан камянецкі з абурэннем: «Мы не халопы вашага цара, як вы! Мы вольны народ! Мы да вас прыехалі паводле ўласнай волі. Таму, калі не будзе ўсё зроблена ў прызначаны дзень, мы, сцяўшы нашыя вусны, хацелі б вольна ад'ехаць адсюль».

Казлоўскі паўтарыў, тое, што сказаў раней.

А яго міласць пан камянецкі адказаў яму: «Ты хоць ведаеш, што мне з табой наогул не выпадае размаўляць, бо ты мне ня роўня. Я вольны шляхціч, а вы — халопы гаспадарскія! Калі ты сядзеш тут, насупраць мяне, то гэта толькі з-за маёй чалавечнасці і майго высакародства! А за ваш падман, хлусню і непатрэбную валакіту, гатовы з табой і з кожным з вас сустрэцца па-за межамі пасольства і зброяй паквітацца. Зразумейце, кожнага з вас, хто сюды прыехаў, гатовы прымусіць шанаваць годнасць яго міласці нашага караля».

Казлоўскі адказаў: «Не той цяпер час, каб казаць пра асабістыя перавагі. Ты, Аляксандр, вельмі высокімі словамі прамаўляеш!»

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі сказаў яму: «Ты, халоп, дурноцце кажаш!»

Гарыхвостаў прыкрываў свае паводзіны і словы хітрасцю. Гэтаксама Казлоўскі часта ўрываўся ў размову са сваёй грубасцю. Пасля гэтакага «ўшанавання» адышлі да сваіх ізбаў, якія знаходзіліся ў тым жа пасольскім двары.

Увечары, яго міласць пан камянецкі і пан Вяжэвіч сустрэліся ў яго міласці пана ваяводзіча віленскага і ўсё абмеркавалі паміж сабой.

*Дваране яго міласці караля.*

Пры яго міласці пану камянецкім прыяцелі, а пры яго міласці пану ваяводзічу віленскім слугі яго вялікасці за дваран былі.

Тут спіс усяго двара яго міласці.

Яго міласць пан Якуб Кароль Мадаленскі, войскі мсціслаўскі, дваранін караля яго міласці пры яго міласці ваяводзічу віленскім з Вялікага Княства Літоўскага.

Яго міласць пан Крэтоўскі пры яго міласці пану камянецкім з Кароны.

Яго міласць пан Еранім Цехановіч, падсудак смаленскі, дваранін караля яго міласці з Вялікага Княства Літоўскага. Чэлядзі — 5. Коней — 8.

Яго міласць пан Масальскі, падстолій браслаўскі, дваранін караля яго міласці з Вялікага Княства Літоўскага. Чэлядзі — 5. Коней — 8.

Яго міласць пан Крыштоф Цеханавецкі, падстолій мсціслаўскі, дваранін караля яго міласці з Вялікага Княства Літоўскага. Чэлядзі — 5. Коней — 8.

Яго міласць пан Трэінскі, дваранін караля яго міласці з Кароны.

Яго міласць пан Глагоўскі, дваранін караля яго міласці з Кароны.

Яго міласць пан Галімскі, стольнік аршанскі, дваранін караля яго міласці з Вялікага Княства Літоўскага. Чэлядзі — 5. Коней — 7.

Яго міласць пан Гіроўскі, дваранін караля яго міласці з Кароны.

Яго міласць пан Мікалай Нерашынскі, падсудак рэчыцкі, дваранін караля яго міласці з Вялікага Княства Літоўскага. Чэлядзі — 5. Коней — 8.

Пан Ольштынскі, каморнік караля яго міласці.

Такім парадкам дваране караля яго міласці з Кароны і з Вялікага Княства Літоўскага былі ў рэестры.

*Іншая асістэнцыя (суправаджэнне) яго міласці пана ваяводзіча віленскага.*

Айцы Ордэна Ісуса Хрыста.

Айцец Тамаш Юргевіч.

Айцец Сімяон Пакулевіч.

Яго міласць пан Еранім Пястрэцкі, старэйшы слуга. Чэлядзі — 5. Коней — 6.

Яго міласць пан Пётр Юдзіцкі. Чэлядзі — 5. Коней — 6.

Яго міласць пан Гіларыуш Чыж. Чэлядзі — 5. Коней — 6.

Яго міласць пан Стафан Швяйкоўскі. Чэлядзі — 5. Коней — 6.
Яго міласць пан Аляксандр Прыстаноўскі. Чэлядзі — 4. Коней — 5.
Яго міласць пан Станіслаў Кошчыч. Чэлядзі — 4. Коней — 5.
Яго міласць пан Марцін Кошчыч. Чэлядзі — 4. Коней — 5.
Яго міласць пан Андрэй Дзевялтоўскі. Чэлядзі — 3. Коней — 4.
Яго міласць пан Крыштоф Міхалоўскі. Чэлядзі — 3. Коней — 4.
Яго міласць пан Андрэй Кмітавіч. Чэлядзі — 3. Коней — 4.
Яго міласць пан Ян Міланоўскі. Чэлядзі — 3. Коней — 4.
Яго міласць пан Ян Бярнацкі. Чэлядзі — 3. Коней — 4.
Яго міласць пан Казімір Корсак. Чэлядзі — 2. Коней — 3.
Яго міласць пан Ян Прушаноўскі, ротмістр пешы. Чэлядзі — 2. Коней — 3.
Яго міласць пан Адам Ян Кражановіч. Чэлядзі — 2. Коней — 2.
Пан Якуб Кал, лекар.
Пан Захарыаш Шуле, цырульнік.

Кожны са слуг меў дадатковых коней і чэлядзь. На ўсіх дваран і ўсіх слуг выдаваўся аброк.

*Моладзь.*
Пан Мікалай Палубінскі, падскарбій і старшы пакаёвы.
Лукаш Длускі, канюшы.
Пан Імануэль Бжастоўскі.
Пан Ян Княжэвіч.
Пан Ян Дабашынскі.
Пан Траян Вайніловіч.
Пан Леў Дзюканіцкі.
Пан Аляксандр Пашкоўскі, шафар.
Пан Ежы Ятолд, станоўнічы.
Пан Ольбрыхт Празмоўскі.
Пан Габрыэль Піскун, кухмістр.
Пан Ян Вілканец.
Пан Казімір Казёл.
Пан Станіслаў Дзевялтоўскі.
Пан Мікалай Яновіч.
Пан Ян Станіслаў Станскі.
Пан Самуэль Яцыніч.
Пан Ян Раецкі.
Пан Ян Кошчыц.
Пан Пётр Рудаміна.
Пан Дамеры Француз.
Пан Стафан Дэмбінскі.
Пан Якуб Май.
Мелі пахолікаў: Канстанты Гратоўскі, Фрыдрых Ролехаус Шварц.
Піўнічы — Ян Колышка.
Мужыкоў — 4.
Халопаў у іх — 4.
Пяхоты — 60.
Сталовыя — 2.
Трубачы — 2.
Кравец і чэлядзь у яго — 2.
Кухоннай чэлядзі — 14.
Стаеннай чэлядзі — 33.

Кожнаму з маладых людзей на пару коней выдаваўся аброк, хаця іншыя і таго меней мелі. І на аднаго чалядніка выдавалася страва.

*19 у панядзелак.* Неўзабаве, як паны паслы наогул сышлі, прыставы прынеслі ад думных баяр грамату. Падчас уручэння граматы яны патлумачылі прычыны ўласных паводзінаў. Прыставы яшчэ раз паведамілі, што цар у тыя дні, напачатку посту, выконвае звычай сваіх продкаў. Ён прытрымліваецца царкоўных правілаў і не займаецца ані публічнымі, ані прыватнымі справамі. Ён цэлыя дні праводзіць у царкве, моліцца Богу са слязамі на вачах. Не апранае нават аздобленых сукняў, ходзіць у простым адзенні. Цалкам пакладаецца на Бога, таму нават ніводнаму чалавеку з думных баяраў, апрача спальнічых і акольнічых, да яго не дазволена хадзіць.

Яго міласць пан камянецкі мовіў да прыставаў:

— Скажыце думным баярам, няхай яны ад сябе цару б’юць чалом, каб нас неадкладна да цалавання сваёй рукі дапусціў.

Гарыхвостаў адказаў:

— Ніякай затрымкі з тэрмінамі і аніякага іх перагляду не будзе. Не адменіцца тое, у чым вашы вялікія паслы і нашы ў Палянаўцы крыж цалавалі. Калі цар завяршыць багамолле, ён выканае ўсё неабходнае і сваёй душой замацуе.

Сказаў яго міласць пан камянецкі:

— Мы, паслы, нібы мяхі, што ў нас пакладзена, тое і нясём. Таму, канечне, патрабуем, каб папярэднія запісы былі выкананы неаспрэчна. Вашым голым словам пра тое, што цар абяцае праз думных баяр выканаць усё своечасова, верыць небяспечна. Вы маеце камісарскую прысягу і запісы. Нельга ўсё адкладаць на прызначаны дзень прысягі, бо перад гэтым належыць яшчэ абгаварыць некаторыя артыкулы. Мы павінны ўжо раніцай быць у вашага цара. Калі ад яго асабіста пачуем, што з-за набажэнства зараз не можа ўсё неабходнае здзейсніцца і будзе адкладзена на пэўны час, мы будзем давяраць царскім словам і будзем мець цвёрдае пацвярджэнне добрага пачатку.

Масква была нібы замерзлая і не ўспрымала тыя цвёрдыя аргументы, якія часта паўтараліся.

Сказаў яго міласць ваяводзіч віленскі:

— Учарашні дзень стравілі і сённяшні дзень марнуеце, сеўшы на беспадстаўныя і смеху вартыя показкі. Нічога новага нам не прынеслі, толькі з тым набажэнствам на пляц выязджаеце, аб чым вам яшчэ ўчора дастаткова запярэчылі. Лепей будзьце з намі шчырымі. Каб скончыць пустыя спрэчкі, коратка і зразумела скажыце нам: «Не можа быць ніяк, як толькі царскай вялікасці будзе воля».

Затым запатрабавалі ад баяр канкрэтнага вуснага адказу ці пісьмовай граматы і з тым адышлі.

Іх міласці паны паслы дамовіліся міжсобку, калі ім дадуць адказ, вусны або пісьмовы, праз грамату, то яны на іх таксама будуць пісьмова адказваць. Спыніліся на тым, што і аб чым будуць пісаць у адказ.

*Грамата думных баяраў да іх міласці паноў паслоў.*

Вялікага валадара цара і вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самадзержца і многіх дзяржаў гаспадара і ўладальніка, яго царскай вялікасці баяры, думныя людзі загадалі нам гаварыць.

Загадвалі раней вялікі валадар наш, яго царская вялікасць, нам, баярам, думным людзям, каб вам быць у яго царскай вялікасці для завяршэння пасольства ва ўстаноўлены тэрмін —10 лютага. У той дзень вялікі васпан наш, яго царская вялікасць планаваў вечны мір замацаваць сваёй валадарскай душою, граматай і пячаткай.

І мы, царскай вялікасці баяры, думныя людзі, вам, вялікім паслам, тое аб’яўляем, што вялікі валадар наш, яго царская вялікасць, з братам сваім, з вялікім гаспадаром вашым, Уладзіславам, каралём польскім і вялікім князем літоўскім, братэрства, сяброўства і шагаванне будзе мець. І вечны мір сваёй гасударавай душой, граматай і пячаткай зацвердзіць паводле таго, як ободва вялікія паслы

дамовіліся. І перагляду пасольскіх дамоў з яго, царскай вялікасці, боку ні ў чым не будзе.

Аднак у той абумоўлены тэрмін — 10 лютага — вам у яго царскай вялікасці быць немагчыма і таго завяршэння нельга давесці да канца, таму што пачаўся посны час, першы тыдзень Вялікага посту.

І ў той першы тыдзень, ён, вялікі васпан, а таксама і мы, царскай вялікасці думныя баяры, і ўсе людзі, у той першы тыдзень посцім, гавеем і ачышчаемся постам, малітваю і слязамі на працягу ўсіх дзён, як завяшчалі святыя апосталы і святыя айцы. І перамяніць тое ніякімі мерамі немагчыма.

У тыя дні не толькі хроснага цалавання наш вялікі гасудар здзейсніць не можа, нават выхаду яго царскай вялікасці да баяраў не бывае. І баяры да яго, уладара, не ходзяць, і вачэй яго валадарскіх не бачаць. І дбаюць у тыя дні аб душэўных дабрадзейных справах.

І таму ў той дзень — 10 лютага — вам нельга быць каля яго царскай вялікасці. Таксама немагчымае падпісанне таго вечнага міру на першым тыдні, як і вялікага валадара нашага замацавання яго гаспадарскай душой.

А на наступным тыдні, вы, каралеўскай вялікасці вялікія паслы, у вялікага валадара нашага, у яго царскай вялікасці, на пасольстве будзеце. І справы іх дзяржаўныя, і пасольскі дагавор пачнеце рабіць паводле іх, валадароў, загадзе і пасольскай дамове, і вечнаму міру. І парушэнняў у тым паміж вялікімі васпанамі, і перашкод для іх брацкай дружбы і любові, не будзе аніякімі спосабамі.

А абодва вялікія паслы, будучы на з’ездзе, той тэрмін запісалі, не ўгледзеўшы таго, што той час прыпадае на першы тыдзень посту. І за такі кароткі тэрмін мірнай дамовы і вечнага сяброўства здзейснена не будзе.

А тое, што вы, вялікія паслы, казалі прыставам, то вялікі валадар наш, яго царская вялікасць, не дазваляе вам у той дзень быць на пасольстве. А калі вы, сеўшы на коней, паедзеце да вялікага ўладара нашага самі, без указу, то вас нікуды не пусцяць. І тое нанясе шкоду завяршэнню пачатай справы і падпісанню мірнай дамовы, і тады мір не ў мір будзе.

А ў мірнай пасольскай дамове запісана, што вялікім валадарам быць у брацкім сяброўстве і любові, і садзейнічаць усяму лепшаму. А калі здарыцца якаянебудзь сварка паміж дзяржавамі, адшукваць яе прычыны і ўсё мірна ўладжваць. А вы хочаце нанесці шкоду мірнай дамове. І мы, царскага вялікасці баяры, усімі тымі словамі вельмі здзіўлены, і што вы, вялікія паслы, кажаце такія непрыстойныя словы. Яны не спрыяюць брацкаму сяброўству, любові і вечнаму міру паміж вялікімі васпанамі. Зусім не выпадае вам прыязджаць да вялікага ўладара нашай дзяржавы і чыніць самавольства.

А загадалі вам казаць усё для таго, каб вы засвоілі, што правілы святых апосталаў і святых айцоў не парушаюцца аніякімі чалавечымі новаўвядзеннямі. А вы кажаце, што вашых людзей з двара не выпускаюць. Але ў Маскоўскай дзяржаве так павялося не нова, а з даўніх часоў. Твой, Казімір Львовіч, бацька, ваявода віленскі і гетман Леў Іванавіч Сапега ў Маскоўскай дзяржаве з пасольствамі бываў, і неаднаразова. І яго, з яго людзьмі, гэтак жа аберагалі, як і вас цяпер. Ніхто вас не няволіць, харчавання вам пастаўляюць дастаткова і корму коням даюць у поўнай меры.

Вы кажаце, што вам стаяць цесна, але тое па вашай віне. Бо вы загадзя не даслалі спісаў, колькі з вамі людзей будзе. Мы не чакалі такой колькасці людзей з вамі, а цяпер, па ўказу царскай вялікасці, загадана даць вам новыя памяшканні.

А тое, што вы хочаце пайсці самавольна, дык тое вам зрабіць не дазволяць. Вы сваёй упартасцю зняславіце сябе. Мы вам, вялікім паслам, нагадваем, што вам, без загаду царскай вялікасці на пасольства не варта ехаць і не ганьбіць сябе тым.

А мы жадаем мець паміж вялікімі васпанамі брацкага сяброўства і любові, а вам, вялікім паслам, — усякага дабра!

Аніякай даты і подпісаў у той грамаце не было.

*Адказ ад іх міласці паноў паслоў.*

Ад найсвяцейшага і вялікага гаспадара Уладзіслава Чацвёртага, Божай ласкай караля польскага і вялікага князя літоўскага і іншых, шведскага спадчыннага караля, ад нас, каралеўскай вялікасці вялікіх паслоў, адказ яго царскай вялікасці баярам і думным людзям.

Дасылалі надоечы праз дваран царскай вялікасці, князя Міхаіла Казлоўскага і Грыгорыя Гарыхвостава і іншых, да нас грамату вашую. У ёй даяце нам адказ на абгрунтаванае наша патрабаванне, каб вы прытрымліваліся дамоўных запісаў, здзейсненых паміж вялікімі пасламі абодвух валадароў і змацаваных хросным цалаваннем. Мы настойліва і неадкладна патрабуем, каб вялікі валадар і вялікі князь Міхаіл Фёдаравіч, цар усяе Русі, тую добрую справу ў прызначаны тэрмін сваімі валадарскімі скрэпамі, названымі ў запісах, замацаваў і зацвердзіў.

А вы той тэрмін на няпэўны час пераносіце, спасылаючыся на пост і набажэнства, чаму мы моцна здзіўляемся. Бо вашыя паслы на Палянаўцы не пярэчылі і ні ў чым не перасцерагалі, хоць сярод іх былі разумныя людзі, у тым ліку і духоўныя асобы.

А цяпер, калі мы прыехалі ў зацверджаны тэрмін, вельмі непрыстойна ўсё адкладаць, спасылаючыся на вялікі пост. Неабходна заключыць мір дзеля ўсіх нашых шырокіх зямель і народаў, над якімі ўладараць нашы васпаны. Бо справядлівая прысяга нікога не апаганіць, наадварот, — яна ачышчае і робіць Богу любым. Пра гэта сведчыць і Святое Пісанне, дзе гаворыцца: «Будуць пахвалены ўсе, якія на маё імя прысягаюць». Добрая справа ачышчацца постам і слязамі перад Царом Нябесным, але яшчэ лепш — здзейсніць прысягу і добрым пацвярджэннем спыніць праліццё крыві хрысціянскай, якой гэтак шмат і на працягу столькіх гадоў лілося! Злітуйся, Божа, над намі!

Пішаце пра тое, што мы непрыстойна і настырна дамагаемся таго, каб ехаць да вашага ўладара. Абвінавачваеце ў тым, што мы такім учынкам разрываем мірны пакт і прыязнасць. Пакідаем тое на ваш розум і ўсяго свету, хто з нас прыстойна паступае — мы ці вы? Мы прыехалі ў тэрмін і вам нагадваем аб тым, што прыйшоў час прысягі. Хіба ваша праўда, што не хочаце ў абумоўленыя тэрміны выканаць дагаворныя запісы і здзейсніць прысягу!? І пры гэтым пагражаеце нам нейкім сорамам, якога мы не баімся! Пакуль жыць будзем, наш гонар пры нас будзе! А калі міжнароднае і пасольскае права нас у вас не абароніць, гатовыя памерці за нашу праўду і за гонар найсвяцейшага гаспадара нашага і за гонар мілай Бацькаўшчыны, маці нашай!

А вам будзе заслужанае пакаранне ад Госпада Бога, які праўду любіць. І ад караля яго міласці пана нашага і ад усяго свету вам будзе пагарда, пра што час пакажа. Не тое мы спадзяваліся сустрэць у вас, братоў нашых, калі ехалі сюды з добрымі і канкрэтнымі намерамі!

Зыходзячы з нашых пасольскіх абавязкаў і прыстойнасці, мы павінны ўвесь час пра ўсё паведамляць каралю яго міласці і дзяржаве. А такое ваша з намі абыходжанне не толькі каралю яго міласці і нашай Бацькаўшчыне, але і ўсім іншым хрысціянскім манархам паказвае, як вы на справе выконваеце запісы і прысягі перад суседзямі.

Нас вы не напалохаеце вашымі пагрозамі і не адвернеце ад нашай праўды і абавязкаў! За іх мы гатовыя памерці! Але не толькі мы памром, але і вашы вялікія паслы ў Польшчы таксама памруць! Таму было б лепш, каб вы, браты нашы, білі чалом вялікаму гаспадару свайму. Каб добрая справа не пагоршылася і каб нашы дзяржавы адпачылі пасля доўгіх войнаў і намарна пралітай крыві. Каб ваш валадар уважыў вялікага гаспадара нашага, брата свайго, і пусціў да сябе нас, вялікіх паслоў найсвяцейшага караля яго міласці, у абумоўлены тэрмін для хроснага цалавання. А мы, агледзеўшы яго годныя царскія вочы і пацешыўшыся за здароўе яго ад імя караля яго міласці, з вуснаў яго валадарскіх пачуем, што цяпер, на гэтым тыдні, ён не зможа скончыць той вялікай справы. Тады мы, пачуўшы яго

царскае запэўненне, некалькі дзён пачакаем. За гэты час з вамі, братамі нашымі, дамовімся аб іншых артыкулах. Мы будзем цярпліва чакаць прызначанага часу, каб добрую справу паставіць на трывалы падмурак. А інакш, што гэта за пэўнасць, якую вы нам на словах абяцаеце. І як верыць вашым словам, калі запісы вечнага міру і моцная прысяга вамі ламаецца!?

Пішаце таксама, што замыканне паслоў і пасольскіх людзей — даўні звычай у Маскве. А у нас, вольных людзей, — гэтак не прынята! А калі так у вас, то і ў нас з вамі ў будучыні таксама паступяць.

Кармоў і пражытку нам таксама не даяце ўдосталь. Палова нашых людзей і коней — галодная. Але мы царскага дабра не хочам выкарыстоўваць, дайце нам толькі свабоду купляць тое, што нам трэба. Мы прыехалі ў якасці вялікіх паслоў ад гаспадара нашага, караля яго міласці, да вялікага ўладара і цара з вялікай справай, таму не маглі ехаць у меншай колькасці. Але тут, разам з холадам церпім і голад. Больш за палову нашых людзей жывуць на марозе, без хат і без дроў. Не так у нас з вашымі пасламі абыходзяцца.

А затым, вам баярам, думным людзям, жадаем вялікага дабра!

Гэты адказ, а таксама наступныя, іх міласці паны паслы адправілі без подпісаў. А для таго, каб думныя баяры іх лепей зразумелі і дакладна ўсё прачыталі, напісалі іх на рускай мове.

Увечары приставы прынеслі панам паслам грамату ад думных баяр. Яна была наступнага зместу:

«Вялікага валадара цара і вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самадзержца і многіх дзяржаў валадара і ўладальніка, яго царскай вялікасці баяры, думныя людзі, загадалі прыставу князю Міхаілу Казлоўскаму з таварышамі гаварыць да вас, вялікіх паслоў.

Аб'яўляем вам, што вам, вялікім паслам, у вялікага валадара нашага, цара і вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самадзержца, на першым тыдні Вялікага посту быць нельга. Вечнага міру царскай вялікасці на першым тыдні замацаваць аніяк нельга. Нават мы, царскай вялікасці баяры і думныя людзі, у тыя дні ў яго царскай вялікасці не бываем і вачэй яго валадарскіх не бачым.

Вы нам пераказалі праз прыставаў, што гатовыя быць у яго царскай вялікасці на пасольстве і заключыць вечны мір у іншы дзень. Цяпер мы вам, вялікім паслам, аб'яўляем, што на гэтым першым тыдні ніякім чынам немагчыма быць у яго царскай вялікасці. На наша прашэнне, вялікі валадар наш, яго царская вялікасць, загадвае вам, вялікім паслам, быць у яго на пасольстве ў бліжэйшую нядзелю.

Паводле цяперашняй хрысціянскай грэцкай веры, у дні посту зусім не варта вырашаць ніякія пытанні. У царскай вялікасці на гэтым тыдні і страва бывае не заўсёды.

Таму нагадваем вам, братам нашым, пра шанаванне. Просім не ўпадаць у роспач з-за таго, што некаторы час не зможаце бачыць яго царскай вялікасці і не зможаце быць у яго да нядзелі. Не прадпрымайце ніякіх недружалюбных крокаў і нічога дрэннага не задумвайце з-за таго, што ваша пасольства не пачнецца да нядзелі.

Мы вам, вялікім паслам, аб'яўляем і сведчым душамі нашымі, што ў вялікага валадара нашага, яго царскай вялікасці, няма ніякіх дрэнных думак і не будзе. У хуткім часе, праз некалькі дзён, абавязкова будзе падпісаны пасольскі дагавор і вечны мір паміж вялікімі васпанамі.

І спадзяёмся на ласку Божую, што паміж вялікімі васпанамі нашымі братэрскае сяброўства і шанаванне пачнуць множыцца. Таксама і мы, царскай вялікасці баяры і думныя людзі, паводле яго царскага загаду, будзем з вамі ў братэрскім сяброўстве і згодзе.

І жадаем вам усякага дабра».

*20 у аўторак запусны.* Адказна выконваючы ўласныя абавязкі, іх міласці паны паслы на працягу ўсіх дзён, ад моманту прыезду ў сталіцу, турбавалі думных баяраў праз прыставаў, каб яны свайму гаспадару білі ад сябе чалом і прасілі, каб ён выканаў заключныя запісы і прысягу камісараў, зробленую ў Палянаўцы. Каб нічога не ламаў і ўсё ўчыніў у адпаведнасці з дамоўленасцямі, зафіксаванымі ў запісах. Каб не парушыў дня сваёй прысягі.

І ў гэты дзень паслы настойліва дамагаліся і выказвалі поўную гатоўнасць ехаць да замка. Нават коні былі гатовы. Яны, аднак, бачылі, што маскавіты ўпарта настойваюць на сваім, спасылаюцца на богаслужэнні, аб чым пісалі ў іх граматах. Выніку не ўдавалася дасягнуць, па-ранейшаму давялося заставацца замкнёнымі.

Маскавіты паставілі каля брамы ўзмоцненую варту, а двор наўкола акружылі стральцы.

Прыставы ўбачылі, што ў двары коні асядланыя і іх трымаюць напагатове конюхі. Яны зразумелі, што намерваліся зрабіць паны паслы. Таму прыставы прыйшлі да іх міласці паноў паслоў і папрасілі, каб коней рассядлалі. Яны запэўнівалі ад імя думных баяраў і хрысціліся, што ў наступную нядзелю, пасля завяршэння набажэнстваў, іх міласці паны паслы будуць дапушчаны да цара і ўсё адбудзецца ў адпаведнасці з заключнымі запісамі.

Частымі просьбамі прыставаў, а дакладней, упартасцю таго народа, іх міласці паны паслы былі змушаныя чакаць да нядзелі. Інакш, на жаль, не атрымлівалася, пачынаць рабіць нешта гвалтам не ўяўлялася магчымым.

Атрымаўшы, нарэшце, згоду паноў паслоў, прыставы падзякавалі ім і адышлі. Яны селі на свае вазы і накіраваліся да думных баяраў са справаздачай аб тым, што зрабілі.

Пасля абеду, калі іх міласці паны паслы сабраліся ў пана ваяводзіча віленскага, зноўку прыйшлі прыставы і падзякавалі ад імя думных баяраў за тое, што іх міласці не імкнуцца перашкаджаць набажэнству і далі згоду чакаць да нядзелі, як іх папрасілі. Прыставы ад імя думных баяраў абяцалі, што ўжо ў нядзелю іх міласці паны паслы змогуць убачыць царскія вочы. Ад імя цара абяцалі, што паведамяць каралю яго міласці, што перанос дня заключэння мірнага пакта абумоўлены выключна з-за набажэнстваў, а не дзеля нейкіх іншых прычын.

Распавядалі прыставы, што цар загадаў, каб іх міласці панам паслам давалі ўсё, паводле іх патрэбаў, нават звыш нормы. Сапраўды, неўзабаве прывезлі яшчэ 5 вазоў сена.

У той жа дзень, падзівіўшы нас, маскавіты нарыхтавалі ацясанага дрэва, каб распачаць будоўлю. Зараз жа паставілі зрубы чатырох будынкаў, апрача перакрыццяў, печаў і вокнаў. А таксама пабудавалі насціл, для большай зручнасці, паміж ізбамі пана ваяводзіча віленскага і пана камянецкага.

*21 у сераду.* Да іх міласці паноў паслоў прыйшлі прыставы і ад імя самога цара запэўнілі, што ў наступную нядзелю яны будуць да яго дапушчаны, а потым, неўзабаве, заключныя запісы будуць усе цалкам выкананы. А паколькі прызначаны тэрмін крыху зрушыўся, абяцалі ад імя цара накіраваць аб тым грамату да яго міласці караля.

У ізбах, якія ўчора ўзвялі, зрабілі перакрыцці, паставілі вокны і печы. Цяпер у іх можна было жыць, толькі належала прапаліць, каб трохі прасушыць.

У той жа дзень прывезлі крыху лепшую посную ежу. Яна была больш якаснай, чымся тая, якую давалі ў дарозе.

*Харчаванне. У адпаведнасці з маскоўскім спісам, напісаным прыставамі.*

Паслам, тром чалавекам, па два крупчастыя калачы. Па хлябцу жытнім, добрым, белым. Па тры блюды пірагоў, ды па тры блюды аладак з цукрам.

Пану Мадаленскому па смятанным калачы, у рыдлёўку, ды па хлябцу белым на дзень.

Дваранам, дзесяці чалавекам, па хлебу капеечным, ды па тры калачы двухграшовыя чалавеку на дзень.

Пасольскім і дваранскім людзям, 489 чалавекам, па хлебу капеечным, ды па калачы трохграшовым.

*Пітво.*

Двум паслам па 10 чарак, трэцяму 8 чарак віна баярскага на дзень, гэта значыць, гарэлкі. Паслам усім тром па дзве кружкі раманеі або мальвазіі, па дзве кружкі мёду вішнёвага, па 2 кружкі мёду малінавага, па дзве кружкі мёду адборнага, па вядры мёду патачнага, з гваздзікамі або без гваздзік, як захочуць. Па вядры мёду цэжанаго, добрага, па два вядры піва добрага.

Каралеўскім дваранам, 11 чалавекам, па 6 чарак віна добрага, гэта значыць, гарэлкі, па кружцы раманеі або рэйнскага, па кружцы мёду адборнага, па дзве кружкі цэжанага добрага мёду, па дзве кружкі мёду княскага, добрага, па палове вядра піва добрага, чалавеку на дзень.

Ды людзям пасольскім і дваранскім загадана даваць, першага артыкула 155 чалавекам, па 6 чарак віна, па дзве кружкі мёду княскага, па дзве кружкі піва чалавеку на дзень.

А астатнім, 334 чалавекам, па 4 чаркі віна, па кружцы мёду, па кружцы піва чалавеку на дзень.

Паслам, тром чалавекам, на дзень у посныя дні жывой рыбы: 9 шчупакоў на пар і на колоткі, і для юшкі, 6 язёў, 24 акуні. Рыбы мёрзлай і прасоленай: 3 сцерлядзі на пар, чачугі; 3 ляшчы на пар; 3 звяны асятрыны; 3 звяны сёмгі, або добрай, белай; 3 звяны бялужыны, добрай; 3 звяны асятрыны, добрай; ды па два блюды ікры чорнай чалавеку на дзень.

Дваранам у посныя дні даваць: па грывенцы ікры чорнай чалавеку, або чырвонай шчупаковай, або сёмгавай, або асятрынай, на выбар, як яны захочуць. Па адным ляшчы, не вельмі вялікім, па два язі на пар, па два шчупакі свежыя для юшкі, па два звяны добрай асятрыны, па два звяны бялужыны на дзень.

Пасольскім і дваранскім людзям лепшым, 155 чалавекам. Двум чалавекам: па блюду свежай юшкі, па блюду прасоленай рыбы, добрай асятрыны, па блюду добрай бялужыны. А астатнім, 334 чалавекам, на два чалавекі: па блюду юшкі з свежай рыбы, па блюду асятрыны ці бялужыны.

Паслам з дваранамі і людзьмі ў посныя дні — чвэрць алею арэхавага, алею драўлянага, па вядры алею канаплянага, воцату 6 вёдраў, па 3 пуды солі, пуд патакі, чвэрць грачаных круп, чвэрць гароху, чвэрць пшанічнай мукі.

Паслам, двум чалавекам, шэсць васковых вітых свечак на дзень. Паслам з дваранамі і з людзьмі — па сто свечак сальных грашовых.

Цыбулі і часнаку паслам з дваранамі і з людзьмі па дзесяць алтын. А калі трэба звыш таго, то хай загадзя скажуць, колькі яшчэ не хапае.

Ім жа на дзень па пяцьдзясят качаноў белай капусты, або квашанай, як яны пажадаюць.

А купляць тое ўсё цалавальнікам і ў пасольскі двор прыносіць.

*Конскі корм.*

Паслам, дваранам і пасольскім людзям — 50 чвэрцяў аўса, ды па 50 вазоў сена, ды на ўсіх коней па 20 вазоў саломы на падсціл.

А купцам харчоў даваць не загадана.

А дроў даваць колькі трэба. А дровы прывозіць колатыя.

А на двары вогнішчаў не распальваць.

Усе тыя харчы для людзей і корм для коней былі, аднак, падзелены не аднолькава. Іх раздзялілі на дзве часткі. Адна частка дасталася пану камянецкаму, а другая дасталася пану ваяводзічу віленскаму і яго міласці пану Вяжэвічу. У выніку,

пан камянецкі атрымаў прапарцыйна значна большую частку харчоў і правізіі, чымся пан Вяжэвіч.

Гэтаксама ў пасольскі двор бесперапынна прывозілі ваду ў кадках і бочках. Халопы налівалі ваду ў кадкі, якія паўсюль стаялі. Вады мелі дастаткова.

*22 у чацвер*. Іх міласці паны паслы звярнуліся да прыставаў з просьбай, каб выдзелелі асобны двор для купцоў, якія прыехалі з пасольствам.

Прыставы адказалі:

— Немагчыма таму быць і раней гэтак не бывала.

У выніку, нам давялося па-ранейшаму стаяць у теснаце.

*23 у пятніцу*. Да іх міласці прыйшлі прыставы і агучылі дакладны час, калі паслам належала ў наступную нядзелю вітаць цара. А менавіта, а пятай гадзіне дня. Гэтаксама запыталіся іх міласць паноў паслоў пра тое, ці маюць яны нейкія падарункі цару ад караля і ад сябе.

Яго міласць пан камянецкі адказаў:

— Тое праўда, што калі паслы ідуць да манархаў, то каб з большай удзячнасцю і цеплынёй быць прынятымі, прызвычаіліся прыносіць розныя падарункі. І мы тое б зрабілі. Але паколькі ўбачылі, што вашы паслы, якія ішлі да яго міласці караля, не везлі аніякіх падарункаў, мы гэтаксама не будзем падносіць цару падарункаў ад сябе і ад караля яго міласці.

На тое маскавіты нічога не адказалі, ці то нічога аб тым не ведалі, або наўпрост хітравалі.

Гарыхвостаў прамовіў:

— Хіба маглі нашыя вялікія паслы ехаць без падарункаў да каралеўскай вялікасці!?

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі адказаў:

— Будзьце вы з намі шчырамі! Даведайцеся ў сваіх старэйшых, ці павезлі вашы паслы падарункі ад цара і ад сябе для караля яго міласці, пана нашага. Дайце нам дакладна ведаць пра тое і ад нас адразу пэўна пачуеце, ці паднясём мы цару падарункі ад сябе і ад караля.

Гэтаксама іх міласці паны паслы абмеркавалі з прыставамі, каб слугі паслоў гэтаксама мелі магчымасць цалаваць царскую руку. Прыставы паабяцалі данесці іх словы думным баярам.

Пасля ад'езду прыставаў да іх міласці паноў паслоў прыйшоў Гарыхвостаў і сказаў:

— Яго царская вялікасць, наш валадар, вас, вялікіх паслоў вялікага гасудара вашага, брата свайго, у любові прымаючы, дазваляе і вашым дваранам цалаваць яго царскую руку. І вялікі валадар наш, яго царская вялікасць і ўсе мы ведаем, што ў вас у Літве і Польшчы каля вялікіх паноў шмат пры вас жыве людзей першага артыкула. І дзяржаўныя людзі і баярскія сыны пры вас служаць. І ўсім ім вялікі валадар наш, яго царская вялікасць, са сваёй ласкі загадвае цалаваць руку і чалом яму біць. Але вы б, вялікія паслы, таго сцерагліся, каб царскай вялікасці не стала нудна, калі шмат людзей пойдзе да яго годнай рукі.

Убачылі іх міласці паны паслы, што іх хочуць дэскрыдытаваць, таму паабяцалі патрафіць цару, каб яму не стала прыкра.

*24 у суботу*. Прыставы прынеслі ад думных баяраў адказ на папярэдні запыт іх міласці паноў паслоў.

У ім гаварылася:

«Вялікага валадара цара і вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самадзержца і многіх дзяржаў гаспадара і ўладальніка, яго царскай вялікасці баяры і думныя людзі — вялікага гаспадара Уладзіслава Чацвёртага, Божай ласкай караля польскага, вялікага князя літоўскага і іншых, вялікім паслам Аляксандру Песачынскаму, ваяводзічу віленскаму Казіміру Лявону Львовічу Сапегу, стольніку і пісару каралеўскаму Пятру Вяжэвічу.

Прыслалі да нас, царскай вялікасці баярам і думным людзям ліст у адказ на наш ліст, які мы паслалі вам з прыставамі.

У тым лісце вы напісалі вялікага валадара нашага, яго царскую вялікасць, найменнем без «самаўладца». Не паводле ягонай валадарскай вартасці, і не паводле мірнай дамовы, заключанай праз прысягу. Тым самым, вы чыніце парушэнне мірнай дамовы. Гэта вельмі значная справа — берагчы гонар валадара. І надалей вам бы вялікага валадара нашага, яго царскае найменне ў лістах сваіх пісаць і ў прамовах сваіх казаць ва ўсім згодна пасольскаму дагавору, з поўным царскім імем і «самаўладцам», пра што ободва вялікія паслы крыж цалавалі.

А калі вы, вялікія паслы, надалей пачнеце да нас у лістах сваіх пісаць ці ў прамовах казаць найменне вялікага нашага валадара не цалкам і без «самаўладца», мы такіх прамоваў вашых слухаць і лісты ад вас прымаць не будзем.

А гэтак, як вы напісалі да нас, баяраў і думных людзей, пра тое, то вы нас тым абняславілі. А мы гаспадара вашага называем ва ўсім паводле пасольскай дамовы і да вас у лісце нашым напісалі ветліва, а не ганарлівым звычаем і не ў чым вас не абняславілі.

А пісалі да вас, вялікіх паслоў, абвяшчаючы вам, што вам у вялікага гасудара, цара нашага і вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самадзержца, у першы тыдзень святога Вялікага посту быць немагчыма. А вы да нас пісалі, каб вам каля царскай вялікасці быць на пасольстве ў дамоўлены тэрмін.

Але вечны мір можна заключыць і ў іншы дзень. І мы да вас, вялікіх паслоў, раней пісалі і цяпер гэтаксама аб'яўляем, што вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, загадвае вам, вялікім паслам, быць у яго, гаспадара, на пасольстве ў бліжэйшую нядзелю.

Ніякіх прыкрых і зневажальных слоў мы нідзе да вас не пісалі. А вы, вялікія паслы, пісалі да нас, царскай вялікасці баяраў і думных людзей, непрыстойным звычаем, з дакорам, і быццам мы пагражаем вам сорамам. І вы пішаце нам, што мы вас ад таго вашага жадання не адвядзём аніякімі нашымі пагрозамі. І што вы гатовыя за вашу праўду і памерці. Ды і то ўзгадваеце, што вы не адны памраце, але і царскага вялікасці паслы ў Польшчы.

І мы, царскай вялікасці баяры і думныя людзі, вас, каралеўскай вялікасці вялікіх паслоў, зараз ні ў чым не зневажалі, і з дакорам, і з пагрозамі да вас не пісалі. І прыставам ні ў чым ганьбіць вас словам і пагражаць вам не загадалі. І паміраць вам, абодвум паслам, няма чаго.

А напісалі мы, царскай вялікасці баяры і думныя людзі, вам у адказ на вашыя словы, якія вы, вялікія паслы, перадавалі нам праз прыставаў. Толькі вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, не загадае вам у той, раней агавораны дзень, быць на пасольстве.

І калі вы, сеўшы на коней, паедзеце да вялікага ўладара нашага самі, без указа, то вас не пусцяць. І будзе парушэнне дамовы аб вечным міры, як быццам бы з нашага боку, і мір будзе не ў мір. А ў мірнай пасольскай дамове напісана менавіта, што вялікім гаспадарам быць паміж сабой у брацкім сяброўстве і любові, і належыць шукаць паміж сабой лепшае. А калі і будзе якая-небудзь сварка паміж дзяржавамі, то разбірацца ў прычынах і вырашаць іх папраўдзе. А мірнай дамове парушэнняў не чыніць.

А вы сёння сваімі словамі самі хочаце ўчыніць парушэнне мірнай дамовы.

І, акрамя таго, вам, вялікім паслам, ніякай ганьбы і пагроз не пісалі.

Вы пісалі, быццам вялікіх паслоў трымаюць у няволі і замыкаюць іх, а таксама, што з боку царскай вялікасці ёсць пагроза вялікім паслам, што хочаце гэтаксама ўчыніць і нашым вялікім паслам. Жаліцеся, што вашым людзям холадна і галодна. Мы дзівімся з таго, што вы нам пішаце. Паводле царскага ўказу ў вас ва ўсім ёсць дастатак, хапае ежы для людзей і корму для коней, ніякай патрэбы і голаду няма.

Вы жаліцеся, што вам цесна стаяць. Але цеснаата ў вас з-за вас саміх. Вы ўзялі з сабой людзей не паводле дамовы і да таго ж доўгі час не дасылалі спісы.

Таму для многіх з іх не падрыхтавана жыллё. Дзяржавец Ян Крамянеўскі пісаў з Дарагабужа ў Вязьму да ваяводы, князя Пятра Пронскага, што з вамі будзе чатырыста пяцьдзясят чалавек. А цяпер з вамі вашых людзей больш за шэсць соцень чалавек. Цяпер нават не ведаем, як рэагаваць на ваш ліст і як успрымаць лісты вашых дзяржаўцаў?

Вялікі гасудар наш, нягледзячы на ўсё, па нашай просьбе, загадаў дадаць вам памяшканняў. Але калі б мы толькі ведалі, ці хоць бы нам напісаў дарагабужскі дзяржавец, што з вамі будзе столькі людзей, мы б да таго падрыхтаваліся. Бо і раней у тым пасольскім двары спыняліся вашы вялікія паслы, з якімі бывала чалавек па восемсот і дзевяцьсот, але цеснаты не адчувалі.

Калі вы здзяйснялі прысягу на з'ездзе з вялікім паслом яго царскай вялікасці, баярынам і намеснікам пскоўскім Фёдарам Іванавічам Шарамецьевым з таварышамі, вы дамовіліся і пісьмова выклалі, што абодвум вялікім паслам узяць з сабой з кожнага боку па дзвесце чалавек і па трыста коней. Вы і ліст аб тым ад сябе даслалі да вялікіх паслоў царскай вялікасці. Але ў тым вашым лісце нічога не гаварылася аб большай колькасці людзей, інакш бы мы загадалі загадзя падрыхтаваць двары і стварылі ўсялякі спакой для вас, нашмат лепш цяперашняга.

Усё здарылася па вашай віне. Вы ўзялі з сабой людзей больш, чым прадугледжвалася пасольскай дамовай. Вы не паведамілі пра гэта ў лісце дарагабужскага дзяржаўцы.

А голаду і недахопу ў ежы вам, вялікім паслам, каля царскай вялікасці няма. У дарозе заўсёды даюць бедны корм, а ў стане ўсё далі належным чынам.

А што пагражаеце таксама і нашым паслам чыніць, то вам варта ведаць — паслы царскай вялікасці прывыклі васпаноў сваіх слухаць. І як ім вялікі гасудар загадвае быць на пасольстве, гэтак яны і ўчыняць. І самавольна на пасольства, без загаду вашага гаспадара, не пойдуць.

Мы да вас пасылалі грамату таму, што вы самавольна хацелі ехаць да вялікага ўладара нашага, без загаду царскай вялікасці. І які вам у тым гонар, каб ехаць да царскай вялікасці без загаду!?

А няволі вам, вялікім паслам, у Маскоўскай дзяржаве няма ніякай. Вам бы, вялікім паслам, на тое не крыўдаваць і не трымаць у думках ніякіх сумневаў.

Дасць Бог, каля царскай вялікасці неўзабаве будзеце. І мірны дагавор, і прысяга, дасць Бог, здзейсняцца! І парушэння мірнай дамовы не будзе!

Мы хочам заўсёды бачыць паміж нашымі вялікімі васпанамі брацкую дружбу і любоў, больш чым паміж іншымі васпанамі!

А вам, вялікім паслам, жадаем усякага дабра!»

Даведаўшыся пра дакладны час свайго візіту да цара, іх міласці паны паслы, прапанавалі для абгаварэння з думнымі баярамі пункты, якія ніжэй апісаны.

1. Каб цар, пытаючыся пра здароўе караля яго міласці, устаў і шапку зняў.

2. Каб самі іх міласці паслы і іх людзі, падчас знаходжання ў цара і яго прывітання, мелі пры сабе збоку зброю.

3. Каб у момант запытання пра здароўе караля яго міласці, паслы перад царом не ўставалі і каб мелі на чым сядзець.

4. Каб з коней іх міласці паны паслы там злазілі, дзе раней злазілі паслы слаўнай памяці яго міласці, пана Льва Сапегі, ваяводы віленскага, гетмана Вялікага Княства Літоўскага, а таксама іншыя, што былі пасламі перад яго міласцю.

З тым прыставы ад'ехалі да замка.

Калі вярнуліся з замка, пайшлі да іх міласці паноў паслоў.

Ад імя думных баяраў да іх міласці паноў паслоў прамаўляў князь Казлоўскі:

— Першы ваш, вялікіх паслоў, быў артыкул аб тым, каб царская вялікасць устаў, пытаючыся пра здароўе каралеўскай вялікасці. І на тое вам, вялікім паслам, адказ. Вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць у той момант сядзець будзе ў вянцы, гэта значыць, у кароне, паводле ранейшага звычаю. Карону нельга зды-

маць з галавы. Так у валадароў нашых вядзецца. Вас царская вялікасць будзе пытацца стоячы.

На другі артыкул адказ. Даўно ў Маскоўскай дзяржаве павялося, вялікім паслам ад вялікіх васпанаў каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх і ад іншых вялікіх васпаноў бываць каля царскай вялікасці без зброі. І сёння немагчыма змяніць ранейшых звычаяў.

На трэці артыкул адказ. Вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, слухаючы ваша пасольства, толькі сам можа праявіць ветласць да вас, і, аказваючы вам асаблівы гонар, можа загадаць вам сядзець.

А з коней вашых там злазце, дзе заўсёды вашы ранейшыя паслы злазілі, і твой бацюшка, Казімір Львовіч Сапега.

Выслухаўшы гэткія іх адказы, паны паслы доўга з імі гутарылі, асабліва адносна зняцця шабель.

Яго міласць пан камянецкі сказаў:

— Калі ў нас нехта забірае зброю з пояса, нібы рабро з боку дастае, бо гэта ёсць наш гонар. Сапраўды, раней нашы паслы бывалі ў вашых гаспадароў без зброі, але на той час нашы гаспадары не былі ў такой узаемнай міласці, як цяпер. На гэты час кароль яго міласць, пан наш міласцівы, хоча жыць з вашым гаспадаром у брацтве і праз нас яго хоча ў тым запэўніць. Слушна было б, каб нашы шаблі былі пры нас, як знак прыязнасці нашага гаспадара да вашага, а таксама як сімвал нашай гатоўнасці ў момант патрэбы аказаць дапамогу вашаму гаспадару.

На тое настойлівае патрабаванне паслы атрымалі катэгарычную адмову:

— Нельга вам, вялікім паслам, каля царскай вялікасці з шаблямі быць. Так было паводле ранейшых звычаяў, гэтак і зараз будзе.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі сказаў ім:

— Калі ваш гаспадар учыніць нам такую знявагу, то аніякім чынам і аніякай узнагародай потым нам таго не верне. Нават найвялікшай ласкай сваёй да нас. Гэта гонар наш, бо шабляй наш народ здабываў вольнасці свае. Шабляй абараняем годнасць яго міласці караля, пана нашага, а таксама годнасць тых гаспадароў, якія знаходзяцца з нашым каралём у сяброўстве і брацкай любові. Данясіце нашы словы думным баярам, братам нашым, каб яны пазбаўленнем нас шабель не выказвалі нечуванай для нас знявагі.

Адказаўшы прыставам, іх міласці паны паслы накіраваліся да сваіх харомаў.

Увечары прыставы прыйшлі ад думных баяраў з такой рэзалюцыяй:

— Перадалі мы вашу, вялікіх паслоў, прамову думным баярам, каб вам дазволена было знаходзіцца каля царскай вялікасці на пасольстве з шаблямі. І загадалі вам даць адказ, што і вам самім, і вашым дваранам, і нікому іншаму з вашых людзей нельга быць з шаблямі. Бо так павялося ў Маскоўскай дзяржаве.

Іх міласці паны паслы адказалі:

— У такім разе мы раніцай не паедзем, бо вы нам, паслам, не аказваеце належнага гонару, не прымаеце зусім слушных думак.

Маскавіты адказалі:

— Калі вы, вялікія паслы, заўтра не жадаеце бачыць царскіх годных вачэй, кажыце апошняе слова, а мы баяраў аб тым апавясцім.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі адказаў:

— Мы хочам быць у вашага цара, калі нам не будзеце забараняць таго, што мы патрабуем.

Але намарна іх міласці паны паслы шпурлялі гарох аб сценку. Бо прыставы з чым прыйшлі, з тым і адышлі.

*Першы прыём у цара.*

*25 (лютага) у панядзелак.* У прызначаны час прыехалі прыставы, разадзетыя ва ўрачыстае адзенне, з пазалотай. Тыя расшытыя золатам дарагія касцюмы яны,

мабыць, атрымлівалі з царскай казны, выкарыстоўваючы іх толькі падчас сустрэч з пасламі і на прыёмах у цара.

Прыставы паведамілі паслам, што наспеў час выязджаць на прыём да іх манарха. Паслы да таго часу былі гатовыя неадкладна садзіцца на коней і ехаць у Крым-горад (Крэмль).

Паслоў у дарозе суправаджалі слугі — два дзякі і дваране, а таксама прыставы: два з правага боку і адзін — з левага. Іх міласці паны паслы ехалі ў сярэдзіне. За пасламі рухаліся маладыя людзі. Падарункі везлі ў канцы. З абодвух бакоў, пачынаючы ад пасольскага дома і да самага Крамля, падводы з падарункамі ахоўвала пяхота.

У Крамлі паслоў сустракалі стральцы, ушыхтаваныя ў некалькі шэрагаў. Ззаду іх, шчыльна адзін каля другога, стаялі людзі, узброеныя шаблямі і самапаламі. Простых людзей, мужчын і жанчын, якія выйшлі паглядзець на паслоў, таксама сабралася вялікае мноства. Частка людзей стаяла на зямлі, іншыя ўзлезлі на верхавіну царквы і на дахі дамоў.

Іх міласці паны паслы і ўсе нашы людзі, якія суправаджалі паслоў, лічылі, што ў такой сітуацыі зняць з сябе шаблі перад уездам у Крэмль і застацца цалкам не ўзброенымі, было б неразумна. Таму кожны з нашых людзей меў пры сабе схаваную зброю.

Калі вялікія паслы заехалі ў Крэмль, яны ўбачылі царскіх слуг, якія сядзяць каля ганка. Слугі цара знаходзіліся і паблізу царквы.

Іх міласці паны паслы сышлі са сваіх коней ва ўстаноўленым месцы, там, дзе звычайна і іншыя паслы спускаліся са сваіх коней.

Калі паслы падымаліся па сходах, іх з двух бакоў суправаджалі прыставы. Яго міласць пан Сапега ішоў у сярэдзіне, справа ад яго знаходзіўся пан Песачынскі, а пан Вяжэвіч ішоў з левага боку, як яму і належала хадзіць. Пан Казлоўскі рухаўся з цяжкасцю і відавочна перашкаджаў паслу пану Песачынскаму. Пасол звярнуўся да Казлоўскага, каб той ішоў наперад або стаў ззаду яго. Казлоўскі з-за свайго прыроджанага гонару і ўпартасці не жадаў саступаць. Нарэшце пан Песачынскі не стрымаўся і прыгразіў яму:

— Калі і далей, халоп, станеш мне замінаць, будзь упэўнены, дам табе так, што паляціш да д'ябла. Зусім не пагляджу на тое, што мы накіраваліся да цара.

І моцна адштурхнуў Казлоўскага ад сябе.

Гонар саслужыў злую службу Казлоўскаму. Жадаючы захаваць твар і гонар, ён прапанаваў:

— Хай Казімір Львовіч ідзе наперадзе, а мы разам за ім.

Пан Сапега адказаў яму:

— Ты замахнуўся на вялікую справу, каб Сапега хадзіў прад табою! Ты не толькі дарэмна пра гэта сказаў, але і дарма нават падумаў так. Узваж добранька, ці варты ты наогул размаўляць з Сапегам, а тым больш церціся аб яго бок! І зусім неймаверна, каб ты пасмеў загадваць мне! Будзе правільна, калі ты пойдзеш наперадзе нас, як і пристала хадзіць прыслузе.

Калі паслы пераадолелі ганак і ўвайшлі ў дзверы першага палаца, іх сустракалі: дваранін і князь Афанасій Рыгоравіч Казлоўскі, дзяк Калістраці Анкіфіеў.

Дзяк Анкіфіеў, сустрэўшы паслоў, звярнуўся да іх:

— Вялікі гасудар, цар і вялікі князь Міхаіл Фёдаравіч, самаўладца ўсёй Русі, гаспадар і ўладальнік многіх дзяржаў, аказвае гонар брату свайму, вялікаму ўладару Уладзіславу Чацвёртаму, каралю польскаму, вялікаму князю літоўскаму і іншых зямель. Ён загадаў сустракаць вас, вялікіх паслоў, князю Афанасію Рыгоравічу Казлоўскаму і мне, дзяку Калістрату Анкіфіеву.

У сярэдзіне ізбы вялікіх паслоў з такімі ж словамі, але больш коратка, сустракаў князь, стольнік і дваранін Юрый Пятровіч Буйносаў-Растоўскі і дзяк Іван

Фёдараў. У ізбе ў вялікім ліку сядзелі дваране, або баяры, апранутыя ў златаглавыя муфты і ў чорна-бурых шлыках.

Калі паслы ўвайшлі ў трэція дзверы палаца, які называецца Гранавітая палата, дзе ў той час ужо сядзеў цар, іх сустрэла трэцяя пара маскавітаў — дваранін і князь Іван Пятровіч Буйносаў-Растоўскі, старэйшы, і дзяк Грыгорый Волкаў. Яны, як і ранейшыя сустракаючыя, прамовілі арацыі (урачыстыя гаворкі).

Першымі ў палату ўвайшлі слугі паноў паслоў і сталі з двух бакоў. Верагодна, раней у Маскве існаваў звычай, паводле якога слугі ўваходзілі ў хату пасля паслоў. У той палаце ў некалькі шэрагаў, на спецыяльна пабудаваных лавах, сядзелі маскоўскія баяры. Некаторыя з людзей, якія там знаходзіліся, былі вельмі маладыя.

Палата нічым не абабіта. Усе сцены і скляпенне ў ёй размаляваныя. Падлога не ўся, а толькі паблізу цара, засланая дыванамі.

Цар сядзеў на троне, майстэрскай разьбяной працы, які быў размаляваны золатам. Манарх быў апрануты ў багатае адзенне, аздобленае дарагім жэмчугам і каштоўнымі камянямі. У правай руцэ ён трымаў скіпетр. На галаве ў цара ўзвышаўся вянок, гэта значыць, высокая карона. Яблык ляжаў каля цара.

Да трона вялі чатыры вялікія прыступкі, якія цягнуліся вакол усёй палаты. Яшчэ тры маленькія прыступкі знаходзіліся вышэй. Па іх трэба было ўсходзіць непасрэдна да трона, пераадолеўшы спачатку вялікія прыступкі.

Перад царом, у непасрэднай блізкасці ад яго, знаходзіліся чатыры маладыя целаахоўнікі (custodies corporis). Яны былі ў белых дамаставых накідках, падшытых гарнастаямі, а таксама ў шламовых шлыках з рысі. Кожны з іх быў накрыж перапаясаны залатымі ланцугамі. На рамянях яны трымалі барты, апраўленыя ў залацістае срэбра.

Увайшоўшы ў Гранавітую палату, іх міласці паны паслы спыніліся ў некалькіх кроках ад трона. Яны знялі галаўныя ўборы.

Першым пачаў прамаўляць пан Аляксандр Песачынскі, камянецкі кашталян. Ён зрабіў наступную прамову:

— Божай ласкай найяснейшы і вялікі гаспадар Уладзіслаў Чацвёрты, кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі, кіеўскі, валынскі, падольскі, смаленскі, падляшскі, чарнігаўскі, полацкі, віцебскі, мсціслаўскі, інфлянцкі, эстонскі і іншых, а таксама шведскі, гоцкі і вандальскі дзедзічны кароль, князь фінляндскі і іншых яго каралеўская міласць. Табе, вялікаму ўладару, цару і вялікаму князю Міхаілу Фёдаравічу, усяе Русі самадзержцу, уладзімірскаму, маскоўскаму, наўгародскаму, цару казанскаму, цару астраханскаму, цару сібірскаму, гаспадару пскоўскаму і вялікаму князю цвярскому, югорскаму, пермскаму, вяцкаму, балгарскаму і іншых; гаспадару і вялікаму князю Ноўгарада, Нізоўской зямлі, разанскаму, растоўскаму, яраслаўскаму, белазерскаму, удорскаму, абдорскаму, кандзійскаму і Северскага боку; уладару і гаспадару Іверскай зямлі, карталінскіх, грузінскіх цароў і Кабардзінскай зямлі, чаркаскіх і горскіх князёў і іншых многіх дзяржаў гаспадара і ўладальніка, тваёй царскай вялікасці, брату свайму, добрага здароўя, добрых думак і прыязнасці ва ўсіх добрых справах сардэчна жадае і перадае праз нас, вялікіх паслоў.

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

***Пераклад Івана САВЕРЧАНКІ.***

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ПАД АДНЫМ НЕБАМ

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ*

**НА СКРЫЖАВАННІ СНОЎ**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2018.*




Як напісаць пра асабістае, каб стала цікава іншым? І не толькі тым, хто аднаго з табой пакалення? Пытанні такія трывожаць кожнага пісьменніка: і пачаткоўца, і сталага творцу. Далёка не ўсім дадзена знайсці патрэбны тон, данесці сваю праўду, свае шчасце і горыч, каб адгукнулася ў сэрцах…

Паспяхова ўдаецца гэта Навуму Гальпяровічу. Можа таму, што і ў вершах, і ў газетных калонках, і ў эсэ, апавяданнях ён не прыхарошвае рэчаіснасць? Падлеткавыя комплексы, няўдачы ў жыцці дарослым — пра ўсё кажа спакойна і ўпэўнена. Як, аб'ектыўна, і пра ўласныя перамогі, поспехі, радасці, надзеі і мары. Кніга «На скрыжаванні сноў», думаецца, выступае ў свядомасці пісьменніка своеасаблівым празаічным падсумаваннем створанага і перажытага. Папярэдняя кніга, «Час лістападу» — падсумаванне, адпаведна, лірычнае…

Вяховымі, сімвалічнымі з'яўляюцца раздзелы кнігі: «Пад адным небам», «Шляхі і вяртанні», «Адначаснікі». Пра маладосць, сталенне, сучаснасць, вандроўкі і людзей з успамінаў распавядаюць яны чытачу шчыра і захапляльна. Як стаў футбалістам, як закахаўся, як пачуваўся ў летніку, як ладзіў з бацькамі, як паступаў ва ўніверсітэт, як хаваў сяброў — аўтар піша без пафасу, але будзённае ў расповедах не робіцца шэрым. Запамінальныя, аб'ёмныя паўстаюць вобразы крымінальніка Маргуна, гарадскога вар'ята Ноты, «чорнага чалавека» Генкі Пухіра, Сяргея — «чалавека Божага»… Аб'ёмнымі з'яўляюцца і перажыванні. Не хавае аўтар сямейных таямніц: «Мама была з добрай інтэлігентнай сям'і, а бацька — з полацкай рабочай беднаты. Я памятаю, як ёй сорамна было перад суседзямі, перада мной і сястрой за тыя бацькавы «канцэрты», і мы былі ў душы заўсёды на яе баку». Смела, але надзвычай далікатна піша пра самае таемнае, інтымнае, тое, што здараецца некалі з усімі ўпершыню: «Я гнаў ад сябе грэшныя думкі, тое,

пра што ўжо чытаў у кніжках Мапасана, што чуў ад старэйшых хлопцаў, але марна. Я не мог адарваць позірк ад яе тугіх паўнаватых грудзей, ад стройных ног, ад моцных клубоў».

Полацк, пра які так часта кажа Навум Гальпяровіч, — своеасаблівая кропка адліку ўсіх жыццёвых дарог пісьменніка. Таму распавядаючы пра шматлікія вандроўкі, ён толькі падкрэслівае важнасць і неабходнасць вяртання. І ўсюды, што цікава, бачыць роднае. У гарадах: «Па маіх уражаннях, Душанбэ не выглядаў на сталіцу. Ён быў падобны да якоганебудзь нашага абласнога горада, але толькі ва ўсходнім стылі». Ці нават у людзях: «Стары[1] нечым нагадваў мне майго бацьку. Дзіўна — абсалютнае непадабенства кітайскага тыпу твару да ягонага, але ціхая сарамлівая ўсмешка, невялікія рабацінкі, як у многіх пажылых людзей, рабілі яго нейкім блізкім і амаль родным. Ды і гадоў яму было як майму бацьку перад зыходам у іншы свет — восемдзесят шэсць».

Фенаменальная памяць аўтара фіксуе ўсе драбніцы і даўняга, і цяперашняга. Не жарт — памятаць тое, што пабачыў трохгадовым дзіцём! А яшчэ — своеасаблівыя, вобразныя і сны ў творчага чалавека. На скрыжаванні якіх і нараджаецца ява. Тое, чаго моцна захочацца, абавязкова збываецца! У нас ці ў іншых добрых людзей. Бо спім мы пад адным небам!

[1] Маецца на ўвазе Гаа Ман (1926—2017) — кітайскі пісьменнік, перакладчык, мастак, вучоны.



16 +

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 12.07.2018 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,40. Ул.-выд. арк. 13,61. Тыраж 1206 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь
для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*